## Фінальныя заўвагі

Беларуская эміграцыйная газета „Раніца" выдавалася ў 1939-1945 гадах, у час усеўладнага панавання ў Нямеччыне фашысцкае сістэмы на чале з адным з найстрашнейшых у гісторыі чалавецтва злачынцаў Адольфам Гітлерам. Зразумела, што выдаўцы беларускага прэсавага органу „Раніца" былі не толькі моцна абмежаваныя, але ў многіх выпадках паралізаваныя шаленчай магіяй фюрэра. Дзейнічаючы ў варунках суровага гітлераўскага рэжыму, у логаве гітлерызму – Берліне, не магло быць нават гутаркі аб свабодным выказванні нацыянальных беларускіх думак.

Аднак, праўдападобна, не толькі суровы тэрор прымушаў выдаўцоў „Раніцы" праяўляць вернападданчыя і сервілістычныя схільнасці ў адносінах да тысячагадовага Рэйху і апантанага ідэяй фікс Гітлера. Мабыць, многія з рэдактароў „Раніцы", а таксама шматлікія публіцысты шчыра верылі ў канчатковую перамогу гітлераўскае Нямеччыны над усім светам і ў тое, што Гітлер дазволіць стварыць незалежную беларускую дзяржаву. Зразумела, што ў такім падыходзе выяўлялася крайняя наіўнасць беларусаў, згуртаваных вакол „Раніцы". Беларускія публіцысты з гэтага тыднёвіка гіпербалічна ўсхвалялі геніяльнасць Гітлера, славілі перамогі Вермахту і не дапускалі да сябе думкі аб паразе гітлераўскае Нямеччыны нават у часе канчатковай яе агоніі. Былі яны маньякальнымі ворагамі не толькі савецкае сістэмы і Сталіна, але таксама Амерыкі і ейнага прэзідэнта Рузвельта, Англіі ды яе прэм'ерміністра Чэрчыля, а таксама галоўнага прадстаўніка змагарнае Францыі Дэ Голя.

Крайняя тэндэнцыйнасць беларускіх публіцыстаў праяўлялася амаль ва ўсіх франтавых публікацыях, аглядах ды аналізах, нават тады, калі Чырвоная Армія наносіла па Вермахце знішчальныя ўдары і займала ўсё новыя ды новыя абшары Еўропы. „Раніца" ўвесь час замоўчвала гэтыя дасягненні, пісала аб непераможнай нямецкай арміі і рысавала перспектыву канчатковага трыумфу Нямеччыны над усімі яе праціўнікамі.

Другая вялікая галіна публіцыстыкі была звязаная з беларускай літаратурай. Берлінскі перыёдык здолеў змясціць на сваіх старонках сотні вершаў Ларысы Геніюш, Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя, Уладзімера Дудзіцкага й дзясяткаў іншых шырока вядомых ды мала вядомых беларускіх паэтаў. У большасці былі гэта творы пейзажныя, патрыятычныя альбо звязаныя з лірыкай кахання, і толькі зрэдку іх тэматыка закранала актуальныя палітычныя падзеі.

З гэтага можна было б зрабіць выснову, што, у адваротнасці да публіцыстаў, тагачасныя паэты праяўлялі досыць вялікую дальнабачнасць і, мабыць, свядома дыстансаваліся ад прапагандысцкіх публікацыяў журналістаў.

Варта таксама падкрэсліць тое, што „Раніца", апрача літаратуры, часта папулярызавала розныя іншыя формы беларускае культуры.

І так, на яе старонках вельмі часта паяўлялася інфармацыя аб канцэртах Міхася Забэйды-Суміцкага, аб тэатральных спектаклях ды аб іншых праявах беларускага культурнага жыцця ў цяжкі ваенны перыяд.

Добрае ўражанне выклікаюць таксама шматлікія публікацыі „Раніцы", звязаныя з гісторыяй Беларусі. Адносіліся яны да такіх праблемаў, як перыядызацыя мінулага краіны, а таксама да такіх выдатных беларускіх постацяў, як Ф. Скарына, І. Луцкевіч, Францішак Аляхновіч ды іншыя. Варта адзначыць, што такога тыпу артыкулы выконвалі вялікую адукацыйную ролю і дапамагалі беларускім чытачам паглыбляць свае веды з гісторыі роднага краю.

Па сутнасці, уся інфармацыя пра „Раніцу" мае толькі фрагментарны характар. Выклікана гэта тым, што ніводная бібліятэка ў Польшчы не мае поўнага камплекту гэтага перыёдыка. І так, Бібліятэка Варшаўскага ўніверсітэта захоўвае далёка не поўныя гадавікі арыгіналаў „Раніцы" з 1942 і 1943 гадоў, а Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве мае ў форме мікрафільму гэты тыднёвік толькі за 1944 год. Увогуле не ўдалося сутыкнуцца з тымі нумарамі „Раніцы", якія выдаваліся ў 1939 і ў 1945 гадах.

Нягледзячы на палітычную тэндэнцыйнасць, „Раніца" адыграла істотную ролю ў папулярызацыі роднага слова і пашырэнні ведаў пра гісторыю Беларусі, а таксама пра беларускую літаратуру. Была яна, несумненна, асноўнай праявай беларускага пісьмовага эміграцыйнага асяродка ў Берліне. І таму варта захаваць ва ўдзячнай памяці дзейнасць тых беларусаў, якія ў выключна цяжкіх ваенных умовах здолелі паклікаць да жыцця „Раніцу" і выдаваць яе на працягу пяці гадоў.

*Aleksander Barszczewski*

**Belarusian National and Cultural Activists in the Illustration of the Newspaper „Раніца"**

A b s t r a c t

The Belarusian emigrants' newspaper „Раніца" was published in Berlin in the years 1939–1945, during the time of the Fascist system's absolute power in Germany. Considering their activity during Hitler's dictatorial regime, there were virtually no possibilities to express Belarusian nationalistic thoughts freely. Nevertheless, the Berlin newspaper managed to include hundreds of poems by both renowned and marginally known Belarusian poets and cultural activists, and also numerous publications related to Belarusian history which played a decisive educational role and helped Belarusian readers expand their knowledge about the history of their homeland.

**Ванда Бароўка**
Віцебск

# Металітаратурны код у творах пісьменнікаў Беларусі XIX стагоддзя

XIX стагоддзе – перыяд станаўлення новай беларускай літаратуры. У творах пісьменнікаў гэтага часу знайшлі мастацкае ўвасабленне не толькі грамадскія, маральныя і аксіялагічныя прыярытэты, але і ўласна творчыя. Пачаў фарміравацца і металітаратурны код як сукупнасць праблематыкі, мастацкіх знакаў і сістэмы сродкаў прадстаўлення інфармацыі пра літаратуру. Выказванні пісьменнікаў пра літаратурную творчасць спачатку мелі фрагментарны характар, датычыліся ўмоў пісьменніцкай працы, зместу і формы мастацкіх твораў.

Першыя па часе спробы асэнсавання пытанняў літаратуры ў беларускім пісьменстве XIX стагоддзя належалі Яну Баршчэўскаму і аўтару *Тараса на Парнасе*. Я. Баршчэўскі меркаваў, што спецыфіка рэцыпіента павінна ўлічвацца пісьменнікам пры стварэнні твора. У прадмове *Колькі слоў ад аўтара* да знакамітага *Шляхціца Завальні* Я. Баршчэўскі пісаў: "Я не пераймаю формаў, якія любілі пісьменнікі англійскія, нямецкія або французскія; лічу, што чужаземнае не будзе пасаваць негаваркому жыхару Беларусі. Узяў я форму з самое прыроды. Сірата штодзённа наракае на сваю нядолю, апавядае пра розныя пакуты, якія ён мусіў трываць на гэтым свеце, і яго скаргі на працягу ўсяго жыцця зліваюцца ў адну аповесць, хоць ён і не думаў сёння, пра што будзе апавядаць заўтра"[1]. Я. Баршчэўскі падзяляў меркаванні І.Г. Гердэра пра тое, што гістарычны фон і абставіны нацыянальнай экзістэнцыі вызначаюць выбар тэм і мастацкіх формаў, а таксама падзяляў думкі рамантыкаў пра ролю біяграфічнага пачатку ў творчасці, калі заўважаў: "Некаторыя з гэтых родных успамінаў я прыгадаў у баладах; гэта быў мой самы самотны напеў. Балады былі пачаткам таго, пра што я меў намер сказаць падрабязней. Гэта ў чалавечай натуры – ад песні пераходзіць да апавядання пра тое, што нас найбольш займае"[2] .

У *Тарасе на Парнасе* пытанні літаратуры разглядаліся праз падзейную канву. Заслугоўвае ўвагі іншасказальная па сваёй сутнасці сцэна каля Парнаскай гары. Аўтар паэмы тут фактычна разважае пра шляхі,

[1] Я. Баршчэўскі, *Выбраныя творы*, Мінск 1998, с. 81–82.
[2] *Ibidem*, с. 81.

што вядуць пісьменніка да літаратурнага прызнання. Узняцца на Парнас – гэта атрымаць літаратурнае прызнанне. Натоўп, што сабраўся ля ўбачанай Тарасам Парнаскай гары, – розны па намерах, па сацыяльным паходжанні ("было паноў, было і зброду"), па ўзроўні таленавітасці. Большасць прысутных мітусіцца, каб хутчэй апынуцца на Парнаскай гары: "Усе з сабой цягаюць кніжкі, // Аж з іншых пот руччом плюшчыць, // Друг дружцы выціскаюць кішкі"[1]. Некаторыя пускаюць у ход пагрозы і шантаж: "Памалу, братцы, не душыце // Мой фельетон вы і «Пчалу», // Мяне ж самога прапусціце і не дзяржыце за палу! // А не, дык, дадушы, у газеце // Я вас аблаю на ўвесь свет, // Як Гогаля ў прошлым леце, // Я ж сам рэдактар ўсіх газет!"[2]. Аўтар тут здзекліва і шаржавана паказвае скандальнага пісьменніка Фадзея Булгарына. Паводле апавядальніка ў асобе палясоўшчыка Тараса, літаратурнае прызнанне можна атрымаць не толькі з дапамогай шантажу, але і з дапамогай грошай: "Вось нехта, сеўшы ў тарантасе, // На гору цягнецца трушком; // Знаць, любяць тых і на Парнасе, // Хто ездзіць конна, – не пяшком"[3]. Аўтар дасціпна абыграў тут факт папулярнасці рускага пісьменніка У. Салагуба і яго аповесці *Тарантас* (1845). Канечне ж, за літаратурнае прызнанне чыноўнік высокага рангу У. Салагуб нічога не плаціў, але ён вылучаўся на пісьменніцкім фоне добрай матэрыяльнай забяспечанасцю. Сам Тарас апынуўся на Парнасе выключна дзякуючы грубай фізічнай сіле: "Паміж людзей і я штурхаўся // І ціснуўся, што ёсць пары; // Вось чуць не чуць такі прабраўся // І лезу проста да гары"[4]. Надзеленых талентам асоб лёс сам узносіць на Парнас: "Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі // І Гогаль шпарка каля нас // Прайшлі, як павы, на Парнас"[5]. Дарэчы, Максіму Багдановічу ў рускамоўнай нататцы 1914 года *Булгарын у беларускай жартоўнай паэме* па-іншаму бачылася сцэна ля Парнаскай гары. Пра аўтара паэмы М. Багдановіч адзначаў: "Чалавек гэты зрадніўся з рускай літаратурай, умеў яе разумець і цаніць. Апошняе бачна хаця б з імёнаў пісьменнікаў, якім ён адвёў першае месца на Парнасе. І толькі блізкасць да рускай літаратуры, толькі разуменне, хто ў яе сын, а хто падкідыш, і разуменне пры тым не абыякавае, не безасабовае, – толькі гэта магло падштурхнуць аўтара бяскрыўднага вершаванага жарту зрабіць экскурс у бок Булгарына і Грэча. Значэнне і вастрыня нанесенага ім удару відавочна не вялікія. Аднак бясспрэчную цікавасць мае сам факт наяўнасці такіх выпадаў нават у сціплай беларускай літаратуры"[6]. Сэнс сцэны ля Парнаскай гары М. Багдановічу бачыўся ў прамалінейным высмейванні Ф. Булгарына і М. Грэча. На нашу думку, аўтар паэмы не столькі высмеяў

[1] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1988, с. 17.
[2] *Ibidem*.
[3] *Ibidem*.
[4] *Ibidem*.
[5] *Ibidem*.
[6] М. Багдановіч, *Поўны збор твораў у 3 т.,* т. 2, Мінск 1993, с. 256.

прадстаўнікоў афіцыйнай рускай літаратуры таго часу, колькі ў дасціпнай форме выказаўся наконт розных шляхоў дасягнення пісьменнікамі шырокай вядомасці.

Арыгінальная спроба асэнсавання літаратуры, яе месца і ролі ў жыцці асобнага чалавека і грамадства змяшчалася ў *Альбоме* Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Запісы ў *Альбоме* пакінулі людзі рознага роду заняткаў і поглядаў на жыццё. Першы запіс быў зроблены Уладзіславам Сыракомлем, што сведчыла пра павагу А. Вярыгі-Дарэўскага да гэтага творцы, пра аўтарытэтнасць самога ўладальніка альбома як чалавека і пісьменніка ў літаратурнай прасторы Беларусі XIX стагоддзя. У запісах *Альбома* выяўлялася індывідуальнасць аўтараў. Так, Антоні Эдвард Адынец заклікаў А. Вярыгу-Дарэўскага быць хрысціянскім паэтам. Зварот яго да А. Вярыгі-Дарэўскага быў урачыста-пафасны: "Białoruskiej ziemi synu! // Ty co w drzewnej wiejskiej nócie // W pogardzonej mowie gminu // W lud szlachetne tchniesz uczucie!"[1]. У запісе Вінцэся Каратынскага ад 26 кастрычніка 1858 года ад імені лірычнага героя-селяніна ўслаўляўся "Наддзвінскі Дудар", акцэнтавалася еднасць яго думак з народнымі. Лірычны герой вершаванага запісу абяцаў пайсці па вёсках і ўсім абвясціць пра Дудара, у якога: "Пад рукою – дуда // І звініць, і гудзе, // Як па маслу ідзе. // Будзе пець мужыком // Аб Язуску святом, // Аб матульцы святой, // Аб зямліцы радной, // Аб сардэчных палях, // Аб мужыцкіх панах, // Аб суддзях, што як змей, // Аб свабодзе людзей, // Аб дабры, што Бог дасць, // Як адрыне напасць!"[2]. Іншымі словамі, В. Каратынскаму А. Вярыга-Дарэўскі бачыўся сапраўды народным творцам, які ведае духоўныя запатрабаванні свайго чытача. Лірычны герой В. Каратынскага жадае народнаму песняру: "Ну, здароў будзь, Дудар! // Цяпер песні нам сей, // То і ўзыдуць жывей, // То і пусцяць пышы – // Будзе хлеб для душы"[3]. Адам Кіркор ухваляў А. Вярыгу-Дарэўскага за самаахвярнасць, за смелае памкненне сваёй працай на грамадскай і літаратурнай ніве "з высакароднай любоўю" падняць народ "да чалавечай годнасці"[4]. Маладыя землякі А. Вярыгі-Дарэўскага называлі яго паэтам "слова і дзеяння". Мікалай Караткевіч звяртаўся да яго як да "Беларускага Дудара": "Дзякуй жа табе, Дударэнька, // Што так іграеш харашэнька. // Як Бог табе дапаможа, // Дуда твая многа зможа. // Бо голас з Господняй рады // Ад грамады да грамады // Па зямельцы паляціць, // Ўвесь народ развесяліць"[5]. Ялегі Пранціш Вуль пісаў пра заклікальна-асветніцкую накіраванасць творчасці А. Вярыгі-Дарэўскага і нялёгкія ўмовы творчай працы: "Што табе, дудар, прыспела // Смелы песні завадзіць? // Ці то лёгкае, брат, дзела // Нашу брацццю

1 *Пачынальнікі: з гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.,* уклад. Г. Кісялёў, 2-е выд., Мінск 2003, с. 246.
2 *Ibidem*, с. 248–249.
3 *Ibidem*, с. 249.
4 *Ibidem*, с. 252.
5 *Ibidem*, с. 259–260.

прасвяціць? // Крыкне на цябе паноўе, // Што ты шкоднік і місцюк, – // Страціш голас і здароўе // І дуду ўпусціш з рук (...). // Грудзяй цэлай гудзі смела // На увесь мужыцкі свет, – // Што пасееш, будзе цэла, // Будзе некалі і цвет... // То-та радасць, радасць будзіць, // Калі Бог за мужыкоў // Ды вянок табе прысудзіць – // З белых рож і васількоў!”[1]. Божая ўзнагарода белымі ружамі азначала, што паэт адбельвае людское сумленне, а васількі – увасабленне нябёсаў, “адкуль кожны Божы дар”.

А. Вярыга-Дарэўскі меў і ўласныя меркаванні пра літаратуру. Напрыклад, звяртаючыся да віленскага настаўніка лацінскай мовы, А. Вярыга-Дарэўскі пісаў: “Брат Рамуальд! Выкінь ты вон // З торбы прадзедаў пастаці, // Хай Гёт, Шылер, Кальдэрон // Пакажуцца ў нашым плацці. // Будзь здароў! Прызнайся, брат, // Ці між прац тваіх снапамі // Гамер збуджаў у свежы склад // Ды трапнуць для нас нажкамі?”[2]. У. Сыракомлю ён прасіў: “Брат Людвік! Спявай, спявай // На край родны, на весь свет! // Заміраць думам не дай, // Няхай свеціць родны свет! // “Дамбарог” няхай жыве, // Пакуль мы не аджывём, // “Кус хлеба” няхай плыве, // А мы за ім паплывём”[3]. З прыведзеных двух пажаданняў сябрам відаць, што А. Вярыга-Дарэўскі разумеў значнасць добрага прыкладу ў літаратуры, значнасць традыцый класікі і сучаснасці для паўнавартаснага існавання літаратуры.

Пытанні творчасці, яе ўзаемадачыненні з чытацкай публікай знайшлі ўвасабленне ў мастацкай спадчыне Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, а менавіта ў творах: *Апантаны*, *Да Уладзіслава Сыракомлі*, *Літаратарскія клопаты*. Польскамоўная меладрама *Апантаны* была напісана ў рамантычным рэчышчы. Галоўны яе герой– малады паэт Эдмунд, захоплены каханнем. У свеце зайздрослівых і недалёкіх людзей яму няўтульна. Эдмунд – паэт, творчасць не прыносіць матэрыяльных даброт герою. Не без іроніі ён зазначае: “Але вядома, што нікчэмныя металы // Ў пісьменніка ў кішэнях – госць не сталы”[4]. Чытачы аддаюць перавагу іншаземным аўтарам, якія сваімі творамі кардынальна мяняюць маральныя ўстаноўкі людзей. Сябар Эдмунда Карл наракае на тое, што пад уплывам захаплення грамадства чужаземнай літаратурай псуюцца жаночыя норавы, што беззваротна мінулі часы, калі свае паэты вучылі людзей патрыятызму: “Павер мне, дружа, што жанчыны ў нашы часы // Разбэшчаны, на вострыя пачуцці ласы, // Сваёй вучонасцю сучаснай ганарацца, // Чакаюць аднаго, каб імі захапляцца, // Бо Сю, Бальзака і Дзюма пералісталі // І думкамі за мантэхрыстамі ляталі. // З традыцый кпяць і з мовы роднае спрадвечнай // І бачаць варварства ў іх прастаце сардэчнай. // О, сёння, брат, не тое, як былога часу. // Калі магутнага паэта з Чарналясу // Грымела лютня, дык не толькі

[1] *Ibidem*, с. 262.
[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1988, с. 100.
[3] *Ibidem*, с. 100–101.
[4] В. Дунін-Марцінкевіч, *Творы*, Мінск 1984, с. 80.

што шляхцянка, // А нават дочка гетмана ці кашталянка // Не пагарджала сваёй роднай мовай”[1]. Каханая Эдмунда Алена Паэтніцкая піша вершы, яна звычайная амбітная графаманка, якая какетліва просіць улічваць пры ацэнцы сваіх вершаў, што яна яшчэ і кабета. Паэтніцкая надзвычай камічна выглядае, калі мяркуе, што толькі зайздрасць перашкаджае Эдмунду пахваліць яе вершы. У напісаным на польскай мове творы В. Дунін-Марцінкевіч не без іроніі паказаў два пашыраныя тыпы эпігонаў рамантыкаў: у асобе Аліны Паэтніцкай – графаманку, якая прагне ўсіх уразіць паэтычным выказваннем сваіх пачуццяў і думак, пазбаўленых арыгінальнасці і навізны, і Эдмунда, які слепа прытрымліваецца кодэксу паводзінаў рамантычнага героя, заснаванага на маральным максімалізме.

Зварот *Да Уладзіслава Сыракомлі* пачынаўся невялікім вершаваным уступам, а заканчваўся кароткім празаічным аповедам пра поспех аўтара-апавядальніка ў чытачоў ды разважаннямі пра выхаваўчае значэнне літаратуры на народнай мове і пра народ. Па сутнасці, *Да Уладзіслава Сыракомлі* – пралог да вершаванага апавядання *Літаратарскія клопаты*. Апавядальнік шчыра радуецца прызнанню свайго таленту чытачамі: “Мову сэрца майго ўчула // Беларусь, о край гасцінны, // І да сэрца прыгарнула // Дудара, як свайго сына”[2]. Яго ўзрушыла і расчуліла сітуацыя прыязнага стаўлення Беларусі да яго твораў: “Больш, чым я заслугоўваю, адзначыла беднага песняра, які з яе народнай мовай выступіў на ніве роднай літаратуры”[3]. *Літаратарскія клопаты* – пісьменніцкае асэнсаванне найперш бытавых бакоў пісьменніцкай працы, узаемадачыненняў літаратара з публікай і пасярэднікамі паміж публікай і пісьменнікам, гэта значыць, выдаўцамі кніг, гандлярамі кнігамі. Першая частка *Паэт у клопатах* пачыналася з наракання, што паэту “ўслужыць нялёгка справядлівай славе!”. Паводле апавядальніка, пісьменніцкая праца няўдзячная, бо чытачы ў пераважнай большасці абыякавыя да кніг. Шанцуе толькі тым аўтарам, хто належыць да ліку прызнаных, як У. Сыракомля, творы якога “купляюць, каб не трапіць між адсталых”. У сталічных салонах “мілейшыя чужыя плёны, // Рамансы франкаў – вось чытання ўзоры. // А ліра свойская ўзбуджае смехі – // Яна для чэрні, пад гнілыя стрэхі! // Калі ж і ўбачыш мо дзе ў свеце модным // Ці “Хатку ў лесе”, ці то “Дэмбарога”, // Яны не рушаны, клянуся Богам! // Лісты нат не разрэзаны ў ніводным. // На прасцячкоў тут пастка: хай не баюць, // Што песняроў сваіх паны не знаюць”[4]. Сваю літаратурную ніву апавядальнік называе “скупой”, “быллём паросшай” і няўдзячнай, бо шмат маральных і матэрыяльных высілкаў патрабуе не толькі напісанне кнігі, але яе выданне і распаў-

[1] *Ibidem*, с. 81.
[2] *Ibidem*, с. 258.
[3] *Ibidem.*
[4] *Ibidem*, с. 260.

сюджванне. Ён на ўласным прыкладзе зведаў, як нялёгка стаць прызнаным чытацкай публікай, асабліва калі аўтар апавядае пра лёс "мужыка". Як сцвярджае апавядальнік у трэцяй частцы твора *Гасцяванне. Літаратарскі поспех*, сапраўдныя чытачы жывуць у правінцыі. У шляхецкім засценку аўтара твораў пра народнае жыццё прыемна ўразіла суразмоўніца Алеся, якая выказала добрую абазнанасць у польскай літаратуры XIX стагоддзя: "Якіх праслаўленых пісьменнікаў мы маем, // Што аж душа ад захаплення замірае, // Напрыклад, наш Крашэўскі, Штырмер, Каржанеўскі, // Сяменскі, Поль, Ржавускі, Адынец, Чайкоўскі. – // Даўно яны валодаюць душой людскою! // Прарокі! Пёры іх не знаюць супакою! // Напрыклад, Сыракомля, майстар адмысловы, // Ледзь што не месяц выпускае твор свой новы, // А што ў яго за мова! Стыль надзвычай мілы! // Не дзіва, што ліцвінкі хваляць з цэлай сілы"[1].

Пісьмовае слова на беларускай мове, нацыятворная роля літаратурнай творчасці сталі прадметам рэфлексіі Францішка Багушэвіча. У. Калеснік заўважыў пра яго: "Першым беларускім пісьменнікам, які паслядоўна ствараў беларускі тып прафесійнага мастака, аказаўся Францішак Багушэвіч. Ён паспеў, на жаль, накідаць толькі контур, але такі трапны, што той увайшоў у літаратуру як нацыянальны архетып"[2]. У *Прадмове* да *Дудкі беларускай* Ф. Багушэвіч адзначаў, што пакуль няма кніг на беларускай мове і даводзіў: "Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а навет і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю. Перадумаўшы ўсё гэта, я, братцы, адважыўся напісаць для вас сякія-такія вершыкі: хто іх спадабае, таму дзякуй! А хто падумае лепш і больш напісаць, таму чэсць вечная і ад жывых людзей і ад бацькавых касцей! А пісаць ёсць шмат чаго!"[3]. Прадмова была прасякнутая клопатам не толькі пра лёс беларускай мовы, але і пра развіццё літаратуры на беларускай мове. Праграмным вершам у першым зборніку стала *Мая дудка*. Зместам яго аўтар акцэнтаваў, што мастацтва знаходзіцца ў цеснай сувязі з жыццём: не можа дудка іграць вясёлыя песні, калі жыццё сумнае. Іншымі словамі, тэмы і вобразы мастацтва дэтэрмінаваныя найперш жыццём, а не аўтарскай інтэнцыяй. Лірычны герой просіць дудку быць праўдзівай і шчырай: "Каб ты так іграла, // Каб немарасць брала. // Як слязы не стане, // Заціхне ігранне, – // Кінь наўкола вокам, // Дык крывавым сокам – // Не слязой – заплачыш, // Як усё абачыш"[4]. Пытанні літаратурнай творчасці склалі аснову прадмовы да *Смыка беларускага*, напісанай ад імені Сымона Рэўкі з-пад Барысава. Сымон Рэўка не ўхваляў творы, што "як бы смеючыся" з мужыка "пісаны", у якіх, як у *Панскім ігрышчы*, селянін пададзены наіўным прасцячком. Такі паказ селяніна абурае Сымона Рэўку. Добры прыклад Мацея Бурачка ў асвятленні

[1] *Ibidem*, с. 280.
[2] У. Калеснік, *Тварэнне легенды: літаратурныя партрэты і нарысы*, Мінск 1987, с. 222.
[3] Ф. Багушэвіч, *Творы*, Мінск 1990, с. 16–17.
[4] *Ibidem*, с. 20.

народнага свету яго радуе. Сымон Рэўка сціпла зазначыў: "Не раўня я Бурачку, – ён лепей, можа, знае жыццё мужыцкае, больш, можа, відзеў і чуў; але так мне спадабаліся яго тыя вершы, што і я здумаў папрабаваць што-кольвек напісаць. Ёсць шмат друкованых песняў нашага народа; пісаў Пачабут, Я. Тышкевіч, апісуючы наш Барысаўскі павет, і шмат хто спісываў іх, а шмат ёсць і не спісаных, але песні ўсе тыя не надта, каб сказаць праўду, харошыя, і нота наша плакучая, аднастайная, і песняў вясёлых не шмат, ды і тых ужо рэдка пачуць. Надта за хлебам народ гоніцца, а хлеба дастане, дык і за крамнай вопраткай, і за ляксаванымі ботамі гоніцца, і ўсё маркоціцца. Даўней, кажуць, людзі як меншым абыходзіліся, то больш мелі і весялейшымі былі. Вот я і напісаў з дзясятак песняў «сякіх-такіх». Граю трошкі на скрыпачцы, ну дык няхай і мая ксёнжачка завецца струмантам якім; вот я і назваў яе *Смык*. Смык ёсць, а хтось скрыпку, можа, даробе, а там была *Дудка* – вот і мы зробім музыку, як тыя жыдкі, што на цымбалах іграюць"[1]. Прынцыпова важным момантам у разважаннях пра літаратурную творчасць у прадмове да *Смыка беларускага* з'яўлялася думка пра неабходнасць існавання беларускай літаратуры і далейшага яе развіцця. У праграмным вершы *Смык*, дзе ў рамантычным духу ўзвялічваліся здольнасці мастацтва ў выяўленні навакольнага свету і чалавечых пачуццяў, Сымон Рэўка фактычна выступіў апанентам Мацея Бурачка. Лірычны герой Сымона Рэўкі з-пад Барысава жыве марай і верай валодаць чароўным смыком: "Як смычком бы тым // Камень зачапіць, // Дык пайшоў бы дым… // Камень не сцярпіць!.. // У жарству, пясок, // Каб рассыпаўся, // Каб даў галасок, // Аж захліпаўся! // Каб пачуў усяк, // Ды каб літасць меў: // Каб цвёрды размяк, // Каб мяккі аж млеў! // Ох, каб мне той смык, // Каб на сэрцах граў, – // З радасцяй бы знік, // Абы голас даў!.."[2]. Лірычны герой верша *Не цурайся* марыць пра гарманізацыю сацыяльных узаемаадносін і пра паляпшэнне становішча простага народа з дапамогай "ксёнжкі для нас, мужыкоў". Тэматыкай і вобразамі твораў з цыкла *Песні* аўтар *Смыка беларускага* пераконваў, што літаратуры, угрунтаванай на паэтыцы фальклору, падуладна адлюстраванне самых шырокіх пластоў жыцця. У прадмовах да паэтычных зборнікаў Ф. Багушэвіч першым у літаратуры XIX стагоддзя сфармуляваў эстэтычную праграму развіцця беларускай літаратуры, якая засяроджвала б сваю ўвагу на жыцці селяніна як тыповага прадстаўніка тагачаснага беларуса, улічвала і развівала вопыт фальклорнай паэтыкі, прызнавала значнасць нацыянальнай традыцыі.

Літаратура Беларусі XIX стагоддзя была полілінгвальнай. Разважанні пра літаратурную творчасць у польскамоўных і беларускамоўных творах спачатку розніліся праблематыкай (у польскамоўных больш увагі надавалася разважанням над пытаннямі паэтыкі, а ў бела-

[1] *Ibidem*, с. 65.
[2] *Ibidem*, с. 66–67.

рускамоўных – над шляхамі пісьменніка да чытача), у другой жа палове пазамінулага стагоддзя наглядалася збліжэнне праблематыкі праз асэнсаванне ролі таленавітай асобы ў літаратурным руху. Так, у польскамоўных вершах-прысвячэннях Элізе Ажэшцы Ф. Багушэвіча і Янкі Лучыны, у беларускамоўным вершы Адама Гурыновіча *Дзякуй табе, браце Бурачок Мацею* акцэнтавалася значнасць выбітнага пісьменніка ў літаратурным працэсе, грамадска актуальнай праблематыкі ў літаратурным творы.

Нацыянальная літаратура становіцца паўнавартасным мастацтвам слова, калі яна пачынае асэнсоўваваць самую сябе, шляхі свайго ўдасканалення і развіцця. У творчасці пісьменнікаў Беларусі XIX стагоддзя закладваліся асновы металітаратурнага коду новай беларускай літаратуры, угрунтаванага на пытаннях узаемаадносін нацыянальнай рэчаіснасці і літаратуры, функцый літаратуры, заканамернасцей літаратурнага працэсу, у прыватнасці, фарміравання нацыянальнай традыцыі, ролі таленавітай асобы ў развіцці літаратуры, якія рэпрэзентаваўся галоўным чынам праз медытацыю аўтара ці яго лірычнага героя.

*Vanda Barouka*

**Metafictive Code in the Works by Belarusian 19th Century Writers**

A b s t r a c t

Metafictive code in the works of the writers of Belarus is correlated with the development of literature 19th century. First of all, writers turned to understanding the problems of literature recognition. Later, their main focus was the problem of relations between literature and the national reality, the foundations of literature, laws of literary development. The primary means of representation of metafictive code is the author's meditation or lyrical plot as such, which was used in several fragments.

**Мікола Хаўстовіч**
Варшава

# *Biełarusskaja Chrestomatija* Браніслава Эпімаха-Шыпілы: спроба новага прачытання

Беларускія хрэстаматыі бяруць свой адлік ад даўніх шляхецкіх *silva rerum* (лац. літаральна – лес рэчаў), колісь папулярных зборнікаў розных тэкстаў, дзе было "ўсяго патроху". Гл., напрыклад, кнігу-рукапіс Караля Жэры *Vorago rerum, torba śmiechu, groch z kapustą a każdy pies z inszej wsi*. У XIX стагоддзі традыцыю *silva rerum* працягваў Ян Чачот, распачаўшы ў 1808 годзе г. зв. *Raptularz* , ці *Zbór różnych pism wierszem y prozą w tym Manuskrypcie znayduiących się*. Станіслаў Свірка грунтоўна ахарактарызаваў зборнік і апублікаваў з яго шэраг твораў[1]. Беларускі чытач таксама знаёмы з некаторымі тэкстамі з гэтага рукапісу, перадусім, – з баладамі Я. Чачота, а таксама з *Powinszowaniem Chłopa litewskiego, swoiemu panu, że nie należał do powstania w roku 1831m*.

Напрыканцы 1830-х гг. пачаў працу над складаннем сваіх зборнікаў-хрэстаматый Аляксандар Рыпінскі: занатаваныя з памяці фрагменты народных песняў, а таксама літаратурных твораў, бясспрэчна, упрыгожылі ягоны рэферат, прачытаны ў Парыжы на пасяджэнні Польскага літаратурнага таварыства 21 лістапада 1839 г., хоць і не склаліся, бо не было такое мэты, на хрэстаматыю[2]. Уласна зборам тэкстаў – народных і літаратурных – заняўся А. Рыпінскі толькі вярнуўшыся з эміграцыі. На Бацькаўшчыне ён планаваў падрыхтаваць і выдаць зборнік беларускіх фальклорных і літаратурных твораў. Трэба сказаць, што яшчэ ў Лондане ён марыў надрукаваць *Zbiór piesni Białoruskich*. І нават паспяшаўся аб'явіць у прадмове да балады *Нячысцік*, што ўжо выйшла некалькі томікаў гэтага зборніка[3]. Аднак на чужыне выданне не атрымалася: мажліва, з-за недахопу матэрыялаў[4]. Мажліва, адразу пасля вяртання А. Рыпінскі пачаў збіраць тэксты ў свой будучы зборнік.

[1] Гл.: S. Świrko, *Z kręgu filomackiego preromantyzmu*, Warszawa 1972, s. 5–195.

[2] Гл.: A. Rypiński, *Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji; o jego muzyce, śpiewie, tańcach etc.*, Paryż 1840.

[3] A. Rypiński, *Poezije <…>, pisane na pielgrzymstwie: Z muzyką i rycinami,* związ I, Londyn 1853, s. 123.

[4] Тых, што памятаў А. Рыпінскі, было, безумоўна, мала. З гэтай, відавочна, прычыны, як ён сам прызнаваўся, "не адну з іх, дзеля прыгажосці, там, дзе гэта было патрэбна, нязначна крануў уласным пяром".

Праўда, першыя датаваныя матэрыялы будучай *Хрэстаматыі* паходзяць з пасляпаўстанцкага часу: 1865 годам пазначана прадмова да ананімнай гутаркі *Bondar Sawasciej*. Збіральніцкая праца А. Рыпінскага расцягнулася на больш чым на дзесяцігоддзе (апошняя датаваная прадмова да драматычнай паэмы *Адвячорак* паходзіць з 1877 г.). У літаратурнай частцы (*Utwory literackie*) хрэстаматыі – пятнаццаць беларускамоўных мастацкіх тэкстаў, які ўпершыню былі сабраныя разам[1]. Апрача таго, восем з іх пэўным чынам уведзены ў літаратуразнаўчы кантэкст – у прадмовах А. Рыпінскі не толькі паведамляў пра вядомыя яму акалічнасці ўзнікнення твораў, біяграфічныя звесткі пра аўтараў, але і даваў ім характарыстыку, рабіў параўнаўчы аналіз (у выпадку з *Энеідай навыварат*). *Utwory literackie* займалі асноўную частку аднаго з рукапісных томікаў – ажно 281 старонку (з 63 па 344). Аднак ні завяршыць падрыхтоўку, ні тым больш выдаць *Хрэстаматыю* А. Рыпінскаму не ўдалося. І толькі цудам дайшлі да нас яе фрагменты, перапісаныя калісь Міхайлам Піятуховічам і Васілём Мачульскім[2].

На пачатку 1880-х гг. цалкам беларускамоўную хрэстаматыю склаў студэнт-гоманавец Станіслаў Нясцюшка-Буйніцкі. Філосаф Іван Лушчыцкі прыняў яе за падрыхтаваны да друку Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам зборнік *Гапон*[3]. І гэта нягледзячы на тое, што на тытульнай старонцы пазначана: "Petersburg, 16 grudnia 1882. St. Niesciuszko-Bujnickiego". Апрача таго, сярод перапісаных у зборніку тэкстаў В. Дуніна-Марцінкевіча ёсць і такія, што не належаць пяру беларускага дудара. Усяго ў хрэстаматыі дзевяць твораў на 122 старонках. Восем з іх унесены ў г. зв. "Spis rzeczy": *Hapon*, *Powinszowanie Wojta Nauma*, *Pan Tadeusz* (tłumacz.) urywek, *Wot swabodu daduć skora*, *Niaczyscik* (ballada), *Ihnat Śliuka* (fantazja), *Szczerouskije dażynki*, *Wiersz Nauma Pryhoworki*. На дзявяты (перадапошні аркуш зборніка) звярнулі ўвагу толькі І. Лушчыцкі і Генадзь Кісялёў. Першы проста падае яго ў пераліку твораў зборніка ["Верш без назвы (лірычны)"], другі называе "макаранічным вершам без назвы"[4]. Удакладнім: гэта варыянт вядомага твора XVIII стагоддзя *Kąkuręcya pewnego hajduka do praczki*, хоць "макаранічнасць" зведзена тут да мінімуму: польскіх слоў няшмат. Зрэшты, ад *Kąkuręcyi pewnego hajduka* захаваўся невялікі фрагмент:

Przyglądałem się do twej chandogej twary
Jakby tietra s ciaciorej u pare
Tetra na bałocie bałbocze

---

[1] Гл.: М. Піятуховіч, *Рукапісы А. Рыпінскага* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 218–274.

[2] Гл.: В. Скалабан, *Новыя матэрыялы з гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1990, с. 212–217.

[3] І. Лушчыцкі, *Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX ст.*, Мінск 1958, с. 70–75.

[4] Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча*, Мінск 1988, с. 24.

Tak to moje serce do ciebie klakocze,
Rwiecca moje serce, jakby atosa,
~~Kryczyć~~[1] praklataje kolosa,
Skrypić koło, bo nie majeć mazi,
A ja u kochanni, jak swinia u hrazi
Switka nowa, łapci ramienny
Kapalusz nowy sałamienny,
Choć by bliny, choć by dzielanka,
Niczoho tak nie da gustu,
Jak moja kochanka[2].

Зборнік-хрэстаматыю С. Нясцюшкі-Буйніцкага добра ведалі гісторыкі літаратуры 1920-х гг. Перадусім, у першай савецкай хрэстаматыі *Выпісы з беларускае літаратуры: Новы і найноўшы кругабегі* (Мінск 1923) у каментарах да публікацыі балады *Нячысцік* А. Рыпінскага пазначана: "Перапісаны С. Нясцюжка[так!]-Буйніцкім у Пецярбурзе 16.XII.1882 з лонданскага выдання 1853 года. З архіву Ів. Луцкевіча"[3].

С. Нясцюшка-Буйніцкі шэсць тэкстаў з дзевяці перапісаў з друкаваных выданняў. Здавалася б, вялікае вартасці ягоная хрэстаматыя не мае. Так, пэўна, меркавалі ў колішнім Інстытуце літаратуры, а таму не падрыхтавалі ні факсімільнага, ні якога-небудзь іншага перавыдання фактычна першае, з тых што захаваліся, хрэстаматыі беларускае літаратуры.

Зрэшты, і наступная па часе ўзнікнення *Biełarusskaja Chrestomatija* Браніслава Эпімаха-Шыпілы не мела доўгі час ні навуковага апісання-характарыстыкі, не кажучы ўжо пра перавыданне. Хоць звесткі пра яе трапілі ў друк яшчэ ў першай чвэрці XX стагоддзя: Яўхім Карскі, спасылаючыся на *Biełarusskuju Chrestomatiju*, апавядае пра творы Фелікса Тапчэўскага, Ёахіма Тамашэвіча і пра пераклад Станіслава Гласкі[4]. А яшчэ раней з хрэстаматыі ў „Biełaruskim kalendary na 1915 hod" (Wilnia 1914, s. 35–36) друкаваўся верш Ф. Тапчэўскага *Wiečarynka*, праўда, без пазначэння крыніцы паходжання, але ці то сам Б. Эпімах-Шыпіла прапанаваў яго выданню, ці то нехта са складальнікаў "запазычыў" яго з рукапісу пецярбургскага навукоўца.

Ведаў (лепш сказаць: чытаў) пра *Biełarusskuju Chrestomatiju* і Максім Гарэцкі. Але калі ў першых выданнях гісторыі ён дае адно толькі кароткую характарыстыку чатыром творам Ф. Тапчэўскага[5] і цытуе

[1] Зверху над перакрэсленым словам – *Skrypić*.

[2] Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka, F. 21–132, k. 61v.

[3] Цыт. па: Г. Кісялёў, *Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча*, Мінск 1988, с. 25–26.

[4] Е. Карский, *Белорусы: В 3 томах*, том 3, книга 2: *Очерки словесности белорускего племени*, Минск 2007, с. 302–304. Раздзел пра Ф. Тапчэўскага, які пазней увойдзе ў трэці выпуск трэцяга тома *Бѣлорусовъ* Я. Карскі апублікаваў у газеце "Беларусь". гл.: Е. Карскі, *Забыты беларускі пісьменьнік прошлага веку Фэлікс Тапчэўскі – "Хвэлька з Рукшэніц"*, "Беларусь" 1920, 22 студз.

[5] *Вечарынка, Саўсім не тое, што было*, *Грошы і праца*, *Ён і яна*. Верш *Панскае ігрышча* не згадваецца М. Гарэцкім сярод твораў Ф. Тапчэўскага.

тры радкі з верша *Грошы і праца*, то ў трэцім і чацвёртым падае вялікія фрагменты[1] яшчэ з двух і называе крыніцу іх паходжання: "у рукапісным зборніку, які быў складзен беларускім дзеячам Б. Эпімах-Шыпілаю ў 1889 годзе"[2].

Пэўна, са студэнцкіх гадоў памятаў *Biełarusskuju Chrestomatiju* Адам Станкевіч, які, пішучы напачатку 1935 г. некралог Браніслава Эпімаха-Шыпілы для часопіса "Калосьсе", прыгадаў з яе творы Ф. Тапчэўскага, "якія Шыпіла перапісаў з арыгіналу", а таксама верш Яхіма Тамашэвіча[3].

Варта звярнуць увагу, што Б. Эпімах-Шыпіла не рабіў намаганняў, каб апублікаваць свой зборнік (альбо найбольш значныя з яго тэксты) ні ў тыя часы, калі ён быў у складзе выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца", калі выходзіла газета "Наша ніва", а таксама шэраг іншых перыядычных выданняў, ні пазней, ужо ў савецкі час. Ці не абачлівасць[4] і асцярожнасць навукоўца былі тут асноўнаю прычынаю?

Тым не менш, з распачатай у чэрвені 1889 г. *Biełarusskaj Chrestomatiji* Б. Эпімах-Шыпіла не разлучаўся да апошніх дзён свайго жыцця. Пра гэта можа сведчыць запіс алоўкам на першай ейнай старонцы (паводле архіўнай нумарацыі – 1а): "Получено от Брон. Игн. Эп.-Шипиллы 26.V.34. 2-го июня после второго удара Б. Ш. потерял сознание и скончался 6.VI.34 в 8 ч. утра в больнице им. С. Перовской". Ніжэй почыркам Лукаша Бэндэ: "Получено от Конст. Алексеевича Пушкаревича[5] 13.I.1936 г. Завещена в собственность 1.I.42 г. Умер К. А. в феврале 1942 г.[6] в гостиннице «Астория»".

Л. Бэндэ ў 1930-я гг.[7] перапісаў з *Biełarusskaj Chrestomatiji* восем твораў (*Гутарка старога дзеда*, *Добрыя весці*, *Саўсім ня тое, што было*, *Грошы і праца*, *Ён і Яна*, *Вечарынка*, *Панское ігрышчэ*, *Na pamiątkę*

[1] Цытаты ўзяты з публікацый Я. Карскага.

[2] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літаратуры*, выд. чацьвертае, перароблецае, Мінск 1926, с. 143.

[3] А. Станкевіч, *Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцьця і працы*, "Калосьсе" 1935, № 2, с. 104.

[4] А. Сідарэвіч, *З гісторыі гісторыі літаратуры: Прыклад Рыгора Семашкевіча*, "Дзеяслоў" 2013, № 5 (66), с. 293–303.

[5] Канстанцін Пушкарэвіч (1890–1942), славіст (літаратуразнавец, мовазнавец, гісторык, перакладчык). Нарадзіўся на Беларусі (паводле адных інфармацый – у в. Пясчатка Брэст-Літоўскага павета Гродзенскае губ., паводле іншых – у Слоніме). У студэнцкія гады быў сябрам гуртка, якім апекаваўся Б. Эпімах-Шыпіла. З 1925 г. працаваў у Ленінградскім універсітэце і Інстытуце этнаграфіі АН СССР. Відаць, на пачатку 1930-х гг. дапамагаў навукоўцу, якога выслалі з Мінска. У 1934–1936 гг. захоўваў архіў Б. Эпімаха-Шыпілы, які пазней (часткова) трапіў да Л. Бэндэ.

[6] Паводле іншых інфармацый – 31 студзеня 1942 г.

[7] У сшытку "Недрукаваныя беларускія вершы XIX в." дата пазначаная невыразна: "Спісано 2/III 34 (?) у Ленінградзе". Але на 1934 год паказвае той факт, што перапісанне апошняга дакумента ў сшытку датуецца 3 мая 1934 г. А г. зн., што Л. Бэндэ наведаў Б. Эпімаха-Шыпілу за тры месяцы да смерці апошняга.

*życzliwemu dla rodziny*), транслітаруючы з лацінкі на грамадзянскі шрыфт і адаптоўваючы іх[1]. Але толькі ў 1950-я гг. выкарыстаў яе: у часопісе "Полымя" ён надрукаваў вершы Ф. Тапчэўскага[2].

Пасля смерці Л. Бэндэ (1903–1961) у 1963 г. значная частка ягоных збораў апынулася ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР. Вясною 1966 г. Рыгор Семашкевіч выявіў *Biełarusskuju Chrestomatiju* ў яшчэ неапрацаваным фондзе № 66 званага архіва і ахарактарызаваў яе ў сваіх кнігах *Браніслаў Эпімах-Шыпіла* (Мінск 1968, с. 17–34) і *Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе* (Мінск 1971, с. 46–58).

Больш грунтоўна *Biełarusskuju Chrestomatiju* прааналізавала Ірына Багдановіч на Чытаннях, прысвечаных 140-годдзю з дня нараджэння Б. Эпімаха-Шыпілы[3]. Перадусім, было выяўлена колькі памылак[4] у працы Р. Семашкевіча, хоць вопытнай даследчыцы таксама не ўдалося пазбегнуць асобных недакладнасцяў[5].

Рукапісны зборнік *Biełarusskaja Chrestomatija* – гэта аб'ёмісты сшытак у цвёрдай вокладцы, спісаны акуратным почыркам Б. Эпімаха-Шыпілы. Уласна хрэстаматыяй могуць лічыцца, хіба, першыя 46 аркушаў сшытка – дзевятнаццаць беларускамоўных твораў XIX – пачатку XX стагоддзя, занатаваныя ад чэрвеня 1889 г. да снежня (?) 1905 г., г. зн. у той час, калі не існавала беларускае перыёдыкі, а беларускамоўная літаратура друкавалася звычайна за мяжою. Прычым, пераважная большасць тэкстаў (пятнаццаць) спісана ў чэрвені 1889 – жніўні 1891 г.

Звернем увагу, што Б. Эпімах-Шыпіла не занатоўвае ў *Biełarusskuju Chrestomatiju* усе тэксты, запісаныя і перапісаныя ім: няма, напрыклад, у зборніку камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча *Залёты*[6], ягонага ж

---

[1] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1329, арк. 1–18: *Недрукаваныя беларускія вершы XIX ст. Сшытак з копіямі вершаў з Беларускай Хрэстаматыі Б.І. Эпімаха-Шыпілы, пісьмом В.К. Савіча-Заблоцкага да М.М. Стасюлевіча пра беларускую мову (1873), яго вершамі (З архіва Інстытута літаратуры АН СССР). Рукапіс Л.А. Бэндэ.*

[2] Л. Бэндэ, *Творчасць Фелікса Тапчэўскага*, "Полымя" 1954, № 12, с. 132–147. Гл. таксама рукапісы Я. Бэндэ: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 198: *Незаслужана забыты паэт (артыкул пра Ф. Тапчэўскага)*; БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 230: *Невядомыя старонкі гісторыі беларускай літаратуры: Ф. Тапчэўскі.*

[3] І. Багдановіч, *Рукапісная хрэстаматыя Б. Эпімаха-Шыпілы як унікальны помнік беларускай літаратуры* [у:] *На шляхах да ўзаемаразумення: Навуковы зборнік (Беларусіка–Albaruthenica 15)*, Мінск 1999, с. 288–295.

[4] Напрыклад, тое, што Р. Семашкевіч сцвярджаў, нібыта ў *Biełarusskaj Chrestomatiji* маецца верш А. Плуга *Да В. Марцінкевіча, аўтара твораў на беларускай гаворцы*. Насамрэч рукапіс дадзенага твора захоўваецца ў іншай архіўнай справе гэтага фонда.

[5] У тым ліку і з-за таго, што яна карысталася толькі першай з двух выдадзеных кніг Р. Семашкевіча, прысвечаных *Biełarusskaj Chrestomatiji*.

[6] *Залёты* В. Дуніна-Марцінкевіча (з рукапіса А. Ельскага), а таксама пераклад 1 і 2 кніг паэмы А. Міцкевіча *Пан Тадэвуш* Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў у асобны, падобнага фармату сшытак, відавочна, прызначаны для твораў вялікага аб'ёму.

перакладу *Пана Тадэвуша* Адама Міцкевіча[1], а таксама шэрагу іншых тэкстаў, якія захоўваліся ў хатнім архіве навукоўца[2]. Апрача таго, Б. Эпімах-Шыпіла меў у сваёй бібліятэцы беларускія кнігі і брашуры. Напрыклад, выданні Францішка Багушэвіча (у тым ліку і рукапісную *Скрыпачку беларускую*), пераклад Ядвігіным Ш. апавядання Усевалада Гаршына *Сыгнал* і інш.[3].

“Другая частка” *Biełarusskaj Chrestomatiji* “створана” ў цяжкія для яе складальніка часы: у выгнанні-высылцы з Мінска ў Ленінград. З гэтай прычыны тут толькі тое, што адпавядала стану ягонае душы – верш Альберта Паўловіча *Сумная восень* і чатыры пераклады яго (у тым ліку і самога Б. Эпімаха-Шыпілы) на рускую, польскую і нямецкую мовы, а таксама напісаны ў гэткай жа танальнасці верш *Годы проносятся*..., яго беларускі варыянт *Годы праносяцца*... ды пераклад *Вячэрняе песні* Уладзіслава Сыракомлі.

Восем тэкстаў *Biełarusskaj Chrestomatiji* (*Saŭsim nia toe, szto było*; *Hroszy i praca*; *Jon i Jina*; *Jezusu Ćwiecinskomu skarha na Doйmantoй*; *Wiczarynka*; *Da Dalfiny Patockoj*; *Na pamiątkę życzliwemu dla rodziny*; *Расказ Доўгага Гарасіма*) – творы, якія захаваліся толькі дзякуючы Б. Эпімаху-Шыпілу. Ці захоўваў складальнік-перапісчык пісоўню тых дакументаў (арыгіналаў і копій), якімі карыстаўся, высветліць, хіба, не ўдасца.

Тры тэксты (*Pieśnia*; *Wisna*; *Panskoje ihryszcze*) перапісаны з невядомых сёння крыніцаў. Мы маем шматлікія варыянты гэтых твораў, але занатаванае навукоўцам мае свае адметнасці, хоць трэба браць пад увагу і той факт, што Б. Эпімах-Шыпіла звычайна падаваў сваю моўную рэдакцыю ўсяго таго, што запісваў.

Шэсць тэкстаў (*Hutarka staroha dzieda*; *Dobryja wieści*; *Taras*; *Jamszczyk*; *Ściepan i Taciana*; *Wiasnowoj paroj*) трапілі ў *Biełarusskuju Chrestomatiju* з легальных і нелегальных выданняў другое паловы XIX ст. Параўнанне друкаваных версій і занатаванага Б. Эпімахам-Шыпілам пацвярджае нашае дапушчэнне: складальнік падаваў тэксты ў адпаведнасці з тымі “нормамі” беларускае мовы, якія лічыў найбольш слушнымі (дыялекты Полаччыны). Апрача таго, чатыры творы з “Минскаго Листка” транслітараваны ім на “польскую” лацінку. Заўважым таксама, што Б. Эпімах-Шыпіла не надаваў вялікага значэння пунктуацыі: расстаноўка знакаў прыпынку ў яго адвольная, ён не захоўваў дадзены атрыбут пісоўні ў адпаведнасці з арыгіналам.

---

[1] Б. Эпімах-Шыпіла дзеля таго, каб зрабіць копію гэтага твора, мусіў звярнуцца ў Ягелонскую бібліятэку, г. зн. у навуковую ўстанову Аўстра-Венгрыі. Відавочна, копія была зроблена з выдання, якое і сёння захоўваецца ў Кракаве пад тытулам: *Pan Tadeusz w białoruskiém narzeczu. Bylica piérszaja – druhája.* [Tłum. Wincenty Marcinkiewicz], [Wilno: Druk. Syrkina, 1859], 116, [4] s.; 17 cm, sygnatura 803 I.

[2] Асобныя з іх захоўваюцца ў фондзе Л. Бэндэ (БДАМЛіМ, ф. 66).

[3] Гл.: А. Каўка, *Постаць Эпімаха-Шыпілы і традыцыі беларускага асветніцтва* [у:] *На шляхах да ўзаемаразумення: Навуковы зборнік (Беларусіка–Albaruthenica 15*), Мінск 1999, с. 262–276.

Відаць, толькі два творы (*Mora*; *Chrest na swabodu*) у *Biełarusskaj Chrestomatiji* пададзены ў адпаведнасці з іх першаснаю пісоўняю: вершы Алаізы Пашкевіч-Цёткі, выдадзеныя ўлёткамі ў 1905 г., наклеены на старонкі сшытка Б. Эпімаха-Шыпілы.

Пераважная большасць тэкстаў, якія маюцца ў *Biełarusskaj Chrestomatiji*, была ўведзеная ў савецкі і паслясавецкі час у навуковы ўжытак, надрукаваная і інтэрпрэтаваная, аднак лічым патрэбным ахарактарызаваць асаблівасці іх падачы Б. Эпімахам-Шыпілам, а таксама звярнуць увагу на шэраг новых фактаў, якія датычаць як гэтых твораў, так і іхніх аўтараў.

На **тытульнай старонцы** (*Biełarusskaja Chrestomatija*, sabraŭ i ułazyŭ Bronisłaŭ Epimach-Szypiłło. Piciarborak. 1889 h.) угары захаваўся надпіс: “1. Pieśnia. // O moj Boże! wieru Tabie”. Відавочна, Б. Эпімах-Шыпіла пачаў быў занатоўваць першы свой тэкст, але пазней “ператварыў” дадзены аркуш у тытульны. Нумарацыя старонак укладальніка пачынаецца з наступнага аркуша, але даведзена толькі да нумару 83. Тэкст твораў запісваўся з абодвух бакоў аркуша ў спецыяльна разлінееныя прамакутнікі.

**1. *Pieśnia***[1]. Папулярная рэлігійная песня беларускага народа, якую часта называлі уніяцкім гімнам. Створаная напрыканцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя. Упершыню выдадзена друкам у 1820-я гг.[2]. Уласна з дадзенага выдання, якое захоўвалася ў маёнтку Селігоры (Лепельскі павет) Вінцэнта Мяніцкага (1850–1916), Б. Эпімах-Шыпіла і перапісаў твор у чэрвені 1889 г. у свой зборнік[3].

**2. *Hutarka staroha dzieda***[4]. Адзін з самых вядомых ананімных вершаваных твораў агітацыйнага характару часоў паўстання 1863–1864 гг. Захаваліся шматлікія друкаваныя і рукапісныя спісы *Гутаркі*. Напісаны напачатку 1860-х гг. У навуковай літаратуры выказваліся меркаванні, што *Гутарка старога дзеда* напісана В. Дуніным-Марцінкевічам альбо Вінцэсем Каратынскім (часам ішла гаворка пра тое, што яна была вынікам калектыўнай творчасці). Аляксандар Ельскі ў рукапісных матэрыялах да свае працы *Беларуская літаратура і бібліяграфія* падае, што аўтарам *Гутаркі* з’яўляецца Ян Героўскі, які жыў у фальварку Арабінаўшчына[5] Наваградскага павета яшчэ ў 1887 г. І зазначае,

---

[1] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 2–3.

[2] Асобнікі надрукаванае ў 1820-я гг. “карткі” не выяўлены.

[3] Больш пра гэты твор гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, том другі, Варшава 2016, с. 25–45.

[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 3–9.

[5] “Арабінаўшчызна <...> фаль[варак], Наваградскі пав., гм. Сталовічы, кат[аліцкая] пар[афія] Крашын, адл[егласць] 42 в[ярсты] ад пав. горада; уласнасць Героўскіх, каля 15 валок”. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XV, cz. 1, Warszawa 1900, s. 46.

што дадзеную "wiadomość" ён атрымаў ад Атона Бохвіца[1] – сына вядомага філосафа Фларыяна Бохвіца (1799–1856). Інфарматар А. Ельскага напрыканцы XIX ст. з'яўляўся сябрам управы Мінскага аддзела Імператарскага расійскага таварыства садаводства, а жыў у спадчынным фальварку Фларыянава Слуцкага павета (сёння Ляхавіцкі раён). Вядома таксама, што ў зборах калекцыянера з фальварка Замосць захоўвалася рукапісная копія "парыжскага" выдання *Гутаркі*, занатаваная, заўважым, даволі спраўна (перапісваў не А. Ельскі, які адно сям-там паправіў пісоўню на свой лад)[2].

Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў дадзены твор напрыканцы чэрвеня месяца 1889 г. у Селігорах з асобніка В. Мяніцкага[3].

**3. Dobryja wieści**[4]. Беларускамоўны верш Уладзіслава Сыракомлі (1823–1862). Лічыцца, што быў напісаны ў 1848 г., а пасля ў 1861 г. дапрацаваны. Юзаф Ігнацы Крашэўскі ў сваіх успамінах *Władysław Syrokomla* (першая публікацыя ў часопісе "Przegląd Europejski" 1862, t. 2, z. 4, s. 257–360, 525–646; асобнае выданне – Варшава 1863) падаў першае чатырохрадкоўе верша *Добрыя весці*, сцвярджаючы, што гэта "спроба лібрэта для п. Лапатынскага, кампазітара, напісаная на беларусінскай мове ў 1848 г."[5]. Часткова дадзеную інфармацыю пацвердзіў В. Каратынскі: "Гэта пачатак лірычнага твора, напісанага яшчэ ў Залуччы ў 1848 г."[6]. Аднак асобныя даследчыкі сцвярджаюць, што *Добрыя весці* напісаныя ў 1861 г. (Больш пра гэты твор гл.: У. Мархель, *Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні*, Мінск 1983, с. 96–111).

Б. Эпімах-Шыпілы перапісаў тэкст "з таго самага асобнічка, што і папярэдні".

**4. *Taras***[7]. Адзін з самых вядомых беларускіх твораў XIX стагоддзя. Упершыню апублікаваны ў прыватнай газеце "Минский Листокъ" (1889, № 37, 16 мая), адкуль і быў перапісаны з шматлікімі праўкамі Б. Эпімахам-Шыпілам.

---

[1] AGAD, sygn. 140₁: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 395.

[2] *Ibidem*, k. 184–193.

[3] Маецца на ўвазе брашура *Hutarka staroho dzieda*, Paryż 1862, Lutego 27 (15) dnia, 12 s., выдадзеная, верагодна, у Беластоку Браніславам Шварцэ, Грынявіцкім і Адольфам Белакозам. *Hutarka staroho dzieda* змешчана тут на старонках 1–10. Больш пра гэты тэкст гл.: *XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах*, кн. першая, Мінск 1999, с. 27–39; *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў*: у двух тамах, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 292–296; М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, том другі, Варшава 2016, с. 217–246.

[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 9–10.

[5] J.I. Kraszewski, *Władysław Syrokomla (Ludwik Kondratowicz)*, Warszawa 1863, s. 186.

[6] L. Kondratowicz, *Poezje: Wydanie zupełne*, Warszawa 1872, t. V, s. 317.

[7] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 10v–18.

**5. *Saŭsim nia toe, szto było***[1]. Верш Фелікса Тапчэўскага (1838? – 1892), які падпісваў свае беларускія творы псеўданімам Хвэлька з Рукшэніц. Напісаны (ці перапісаны аўтарам) 12 студзеня 1890 г.

Упершыню пра Ф. Тапчэўскага як паэта звесткі ў друку падаў Вацлаў Ластоўскі: "*Хвэлька з Рукшэніц* (Фэлікс Топчэўскі). Пісаў многа па беларуску вершоў. Некаторые надта добрые як *Вечарынка*, *Саўсім ня тое што было*, *Гаспадыня*. Жыў у Лепэльскім павеці Вітэбск. губ. у 1880 гадах, патрэбны матэрыялы да біографіі і яго творы"[2]. Ці ведаў В. Ластоўскі пра Ф. Тапчэўскага ад Б. Эпімаха-Шыпілы? Верагодна, бо і напісанне прозвішча, і згадка пра гады жыцця на Лепельшчыне могуць сведчыць пра гэта. Аднак ён мог мець і іншыя крыніцы інфармацыі: толькі ў яго называецца верш *Гаспадыня*, а таксама тое, што ў пазнейшым артыкуле *Крыху з гісторыі п'янства* цытуе страфу з верша *Саўсім ня тое, што было*, якой няма ў *Biełarusskaj Chrestomatiji* Б. Эпімаха-Шыпілы:

Праўда! жылі тады паны шырока
Было-ж зачым надуцца ім:
Жывот быў сыт і сыта вока
І не збывала ім ні ў чым
Хвэлька з Рукшэніц: *Саўсім
ня тое што было*[3].

На жаль, В. Ластоўскі нічога не паведаміў больш пра "свой" варыянт тэксту верша *Саўсім ня тое, што было*. Зусім верагодна, што ён быў запісаны на пачатку XX стагоддзя. І запіс не зусім добры: напрыклад, радок *Праўда! жылі тады паны шырока* зусім не пасуе ямбічнай структуры верша.

Звернем увагу: усе вершы Ф. Тапчэўскага Б. Эпімах-Шыпіла атрымаў ад Міхаліны Аскеркі (народжанай Давідсон): у чэрвені 1889 г. ён спісаў ад яе (г. зн. запісаў з вуснаў) *Панскае ігрышча*, а праз год – у ліпені 1890 г. – меў аўтографы твораў *Саўсім ня тое, што было*, *Грошы і праца*, *Ён і Яна* і, магчыма, у гэты ж час *Вечарынку*. (У *Biełarusskuju Chrestomatiju Панскае ігрышча* было занатаванае апошнім з іх). Відаць, М. Аскерка, заўважыўшы цікавасць пецярбургскага госця да беларускамоўных вершаў, пастаралася здабыць тое, што магла, у сваіх знаёмых, каб прапанаваць яму творы ў наступны ягоны прыезд.

**6. *Hroszy i praca***[4]. Верш Ф. Тапчэўскага, напісаны (перапісаны?) 27 красавіка 1890 г. у маёнтку Ухвішчы. Б. Эпімах-Шыпіла "перапісаў з рукапісу аўтара, занатаванага польскімі літарамі і атрыманага ад п. Аскеркаў у Лявонаўшчыне, у Востраве 25га ліпеня 1890га года".

[1] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 18v–23.
[2] Власт, *Памажыця*!, "Наша ніва" 1913, № 37.
[3] Ю. Верэшчака, *Крыху з гісторыі п'янства*, "Наша ніва" 1914, № 17.
[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 23v–24v.

**7. *Jon i Jina***[1]. Верш Ф. Тапчэўскага. Дата напісання невядомая. Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў яго "з рукапісу аўтара, занатаванага па-польску, у Востраве 28га ліпеня 1890".

**8. *Jamszczyk***[2]. Пераклад Янкі Лучыны гутаркі У. Сыракомлі *Pocztylion* (1844), дэбютнага твора паэта. Час напісання невядомы. Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў твор з газеты "Минскій Листокъ" (1890 год, № 19, 6га сакавіка). Прапушчаны два наступныя радкі: "Схапіўся, адзеўся, гатовы! // Завея – крый Божа! ня відна, бач, света".

**9. *Jezusu Ćwiecinskomu skarha na Doŭmantoŭ***[3]. Месца і час напісання невядомыя. Звестак пра Ёахіма[4] Тамашвіча не выяўлена. У друку верш першы згадаў А. Станкевіч[5], а ў літаратуразнаўчы кантэкст увёў Р. Семашкевіч, правільна зазначыўшы, што твор напісаны "на канкрэтных фактах той мясцовасці, з якой паходзіць аўтар"[6]. Г. зн. мястэчка Цвецін (сёння: Цвеціна ў Мёрскім раёне Віцебскай вобласці). Праўда, даследчык сцвярджаў, што "падзейны" бок верша грунтуецца на рабаванні Даўмонтамі таго, "што прыносіў працоўны люд касцёлу". Аднак вядома, што ў мястэчку Цвецін ягоныя ўладальнікі Даўмонты ў 1827 г. пабудавалі царкву Узвіжання св. Крыжа[7]. Царкву, відавочна, уніяцкую, якая ў 1839 г. стала праваслаўнаю, а ў 1860-я гг. была перабудаваная. Той факт, што аўтар звяртаецца да Бога "Ćwiecinski Jezu", можа быць сведчаннем і пра царкву як уніяцкую, і пра тое, што верш напісаны ў першай палове XIX стагоддзя. (Дарэчы, у сям'і В. Мяніцкага, які пераказаў верш Б. Эпімаху-Шыпілу, былі уніяцкія святары, якія звярталіся да сваіх парафіянаў па-беларуску).

**10. *Wisna***[8]. Папулярны беларускі верш перадрэформеннага часу (адмены прыгоннага ладу). Праблема атрыбуцыі дадзенага верша разглядалася шматлікімі даследчыкамі, аднак гіпотэзы, якія імі прапаноўваліся, да сённяшняга дня не маюць доказнай аргументацыі і дакументальнага пацвярджэння.

Гэта першы верш у *Biełarusskaj Chrestomatiji*, пад якім Б. Эпімах-Шыпіла не пакінуў аніякіх пазнак. Аднак можам адназначна сцвердзіць, што тут выкарыстаны не запіс 1887 г. (ад ураджэнкі мястэчка Люцын Віцебскае губерні Гэлены з Мярэцкіх Эпімах-Шыпілы[9]). (Больш

1 БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 25–27.

2 БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 27v–29.

3 БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 29–30v.

4 Імя паэта ў беларускіх выданнях звычайна падаецца як *Іяхім*.

5 А. Станкевіч, *Прафэсар Бранісlаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцьця і працы*, "Калосьсе" 1935, № 2, с. 104.

6 Р. Семашкевіч, *Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе*, Мінск 1971, с. 55.

7 *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. I, Warszawa 1880, s. 716.

8 БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 30v–31v.

9 „Spisano z ust Heleny z Mereckich Epimach Szypiłło z Lucyna". (БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1361, арк. 1v.) У працах беларускіх літаратуразнаўцаў Гэлена

падрабязна гл.: *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, том другі, Варшава 2016, с. 187–188).

Апрача шматлікіх адрозненняў у тых васьмі строфах, якія ёсць у абодвух варыянтах (запісе ад Г. Эпімах-Шыпілы і *Biełarusskaj Chrestomatiji*), "хрэстаматыйны" верш мае чатыры дадатковыя страфы (чацвёртую, пятую, шостую і дванаццатую. Праўда, тытул верша ў абодвух запісах аднолькавы: *Wiesna* (запіс ад Г. Эпімах-Шыпілы) і *Wisna* (*Biełarusskaja Chrestomatija*).

Паводле *Biełarusskaj Chrestomatiji* верш надрукаваны ў прадмове Вацюка Тройцы (Вацлава Іваноўскага) *Wincuk Dunin-Marcinkiewič i jaho žyćcio* да кнігі *Ščeroŭskije dažynki. Kirapałła. Apowieści Wincuka Marcinkiewicza*, wydańnie druhoje, Pieciarburh 1910, s. 9–10.

**11. *Wiczarynka***[1]. Верш Ф. Тапчэўскага. Дата напісання невядомая. Упершыню надрукаваны ў „Biełaruskim kalendary na 1915 hod" (у версіі календара лацінскім шрыфтам) з невялікімі арфаграфічнымі зменамі. Тытул пададзены як *Wiečarynka*. Б. Эпімах-Шыпіла пазначыў, што ў творы – "апісанне балю ў Ухвішчах. Паніч – барон Эрдман, пан у акулярах – Шырын".

**12. *Panskoje ihryszcze***[2]. Аўтарам гэтага верша ў розны час называліся: ананім (І. Сіротка[3]), "нібыта" Ф. Тапчэўскі (Б. Эпімах-Шыпіла), нехта Юрка (Ф. Багушэвіч), Ян Шэмет-Палачанскі (В. Ластоўскі), Ф. Багушэвіч (Я. Карскі), Адам Гурыновіч (Браніслаў Тарашкевіч). Не сумняваўся ў аўтарстве верша *Панскае ігрышча* Р. Семашкевіч. Больш за тое, ён лічыў, што Ф. Багушэвіч атрымаў верш Ф. Тапчэўскага ад Б. Эпімаха-Шыпілы: "Цікава, што тэкст верша Ф. Тапчэўскага ў *Смыку беларускім* Ф. Багушэвіча слова ў слова супадае з тэкстам гэтага верша ў *Biełarusskaj Chrestomatiji* Эпімаха-Шыпілы <...> Успаміны некаторых дзеячоў таго часу сведчаць, што Эпімах-Шыпіла і Багушэвіч былі ў блізкіх адносінах. Іх сяброўства магло пачацца не раней 1884 г."[4]. Аднак сцвярджэнне Р. Семашкевіча памылковае: Ф. Багушэвіч у *Смыку беларускім* перадрукаваў *Панскае ігрышча* не з *Biełarusskaj Chrestomatiji* Б. Эпімаха-Шыпілы.

---

з Мярэцкіх Эпімах-Шыпіла звычайна называлася Гэленаю Мярэцкаю. На жаль, пакуль не ўдалося высветліць, каго з прадстаўнікоў роду Эпімах-Шыпілаў яна была жонкаю.

[1] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 32–33.

[2] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 33v–35v.

[3] Паводле апошніх дадзеных Іван Сіротка на пачатку 1860-х гг. быў вучнем Настаўніцкай семінарыі і запісваў народныя песні для П. Шэйна ў в. Навасёлкі Ігуменскага павета. У 1883 г., дасылаючы песні П. Шэйну, ён называецца адно выхаванцам Настаўніцкай семінарыі. У сувязі з тым, што Віцебская настаўніцкая семінарыя ў 1839 г. зачынілася, а чатыры іншыя былі заснаваныя пазней (Маладзечанская ў 1864 г., Полацкая ў 1872 г., Нясвіжская ў 1875 г., Свіслацкая ў 1876 г.), І. Сіротка вучыўся ў Маскоўскай ці Пецярбургскай настаўніцкай семінарыі.

[4] Р. Семашкевіч, *Браніслаў Эпімах-Шыпіла*, Мінск 1968, с. 23.

Пасля таго, як Л. Бэндэ надрукаваў тэкст верша ў часопісе “Полымя” (1954, № 12), ён звычайна друкуецца як твор Ф. Тапчэўскага. Час напісання невядомы[1].

Б. Эпімах-Шыпіла запісаў верш 25 чэрвеня 1889 г. ад Міхаліны Askerki, а перапісаў у *Biełarusskuju Chrestomatiju* ў кастрычніку гэтага ж года.

**13. *Ściepan i Taciana***[2]. Верш Аляксандра (?) Шункевіча, які ў 1887–1891 гг. апублікаваў некалькі вершаваных твораў (пераважна на рускай мове) на старонках газеты “Минский Листокъ”. Аніякіх звестак пра паэта не захавалася. Беларускія гісторыкі літаратуры беспадстаўна “атаясамілі” А. Шункевіча з паэтам-самавукам з в. Лаўрышава Навагрудскага павета Мікалаем Марозікам (каля 1852 – пасля 1913), аўтарам шэрагу прымітыўных “рыфмаў” маральна-дыдактычнае тэматыкі, пісаных на мяшанай беларуска-рускай мове.

Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў верш з газеты “Минскій Листокъ” (1889, № 18) у Пецярбурзе 27 кастрычніка 1890 г.

**14. *Wiasnowoj paroj***[3]. Верш Янкі Лучыны (1851–1897). Перапрацаваны (кім?) варыянт пад тытулам *Што птушкі казалі* друкаваўся ў зборніку *Вязанка* (1903).Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў верш з газеты “Минскій Листокъ” (1889, № 20).

**15. *Da Dalfiny Patockoj***[4]. Неэквілінеарны (20 з 25 радкоў) пераклад верша *Do Pani D. P.* Зыгмунта Красінскага (1812–1859), зроблены Станіславам Гласкам.

Упершыню пра пераклад верша З. Красінскага згадаў і падаў два пачатковыя радкі на падставе *Biełarusskaj Chrestomatiji* Б. Эпімаха-Шыпілы Я. Карскі[5]. А вось Р. Семашкевіч чамусьці не звярнуў на яго ўвагі. Г. Кісялёў, спасылаючыся на *Бѣлорусовъ* Я. Карскага, выказаўся пра магчымыя сваяцкія сувязі перакладчыка з Эдвардам Г....., аўтарам беларускамоўнага верша ў “Альбоме” Арцёма Вярыгі-Дарэўскага: “Можа, з гэтага ж гнязда вылецеў у свой няпросты шлях і наш «Эдвард Г.....»”[6].

Цалкам твор апублікаваў Вячаслаў Рагойша і, падаючы ў каментарах, што звестак пра перакладчыка ў гісторыкаў літаратуры няма, паўтарыў згадку Г. Кісялёва[7].

Уладзімір Казбярук, перадрукоўваючы дадзены твор паводле названае хрэстаматыі, ідэнтыфікаваў перакладчыка з Станіславам Гласкам, вядомым польскім публіцыстам і літаратарам канца XIX –

---

[1] Шэраг варыянтаў верша *Панскае ігрышча* змешчана ў кн.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, том другі, Варшава 2016, с. 275–286.

[2] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 35v–41v.

[3] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 41v–42v.

[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 42v–43.

[5] Е. Карский, *Белорусы: В 3 томах*, том 3, книга 2: *Очерки словесности белорускаго племени*, Минск 2007, с. 304.

[6] Г. Кісялёў, *Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1982, с. 81.

[7] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1988, с. 415.

пачатку XX ст.[1], біяграм якога быў апублікаваны ў IX томе *Polskiego Słownika Biograficznego* (1960–1961). Сваю матывацыю даследчык не раскрывае. Аднак тут хутчэй за ўсё меў значэнне той факт, што рэальны С. Гласка нарадзіўся ў фальварку Губін Лепельскага павета – г. зв. *atynencji*[2] маёнтка Белае, дзе – як сведчыць пазнака – быў перакладзены верш З. Красінскага.

А. Ельскі ў *Геаграфічным слоўніку* паведамляе, што Губін "у 1654 г. перайшоў да Шчытаў, 1852 г. да Корсакаў, а сёння належыць Забелавай з Корсакаў"[3]. Відавочна, маецца на ўвазе, што народжаная ў 1840 г. Юзэфа Корсак, дачка маршалка Лепельскага павета Эразма Корсака і Марыі Неміровіч-Шчыт, выйшаўшы ў 1868 г. замуж за Станіслава Забелу (1834 г. н.), мела ў якасці пасагу спадчыну свае маці (паводле "Genealogii potomków Sejmu Wielkiego" Марка Ежы Мінакоўскага). Магчыма, што якраз у гэтым Губіне, фальварку, (а не ў мястэчку Губін, якое было ўласнасцю Валерыі з Шырынаў Сялявы) нарадзіўся ў 1868 г. у сям'і Францішка і Веранікі з Гатоўскіх Станіслаў Гласка. Вучыўся ён у Віцебскай гімназіі, а пасля на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта (у 1892 г. атрымаў ступень кандыдата права) і на філасофскім факультэце Ягелонскага ўніверсітэта. Пасля жыў у Варшаве, супрацоўнічаючы з шэрагам мясцовых газет і часопісаў, а таксама дасылаючы свае матэрыялы ў кракаўскі "Przegląd Polski" і пецярбургскі „Kraj". Пераехаўшы ў Пецярбург, стаў сябрам рэдакцыі гэтае польскае газеты (да 1909). Ягонае пазнейшае жыццё [як, дарэчы, і яго старэйшага брата Фларыяна (1865–1921), доктара медыцыны, лекара расійскага ваенна-марскога флота], будзе звязана з Варшаваю і дзейнасцю на карысць адраджэння Польскае дзяржавы.

Верш *Módl ty się za mnie...* упершыню быў апублікованы ў газеце "Dziennik literacki" (Lwów 1861, nr 36) пад тытулам *Wiersz ostatni Zygmunta Krasińskiego, napisany przed śmiercią do pani D. P.*, пададзены да друку графам Віктарам Бавароўскім (1826–1894), паэтам і перакладчыкам. Пазней пад тытулам *Do Pani D. P.* змешчаны ў двухтомніку З. Красінскага[4]. Даступным для С. Гласкі быў і папулярны зборнік любоўнае лірыкі З. Красінскага *Moja Beatrice*[5], выдадзены Люцыянам Сяменскім.

### *Do Pani D. P.*

Módl się Ty za mnie — gdy z rozpaczy zginę
Za winę ojców i za własną winę.
Módl Ty się za mnie, by mnie w moim grobie

---

[1] *Занядад і адраджэнне*, Мінск 2001, с. 595–596.
[2] Атынэнцыя (з лац.) – мясцовасць, якая знаходзіцца побач; прадмесце.
[3] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. III, Warszawa 1882, s. 197.
[4] *Pisma Zygmunta Krasińskiego, wydanie zbiorowe przejrzane przez J. Amborskiego z przedmową St. hr. Tarnowskiego*, t. II, Lwów 1875, s. 396.
[5] Z. Krasiński, *Do Pani D. P.* [w:] Z. Krasiński, *Moja Beatrice*, Kraków 1878, s. 45–46.

Nie opiekielnił żal wieczny po Tobie!
Módl Ty się za mnie, bym u Boga w niebie,
Po wiekach wieków, kiedyś spotkał Ciebie!
I tam przynajmniej odetchnął wraz z Tobą,
Bo mnie już wszystko trudem i żałobą!
Módl Ty się za mnie, jam żył nadaremnie,
Bo serce Twoje odpada odemnie!
Módl Ty się za mnie, jam Cię kochał wiernie,
I tak jak bezmiar bezmierny, bezmiernie!
Módl Ty się za mnie, bom ja nieszczęśliwy:
Serce me proste, ale los mój krzywy!
Módl Ty się za mnie, nie mów do mnie ostro,
Boś Ty mi tylko na tym świecie siostrą!
Módl Ty się za mnie, bo od żadnéj duszy
Modlitwa o mnie serca mi nie wzruszy,
Tylko podwoi gorycz méj katuszy!
Módl Ty się za mnie, ja Ciebie się trzymam,
Bo na téj ziemi prócz Ciebie nic nie mam,
I nie prócz Ciebie nie marzę za światem,
Tylko to marzę, by z mą duszą biedną
Twoja spłynęła w nieśmiertelność jedną;
Więc módl Ty się za mnie, bo ja Twoim bratem!

Сучасныя гісторыкі літаратуры датуюць верш 1844 г., калі З. Красінскі (1812–1859), узяўшы ў 1843 г. пад націскам бацькі шлюб з Эльжбетаю Браніцкаю, паступова аддаляўся ад свае каханае Дэльфіны Патоцкае (1807–1877), аднае з самых каларытных постацяў салоннага еўрапейскага жыцця сярэдзіны XIX стагоддзя, з якою паэт колісь “wzbił się w «uniwersalne <…> kosmiczne królestwo»”[1], а пасля каханка замянілася для яго ў Беатрычэ і містычную Сястру.

Ускосным аргументам на карысць таго, што менавіта вядомы польскі публіцыст і літаратар С. Гласка з’яўляецца перакладчыкам на беларускую мову верша З. Красінскага, будзе ягоная паэтычная творчасць, у якой адчуваецца моцны ўплыў рамантычнае літаратуры. Больш за тое, на нашую думку, З. Красінскі быў для С. Гласкі тым майстрам, якому ён імкнуўся наследаваць. Ужо ў першым паэтычным зборніку С. Гласка разважае пра “wszechświat”, аб “wizjach grzeszników”, уздыхае да свае Бэатрычэ, ягонага лірычнага героя адольваюць сумненні і бязвер’е:

Przeszły mi sny dziecinnych lat.
Dziecinnych marzeń zniknął świat;
I opadł wonny wierzeń kwiat,
I uschły łzy...
I zniknął dawny Pan i Bóg
Błyszczący wpośród światła smug,
Który mię zwał za śmierci próg,
W zaświatów mgły.

[1] A. Witkowska, *Romantyzm* [w:] A. Witkowska, W. Przybylski, *Romantyzm*, Warszawa 1997, s. 375.

I nadszedł wielki myśli mrok;
Trwoży mnie każdy ruch i krok,
I ciemnia mi okryła wzrok,
I osłabł duch...
A w ciemni tej – bez gwiazd i słońc –
Chodzę od zwątpień moich drżąc,
I straszy mię – w przepaściach wrąc –
Atomów ruch...[1]

Пазней дадзеныя тэндэнцыі яшчэ больш узмацняюцца: кніга С. Гласкі *Poematy* нагадвае *Psalmy Przyszłości* З. Красінскага: ягоныя тэксты *I. Poemat życia*, *II. Poemat dziejów*, *III. Poemat gór*, *IV. Poemat morza*, *V. Poemat zdrady*, *VI. Poemat zmysłów*, *VII. Poemat żalu*[2] стаяць у фармальнай залежнасці ад *Psalmu wiary, Psalmu nadziei, Psalmu miłości, Psalmu dobrej woli, Psalmu żalu*.

Відавочна, С. Гласка з маладых гадоў захапляўся творчасцю З. Красінскага, а ўплыў беларускае студэнцкае моладзі ў Пецярбурзе падахвоціў яго перакласці на беларускую мову верш свайго ўлюбёнага паэта.

У БДАМЛіМ у фондзе Ядвігі Рамаlisting Раманоўскай захоўваецца аўтограф перакладу С. Гласкі[3].

Хутчэй за ўсё, Б. Эпімах-Шыпіла перапісаў верш у Белым "маёнтаку графа Забелы ў Лепельскім павеце 2 жніўня 1891 г."[4].

***Na pamiątkę życzliwemu dla rodziny***[5]. Верш Зыгмунда Нагродскага[6] (?), напісаны 14 ліпеня 1900 г. у Вільні.

Упершыню публікаваўся як ананімны ў скарочаным выглядзе ў хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*[7]. Напрыканцы 1970-х гг. В. Рагойша ў артыкуле *Зыгмунд Нагродскі і яго вершы* выказаў меркаванне, што "чалавекам, які паядноўваў у адной асобе пэўныя паэтычныя здольнасці з глыбокім веданнем бытавых падрабязнасцяў жыцця Багушэвіча, у той час мог быць [...] толькі Зыгмунт Нагродскі"[8]. Дадзенае меркаванне ў хуткім часе бездыскусійна было прынята ў якасці атрыбуцыі твора. Аўтарства З. Нагродскага замацавалі і публікацыі верша ў шэрагу хрэстаматый[9], а таксама сведчанні аўтарытэтных

[1] S. Hłasko, *Poezye*, Warszawa 1900, s. 119.
[2] S. Hłasko, *Poematy*, Warszawa 1917, s. 3–93.
[3] Гл.: БДАМЛіМ, ф. 394, воп. 1, спр. 15, а. 1: З. Красінскі, *Да Дальфіны Патоцкай. Верш у перакладзе Ст. Глазкі з польск. м. Аўтограф перакладчыка. 1891.*
[4] Пра гэта можа сведчыць пазнака Б. Эпімаха-Шыпілы, узятая ў квадратныя дужкі.
[5] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 43v–44v.
[6] З. Нагродскі (1866–1937), удзельнік беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху канца XIX – пачатку XX стагоддзя; прыяцель Ф. Багушэвіча.
[7] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, Мінск 1971, с. 358–359.
[8] В. Рагойша, *Зыгмунд Нагродскі і яго вершы*, "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" 1978, № 2, с. 19. Пазней гэты артыкул надрукаваны ў кнізе: В. Рагойша, *Кантакты*, Мінск 1982, с. 49–50.
[9] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*: *Хрэстаматыя*, Мінск 1988, с. 375–376; *Занепад і адраджэнне: Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, Мінск 2001, с. 594–

даследчыкаў[1]. На нашу думку, каб друкаваць тэкст пад нейкім канкрэтным прозвішчам, патрэбна больш сур'ёзная аргументацыя, патрэбны дакументальныя пацвярджэнні. А таму варта лічыць З. Нагродскага адно як найбольш верагоднага прэтэндэнта на аўтарства верша *Na pamiątkę życzliwemu dla rodziny*.

Б. Эпімах-Шыпіла пазначыў пад вершам толькі дату – 14 ліпеня 1900 г.: невядома, ці гэта дата напісання, ці ў гэты дзень тэкст быў перапісаны.

***Расказ Доўгага Гарасіма***[2]. Ананімны верш канца XIX стагоддзя.

Сярод папераў Б. Эпімаха-Шыпілы ёсць дадзены тэкст, занатаваны рукою навукоўца, на асобнай картцы[3]. Аніякіх пазнакаў атрыбутыўнага характару там, як і ў *Biełarusskaj Chrestomatiji*, няма.

***Мора***[4]. Верш Алаізы Пашкевіч-Цёткі, напісаны падчас Усеагульнага палітычнага страйку ў кастрычніку 1905 г. і выдадзены асобнаю ўлёткаю (таксама як і вершы *Хрэст на свабоду* і *Пад штандарам*) лацінкаю і грамадзянскім шрыфтам. Пазней з некаторымі зменамі быў уключаны ў зборнік *Хрэст на свабоду* (1906). Магчыма, напісаны пад уплывам верша Мікалая Языкова (1803–1846) *Пловец* (*Нелюдимо наше море*) (1829). Тэкст М. Языкова з музыкай Канстанціна Вільбоа (1817–1882) з сярэдзіны XIX ст. быў папулярнаю ў Расіі песняю.

Б. Эпімах-Шыпіла наклеіў улётку на адварот 45 старонкі свайго зборніка.

***Chrest na swabodu***[5]. Верш Алаізы Пашкевіч-Цёткі. З невялікімі зменамі ўключаны ў зборнік *Хрэст на свабоду* (1906).

Б. Эпімах-Шыпіла наклеіў улётку на 46 старонку свайго зборніка.

***Сумная восень***[6]. Верш Альберта Паўловіча напісаны 7 мая 1924 г.

Б. Эпімах-Шыпіла быў знаёмы з А. Паўловічам: у БДАМЛіМ захоўваецца фотаздымак 1911–1912 г., на якім яны адлюстраваны разам з групай беларускіх дзеячаў пачатку XX ст.[7]. Магчыма, навуковец атрымаў рукапіс гэтага верша ад аўтара яшчэ ў часе свае працы ў бібліятэцы Пецярбургскага ўніверсітэта (г. зн. да канца восені 1925 г.). Пра гэта можа сведчыць той факт, што копію верша меў калега Б. Эпімаха-Шыпілы Ляон Шах-Пароніанц.

Арыгінал верша А. Паўловіча выявіла І. Багдановіч у Рукапісным аддзеле Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом) РАН (ф. 586,

595; *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX ст. у 2 ч.*, ч. 2, Мінск 2013, с. 485–486.

[1] Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча*, 2-е выд., Мінск 2003, с. 265.

[2] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 45.

[3] Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1364. Дзякую Вячаславу Мартысюку за інфармацыю.

[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 45v.

[5] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 46.

[6] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 46v, 47v.

[7] Гл.: БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 3, спр. 41, арк. 1.

адз. зах. 371) у архіве Льва Клейнбарта і апублікавала ў зборніку *Шляхам гадоў* (укл. У. Мархель, Мінск 1990, с. 215–216).

Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

***Унылая осень***[1]. Пераклад Ляона Шаха-Параніанца верша *Сумная восень* А. Паўловіча на рускую мову. Ляон Шах-Параніанц (1863–1927) пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага аддзялення Харкаўскага ўніверсітэта працаваў выкладчыкам і бібліятэкарам (у тым ліку – Пецярбургскага ўніверсітэта). Меў свае выдавецтва і кніжны склад. Выдаў сваім коштам шэраг уласных паэтычных і літаратуразнаўчых кніг і брашураў.

Б. Эпімах-Шыпіла пазначае, што пераклад быў зроблены 3/16 кастрычніка 1926 г., але гэтая дата недакладная. Бо, як сведчыць І. Багдановіч, А. Паўловіч на рукапісе верша *Сумная восень*, дасланага разам з іншымі творамі і аўтабіяграфіяй *Мой жыццяпіс* Л. Клейнбарту ў Ленінград 7.09.1929 г. пазначыў: "В письме Льва Мих[айловича] Шах-Паронианца 3/16 октября 1925 г. я получил два перевода на русский язык: его же и инж[енера] Евг[ения] Ник[олаевича] Аленицына"[2].

Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

***Печальная осень***[3]. Пераклад Яўгена Аляніцына верша *Сумная восень* А. Паўловіча на рускую мову. Вядома, што Я. Аленіцын (1878–1942) быў інжынерам. Яго прозвішча ёсць у Кнізе памяці *Блокада. 1941–1944. Ленинград*, Санкт-Петербург 1998, т. 1.

Б. Эпімах-Шыпіла пазначае, што пераклад быў зроблены ў кастрычніку 1925 г. Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

***Годы проносятся. Грустная, бледная***[4]. Верш невядомага аўтара. Час напісання невядомы. І. Багдановіч мяркуе, што дадзены верш (*Годы проносятся. Грустная, бледная*), а таксама яго беларускі варыянт (*Годы праносяцца... Сумная бледная*) належаць пяру Б. Эпімаха-Шыпілы[5]. Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

***Годы праносяцца... Сумная бледная***[6]. Пераклад верша *Годы проносятся. Грустная, бледная* на беларускую мову, магчыма, Б. Эпімаха-Шыпілы (?). Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

***Wiačerniaja pieśnia***[7]. Пераклад Б. Эпімаха-Шыпілы (?) на беларускую мову верша *Pieśń wieczorna* У. Сыракомлі з кантаты *Rok w pieśni*. У 1854 г. Станіслаў Манюшка напісаў музыку на гэты верш і ўключыў твор у другі *Śpiewnik domowy*.

---

[1] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 47, 48.

[2] Цыт. па: І. Багдановіч, *Рукапісная хрэстаматыя Б. Эпімаха-Шыпілы як унікальны помнік беларускай літаратуры* [у:] *На шляхах да ўзаемаразумення: Навуковы зборнік* (Беларусіка–Albaruthenica 15), Мінск 1999, с. 293.

[3] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 47v–48.

[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 48v.

[5] Гл.: І. Багдановіч, *Рукапісная хрэстаматыя Б. Эпімаха-Шыпілы...*, с. 293–294.

[6] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 49.

[7] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 48v, 49–49v.

***Pieśń wieczorna***

Po nocnej rosie
Płyń, dźwięczny głosie,
Niech się twe echo rozszerzy,
Gdzie nasza chatka,
Gdzie stara matka
Krząta się koło wieczerzy.

Już blisko, blisko
Chatnie ognisko
Znużone serce weseli;
Tam pracowita
Matka się pyta:
"Wieleście w polu nażęli?"

Jutro dzień święta;
Niwa nie zżęta,
Niechaj przez jutro dojrzewa,
Niech wiatr swawolny,
Niech konik polny,
Niechaj skowronek tu śpiewa.

Matko! jam młoda,
Rąk moich szkoda,
Szkoda na skwarze oblicza!
Źle szła robota,
Przeszkadza słota
I moja dumka dziewicza.

Пераклад змешчаны пад тэкстам (у падвале) дзвюх версій (расійскае і беларускамоўнае) твора *Годы проносятся. Грустная, бледная* // Годы праносяцца... Сумная бледная, а таксама на наступнай старонцы. Р. Семашкевіч у сваёй кніжцы пра Б. Эпімаха-Шыпілу передрукаваў яго, траслітараваўшы на грамадзянскі шрыфт, а таксама звярнуў увагу на яго сувязь з фальклорам: “Гэта не фальклорны твор, хаця фальклорныя прыёмы ў ім выкарыстаныя. Прозвішча аўтара ў *Хрэстаматыі* не ўказваецца. Бясспрэчным застаецца толькі адно – верш напісаны здольным чалавекам”[1]. Пазней, уключаючы раздзел пра *Biełarusskuju Chrestomatiju* Б. Эпімаха-Шыпілы ў кнігу *Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе*, Р. Семашкевіч удакладняе, што гэты верш – “мілагучны і па-народнаму прыгожы пераклад невядомага аўтара *Вячэрняй песні* У. Сыракомлі”[2].

Б. Эпімах-Шыпіла, відавочна, з дзяцінства ведаў шырока распаўсюджаную ў шляхецкім асяроддзі песню С. Манюшкі і У. Сыракомлі і, магчыма, сам пераклаў яе на беларускую мову. Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

***Posępna jesień***[3]. Пераклад на польскую мову верша *Сумная восень* А. Паўловіча, зроблены Б. Эпімахам-Шыпілам у верасні 1931 г. Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

***Trauriger Herbst***[4]. Пераклад на нямецкую мову верша *Сумная восень* А. Паўловіча, зроблены Б. Эпімахам-Шыпілам у лістападзе 1931 г. Верш запісаны гатычным курсівам (ням. Kurrent), які ў 1911 г. распрацаваў мастак Людвік Зютэрлін (Ludwig Sütterlin) на замову прускага міністэрства культуры. Шырока выкарыстоўваўся з 1915 г. да забароны ў 1941 г. Пазнака, калі верш быў перапісаны ў зборнік, адсутнічае.

[1] Р. Семашкевіч, *Браніслаў Эпімах-Шыпіла*, Мінск 1968, с. 34.
[2] Р. Семашкевіч, *Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе*, Мінск 1971, с. 57.
[3] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 49v–50.
[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 50–50v.

Нашае прачытанне славутай *Biełarusskaj Chrestomatiji* Б. Эпімаха-Шыпілы – гэта спроба ахарактарызаваць помнік як у кантэксце часу, так і ў святле літаратуразнаўчых даследаванняў. Маем надзею, што і навуковая публікацыя зборніка, і ягонае, абяцанае ўжо даўно, узнаўленне факсімільным спосабам паспрыяюць новаму асэнсаванню і інтэрпрэтацыі як *Biełarusskaj Chrestomatiji*, так і ўсёй беларускай літаратуры XIX стагоддзя.

*Mikałaj Chaustowicz*

***Biełarusskaja Chrestomatija* by B. Epimach-Shypila: a New Reading**

A b s t r a c t

In our article, we attempted to read the well-known *Biełarusskaja Chrestomatija* from a new perspective: both in the context of time and from the point of view of literature theory research. The anthology's historical-literary characterisation was based on numerous archive data and the comparative analysis of the texts of the anthology and known manuscripts and printed sources.

**Lilia Citko**
Białystok

# Z problematyki metodologiczno-badawczej języka zabytków piśmiennictwa zachodnioruskiego

Badania filologiczne tekstów pod kątem zróżnicowania terytorialnego języka w minionych epokach mają swoją długą tradycję. W polskim językoznawstwie zainicjowali ją w latach 30. ubiegłego wieku Kazimierz Nitsch i Witold Taszycki, podejmując dyskusję o pochodzeniu polskiego języka literackiego[1]. Łącząc analizę filologiczną zabytków z danymi z badań dialektologicznych zapoczątkowali oni nową dyscyplinę naukową – dialektologię historyczną.

W językoznawstwie białoruskim powstało szereg opracowań cząstkowych z zakresu zjawisk dialektologicznych okresu starobiałoruskiego, chociaż ujęcia kompleksowego dotychczas nie ma. Celowym zatem jest podejmowanie analizy poszczególnych zabytków piśmiennictwa zachodnioruskiego pod kątem cech żywego języka, zróżnicowanego lokalnie, a tym samym stanowiącego podstawowy materiał dialektologii historycznej.

Z powyższych względów na uwagę zasługuje jeden z najcenniejszych zabytków literatury starobiałoruskiej, *Kronika Bychowca*, będąca XVI-wiecznym odpisem trzeciej, ostatniej redakcji latopisów białorusko-litewskich, zachowanym w XVII/XVIII-wiecznej transliteracji na łacinkę. Dokument przekazał dla potomnych historyk Teodor Narbutt (1784–1864), wydając go drukiem w serii *Pomniki do dziejów litewskich*[2]. Wkrótce po opublikowaniu rękopis *Kroniki* zaginął. Fakt zaginięcia latopisu stał się przyczyną podejrzeń niektórych historyków, np. Kazimierza Chodynickiego, Janusza Tazbira, że T. Narbutt dokonał fałszerstwa historycznego. Autentyczność zabytku została jednak w ostatnim czasie zweryfikowana dzięki odkryciu przez litewskiego badacza Kęstutisa Gudmantasa nieznanego dotychczas cyrylickiego kodeksu reprezentującego trzecią redakcję latopisów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Od miejsca przechowywania w krakowskim Archiwum Narodowym na Wawelu (Archiwum Sanguszków) nazwano go Kodeksem Wawelskim[3].

[1] Por. na ten temat m. in. B. Walczak, *Geneza polskiego języka literackiego*, „Teksty Drugie: teoria literatury, krytyka, interpretacja" 1994, nr 3 (27), s. 35–47.
[2] *Pomniki do dziejów litewskich* zebrane przez T. Narbutta, Wilno 1846.
[3] Na podstawie paleografii i znaków wodnych badaczka białoruska H. Michalczuk datuje ten zabytek na lata 70–90. XVI w. W oparciu o analizę tekstologiczną i filiację z *Kroniką*

*Kronika Bychowca* od dawna stanowiła przedmiot zainteresowań głównie historyków, którzy koncentrowali się zasadniczo na problemach stopnia wiarygodności źródła, czasu i miejsca jego powstania oraz potencjalnego autorstwa (redakcji). Zdecydowanie mniej miejsca poświęcano dotychczas zagadnieniom języka latopisu. Sądząc po bibliografii źródeł wykorzystanych w *Historycznym słowniku języka białoruskiego*[1] oraz akademickim wydaniu *Historycznej morfologii języka białoruskiego*[2], materiał językowy *Kroniki* był w nich uwzględniany. Należy jednak zauważyć, że w badaniach nad historią języka białoruskiego zabytek ten wykorzystywany jest z pewną ostrożnością, by nie powiedzieć, nieufnością. Powodem tej nadzwyczajnej powściągliwości jest niewątpliwie ortografia latopisu, nie oryginalna cyrylicka, a łacińska.

Tymczasem właśnie ze względu na pisownię *Kronika* jest jednym z najcenniejszych zabytków języka starobiałoruskiego, bowiem jej postać graficzna pozwala ustalić chronologię i geografię wielu cech fonetycznych właściwych temu językowi w XVI–XVIII w. Mimo zainteresowania zabytkiem badaczy historii i istnienia dość obszernej literatury dotyczącej jego genezy[3], kwestia lokalizacji latopisu wciąż pozostaje otwarta. Niewątpliwie, w rozwiązaniu tego problemu nie mniej istotna, niż ustalenia historyków, może się okazać analiza językowa dokumentu. Z tego punktu widzenia na szczególną uwagę zasługuje obecność w języku latopisu elementów regionalnych, pozwalających na usytuowanie terytorialne zabytku. Nie ułatwia identyfikacji tych elementów pisownia latopisu, podporządkowana jeszcze kanonom tradycji cerkiewnoruskiej i nie oddająca wszystkich cech żywego języka. Jednak nawet skromna dokumentacja pewnych zjawisk, głównie z zakresu fonetyki, pozwala określić ich dialektalną przynależność.

Wnioskowanie o systemie języka utrwalonego w zabytku XVI–XVIII w. tylko na podstawie metody filologicznej ma swoje ograniczenia. Zważywszy bowiem na fakt, że zabytek ten powstał na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego, gdzie współistniały języki zarówno blisko spokrewnione (białoruski, ukraiński, polski), jak też różniące się genetycznie (język litewski), interpretacja faktów językowych powinna uwzględniać również metodę gramatyki porównawczej oraz metodę geografii językowej. Ujęcie takie jest

*Bychowca* dowodzi, iż obydwa latopisy są odpisami jednego, wcześniejszego, cyrylickiego tekstu i odwzorowują ten sam jego archetyp. Z ustaleń Michalczuk wynika również, iż mimo zgodności kodeksu w zakresie treści i chronologii opisywanych wydarzeń z *Kroniką Bychowca*, odnaleziony dokument nie jest jej protografem, por. Г. Міхальчук, *Новы спіс агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і яго суадносіны з „Хронікай Быхаўца"*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі гістарычны зборнік" 2016, nr 45, s. 190–225.

[1] *Гістарычны слоўнік беларускай мовы*, рэд. А. Жураўскі, т. I –, Мінск 1982.

[2] А. Булыка, А. Жураўскі, І. Крамко, *Гістарычная марфалогія беларускай мовы*, Мінск 1979.

[3] Por. L. Citko, *Kronika Bychowca na tle historii i geografii języka białoruskiego*, Białystok 2006, s. 36.

szczególnie ważne dla obszarów pogranicznych, uwiarygodnia bowiem genezę opisywanych zjawisk i ich terytorialną lokalizację.

Przydatność i skuteczność geografii lingwistycznej jako metody badawczej w poznawaniu przeszłości językowej można zilustrować wybranymi przykładami z zakresu fonetyki, poświadczonymi w tekście *Kroniki Bychowca*. Dzięki wykorzystaniu dostępnych źródeł dialektograficznych, takich jak: atlasy ogólne (np. *Дыялекталагічны атлас беларускай мовы*, Мінск 1963; *Атлас української мови*, t. I–III, Київ 1984–2001), regionalne (np. *Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny*, t. I, pod red. S. Glinki, A. Obrębskiej-Jabłońskiej, J. Siatkowskiego, Wrocław 1980) oraz monografii, uwzględniających metody geografii językowej, możliwe staje się określenie zasięgu badanych cech głosowych.

## 1. Zwężenie samogłosek: [e] / [i] – [y]

Zapisy w latopisie prsł. [ě] jako [e] / [i] wynikają ze zwężenia artykulacji tej samogłoski w gwarach południowobiałoruskich i północnoukraińskich Polesia oraz dyspalatalizacji w [y] jak w języku ukraińskim, por.: *całowanie* 63 / *cyłowanije* 30; *detey* 41, *deti* 33, *detmi* 28 / *ditia* 14, *ditey* 41, *dity* 41; *hnew* 74, *hnewom* 59 / *hniwu* 37, *ne hniwaysia* 37; *rozhreszeniem* 46 / *hrych* 59, 73; *krepko* 69 / *krypko* 7; *let* 5, *leto* 6, 48 / *lit* 3; *mesiac* 15 / *misiacy* 38; *mety* 5, 22, 38, *mieło* 57 / *mit'* 43, *mity* 39, 42, 53; *mest* 23, *mesta* 27, *meste* 1, *mestce* 12, *mestco* 2, *mestcoch* 23, *mestcy* 18, 22, *meste* 19, *mesty* 1 / *mista* 18, *miste* 1, *misto* 73; *pobeh* 15 / *bihaty* 32, *wbih* 16; *strełami* 8, *strełу* 59 / *strylenia* 25, *swet* 40, *swetyli* 37/ *swita* 64; *teło* 44, 49, 63 / *tiło* 10; *weru* 41, *wierach* 20, *weryty* 68 / *wiru* 5, 10, 29, *wiry* 19, *wiryli* 11; *zwizdach* 1/ *zwezdy* 37 i in.

Zapisy z <e> nie są jednoznaczne, gdyż mogą oddawać wymowę typu ukraińskiego (obejmującą też północno-zachodnie Polesie) z dyspalatalizacją spółgłoski przed [e] lub wymowę białoruską z poprzedzającą spółgłoską miękką ['e]. Natomiast równie częste zapisy przez <ie> tłumaczą się wpływem XVI-wiecznej ortografii polskiej. Występują one niezależnie od pozycji:

1) w sylabie początkowej i środkowej (często pod akcentem), np. *biehaty* 30, *biełuiu* 28, *czełowieki* 24, *czełowiekow* 49, *died* 61, *dowiedałsia* 4, *mieł* 11, 45, *mieło* 57, *miewał* 17, *miesiaca* 62, *mieszkaiuczy* 12, *mieystce* 3, *namiestnikom* 38, 61, *nepospieli* 66, *obiecał* 67, *obied* 57, *osieli* 19, *osieł* 13, *piewsza* 44, *pospieszyłsia* 18, *powiedaiuczy* 18, 71, *prybieżał* 24, *siediaczy* 27, *siena* 49, *sieno* 49, *smieło* 69; *swiet* 17, *świet* 12, *swieta* 39, *uwiedali* 67, *wbieh* 18, *wierach* 20, *wierny* 64, *wiernyi* 48;

2) w sylabie końcowej (zwykle nie akcentowanej): *bitwie* 57, *Chrystyanstwie* 9, *drużynie* 6, *Kiernowie* 48, *kniastwie* 13, *pannie* 28, *potrebie* 60, *seymie* 48, *Słonimie* 17, *woiewodstwie* 52, *u wołożynie* 50, *na wyspie* 1, *chotieł* 10, *nechotieł* 19, *horożanie* 16, *odnomyślnie* 16, *panowie* 13, *pohanie* 22 i in.

Nie można jednak wykluczyć, że niektóre z nich oddają wymowę

dyftongiczną, jakiej ulega prsł. /ě/ (rzadziej /e/ i /o/) w niektórych dialektach wschodniosłowiańskich, m. in. w gwarach poleskich obu języków i części białoruskich. Dyftongi zachowują się najlepiej na Polesiu, gdzie występują głównie w akcentowanych sylabach zamkniętych, typ **chlěbъ* → *chlieb*; **nočь*→ *nuoč / nueč / nuyč*. Różne stadia dyftongizacji notuje się również na północnym Wołyniu, Polesiu, południowo-wschodnim Podlasiu i w gwarach południowo-zachodniej Białorusi[1].

## 2. Geminacja spółgłosek

Po zaniku słabych jerów połączenia typu: spółgłoska przedniojęzykowa + [ьj] przed samogłoską uległy w językach zachodnioruskich wzmocnieniu (wzdłużeniu). We współczesnym języku białoruskim proces ten objął dziewięć spółgłosek [ʒ̱’], [ẕ’], [ḻ’], [ṉ’], [s̱’], [c̱’], [ẕ̌], [š̱], [č̱], por. przykłady: *свіння, соллю, мышшу, калоссе*. Nie podlegają geminacji spółgłoski wargowe i [r]. Geminaty występują też w języku literackim i gwarach ukraińskich oraz w rosyjskich gwarach wielkołuckich, smoleńskich i brańskich[2]. Najstarsze poświadczenia tego procesu w tekstach zachodnioruskich pochodzą z XV i XVI w., np. *братанню, возданне, коллемъ, трет(ь)тего*[3], powszechnie zaś geminaty oznacza się w pisowni dopiero od połowy XVII w.

W *Kronice Bychowca* spotykamy dwa przykłady geminacji przy [l’l’]: 1) w nazwie rzeki **Vilьja* zapisanej jeden raz w pierwotnej formie bałtyckiej (z *-il-*): k *Willii* 25, a wielokrotnie w starobiałoruskiej postaci **Velьja* > [Vel’l’a]: dat., loc. *Welli*, acc. *Wellu*, instr. *Welleju* (w sumie 13x); 2) **zelьje* > [zel’l’e]: *zelle otrawnoie* 34.

W języku białoruskim oraz ukraińskim geminacja weszła do wymowy literackiej, nie dotarła natomiast do sąsiadujących z polszczyzną gwar podlaskich, grodzieńskich, zachodniopoleskich i południowo-zachodnio-ukraińskich[4]. Na tym obszarze zachowuje się połączenie miękkiej lub zdyspalatalizowanej spółgłoski z [j] (np. *kałośje*) bądź pojawia się zasymilowana z [j] miękka, lecz nie wzdłużona spółgłoska (*kałośe*)[5]. Taka postać dawnych połączeń występuje też w *Kronice Bychowca*, por. *dobywanie* 70, *dokonczanie* 63, z *dozwoleniem* 20, *imenie* 14, *kniażenie* 63, *nasmewaniem* 71, *połoneniu* 28, *na onom potkaniu* 28, *narożenia* 39, *połonenie* 28, *poweleniem* 49, 61, *prychożenie* 69, *ratiu* 25, z *rozhreszeniem* 46, *skażenie* 28, *ubitia* 9, *umyszleniem* 67, *wedanie* 55, *weselie* 64, *weseliem* 15, *żadanie* 61. Znaczącą

---

[1] Por. prace: Ю. Шевельов, *Історична фонологія української мови*, Харків 2002 (przekład: G.Y. Shevelov, *A historical phonology of the Ukrainian language*, Heidelberg 1979), mapa III, 1; W. Kuraszkiewicz, *Ruthenica* Warszawa 1985, s. 51–82, 166–189, załącznik 3; *Дыялекталагічны атлас беларускай мовы*, Мінск 1963, mapa 34, 35; Э. Блінава, Е. Мяцельская, *Беларуская дыялекталогія*, Мінск 1980, s. 32; M. Timoszuk, *Wschodniosłowiańskie gwary Białostocczyzny*, [w:] *Kulturowo-językowe dziedzictwo Podlasia*, t. I, oprac. N. Barszczewska, M. Timoszuk, Warszawa 2016, s. 160.

[2] Э. Блінава, Е. Мяцельская*, op. cit.*, s. 63.

[3] Е.Ф. Карский, *Белорусы. Язык белорусского народа*, выпуск 1, Москва 1955, с. 292.

[4] *Дыялекталагічны атлас...* , mapa 64; Ю. Шевельов, *op. cit.*, mapa IV, c. 7.

[5] Э. Блінава, Е. Мяцельская, *op. cit.*, s. 63.

frekwencją odznaczają się również zapisy kontynuujące tradycję cerkiewnosłowiańską: *bratiju* 7, *krestnoie cyłowanije* 30, *czudotworenijem* 30, *dokonczanije* 30, *imenije* 7, *kniażenije* 14, *kreszczenije* 8, *naruhanije* 77, *odpowedyiu* 20, *plenenija* 75, *poweleniju* 52, *radostiju* 9, *smerkanijem* 76, *weselije* 32, *weseliie* 37, *weselija* 42, 78.

### 3. Dyspalatalizacja spółgłosek

W języku białoruskim i ukraińskim dyspalatalizacja objęła spółgłoski dziąsłowe (funkcjonalnie miękkie) [č'], [š'], [ž'] przed [i], ['e], które przesunęły się do tyłu [y], [e]. Procesowi temu uległa w obu językach również spółgłoska [r'] > [r], zachowująca miękkość jedynie na wschodniej peryferii obszaru białoruskiego i częściowo w gwarach wschodnioukraińskich oraz karpackich.

W sposób konsekwentny (stwardnienie przed każdą dawną przednią) dyspalatalizacja została przeprowadzona w języku ukraińskim oraz w gwarach zachodniopoleskich obu języków. Jak stwierdza Władysław Kuraszkiewicz[1], proces ten postępował od południowego zachodu, a rozpoczął się w XIII–XIV w. na ziemiach Rusi Halickiej. W starobiałoruskim przykłady dyspalatalizacji [č'], [ž'], [š'] udokumentowane są od początku XIV w.[2], a w zabytkach drugiej połowy XVI w. zjawisko to posiada już stosunkowo bogatą dokumentację[3].

Pisownia *Kroniki Bychowca* jednoznacznie zaświadcza dyspalatalizację spółgłosek funkcjonalnie miękkich: *baczyli* 60, *bezczyslennoje* 6, *bojaczysia* 4, *bolszyie* 68, *derżysz* 45, *dworyszczy* 20, *horszy* 12, *inszyie* 26, *kniażyty* 4, *muży* 5, *mużyki* 37, *newchożywał* 8, *oczyma* 76, *opołczywszysia* 32, *otczycze* 19, *otczyn* 7, *otczynity* 49, *perszym* 8, *płaczuczy* 45, *pobeżyt* 15, *pomoszczyiu* 73, *poruczyli* 52, *słyszaczy* 44, *szyieju* 37, *uszy* 6, *wczynił* 2, *wzłożył* 59.

Równie konsekwentnie oznaczane jest w latopisie twarde [r], np. *chrystianom* 7, *howoryty* 36, *Hryhorja* 73, *Jury* 36, *krywoy* 17, *kryża* 28, *nepryiatelem* 60, *peremiryłsia* 21, *pokoryłsia* 33, *postryhłasia* 5, *postryhsia* 10, *pryczyny* 1, *pryhorodki* 56, *pryiasza* 8, *pryiaźń* 19, *pryiechał* 24, *pryleżaczoie* 4, *pryniał* 17, 29, *prysiahnuli* 68, *prysiahu* 15, 70, *spryiaty* 44, *szuryna* 39, *try* 37, *trydcat* 14, *wdaryli* 51, ne *werył* 24.

Częściowo dokumentowane bywa również stwardnienie niektórych innych spółgłosek, np. przedniojęzykowych [d], [t], jakkolwiek paralelnie pojawiają się miękkie dublety, por. *deti* 33/ *dety* 36, *ludi* 32 / *ludy* 3, *łatine* 3 / *łatyńskuiu* 29, *nehoditsia* 52/ *hodytsia* 18, *nehodyt* 20, *ne stojati* 24 / *stoiaty* 66, *otoydite* 68 / *poydyte* 22, *tretij* 2 / *trety* 11, *tretyj* 11.

---

[1] W. Kuraszkiewicz, *Zarys dialektologii wschodniosłowiańskiej*, Warszawa 1963, s. 35.
[2] Е.Ф. Карский, *op. cit.*, s. 378.
[3] А.М. Булыка, *Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы*, Мінск 1970, s. 110–112.

Miękkie korelaty twardych [d], [t] w postaci [d’], [t’] (brak ciekania i dziekania) występują dziś w południowej części gwar brzeskich i homelskich (*t’ixo, d’ivo*), równolegle na tym obszarze możliwa jest również twarda wymowa tych spółgłosek: *tyxo, idy*[1].

### 4. Spółgłoski protetyczne

Charakterystyczne dla języka białoruskiego protezy spółgłoskowe wokalicznego nagłosu występują dziś zwykle w postaci [v-] przed samogłoskami tylnymi i [j-] przed przednimi. Spółgłoska [v-] przed nagłosowymi [u], [o] spotykana jest również w gwarach południowo-zachodniorosyjskich, np. *v-oseń, v-utka*[2]. Białorusko-ukraińską innowacją jest protetyczne [h-], notowane głównie na Polesiu i Wołyniu przed [a-], [o-], [u-], [i-][3].

W języku białoruskim zjawisko protezy nagłosu jest charakterystyczne zarówno dla wymowy i pisowni literackiej, jak też dla gwar, gdzie spółgłoski protetyczne rozwijają się szczególnie przed samogłoskami akcentowanymi, np. *v-óstra / astrýć, v-ókny /aknó, j-ískra / iskrýcca*[4]. Samogłoski tylne z reguły są poprzedzane spirantycznym [v-], np. *v-utka, v-ostry, v-oka, v-ušy*, natomiast przednie – protetycznym [j-], które (rzadziej) może występować też przed tylnymi (por. zaimek *j-on, j-ana*). Proteza nagłosu znana jest dzisiaj gwarom witebskim, homelskim, mohylewskim, częściowo mińskim. Natomiast w zachodniej części Grodzieńszczyzny[5], południowo-zachodnich gwarach brzeskich i północno-wschodnich homelskich spółgłoski protetyczne występują rzadziej, np. *ozero, okna, ostry(j), uxo, ulica, utka*[6].

Z badań Joachima Karskiego[7] wynika, że proteza nagłosu w postaci [v-], [h-] uzyskała nieliczne poświadczenia w tekstach starobiałoruskich od XV w., por. *вучинить, да водного* (*Latopis Avraamki*), *вужъ, гужи, гужами* (*Biblia* Skaryny) i in.

W *Kronice Bychowca* oba rodzaje protezy ujawniają się w nielicznych przykładach:

Protetyczne [v-] przed samogłoską tylną spotykamy w połączeniach: *u_w-objezd* 64 / *u_objezde* 67, *naradyłsia_u w odnoie* 26, *mne u_w-opeku* 45, *y_u-w-oseni* 8 / *leto y_oseń* 67, *ia u_wo-sne* 28, *u_w-orużen* 58. Wszystkie przykłady ilustrują zmianę przyimka / przedrostka [vъ] po zaniku jerów w [u̯], po którym przed samogłoskami rozwija się [v] likwidujące hiatus. Wyjątkowo [v-] pojawiło się przed samogłoską przednią w litewskim toponimie *Weyszyszki* 31, jednak dominują zapisy *Eyszyszki*.

1 Э. Блінава, Е. Мяцельская, *op. cit.*, s. 56.

2 В. Гуліцкая і інш., *Беларуская і руская дыялекталогія*, Мінск 1992, с. 49.

3 *Атлас української мови*, t. I, Київ 1984, mapa 140; *Дыялекталагічны атлас...* , карта 47; Э. Блінава, Е. Мяцельская, *op. cit.*, s. 66.

4 Э. Блінава, Е. Мяцельская, *op. cit.*, s. 65–66.

5 W białoruskich gwarach Podlasia spółgłoska protetyczna [v-] jest notowana, por. M. Timoszuk, *op. cit.*, s. 178.

6 Э. Блінава, Е. Мяцельская, *op. cit.*, s. 66; *Дыялекталагічны атлас...* , карты 47, 48.

7 Е.Ф. Карский, *op. cit.,* s. 339, 372.

Protetyczne [h] w nagłosie marginalnie poświadczone zostało w imieniu *Hanna*: *Hannu* 17, notowanym również bez protezy: *Anna* 31.

Jak wynika z powyższych uwag, *Kronika Bychowca* jest interesującym świadectwem złożoności problematyki ortograficznej okresu otwierającego długi proces normalizacji pisowni starobiałoruskiej, wciąż jeszcze podporządkowanej rygorom tradycji cerkiewnosłowiańskiej, a jednocześnie poszukującej sposobów graficznego dokumentowania cech żywego języka. Jednakże mimo skrępowania tradycyjną normą pisownianą zabytek poświadcza pewne cechy językowe o nawiązaniu regionalnym, które można określić jako charakterystyczne jedynie dla określonego obszaru języków zachodnioruskich. Zastosowanie metody dialektologicznej umożliwia określenie zasięgu arealnego tych cech, a tym samym przybliżenie genezy zabytku, jego lokalizacji terytorialnej, tj. miejsca powstania bądź pochodzenia redaktora / redaktorów. Charakter i lokalizacja geograficzna wielu zjawisk[1] udokumentowanych w zabytku wykazuje paralele z zespołem gwar południowo-zachodniobiałoruskich, przemawiając tym samym za tezą tych historyków, w opinii których ojczyzną *Kroniki Bychowca* były ziemie południowo-zachodniej Białorusi należące do książąt Olelkowiczów-Słuckich.

*Lilia Citko*

**On Methodological-Empirical Problems of the Language of West Ruthenian Literary Production**

A b s t r a c t

The article is devoted to the research problems concerning antique literary production from the perspective of the geographically diverse language of the past. Selected phonetic phenomena (narrowing of [e] and [i] vowels, gemination, consonantal dispalatalization, adding of consonants in a word), documented in The *Bychowiec Chronicle* (an anonymous text of the 16$^{th}$ –17$^{th}$ centuries) which represents literary production of the Grand Duchy of Lithuania have been taken as examples to discuss the role of dialectal and areal methods in establishing the origin of the literary relic and its geographical location.

[1] W artykule omówiono tylko niektóre z nich. Szerzej na ten temat por. L. Citko, *op. cit.*, s. 50–81.

w tej sprawie stanowisko: „Як ведама, дамаганьні Бел. Пас. Клюбу ў 1922 г. зводзіліся да здабыцьця ў Польшчы шырокай тэрыторыяльнай аўтономіі для нашаго краю, аб чым і заявіў з соймавай трыбуны тагочасны старшыня клюбу пас. Тарашкевіч у дэклярацыі пры адчыненьні Сойму. Спробы паразуменьня з польскім урадам (падтрыманьне ўраду Сікорскага), каб даць магчымасьць беларускаму народу атрымаць некаторыя жыцьцёвыя палёгкі, не апраўдаліся. Бел. Пас. Клюб аднагалосна пастанавіў вясной 1923 г. перайсьці да апазыцыі і ў 1924 г. зрокся ідэі аўтономіі і стаў на грунт прынцыповы, на грунт думкі Вільсона аб самаазначэньні народаў, што было заяўлена з соймавай трыбуны і што такжа разнагалосіцы ў Бел. Клюбе не выклікала. Прадстаўнікоў у Клюбе розных кірункаў лучыла адна ідэя нацыянальная, а такжа і тое, што супольнымі сіламі лягчэй змагацца. (...) Вось-жа ўважаем, што і беларусам трэ' было трымацца разам, дапускаючы хіба толькі ў нутры Клубу фракцыі, або такія, ці іншыя групы. Аднак настаў час, калі некаторыя сябры Клюбу ўтварылі новы Клюб пад назовай «Беларуская Сялянска Работніцкая Грамада». Праўда, зрабіць так, гэта – іх права, але мы ўважаем, што гэта не на карысьць беларускаму селяніну, бо «Грамада», як гэта відаць з самой назовы, бяручы на сябе абарону інтарэсаў сялян і фабрычных рабочых, сярод якіх (рабочых) беларусаў ёсьць надта нямнога, паводле нашай думкі, ня зможа належна бараніць ані адных, ані другіх. У значнай меры, інтарэсы фабрычных рабочых і сялян нятолькі, што між сабой розьняцца, але часта і пярэчаць адны адным. (...) Цяпер, калі агульна-беларускі фронт нашы таварышы разьбілі і яго аслабілі, шукаючы новых дарог дзеля далейшай абароны беларускага народу, у нутры Бел. Пас. Клюбу ніжэйпадпісаныя заснавалі сялянскую групу, як зачатак арганізацыі "Бел. Сялянскага Саюзу". (...) Нашы таварышы, паводле нашага пагляду, зрабілі палітычную памылку, якая можа некарысна адбіцца на інтарэсах беларускага народу. (...) Галоўнай мэтай нашага саюзу ёсьць арганізаваць беларускае сялянства дзеля яго нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня, а такжа дзеля кіраваньня яго на ўласную беларускую дарогу"[1].

6 grudnia 1925 r. Fabian Jeremicz zaczął wydawać gazetę „Сялянская Ніва" jako organ BZW (BSS). Ukazywała się ona do 7 lipca 1930 r. W ciągu tego okresu ukazało się 199 numerów – niektóre były skonfiskowane przez policję, a redaktorzy – łącznie z wydawcą – odpowiadali przed sądem. W pierwszym numerze pisano: „Выходзячыя ў Вільні беларускія газэты, паводле нас, не разьвіваюць беларускай думкі ў належнай шырыне і ў адпаведным кірунку. А дзеля гэтага яны не здаволіваюць духовых і эканамічных інтарэсаў беларускага грамадзянства і беларускага народу. (...) Бяручы пад увагу, што беларускі народ па сваей будове соцыяльнай

[1] Пасол Рагуля, Пасол Ф. Ярэміч, *Падзел у Беларускім Пасольскім Клюбе*, „Сялянская Ніва" 1925, № 1, с. 1.

выключна сялянскі, што зацікаўленьне яго сваім клясавым вызваленьнем і народным адраджэньнем углыбілася значна, і што сьведамасьць палітычная ўзрасла такжа нямала, зьяўляецца ясным, што трэба новай беларускай часопісі, якая-б была больш дапасавана да беларускіх інтарэсаў, як народна-культурных так і соцыяльных. Такой газэтай думае быць "Сялянская Ніва". (...) Газэта будзе распрацовываць беларускую сялянскую ідэолёгію, будзе служыць справе арганізацыі беларускага сялянства, а такжа справе народнай культуры і сьведамасьці. Палітычным нашым ідэалам ёсьць імкненьне да таго, каб народ беларускі, стаўшы на ўласныя ногі, увайшоў у сямью народаў на ўсходзе Эўропы, як роўны з роўным. Дзеля нашай беларускай беднасьці будзем выдаваць нашу газэту сьпярша быць можа радзей як раз у тыдзень. Да супрацоўніцтва запрашаем беларускую сялянскую інтэлігэнцыю, як краёвую, так і загранічную, а такжа беларускіх сялян. Усіх запрашаем пісаць на тэмы палітычна-грамадзкія, літэратурныя, гаспадарчыя і іншыя. Усе разам для свайго народу!..."[1]

F. Jeremicz krytycznie oceniał położenie Białorusinów, zarówno w Polsce, jak i w ZSRR: „І вот-жа пасьля вайны нікаторыя народы – нявольнікі Расеі, здабылі сабе незалежнасьць і пачалі жыць сваім уласным вольным жыцьцём. А што-ж сталася з Беларусамі? Беларусаў дужэйшыя падзялілі, каб яны ня сталіся вольныя і роўныя. Словам, дужэйшыя ўзялі беларусаў пад сваю "поўную" апеку. І што-ж беларусы маюць ад сваіх апякуноў? Палітычных правоў як-там у Радавай Беларусі, так і тут у Польшчы беларусы маюць надта нямнога. Праўда, нікаторыя культурныя правы ў Радавай Беларусі беларусы сабе здабылі. У Польшчы маемо толькі на паперы ўставы «językowe» Грабскага, а ў жыцьці нічога. Зямельнае пытаньне, што ёсьць найважнейшае для беларусаў, такжа вырашаецца на нашую некарысьць. Як у Радавай Беларусі, так і тут пад Польшчай маемо асадніцтва. Тут прысылаюць нам асаднікаў з Галіцыі і з Пазнані. Да гэтага часу на беларуска-літоўскіх і ўкраінскіх землях у Польшчы пасадзілі каля 10 тысяч асаднікаў палякоў. У Радавай Беларусі замест раздаваць зямлю селяніну, садзяць асаднікаў жыдоў. Ужо пасаджана жыдоў асаднікаў у аднэй толькі Радавай Беларусі 789 семьяў, якім передана 9633 дзесяціны зямлі. Як мы бачым, палітыка да беларусаў як Ураду Польскага, так і бальшавікоў блізу аднолькавая; праўда, з рознымі мэтамі, бо Польскі Урад беларускую тэрыторыю хоча скалёнізаваць і сполёнізаваць, а Урад Савецкі: скалёнізаваць і скамунізаваць. А беларускі селянін на гэтым выйдзе як «Заблоцкі на мыле». (...) З гэтага мы бачым, што як там, так і тут пазбаўляюць беларуса яго ўласнай зямелькі, гэтага яго адзінага прыроднага варштату працы. З гэтага ўсяго вывад: ня трэба спадзявацца на нікога, бо ніхто нам лепшай долі ня прынясе і ня дасьць. Лепшай сваей долі павінны мы быць

[1] *Ад Рэдакцыі*, „Сялянская Ніва" 1925, № 1, с. 1.

самі кавалі. Беларусы павінны арганізавацца, здабываць асьвету і тварыць сваю народную культуру, стойка ўсюду бараніць сябе, здабываючы гэтак належнае сабе месца сярод суседзяў"[1]. Stwierdzał na łamach gazety, że: „для будучыны Беларускага Народу абавязкова патрэба, каб ён свой лёс браў у свае ўласныя рукі. (...) Датуль, пакуль наш народ ня будзе арганізаваны ў моцную адзінку, з уласнымі мэтамі, арганічна зьвязанымі з соцыяльнай душой беларуса-хлебароба, пакуль арганізацыя яго ня будзе аснавана на ўласных нагах, уласнымі спосабамі, пакуль беларусы будуць спадзявацца на некага, што яго адродзіць, вызваліць і дасьць шчасьце, дасьць зямлю – датуль сапраўды шчыра ніхто з намі ня будзе лічыцца, датуль арганічна беларуская справа разьвівацца ня будзе, бо датуль апірацца яна будзе на гліняных нагах. (...) Мы павінны шукаць сабе прыяцеляў, каб пры ўзаемнай дапамозе, супольнымі сіламі, здабываць свае палітычныя, культурныя і грамадзкія ідэалы. (...) Вот-жа на мой погляд прыяцелямі гэтакімі могуць быць для нас беларусаў тыя суседнія народы, якія адносна да нас ніколі ня мелі ані заборчых, ані вынарадаўляючых імкненьняў. Такімі для нас суседзьмі зьяўляюцца народы Украінскі, Літоўскі, Латвійскі"[2]. Powtórzył takie stanowisko z okazji 8 rocznicy niepodległości Białorusi: „Найгоршым злом для Беларусі, гэта будзе арыентацыя на чужынца, каторы нас хоча праглынуць. (...) Затым хаўрустнікамі нашымі могуць быць тыя нашыя суседзі, якія ня душаць і не зьбіраюцца згладзіць нас са сьвету, як літвіны і ўкраінцы. Дык глянуўшы на тую падарожу, якую адбыў беларускі рух, мы прыходзім да праканаińня, што вялікая пара ўжо нам стаць на свае ногі і пачаць арыентавацца ізноў самі на сябе. (...) Дык па стаўцы на кайзэра, Пілсудскага і Леніна павінна прыйсьці апошняя стаўка: на самых сябе!"[3]

24 marca 1926 r. w Wilnie odbyła się konferencja BZW (BSS) z udziałem 24 delegatów. Otworzył ją poseł F. Jeremicz, który przewodniczył też obradom. Przyjęto na niej program i statut oraz wybrano Komitet Centralny: B. Rogula (prezes), F. Jeremicz (wiceprezes), I. Kunicki (wiceprezes), Adam Bildziukiewicz i Bronisław Turonek (sekretarze), Muraszka i Szybut[4].

Wobec przewrotu majowego i nowego rządu F. Jeremicz i B. Rogula w imieniu Prezydium Białoruskiego Klubu Poselskiego wystąpili z rezolucją, w której domagali się rozpuszczenia Sejmu i Senatu oraz rozpisania nowych wyborów, utworzenia rządu włościańsko-robotniczego, natychmiastowego

---

[1] Пасол Ярэміч, *Патрэба спадзявацца прадусім на свае уласныя сілы*, „Сялянская Ніва" 1925, № 1, с. 2.

[2] Пасол Ярэміч, *З кім па дарозе?*, „Сялянская Ніва" 1925, № 2, с. 1.

[3] Горскі, *Стаўка на кайзэра, Пілсудскага, Леніна. З прычыны 8-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі (25.III.1918. – 25.III.1026.)*, „Сялянская Ніва" 1926, № 10, с. 1; Horski zdaje się być pseudonimem F. Jeremicza.

[4] *З арганізацыйнага жыцьця Беларуск. Сялянскага Саюзу*, „Сялянская Ніва" 1926, № 11, с. 2; А. Більдзюкевіч, *Конфэрэнцыя Бел. Сялянскага Саюзу*, „Сялянская Ніва" 1926, № 14, с. 2.

wprowadzenia oświaty w języku ojczystym, przekazania ziemi chłopom bez wykupu i skasowania osadnictwa, zmniejszenia podatków państwowych i samorządowych i zwolnienia z nich biedniejszych włościan, amnestii dla więźniów politycznych, natychmiastowego przeprowadzenia wyborów do samorządów włościańskich i powiatowych na zasadach powszechnego, prostego, tajnego, równego i proporcjonalnego głosowania[1].

Latem 1926 r. z inicjatywy F. Jeremicza i ks. A. Stankiewicza w Wilnie powstał Białoruski Instytut Gospodarki i Kultury (Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury), który w dość szybkim czasie rozwinął sieć ponad 40 kół, np. w Ruszczanach, Porosłach, Hajnówce, Narewce i w Białowieży na Białostocczyźnie[2]. 17 lutego 1927 r. został zastępcą przewodniczącego Oddziału Wileńskiego BIGiK (przewodniczącym został Bronisław Turonek)[3].

F. Jeremicz był jednym z inicjatorów białoruskiej drukarni im. Franciszka Skaryny w Wilnie. Jak wspominał J. Najdziuk, którego matka była siostrą przyrodnią F. Jeremicza, „паўстала ціхая суполка. У склад яе ўвайшлі пасол на сойм кс. Адам Станкевіч, пасол на сойм і старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу Фабіян Ярэміч, кс. Вінцук Гадлеўскі – пробашч з Жодзішак і змагар за беларускую мову ў Каталіцкім Касьцеле на Беларусі, дый кс. Андрэй Цікота – ігумен кляштару Айцоў Марыянаў беларусаў у Друі. Запраектаваная імі друкарня мела ўзнавіць дзейнасьць друкарні Фр. Скарыны ў Вільні з прад 400 гадоў, ды служыць адраджэньню беларускага народу. (...) Арганізацыйныя захады над стварэньнем беларускай друкарні ў Вільні пачаліся вясною 1926 г. Вёў іх, ад імя ціхае суполкі, пасол Фабіян Ярэміч, а асыставаў яму малады ў гэны час хлапец Язэп Найдзюк"[4].

W 1927 r. przedstawiciele mniejszości narodowych w Polsce zaczęli wydawać polsko-niemiecko-francusko-angielskie pismo „Natio". W komitecie wydawniczym znalazł się również F. Jeremicz. W numerze 1–2 pisał o położeniu Białorusinów po I wojnie światowej, oceniając bardzo krytycznie władze polskie. Wspominając akt 25 Marca 1918 r. o niepodległości Białorusi, pisał: „akt ten ma dla narodu białoruskiego doniosłe, epokowe znaczenie, albowiem hasło niepodległości staje się odtąd myślą przewodnią całego ruchu politycznego białoruskiego"[5].

W czerwcu 1924 r. w dyskusji na preliminarium budżetowym Ministerstwa Spraw Wewnętrznych krytykował politykę władz polskich w stosunku do Białorusinów: „Linia polityki względem nas, Białorusinów i Ukraińców, została wytknięta jeszcze w r. 1920 po rozdziale Białorusi i po zatwierdzeniu

[1] Ф. Ярэміч, Б. Рагуля, *Сяляне Беларусы!*, „Сялянская Ніва" 1926, № 16, с. 1.

[2] *Хроніка*, „Сялянская Ніва" 1926, № 19, с. 4.

[3] *Навіны*, „Сялянская Ніва" 1927, № 18, с. 3.

[4] С. Цыпрыяновіч, *Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926–1940)*, Лёндан 1991, с. 5; „Сялянская Ніва" 1926, № 19, с. 4 (ogłoszenie o niedawno otwartej drukarni).

[5] F. Jeremicz, *Białorusini, ich obecne położenie polityczne i ich dążenia*, „Natio" 1927, nr 1–2, s. 18.

Traktatu Ryskiego. Ta polityka streszcza się w kilku słowach, a mianowicie: część Białorusi, która została wcielona do Rzeczypospolitej Polskiej trzeba połknąć, a to co jest białoruskie, co jest świętością tego narodu, zniszczyć i spolonizować, nie bacząc na to, że do dziś dnia bardzo wielu polityków i w społeczeństwie polskim mówi się o tym, że Polska nie może połknąć tych ziem i trzeba się liczyć z tą ludnością. Jednak Ministerstwa Spraw Wewnętrznych to wcale nie obchodzi. (...) Nie jestem wielkim optymistą i nie wierzę, by ktoś przyszedł, dał nam wolność i zagwarantował możność swobodnego rozwoju kulturalnego, społecznego i politycznego, ale przyszedłem do przekonania, że myśmy dotąd prosili, a teraz prosić nie będziemy, lecz będziemy brali. Przechodząc do spraw administracji, powinienem zaznaczyć, że wszystkie pisma białoruskie, jakie są, zostają zamykane i to w ten sposób, że komisarz miasta Wilna, jeżeli mu się nie podoba jedno słowo, jeden wyraz w gazecie, zamyka ją, lub ewentualnie konfiskuje i oddaje sprawę do sądu. Sąd zaś uniewinnia, ale to kładzie się ciężarem na nas, bo my do tego czasu nie mamy swojej prasy, gdyż jesteśmy ciągle szykanowani. W tym czasie zamknięto sześć pism białoruskich, skonfiskowano zaś około 60 numerów. To w żadnym państwie europejskim się nie praktykuje. To samo widzimy co do szkół. Nie będę mówił o szkołach, bo to należy do Ministerstwa Oświaty, jednakże Ministerstwo Spraw Wewnętrznych bardzo dużą tu odgrywa rolę, bo wszyscy nauczyciele, którzy są inteligencją, mózgiem twórczym tego ludu są szykanowani, nie dajecie im obywatelstwa, a tym samym zmuszacie do ucieczki ze swego kraju, do opuszczania swoich rodzinnych chat, żeby iść gdzieś na obczyznę. Stowarzyszenia nasze nie mogą się doczekać legalizacji. (...) Jeżeli Białorusin stara się o dowód osobisty, to wchodzi w błędne koło, musi iść do wójta, od wójta do starosty, od starosty do wojewody, od wojewody do referenta, w końcu do ministerstwa, a potem ministerstwo oddaje jeszcze na sprawdzenie, na inwigilację policyjną i w końcu chodzi w koło dwa lata i w żaden sposób nie może otrzymać dowodu osobistego. Jeżeli miał posadę, to ją stracił, bo nie przedstawił tego papierka" (132 posiedzenie Sejmu z 16.06.1924r.)[1].

F. Jeremicz, krytyczny wobec BWRH, stał się przedmiotem ataków w prasie hromadowskiej, zwłaszcza ze strony Antoniego Łuckiewicza, niedawnego jeszcze przyjaciela. Krytykowano go także w białoruskiej prasie polonofilskiej, np. w gazecie "Беларускае слова":

Ці ж ня пекна выглядае?
Пудоў восем вагі мае;
Хмелям чуб яго ўецца
Як ідзе – дык брух трасецца.
Вочы ледзь відаць, а нос –
Дык саўсім у сала ўрос.
(...)
Быў скрамнюсянькі мантёр.
Ведаў як званкі направіць,

[1] *Sprawozdania stenograficzne z posiedzeń Sejmu*, 132 pos. 16.06.1924 r., łam 78–79.

Тэлеграфны стоўб паставіць
Чуў што-не-шта і пра “ток”,
Словам – знаньнем не далёк
Шансаў на кар’еру мала
Ды вось бач: пашанцавала!
Да Антонія прыткнуўся
На Алімпе апынуўся.
(...)
Выйшаў ён з пад рук начальства.
Манарха слухаць перастаў,
Нешта сам рабіць пачаў.
З Рагуляй вайшоў у хаўрус,
Адкрылі неякі “Саюз”,
Газэты сталі выдаваць,
Там сябе рэклямаваць...
Зусім ясны іхні плян:
Скааптаваць сабе сялян,
Пры дапамозе гучных слоў –
Іх галасы дастаць ізноў”[1].

Obok tego pamfletu zamieszczono także karykaturę posła, być może autorstwa Franciszka Olechnowicza. On również mógł być autorem *Satyrykonu*, bowiem gazetę „Беларускае слова” wydawała Tymczasowa Rada Białoruska (Czasowaja Biełaruskaja Rada), w której członkiem był F. Olechnowicz.

Bez względu na krytykę F. Jeremicza, która miała wyraźnie polityczny podtekst, po aresztowaniu w nocy z 14 na 15 stycznia 1927 r. posłów BWRH i jej działaczy wysłał protest w tej sprawie do marszałka Sejmu oraz wraz z senatorem Wiaczesławem Bohdanowiczem interweniował u władz wileńskich[2]. Wystąpił on w Sejmie przeciwko wydaniu sądowi pięciu białoruskich posłów: „Trudna jest moja sytuacja, raz bowiem jestem jednym z tych, którzy byli bardzo ostro zwalczani przez Hromadę, a po wtóre nie jestem prawnikiem, nie mogę tak prawniczo ujmować rzeczy, jak to poprzedni mówcy prawnicy uczynili. Ja chcę powiedzieć tylko kilka słów jako Białorusin, jako przedstawiciel ludności białoruskiej, oraz kilka słów o polityce w stosunku do nas Białorusinów, która niewątpliwie odgrywa tu główną rolę. Proszę Panów! Kiedy weszliśmy do Sejmu i byliśmy w Klubie, na czele którego stał poseł Taraszkiewicz, stanowiliśmy jedno ze stronnictw rządowych. Wtedy bagatelizowano ruch białoruski i nikt z nami nic nie mówił. Kiedy po niejakim czasie (...) ten ruch przybrał kolosalne rozmiary, kiedy zaczął się organizować, krystalizować, wtedy dopiero tylko zaczęto radzić w niektórych gabinetach nad tym, ażeby walczyć z tym ruchem. Od kilkunastu miesięcy polska prasa szowinistyczna podawała fałszywe wiadomości o nas i inspirowała rząd, ażeby jak najprędzej zlikwidował tzw. kramołę. (...) Ja uważam, że ta akcja jest akcją tępienia ruchu białoruskiego. (...) Ja uważam, że to

[1] *Наш сатырыкон*, „Беларускае слова” 1926, № 3, с. 4.
[2] *Тэлеграма пасла Ярэміча*; *Інтэрвэнцыя пасл. Ярэміча і сэн. Багдановіча*, „Сялянская Ніва” 1927, № 6, с. 1.

postępowanie Rządu w stosunku do nas, Białorusinów, jest nie tylko błędne, ale i karygodne z punktu widzenia po prostu ludzkości. Do dziś Białorusini nie mają nawet elementarnych praw, nie mają szkół, nie mają nic, są prześladowani przez policję i administrację. (...) A gdzie są rzeczy, które nam słusznie się należą, o których myśmy dziesiątki razy tu mówili? Nie jestem komunistą, ale muszę przyznać, że po tamtej stronie są rzeczy, z których Białorusini naprawdę mogą tworzyć coś narodowego. Tam dano szkoły. Choć nie mamy absolutnie praw politycznych, za to mamy autonomię szkolną i to nawet szeroką, mamy uniwersytet, mamy wyższą szkołę rolniczą, mamy tzw. technikum, a cóż mamy w Polsce? Czy kto widział, by w państwie europejskim, mającym mniejszość narodową, wynoszącą ponad 2,5 miliona, nie dano tej mniejszości ani jednej rządowej szkoły, ani jednego gimnazjum, ani jednego stypendium w uniwersytetach polskich! (...) Uważam panie Ministrze, że p. Minister nie da sobie rady, żeby tłumić ruch białoruski, i uważam, że nie tędy droga. Póki my nie zdobędziemy tego, co nam się słusznie należy, naszych praw kulturalnych, narodowych i politycznych, dopóty nie będziecie mieli spokoju i będziecie nas aresztowali, aż zmienicie swoją politykę. Będę głosował za niewydaniem wszystkich aresztowanych posłów" (317 posiedzenie Sejmu z 4.02.1927 r.)[1].

W styczniu 1926 r. F. Jeremicz i Piotr Miotła z grupą polskich deputowanych odwiedzili Związek Radziecki. Byli także w Mińsku[2]. F. Jeremicz bardzo krytycznie oceniał sytuację w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Radzieckiej: "Да гэтага часу, мы беларусы, пад Польшчай часта спатыкаліся з думкай, што ў Савецкай Беларусі, будуецца наша дзяржаўнае жыцьцё, што Савецкая Беларусь здабыла сабе самастойнасьць і ўвайшла ў склад фэдэрацыйнага саюзу С.С.С.Р. як вольная, роўная і самастойная рэспубліка. Паглянем, як гэта выглядае сапраўды. На паперы выглядае гэта так, як нібы і праўда, што Беларусь ёсьць самастойная дзяржава, уваходзячая ў Саюз з другімі суседнімі дзяржавамі, бо так галосіць Савецкая Канстытуцыя. (...) Прадусім ня ўсе землі далучаны да Савецкай Беларусі. Ня гледзячы на тое, што Гомельшчына, якая ёсьць неразрывальнаю часткаю жывога арганізму Беларусі, і ня гледзячы што люднасьць яе, праз сваіх прадстаўнікоў, аднагалосна высказала сваё жаданьне далучэньня да Савецкай Беларусі, – дагэтуль гэта ня зроблена; ня зроблена гэта і ў другіх мяйсцох, праўда, на меншых абшарах. Масква кажа, што Гомель, гэта вялікі вузел ж. д., гэта стратэгічны пункт, ды мала яшчэ якія прычыны выдумляе, але далучаць, не далучае. (...) А калі хто думае, што ў Беларускае дзяржаве, беларус можа кіраваць сам сваім жыцьцём, дык мыляецца. Мо' беларусы маюць голас у палітыцы загранічнай? Ня маюць. Мо' беларусы маюць голас у справе войска? Ня маюць. Мо беларусы служаць у беларускім войску і да іх камандзіры зварачваюцца на роднай мове? Божа барані. Мо' беларусы

[1] *Sprawozdania...*, 317 pos., 4.02.1927 r., łam 85–89.
[2] *Хроніка*, „Сялянская Ніва" 1926, № 4, c. 3.

маюць пошту беларускую, як рэч зусім нявінную, бо-ж на Беларусі карыстаюць з пошты, у пераважнай сваей частцы, беларусы? Таксама не. Мо' на Беларусі можна разгаварыцца пабеларуску на чыгунцы? Ані думай. Хоць і грошы бяруць ад беларуса, а гаварыць на роднай яго мове ня хочуць. (...) А можа думаеце, што ў Савецкай Беларусі вы можаце дзенебудзь у ўладах разгаварыцца пабеларуску? Нічога падобнага. Можаце разгаварыцца папольску, пажыдоўску, парасейску, толькі не пабеларуску. Чуў я, што якобы прыказана чыноўнікам вучыцца пабеларуску, і што на'т даны ім тэрміны, але ніхто гэтых загадаў да сэрца не бярэ і ня вучыцца, бо як беларусы кажуць: «Крук круку вока ня выдзяўбе», так і там; як вышэйшы так і меншы чыноўнік уважаюць, што лепш гаварыць «на обще-понятном русском языке». Хачу быць аб'ектыўным, і скажу, што ў галіне школьніцтва шмат чаго робіцца і добрага дзеля беларусаў. Можа думаеце, што ў Савецкай Беларусі ўсёж-такі кіруюць беларусы, г. зн. займаюць вышэйшыя пасады? дзе там! Можаце ўбачыць на вышэйшых пасадах каго хочаце: паляка, жыда, маскаля, латыша, толькі не беларуса. Пытаецеся, дзе беларуская інтэлігэнцыя? Сядзіць, як кажуць, як «мыш пад мятлой», ды маўчыць, бо калі зачне гаварыць аб палітыцы, дык прыбяруць, калі зачне гаварыць аб беларусізацыі, ці праўдзіва думаць пабеларуску, наклеяць яму ярлык дужа папулярны "шавініст", "Лістападаўшчына". Есьць там, праўда, некулькі беларусаў на вышэйшых становішчах, якія ёсьць ня чым іншым, як "казламі адпушчэньня", ці мішэнямі народу. Камуністы кажуць: глядзіце, вы маеце сваіх камісараў, вашых сыноў! Але ня кажуць, колькі іх, і трымаюць іх як ката ў мяшку і Масква робіць што хоча. Як бачым, у Беларусі ўлада польская, жыдоўская, маскоўская, латыская, толькі не беларуская. Дык мыляцца тыя, якія цьвердзяць, што Савецкая Беларусь ёсьць вольная і самастойная Рэспубліка. Савецкая Беларусь мае ад Масквы ўсяго толькі куртатую культурна-пэрсанальную аўтаномію, а не самастойнасьць"[1].

W 1928 r., po rozgromieniu „Hromady”, F. Jeremicz wszedł w skład Sejmu z listy państwowej nr 18 Bloku Mniejszości Narodowych. Mimo represji i unieważniania list Białorusinom udało się wprowadzić do Sejmu 11 posłów. Fabian Jeremicz był jedynym posłem, który miał za sobą doświadczenie parlamentarne w ubiegłej kadencji. Znowu pracował w Komisji Administracyjnej. B. Rogula, poseł z lat 1922–1928, został senatorem. W latach 1928–1930 posłowie białoruscy F. Jeremicz z Białoruskiego Związku Włościańskiego, Paweł Karuzo, Albin Stepowicz, Konstanty Juchniewicz z Białoruskiej Chrześcijańskiej Demokracji i senatorzy B. Rogula i W. Bohdanowicz należeli do Ukraińsko-Białoruskiego Klubu Parlamentarnego. Po podziale w nim F. Jeremicz stanął na czele Klubu Białoruskiego. W ciągu dwóch lat 10 razy przemawiał z trybuny sejmowej. Bardzo krytycznie odnosił się do polityki po przewrocie majowym 1926 r. Mówił o rozczarowaniu Józefem Piłsudskim

[1] Пасол Ф. Ярэміч, *Самастойнасьць, ці культурна-пэрсанальная аутаномія у Б.С.С.Р.*, „Сялянская Ніва” 1926, № 8, с. 1.

i lewicą polską. Na jednym z pierwszych posiedzeń Sejmu, w dyskusji nad budżetem, złożył deklarację: „Świętym ideałem każdego narodu jest jego niepodległość. Jest to zdrowy i normalny pęd każdego zdolnego do życia organizmu narodowego. Urzeczywistnienie prawa samookreślenia narodów ominęło naród białoruski, który nieraz dał dowód swego niepodległościowego dążenia. Wobec tego my, jako reprezentujący szerokie masy siermiężnego narodu, stojąc na gruncie samookreślenia narodów, a pielęgnując w sercach swych ideał złączonej, niepodległej Białorusi, będziemy zawsze się zmagali o te ideały naszego narodu, które również są ideałami całej ludzkości. Niewielkiej naszej ilości w tej Izbie jednak wystarczy na to, aby z tej wysokiej trybuny zawsze głosić o wielkiej krzywdzie, jaka dzieje się narodowi białoruskiemu. Zaznaczamy swe negatywne stanowisko wobec obecnego rządu i głosować będziemy przeciwko prowizorium budżetowemu" (4 posiedzenie Sejmu z 30.03.1928 r.)[1]. „Reasumując wszystko i widząc, że w tym budżecie nie ma ani jednej pozycji, ani jednego grosza, ani na białoruską kulturę, ani na białoruską kooperację, ani na odbudowę, ja jako przedstawiciel narodu białoruskiego oświadczam, że będziemy głosowali przeciw budżetowi" – przemawiał na kolejnym posiedzeniu Sejmu 30 maja 1928 r.[2] Obwiniał władze polskie o prześladowania Białorusinów przez władze radzieckie, mówiąc, że swoją polityką w stosunku do Białorusinów dają podstawy dla represji inteligencji białoruskiej w BSRR[3].

W 1930 r., gdy żaden z białoruskich działaczy narodowych nie wszedł w skład parlamentu II Rzeczypospolitej, z listy ukraińskiej nr 11 posłem został F. Jeremicz. W rzeczywistości był jedynym przedstawicielem narodu białoruskiego w polskim parlamencie. W ciągu 5 lat 18 razy przemawiał w Sejmie w obronie Białorusinów, oskarżał władze o likwidację organizacji białoruskich. Ostre wypowiedzi świadczyły o rozczarowaniu posła państwem polskim: „Narodowi można siłą zabrać wszystko. Narodowi białoruskiemu zabrano ziemię i oddano osadnikom. Wyrwano najlepszych synów białoruskiego narodu i wtrącono do więzienia, albo wypędzono na banicję. (...) Zabrano białoruskie dzieci i siłą posłano do szkoły polskiej i kazano Białorusinom za to jeszcze płacić. Zabiera się ostatnie kożuchy za podatki. (...) Oświadczam, że ani tym terrorem, ani deprawacją Panowie kwestii białoruskiej nie załatwicie. Pan myśli, Panie Prezesie Hołówko, że gdy tu nie stanie Białorusinów, to kwestia białoruska zostanie tam załatwiona. (...) Naród białoruski nie miał przedstawicieli do Gosudarstwiennoj Dumy, a jednak żył, żyje i upomni się o swoje prawa" (12 posiedzenie z 9.02.1931 r.)[4]. „Społeczeństwo białoruskie, widząc codziennie ten stosunek do siebie społeczeństwa polskiego i administracji, zasklepia się w sobie i nieufność jego – nie chcę użyć bardziej ostrego określenia – nie tylko nie zmniejsza się, lecz

[1] *Sprawozdania...*, 4 pos., 30.03.1928 r., łam 35–36.
[2] *Ibidem,* 12 pos. 30.05.1928 r., łam 82.
[3] *Ibidem*, łam 81.
[4] *Ibidem*, 12 pos., 9.02.1931 r., łam 46–47.

coraz więcej się potęguje. Przepaść między narodami polskim a białoruskim pogłębia się. I ten smutny fakt jest jedyną konsekwencją dotychczasowej polityki polskiej. Nie wiem, czy próbował kto w Polsce rozpatrzeć przebieg stosunków polsko-białoruskich, i zrobić odpowiedni bilans strat i zysków w tej dziedzinie. (...) Gdybym chciał najjaskrawiej zobrazować ten przebieg i rezultat polityki polskiej wobec narodu białoruskiego, nie znalazłbym lepszego bodaj przykładu, jak historia znanego Panom wybitnego przedstawiciela Białorusinów b. posła Taraszkiewicza. Niegdyś na wyzwoleńczych sztandarach polskich wypisane było złotymi literami hasło: «Za waszą i naszą wolność». Młody Taraszkiewicz – a czy tylko on jeden? – entuzjastycznie przejął się tym hasłem i jeszcze na ławach gimnazjalnych należał do nielegalnej organizacji polskiej (...) Ewolucja, którą przeszedł Taraszkiewicz, jest jednocześnie ewolucją szerokich mas białoruskich. I one odwróciły się od Polski, a swoje oczekiwania skierowały na wschód, będąc w zasadzie przeciw komunistom, jako masy chłopskie. Prawda, i tam nie ujrzały światła. Coraz więcej naród białoruski przekonywa się, że i w Rosji Sowieckiej tak samo niszczy się ruch białoruski. Słyszymy, że naszych działaczy narodowych, w tym i tych, którzy z Polski uciekli i którzy byli w Polsce zasądzeni na 12 lat katorgi, tam ich prawie wszystkich zamordowano lub zesłano do Sołówek. A w jakiej mierze może być pociechą dla Polski to, że i w Rosji bolszewickiej naród białoruski nie znalazł zadowolenia? Czy sądzą Panowie, że przez to samo, że w bolszewii nam jest źle, u nas zrodzi się przekonanie i poczucie, że tu w Polsce nam jest dobrze? Czy może zadowolić Was stwierdzenie metodą porównawczą, że w Rosji sowieckiej Białorusinom jest gorzej, niż w Polsce? Dla nas całkiem nieistotne jest takie porównanie, bo nic nam ono nie daje. Przecież zło, jeśli jest mniejsze od innego zła, nie staje się dobrem. (...) Uważam, że czas najwyższy skończyć z polityką eksterminacyjną wobec narodu białoruskiego, albowiem ta polityka i różnorodne eksperymenty na naszych ziemiach nic nie dały ani Państwu Polskiemu, ani narodowi białoruskiemu” (139 posiedzenie Sejmu z 6.02.1935 r.)[1].

Po wyborach parlamentarnych w 1935 r. nie było już żadnego Białorusina w parlamencie II Rzeczypospolitej. Organizacje białoruskie zostały zlikwidowane – istniał tylko Białoruski Związek Akademicki (Biełaruski Studencki Sajuz) jako autonomiczna organizacja uniwersytecka przy USB w Wilnie. Czym wówczas zajmował się F. Jeremicz? Gdzie pracował? Wiadomo, że wybudował dom w Kolonii Wileńskiej (obecnie: Povilnius). Współfinansował tam budowę kościoła. W 1939 r. w piśmie „Шлях Моладзі” ukazał się nekrolog o śmierci ojca F. Jeremicza – Macieja, który zmarł 15 stycznia 1939 r. w Dulowcach i został pochowany na cmentarzu w Repli[2]. F. Jeremicz miał syna, który zmarł w dzieciństwie i córkę Walentynę, która urodziła się

[1] *Sprawozdania....,* 139 pos., 6.02.1935 r., łam 50–53.
[2] „Шлях Моладзі” 1939.

2 września 1919 r. w Wilnie. Przed wojną zaczęła studiować medycynę na Uniwersytecie Stefana Batorego[1].

Odnośnie życia i działalności F. Jeremicza można stawiać wiele pytań. Zachowały się jego przemówienia sejmowe, świadczące o jego niezależnym charakterze i zaangażowaniu w ruch białoruski. W bibliotekach zachowały się egzemplarze gazety "Сялянская Ніва". F. Jeremicz wychował przynajmniej jednego swego następcę, zabierając do Wilna 16-letniego kuzyna Jazepa Najdziuka z Bojdat, który stał się aktywnym działaczem białoruskim i kierował białoruską drukarnią im. Franciszka Skaryny w Wilnie. Był ojcem chrzestnym jego córki Reginy, która dotychczas mieszka w Wilnie[2]. Po wrześniu 1939 r. F. Jeremicz znalazł się we Francji. Co tam robił? Wrócił stamtąd w 1941 r., gdy zaczęła się wojna niemiecko-radziecka. Pracował w administracji Mińska i Borysowa, gdzie był burmistrzem. W czerwcu 1944 r. brał udział w II Ogólnobiałoruskim Kongresie w Mińsku. Po wojnie wrócił do Wilna, gdzie został aresztowany i skazany na karę więzienia, najpierw w Orszy, a potem został zesłany do Mordwy. Żona z córką wyjechała do Warszawy w ramach repatriacji. Po 10-ciu latach zsyłki, w 1956 r. wrócił do Dulowców, by podziękować przyrodniemu rodzeństwu za wsparcie w czasie zesłania poprzez przysyłane mu paczki żywnościowe. Po roku wyjechał do rodziny w Warszawie. Przebył tam kilka miesięcy – w Polsce nie spodobało mu się. W Wilnie miał swój dom, który został znacjonalizowany po aresztowaniu go. Dzięki pomocy męża chrześniaczki Reginy Bluvsztejn, który był prawnikiem, udało mu się odzyskać od państwa dom w Kolonii Wileńskiej. Żył tam sam. Odwiedzali go dawni znajomi. W swoim domu odświętował 67 urodziny[3]. Piotr Serhijewicz namalował jego portret.

F. Jeremicz zmarł 29 czerwca 1958 r. w swoim domu po ciężkiej pracy w ogrodzie na wylew krwi do mózgu. Na pogrzeb przyjechała z Warszawy córka Walentyna. Przyszli dawni przyjaciele Białorusini, Polacy, Litwini, Rosjanie i Żydzi. Trumna z jego ciałem została przeniesiona na miejscowy cmentarz. Jego pogrzeb stał się wielką żałobną manifestacją narodową. Po śmierci F. Jeremicza, z upoważnienia jego córki Walentyny, Regina Bluvsztejn sprzedała jego dom[4]. W Kolonii Wileńskiej pozostała tylko jego kuzynka Marysia z Dulowców, córka jego przyrodniej siostry Urszuli, którą F. Jeremicz wydał za mąż za syna znanego działacza białoruskiego Adolfa Klimowicza. Zmarła ona w czerwcu 2007 r., ale jeszcze rok przed śmiercią zdążyła opowiedzieć o swoim wujku.

Zupełny przypadek sprawił, że udało się odnaleźć w Warszawie wnuczkę F. Jeremicza – Joannę Żubrowską. Poinformowała ona, że Apolonia Jeremicz zmarła w 1980 r. w Warszawie, a Walentyna Jeremicz, która ukończyła medycynę w Warszawie i pracowała jako lekarz, zmarła 29 czerwca 1990 r. –

[1] Na podstawie informacji Julii Bagniewskiej, zam. w Gdyni, oraz córki Walentyny – Joanny Żubrowskiej, zam. w Warszawie.

[2] Na podstawie relacji Reginy Bluvsztejn, zam. w Wilnie.

[3] Okres powojenny życia F. Jeremicza opisano na podstawie relacji Reginy Bluvsztejn, zam. w Wilnie.

[4] Na podstawie relacji Reginy Buvsztajn, zam. w Wilnie.

dokładnie 32 lata po śmierci ojca. Joanna Żubrowska niewiele wiedziała o swym dziadku – dopiero zaczęła się interesować swym pochodzeniem. Udało się do niej dotrzeć dzięki temu, że jej córka Magda zaprzyjaźniła się z Piotrem, praprawnukiem mińskiego lekarza Ryszarda Janowskiego[1].

J. Najdziuk, wspominając w 1958 r. F. Jeremicza na łamach pisma „Źnič", które ukazywało się w Rzymie, pisał: „Žyćcio i praca św. P. Fabijana Jaremiča heta biazumoŭna vialiki kavałak historyi zmahańnia Biełaruskaha narodu za lepšuju budučyniu. (...) Rasstaŭsia z hetym śvietam vialiki biełaruski dziejač, zmahar, mučanik i vierny syn Biełarusi... Śpi spakojna Darahi Druža! Śpi i śni ab Biełarusi, jakaja žyvie i žyć budzie viečna. (...) Biełarusy napeŭna nie zabudué pra Ciabie..."[2].

*Helena Głogowska*

**"I'm like a representative of the Belarusian nation....": Fabian Jeremicz in the Parliament of the 1918–1939 Second Polish Republic and in the Belarusian Movement**

A b s t r a c t

Fabian Jeremicz (1891–1958) was the most eminent person of all the Belarusians involved in politics during the period of the Second Polish Republic. In the years 1922–1935 he was a deputy to the Polish Parliament for three terms. He still remains in the shadow of other Belarusian activists, including former parliamentarians, although his achievements for the Belarusian movement were significant. Apart from his parliamentary activity, he was a member of the Belarusian National Committee, as well as a member of the Belarusian Country Union. He also published the "Sialanskaja Niva" newspaper and was a co-founder of the Francis Skaryna Belarusian Printing Works in Vilnius.

[1] Relacja Julii Bagniewskiej (1921–2015), zam. w Gdyni.

[2] J. S-nok, *op. cit.*, s. 5.

**Юры Грыбоўскі**
Варшава

# Узаемадачыненні паміж польскім і беларускім рухамі ў Латвіі (1920–1940)

Польска-беларускія ўзаемаадносіны ў XX ст. ужо неаднойчы былі прадметам даследчыцкай увагі. Па цалкам аб'ектыўных і зразумелых прычынах большасць працаў тычыцца праблематыкі звязанай з беларускай меншасцю ў II-й Рэчы Паспалітай. Тым часам у навуковай літаратуры практычна адсутнічаюць даследаванні, прысвечаныя пытанню польска-беларускіх кантактаў на тэрыторыі суседніх дзяржаваў. Дадзеная публікацыя з'яўляецца спробай асвятлення польска-беларускіх адносінаў у Латвіі ў 1920–1940.

Латвійская Рэспубліка, якая ўзнікла на палітычнай мапе Еўропы пасля Першай сусветнай вайны, мела шматнацыянальны склад. У ліку нацыянальных меншасцяў знаходзіліся таксама беларусы і палякі. Статыстычныя дадзеныя наконт колькаснага складу беларускага і польскага насельніцтва ў міжваеннай Латвіі адлюстроўвае наступная табліца:

| **Нацыянальнасць** | **1920** | **1925** | **1930** | **1935** |
|---|---|---|---|---|
| Беларусы | 75 630 (4,74%) | 38 010 (2,06%) | 36 029 (1,90%) | 26 867 (1,38%) |
| Палякі | 54 567 (3,42%) | 51 143 (2,77%) | 59 374 (3,12%%) | 48 949 (2,51%%) |

Крыніца: J. Albin, *Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919–1940,* Wrocław 1994, s. 12.

Кажучы пра ўзаемадачыненні паміж латвійскімі палякамі і беларусамі належыць адзначыць, што тычыліся яны адносінаў паміж прадстаўнікамі нацыянальных элітаў. У сувязі з гэтым варта прыглядзецца да гісторыі польскага і беларускага рухаў у Латвіі і працэсу іх арганізацыйнага фармавання. Першапачаткова апорай мясцовай польскай культуры былі прадстаўнікі шляхецкага саслоўя і буйных землеўласніцкіх родаў, якія жылі ў Латгаліі. У другой палове XIX ст. асноўнымі асяродкамі польскага культурнага жыцця сталі гарады, дзе нарадзілася дробная інтэлігенцыя і працоўны клас. У найбуйнейшы цэнтр польскай грамадска-культурнай актыўнасці ператварылася Рыга. На хвалі першай расійскай рэвалюцыі ў 1906 г. у Рызе пачало дзейнічаць Польскае таварыства "Асвета", з'явілася прыватнае школьніцтва. Пазіцыя мясцовай польскай супольнасці была значна аслабленая ў выніку зямельнай рэформы, праведзенай латвійскімі ўладамі ў першыя гады незалежнасці Латвіі. Аднак дзякуючы

намаганням інтэлігенцыі ў міжваеннай латвійскай дзяржаве быў створаны шэраг польскіх культурна-асветніцкіх і грамадска-палітычных арганізацыяў. Найбуйнейшай арганізацыяй быў Саюз палякаў у Латвіі (СПЛ, 1922–1931). Ягоную дзейнасць працягвала Польскае нацыянальнае аб'яднанне ў Латвіі (ПНАЛ, 1932–1934). Тэма польскага руху ў Латвіі добра распрацаваная ў гістарыяграфіі[1].

Па-іншаму выглядалі народзіны беларускага жыцця ў Латвіі. Першыя спробы беларускага адраджэнскага руху на тэрыторыі гэтай краіны адбыліся падчас Першай сусветнай вайны і адразу пасля яе заканчэння. Заснавальнікамі беларускага грамадска-палітычнага жыцця была група дзеячаў БНР, якія ў выніку палітычных абставінаў апынуліся ў Латвіі. У 1919 г. распачала сваю дзейнасць Вайскова-дыпламатычная місія БНР на чале з Кастусём Езавітавым. Адчыніліся дыпламатычныя прадстаўніцтвы БНР у Рызе і Лібаве. Тады ж актывізавалася мясцовая беларуская калонія[2]. Пасля Рыжскага міру некаторыя беларускія дзеячы, у тым ліку Езавітаў, абралі Латвію ў якасці сталага месца жыхарства. Да іх далучылася група аднадумцаў, якія прыбылі з Польшчы (Іван Краскоўскі, Андрэй Якубецкі, Паўліна Мядзёлка і інш.). Гэтая нешматлікая група дзеячаў стала ля вытокаў беларускага нацыянальна-культурнага, асветнага і грамадска-палітычнага жыцця ў Латвіі ў міжваенны перыяд. Да эмігрантаў пачалі далучацца мясцовыя актывісты. На працягу невялікага часу ўдалося разгарнуць шпаркую грамадска-культурную, асветную, выдавецкую і палітычную чыннасць. Першай і найбуйнейшай арганізацыяй латвійскіх беларусаў можна лічыць беларускае культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына", якое дзейнічала ў 1921–1925 гг. У пазнейшы перыяд яго працу працягвалі таварыства "Рунь", "Беларуская хата", а таксама Беларускае настаўніцкае таварыства. Неабходна адзначыць, што беларускі рух ствараўся "з нуля", паколькі да Першай сусветнай вайны ў Латвіі адсутнічалі якія-колечы праявы беларускай нацыянальнай дзейнасці. Дзякуючы ахвярным высілкам нешматлікай групы людзей Латвійская Рэспубліка, побач з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі (Польшча, Чэхаславаччына, Літва), стала адным з галоўных асяродкаў беларускага руху

[1] Першыя спробы даследавання сітуацыі мясцовых палякаў рабіліся ўжо ў міжваенны час. Гл.: K. Keller, *Stosunki narodowościowe, społeczne, ekonomiczne na Inflantach Polskich i polityczne w Łatgalii,* Rypin 1920; E. Maliszewski, *Polacy na Łotwie,* Warszawa 1922; J. Różycki, *Polacy na Łotwie,* Warszawa 1930; W. Sworakowski, *Polacy na Łotwie: uwagi o ich liczbie i rozmieszczeniu, składzie wyznaniowym, podziale według płci i wieku, analfabetyzmie i strukturze społeczno-gospodarczej na podstawie łotewskiego spisu ludności 1930 r.,* Warszawa 1934. Сярод сучасных даследаванняў неабходна згадаць: *Polacy na Łotwie,* red.: E. Walewander, Lublin 1993; J. Albin, *Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919–1940,* Wrocław 1994; A. Skrzypek, *Stosunki polsko-łotewskie 1918–1939,* Gdańsk 1997.

[2] Гл.: Ē. Jēkabsons, *Stosunki między Łotwą i Białoruską Republiką Ludową w latach 1919–1921,* „Białoruskie Zeszyty Historyczne" 1997, z. 7, s. 49–62.

ў міжваенны час. Належыць прызнаць, што праблематыка беларускага руху ў Латвіі да сённяшняга часу даследавана ў нязначнай ступені[1].

Польскія і беларускія актывісты ў Латвіі апынуліся ў рознай сітуацыі. Польскія дзеячы выкарыстоўвалі досвед і магчымасці папярэдніх пакаленняў. Было гэта магчыма, бо да XX ст. у рэгіёне існавалі моцныя польскія эканамічныя і культурныя ўплывы. Акрамя таго, мясцовыя польскія арганізацыі маральна і матэрыяльна падтрымліваліся польскай дзяржавай, якая таксама аказвала ім дыпламатычную дапамогу ў сітуацыях, калі адбываліся канфлікты паміж уладамі ў Рызе і тутэйшымі польскімі дзеячамі. Напрыклад, у 1931 г. латвійскія ўлады спынілі дзейнасць Саюзу палякаў у Латвіі. У адказ Польшча выказала пратэст супраць гэтых дзеянняў. У выніку ў 1932 г. улады ў Рызе пагадзіліся на рэгістрацыю новай арганізацыі латвійскіх палякаў[2]. У іншай сітуацыі знаходзіліся беларускія дзеячы. Характэрнай рысай мясцовага беларускага руху была адсутнасць моцнае гаспадарчае базы. У сувязі з гэтым беларускія дзеячы заўсёды мусілі змагацца з матэрыяльнымі цяжкасцямі. Беларуская інтэлігенцыя, асабліва на пачатку, была вельмі нешматлікая. Пацвярджаюць гэта словы К. Езавітава, які ў сваім нарысе пра беларусаў у Латвіі пісаў: „Беларуская грамадскасць у Латвіі складалася ў 1921–1922 гг. з двух-трох свядомых беларускіх асветнікаў, якія ўжо раней прымалі актыўны ўдзел у беларускім руху, ды з даволі

---

[1] Піянерскую спробу асвятлення гісторыі беларусаў у Латвіі зрабіў К. Езавітаў (К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі,* Ryga 1927 [перадрук: Нью-Ёрк – Мінск 2013]). Працяглы час нарыс К. Езавітава быў адзінай [не лічачы прапагандовай заідэалагізаванай брашуры Яна Доўгага пад адыёзнай назвай *Беларускі нацыянал-фашызм у Латвіі* (Мінск 1934)] працай, прысвечанай гісторыі беларусаў у Латвіі. Гэту працу выкарыстоўвалі іншыя даследчыкі беларускай мінуўшчыны, якія жылі ў Беларусі і на эміграцыі (Я. Найдзюк, І. Касяк, *Беларусь учора й сяньня*, Мінск 1993, с. 221–228). Кажучы пра набыткі сучаснай гістарыяграфіі належыць адзначыць, што большасць працаў, якія выйшлі ў Беларусі цягам апошніх 25 гадоў, прысвечана асобным эпізодам і постацям беларускага руху ў Латвіі. Гл.: М. Ліс, *Сяргей Сахараў. Асветнік, змаганец, фалькларыст,* "Літаратура і Мастацтва" 1993, №52, с. 13; *Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі,* Мінск 2003; Н. Слука, *Часопісы беларускай эміграцыі ў Латвіі ў міжваенны перыяд (на аснове фондаў рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі)* [у:] *Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі,* Мінск 2013, с. 189–195; Ю. Гарбанава, *"Голас Беларуса" – газета беларускай дыяспары ў Латвіі пачатку XX стагоддзя,* "Беларуская лінгвістыка" 2015, т. 75, с. 85–91; С. Сахараў, В. Сахарава, *Выбраныя творы*, Мінск 2015; П. Сокал, В. Казлоўская, *Выбраныя творы*, Мінск 2016. Асобнай увагі заслугоўваюць даследаванні латвійскіх аўтараў. Гл.: I. Apine, *Baltkrievi Latvijā*, Riga 1995; Э. Екабсонс, *Белорусы в Латвии в 1918–1940 годах* [у:] *Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый: Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў*, Мінск 2001; К. Казачёнок, *"Белорусский процесс" в Латвии: обвинение, оправдание, наказание* [у:] *Латыши и беларусы: вместе сквозь века. Сборник научных статей*, рэд. М. Каралёў, Мінск 2012, с. 29–42.

[2] Ē. Jēkabsons, *Mniejszość polska w Republice Łotewskiej 1918–1939* [w:] *Polacy na Łotwie,* red. E. Walewander, Lublin 1993, s. 156.

значнай і стойкай групы настаўнікаў-беларусаў, якія хаця-ж да гэтага часу і не бралі ўдзелу ў беларускай адраджэнчай працы, аднак па першым закліку шчыра ўсім сэрцам адгукнуліся і прынялі дужа чынны і актыўны ўдзел як у стварэнні Т-ва "Бацькаўшчына", гэтак і ў працы яго"[1]. Развіццё нацыянальнага жыцця ўскладняў факт, што на палітычнай мапе не існавала незалежнай беларускай дзяржавы, якая падтрымлівала б суродзічаў у Латвіі. Праўда, лідары латвійскіх беларусаў (перадусім К. Езавітаў) утрымлівалі сувязь з Савецкай Беларуссю. Вялося супрацоўніцтва ў культурна-асветнай галіне. Аднак дапамога з боку БССР не адпавядала патрэбам беларускай меншасці ў Латвіі. Савецкі бок выкарыстоўваў гэтых людзей у сваіх мэтах, а з пачаткам згортвання беларусізацыі актыўнае супрацоўніцтва спынілася.

Польскі і беларускі лагеры ў Латвіі апынуліся ў становішчы зацятага канфлікту інтарэсаў. Асноўнай крыніцай непаразуменняў і разыходжанняў было тое, што абодва бакі мелі адну сацыяльную базу, якая дазваляла б ім развівацца. У сваёй большасці палякі і беларусы ў Латвіі былі аўтахтонным насельніцтвам. Асноўным месцам жыхарства і адных, і другіх была паўднёва-ўсходняя частка Латвіі (Латгалія і Ілукшчына). У Сярэднявеччы гэтыя тэрыторыі былі заселеныя балцкімі плямёнамі. З'яўленне беларусаў і палякаў было вынікам складаных гістарычных і этнакультурных працэсаў, якія адбываліся на гэтым абшары на працягу некалькіх стагоддзяў. Пад уплывам шэрагу чыннікаў праходзіла паступовая моўная асіміляцыя (славянізацыя) тутэйшага насельніцтва. Праблема аднак заключалася ў тым, што на пачатку XX ст. нацыянальная самасвядомасць значнай часткі славянамоўных жыхароў Латгаліі яшчэ знаходзілася ў стадыі фармавання. Мясцовыя сяляне былі трывала звязаныя са сваім рэгіёнам і сваёй ("тутэйшай") культурай і не заўсёды ўсведамлялі сябе часткай нечага большага. На мяжы XIX і XX ст. ствараліся перадумовы да таго, каб мясцовае сялянства набывала нацыянальную свядомасць. У выніку ідэнтычнасць латгальскай вёскі пачала паступова эвалюаваць у бок польскасці, латышскасці, беларускасці. Істотную ролю ў гэтым працэсе адыгрывала веравызнанне. Даследчык П. Эберхард піша, што пад уплывам каталіцкага духавенства і шляхты на паўночным беразе Дзвіны з'явіліся абшары з польскім вясковым насельніцтвам[2]. Па-ранейшаму аднак значная частка жыхароў латгальскай вёскі мела клопаты з нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй. У штодзённым жыцці гэтыя сяляне карысталіся "простай" моваю, якая з'яўлялася дыялектам беларускай альбо мяшанкай беларуска-польскіх гаворак з элементамі расійскай і латышскай моваў[3]. У рэлігійным жа жыцці латгальскіх каталікоў

[1] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, с. 98.

[2] P. Eberhardt, *Liczebność i rozmieszczenie ludności polskiej na Łotwie*, „Czasopismo Geograficzne" 1997, t. 3–4, s. 288.

[3] Беларускія гаворкі ў Латвіі ўжо былі прадметам даследчыцкай увагі. Гл.: M. Jankowiak, *Gwary białoruskie na Łotwie w rejonie krasławskim: studium socjolingwistyczne*, Warszawa 2009.

дамінавала польская мова. Моўная сітуацыя была вельмі заблытанай, пра што яскрава сведчаць вынікі перапісаў насельніцтва. Так, напрыклад, падчас чарговага перапісу, які адбыўся ў 1930 г., 1 138 палякаў падало, што ў штодзённым жыцці карыстаецца беларускай мовай, а 923 беларусы пазначылі польскую як мову, на якой размаўлялі ў хаце[1]. Згаданыя выпадкі былі натуральнай з'явай на этнічным і моўным памежжы.

Менавіта мясцовыя жыхары Латгаліі каталіцкага веравызнання, якія "размаўлялі па-беларуску, а маліліся па-польску", у міжваенны час былі аб'ектам культурнай і палітычнай экспансіі польскага і беларускага рухаў. Праблемы тутэйшага сялянства з нацыянальнай самаідэнтыфікацыяй стваралі шанец абодвум лагерам, каб змагацца за яго "галасы і душы". Як польскія, так і беларускія дзеячы залічвалі "тутэйшых" да свайго народу. Абодва бакі займалі бескампрамісную пазіцыю. Пры вызначэнні нацыянальнага паходжання кожны з бакоў выкарыстоўваў у сваіх мэтах тыя крытэрыі, якія найбольш адпавядалі яго інтарэсам. Беларускія дзеячы падкрэслівалі моўны чыннік у якасці прыкметы, якая мела сведчыць пра прыналежнасць да беларускай нацыянальнасці. Прычыны адсутнасці ў беларускамоўных каталікоў беларускай самасвядомасці бачыліся ў працяглай паланізацыі рэгіёну[2]. Аргументы дзеячаў беларускага руху зводзіліся да сцвярджэння аб тым, што палякі ў Латвіі прадстаўлены нешматлікай групай буйных землеўласнікаў і шляхты. Пры гэтым ігнараваўся факт, што сярод латгальскіх сялянаў таксама ёсць палякі. Пункт гледжання беларускіх дзеячаў у гэтай справе адлюстроўвае пазіцыя К. Езавітава, які пісаў: „Аказалася, што «палякаў» у Латгаліі і Ілукшчыне зусім ня так ужо многа, а што большасьць залічанае да палякаў люднасці зьяўляюцца беларусамі-католікамі, якім польскія паны ды ксяндзы задурылі галаву тым, што – «калі ты каталік, дык знача – паляк». Люднасць гэта ніколі ня ведала польскае мовы і нават не разумела яе. Некольні польскіх малітваў завучывалася напамяць часта-густа без разумення і зместу гэтае малітвы"[3]. Не менш катэгарычнымі былі дзеячы польскага руху, якія былі схільныя лічыць "тутэйшых" палякамі, якія страцілі родную ідэнтычнасць і мову пад уплывам шматгадовай русіфікатарскай палітыкі царызму. Беларускасць латгальскіх сялянаў успрымалася некаторымі мясцовымі польскімі дзеячамі як сінонім "паў-расійскасці", штучная з'ява, вынік русіфікацыі тутэйшага польскага насельніцтва. У якасці аднаго з асноўных крытэрыяў прыналежнасці да польскай нацыянальнасці лічылася канфесійная прыкмета, а моўны чыннік разглядаўся як другасны. Пры гэтым падкрэслівалася адрознасць мясцовых гаворак ад беларускай літаратурнай мовы. У адным з артыкулаў чытаем: „засцянковая польская шляхта, якая асела, у адносінах

---

1 W. Sworakowski, *Polacy na Łotwie…*, s. 12–13.

2 *Паланізацыя ў Латвіі,* "Беларускае Слова" 1931, №1, с. 3.

3 Кастусёнак, *Кракадзілавы сьлёзы,* "Голас Беларуса" 1926, №35, с. 1.

з навакольным насельніцтвам, а нават паміж сабою пачала карыстацца беларускай мовай, але сфармаванай на свой польскі лад і цалкам адрознай ад той, на якой выдае сп. Езавітаў свой «Голас Беларуса». Гэта шляхта, прыняўшы беларускую гаворку ў штодзённым жыцці, ужывае польскую мову на святы, адчувае і думае шчыра па-польску, у касцёле моліцца з польскай кніжкі і вельмі абураецца, калі ёй (...) хочуць запоўніць дзірку ў беларускай нацыянальнасці”[1]. Характэрнай рысай стаўлення мясцовых беларускіх і польскіх актывістаў да маласвядомых суродзічаў было падкрэсліванне іх імаверных немясцовых каранёў. Напрыклад, у працах беларускіх дзеячаў можна сустрэцца з поглядам, што латвійскія беларусы з’яўляюцца нашчадкамі полацкіх крывічоў. У публікацыях і выказваннях польскіх аўтараў можна трапіць на згадку, што мясцовыя палякі – гэта нашчадкі шляхты, якая ў часы Стэфана Баторыя прыбыла на Дзвіну з Польшчы.

Падчас змагання за “галасы і душы” тутэйшага сялянства з выразна неакрэсленай нацыянальнай самасвядомасцю польскія і беларускія дзеячы Латвіі мусілі сутыкнуцца з праблемай палітычнай і грамадскай пасіўнасці латгальскай вёскі. Прадстаўнікі беларускага руху досыць часта наракалі на несвядомасць і неарганізаванасць беларускіх масаў Латгаліі, якія ў сваёй большасці былі абыякавымі да беларускіх справаў. Для тутэйшага беларускамоўнага сялянства родная (“простая”, “мужыцкая”) мова і культура не ўяўлялі дастатковай каштоўнасці, бо не мелі сацыяльнага прэстыжу. Інакш успрымалася польская мова і культура, якія лічыліся прыкметай прыналежнасці да вышэйшай сферы. К. Езавітаў з жалем пісаў: „беларускія мяшчане-каталікі знаходзяцца пад польскімі ўплывамі, хварэюць на панства і лічуць сябе палякамі, бо згодна іхняму разуменню, быць палякам лепш, чым быць «простым» беларускім селянінам, або рабочым”[2]. Аднак і польскія дзеячы таксама мелі значныя праблемы з прыцягненнем на свой бок пасіўнага сялянства. Кіраўнікі польскіх арганізацыяў з сумам сцвярджалі, што латвійскія палякі „гэта не свядомы і аднародны польскі элемент Заользінскай Сілезіі”[3].

На старонках сваёй прэсы беларускія і польскія дзеячы агітавалі за тое, каб “тутэйшыя” сяляне вызначыліся наконт свайго нацыянальнага паходжання. У адной з адозваў, выдадзеных польскімі арганізацыямі, чытаем: „Большасць нас, палякаў, якія даўно аселі ў Латгаліі, размаўляе па-польску так дрэнна, што неаднойчы задумваемся над пытаннем, ці з’яўляемся мы палякамі, а можа, таксама беларусамі альбо латышамі? На вёсцы, асабліва ва ўсходняй частцы Латгаліі, палякі маюць дзве мовы: адну для касцёла і важнейшых момантаў – лепшую, правільную амаль добрую пальшчызну, а штодзённа «простую» мову, вельмі

[1] *Czy po to Batory przywiódł nas nad Dźwinę byśmy powiększali szeregi Białorusinów? Błędy urzędowej statystyki narodowościowej,* „Tygodnik Polski” 1928, №119, с. 2.
[2] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...,* с. 40.
[3] J. Albin, *Polski ruch narodowy...,* s. 28.

падобную да беларускай мовы. Такім чынам, якая ж мова наша родная: польская ці беларуская? (...) Калі ўзяць пад увагу, што палякі ў Латгаліі знаходзяцца далёка ад стрыжня польскага народу і вельмі доўга карыстаюцца гэтай чужой, паў-беларускай мовай, няма нічога дзіўнага, што пачынаюць мець сумневы ў чысціні свайго польскага паходжання. Ні адзін з тых нібы беларусаў, які гаворыць "па-просту", захоўвае як найкаштоўнейшую сямейную рэлікію нейкі каралеўскі пергамент, што найлепшым чынам сведчыць пра яго мазурскае паходжанне. Зрэшты, усе гэтыя моўныя даследаванні для сапраўднага акрэслення нацыянальнасці дадзенай асобы маюць другаснае значэнне. Сёння, калі гэтак нізка ў культурным сэнсе размешчаныя народы, як чувашы, ужо «самаакрэсліваюцца», не толькі мова, але і цэласць нацыянальнай адметнасці павінна вырашаць (...) Дык і пры ўсіх сумневах нашых «беларусаў», г. зн. палякаў, якія дрэнна размаўляюць па-польску, задаем пытанне востра, рашуча: кім сябе лічыш – палякам ці маскалём? Бо трэцяе – беларусам – гэта лухта і задурванне галавы. Калі ты молішся па-польску, думаеш як паляк, калі лёс польскага народу табе дарагі і блізкі – скажы сабе рашуча, што ты паляк і злучыся з Польшчай"[1]. Дзеля параўнання варта таксама працытаваць беларускую адозву да сялянаў, выдадзеную ў 1930 г. з нагоды набліжэння даты перапісу насельніцтва: „Памятайце, што чалавек вырэкаючыйся і саромячыйся сваёй беларускай нацыянальнасці ёсць здраднік свайго народу! Ня мяшайце толькі нацыянальнасць і рэлігію. Ад таго, што ты ходзіш маліца Богу ў царкву, ты не ёсць «русскій», а ад таго, што ходзіш у касцёл, ты не ёсць «паляк». Ці ты каталік, ці праваслаўны, ці нават стараабрадзец, але па нацыянальнасці ты ёсць беларус і такім павінен застацца. Ня слухай, беларусе, калі табе будзе хто-небудзь напеваць салодкія песні аб тым, каб ты адрокся-бы ад сваёй нацыі і назваў-бы сябе «русскім» ці «поляком», ці яшэ кім-небудзь. Ты радзіўся беларусам! Твае дзяды і прадзеды былі беларусамі! Ты гутарыш па беларускі! Ты спяваеш беларускую песню! Таму ты павінен застацца беларусам усюды, дзе б ты ня быў і хто-бы цябе не запытаў. А таму ты, беларус, кудыбы лёс цябе не закінуў, павінен у час перапісу запісацца беларусам"[2].

Істотны ўплыў на польска-беларускую канфрантацыю мела пазіцыя латвійскіх уладаў. У першыя гады незалежнасці латвійскай дзяржавы ўлады ў Рызе па палітычных меркаваннях дзейнічалі на карысць беларускага руху. Адносіны паміж Польшчай і Латвіяй у міжваенны час наогул былі добрасуседскімі і сяброўскімі. Тым не менш прысутнічалі пэўныя канфліктныя моманты, да якіх належыць залічыць наяўнасць спрэчных тэрыторыяў. У першыя гады існавання латвійскай дзяржавы

[1] Цыт. па: J. Albin, *Polski ruch narodowy...*, s. 27–28.

[2] *Адозва да беларусаў Латвіі,* "Наша Доля" 1930, №2, с. 1.

справа яе межаў яшчэ не была канчаткова вырашана[1]. Акрамя таго, латышскі бок асцерагаўся росту польскага руху ў Латгаліі, сярод якога, на думку латышоў, назіраліся сепаратысцкія тэндэнцыі. Беларусы разглядаліся як супрацьвага польскім уплывам. Яскрава сведчыць аб гэтым урывак з нататкі кіраўніка школьнай управы Дзвінска Себасц'яна Паберка, які 15 красавіка 1924 г. пісаў да Міністэрства асветы: „Латышы павінны падтрымліваць дзеянні беларусаў да моманту, пакуль мы не ўзмоцнімся, тым самым мы аслабім польскія ўплывы. Асабліва належыць так рабіць у шасці гмінах Ілукшчынскага павету, пра лёс якіх – далучэнне да Польшчы – штодзённа штораз мацней пачынаюць рупіцца шавіністычна настроеныя польскія дзеячы [...] таму пажадана, каб перапіс насельніцтва ў 1925 г. узмоцніў беларускія ўплывы. Гэтым самым мы аслабім небяспечныя з гледзішча дзяржаўных інтарэсаў польскія ўплывы, а адначасова ўзмоцнім латышскасць"[2]. У кантэксце вышэйзгаданага выказвання ўплывовага латышскага ўрадоўца належыць пагадзіцца з Ё. Героўскай-Калаўр, якая лічыць, што з гледзішча інтарэсаў латвійскай дзяржавы лепш было падтрымаць кепска арганізаваных беларусаў у супрацьвагу мацнейшым у арганізацыйным, палітычным і гаспадарчым сэнсе палякам[3]. У сувязі з гэтым латышы былі схільныя залічваць несвядомую масу "тутэйшых" да беларусаў, а не да палякаў, што знайшло сваё адлюстраванне падчас правядзення ўсеалатвійскага перапісу насельніцтва ў 1920 г. Тады латвійскія ўрадоўцы запісвалі славянамоўных жыхароў Латгаліі беларусамі, незалежна ад стану іх нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Невыпадкова, што польскія дзеячы слушна лічылі вынікі перапісу 1920 г. тэндэнцыйнымі і неадпаведнымі сапраўднасці. Ежы Ружыцкі ў сваёй працы адзначаў: „Латвійскі ўрад у супрацьвагу палякам пачаў моцна не толькі падтрымліваць, але наўпрост ствараць беларускі рух, адчыняючы шэраг школаў і ўстановаў, якія павінны выконваць гэтае заданне. Нярэдка здараліся выпадкі, калі ўрадоўцы, праводзячы перапіс насельніцтва, самі кваліфікавалі дадзенага жыхара як беларуса"[4]. Цікава, што нават беларускі бок прызнаваў, што ў 1920 г. у некаторых рэгіёнах латвійскія ўрадоўцы запісвалі беларусамі тых, хто не належыць да гэтай нацыянальнасці[5]. Нагадаем, што паводле гэтага перапісу ў межах Латвіі пражывала звыш 75 тыс. беларусаў. У выніку

[1] Перадусім тычылася гэта Ілукшчынскага павету. У 1919 г. гэты павет знаходзіўся пад кантролем польскіх войскаў. Выкарыстоўваючы бягучую палітычна-вайсковую сітуацыю, калі польскія войскі былі вымушаны адступіць на захад перад наступам бальшавікоў, у ліпені 1920 г. латвійскі бок заняў Ілукшчыну і стварыў там сваю адміністрацыю.

[2] Цыт. па: Э. Екабсонс, *Белорусы в Латвии...*, s. 3.

[3] J. Gierowska-Kałłaur, *Stosunek państwa łotewskiego do miejscowych Polaków i Białorusinów w początkach niepodległości łotewskiej,* „Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej" 2011, t. 46, s. 193–194.

[4] J. Różycki, *Polacy w Łotwie...*, s. 8–9.

[5] Б. Зароўскі, *Ілукшчына чакае беларускай працы,* "Голас Беларуса" 1926, №27, с. 2.

наступнага перапісу (1925 г.) колькасць беларусаў акрэслівалася як 38 тыс. Паводле беларускіх дзеячаў, змяншэнне лічбы дэкларацыяў беларускай нацыянальнасці тлумачылася атмасферай страху, якую ў беларускім грамадстве выклікаў беларускі працэс (1924–1925), калі на лаве падсудных па абвінавачванні ў сепаратызме апынуліся лідары беларускага руху ў Латвіі[1]. Аднак такое тлумачэнне выглядае неверагодным. Сапраўдную прычыну зменаў колькаснага стану латвійскіх беларусаў належыць шукаць у тым, што 2-гі перапіс насельніцтва быў больш аб'ектыўным. З іншага боку, не гучыць пераканаўча сцвярджэнне прадстаўнікоў польскага боку пра масавы запіс палякаў беларусамі. У сапраўднасці большасць насельніцтва, запісанага ў 1920 г. як беларусы, не мела трывала сфармаванага пачуцця нацыянальнай свядомасці і нярэдка дэкларавала прыналежнасць да той ці іншай нацыянальнай групы ў залежнасці ад бягучай сітуацыі. Не дзіўна, што памяншэнне колькасці каталікоў-беларусаў адбывалася пры павелічэнні колькасці асобаў, якія падавалі перадусім латышскую нацыянальнасць[2].

Польскія і беларускія дзеячы не былі задаволеныя вынікамі перапісаў насельніцтва і лічылі іх несправядлівымі ў адносінах да ўласнай нацыянальнай групы. Абодва бакі былі схільнымі перабольшваць колькасць сваіх суайчыннікаў у Латвіі. На думку супрацоўнікаў польскай амбасады ў Рызе, сапраўдная колькасць палякаў у Латвіі вагалася ў межах ад 51 тыс. да 85 тыс. Разам з тым у польскіх крыніцах можна трапіць нават на лічбу 95 тыс.[3]. Найбольш катэгарычнымі поглядамі адрозніваўся Эдвард Малішэўскі, які меркаваў, што да палякаў трэба залічыць прынамсі палову каталікоў з Рэжыцкага і Люцынскага паветаў, якія ў афіцыйнай статыстыцы (1920 г.) фігуравалі як беларусы. Аўтар лічыў, што гэтыя людзі пад прымусам запісаліся беларусамі. Больш асцярожным у падліках быў В. Сваракоўскі, які пісаў пра латвійскіх беларусаў як пра несвядомых і падатных на асіміляцыю. Адначасова ён прызнаваў, што пасля заканчэння Першай сусветнай вайны працэс іх асіміляцыі запаволіўся[4]. Беларускія дзеячы таксама траплялі ў пастку максімалізму. У беларускіх крыніцах можна сустрэць згадку наконт таго, што беларусаў у Латвіі налічвалася 100–170 тыс. чал.[5].

Пытанне колькасці беларускай меншасці было звязана са справай школьніцтва. Ліберальнае заканадаўства Латвійскай Рэспублікі ў перыяд парламенцкай дэмакратыі давала нацменшасцям магчымасць мець школы з роднай мовай навучання. Пры Міністэрстве асветы былі створаны школьныя аддзелы, якія рэпрэзентавалі нацыянальныя

---

[1] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, с. 20.

[2] W. Sworakowski, *Polacy na Łotwie...*, s. 6; J. Albin, *Polski ruch narodowy...*, s. 13.

[3] J. Albin, *Polski ruch narodowy...*, s. 18.

[4] W. Sworakowski, *op. cit.*, s. 6.

[5] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, с. 20; Я. Найдзюк, І. Касяк, *Беларусь учора й сяньня...*, с. 222.

меншасці. Польскі аддзел пачаў працу ў лютым 1921 г., а беларускі – у кастрычніку гэтага ж году. У 1921–1930 гг. колькасць польскіх школаў вагалася ў межах ад 29 да 45. Існавалі тры польскія гімназіі (у Дзвінску, Рызе і Рэжыцы)[1]. Адначасова развівалася беларускае школьніцтва, якое ў свае найлепшыя часы налічвала 46 пачатковых школаў і 2 гімназіі (у Дзвінску і Люцыне). Адсотак дзяцей, якія навучаліся на роднай мове, быў вышэйшы сярод беларусаў. Колькасны стан беларускага і польскага школьніцтва быў нестабільны і часта змяняўся. Пры гэтым памяншэнне лічбы польскіх школаў адбывалася адначасова з павелічэннем беларускіх і наадварот. Напрыклад, у 1919–1921 г. у Латгаліі значна скарацілася колькасць польскіх школаў. Тым часам можна было назіраць рост беларускага школьніцтва[2]. Паміж беларускімі і польскімі дзеячамі адбывалася сапраўднае змаганне за нацыянальнае школьніцтва. Кожны з бакоў імкнуўся агарнуць сеткай сваіх школаў як мага большую колькасць мясцовай моладзі. Часамі адна і тая ж школа мяняла сваю нацыянальную юрысдыкцыю, пераходзячы ў падпарадкаванне беларускага альбо польскага школьных аддзелаў. Такі стан рэчаў быў магчымы дзякуючы пэўным недакладнасцям у заканадаўстве аб асвеце нацыянальных меншасцяў і яго фінансаванні. Гэта давала магчымасць разнастайнай інтэрпрэтацыі закону і стварала значную адвольнасць у вызначэнні нацыянальнай прыналежнасці школы і рэгіёну, у якім яна знаходзілася. Закон утрымліваў запіс, паводле якога запісанне дзіцяці ў школу залежала не толькі ад волі бацькоў, але і ад здольнасці фармавання думак на той ці іншай мове[3]. Адкрыццё ў Латгаліі беларускіх школаў сустрэлася з супрацівам польскіх дзеячаў. Яны лічылі стварэнне беларускіх школаў вынікам "беларускай акцыі" латвійскіх уладаў, якія такім чынам штучна намагаліся аслабіць пазіцыю палякаў у рэгіёне. У рапарце Яна Вісьціцкага (1922 г.) можна прачытаць: „Галоўны націск беларускай акцыі скіраваны супраць польскага школьніцтва. Спадар Езавітаў пагражае польскім настаўнікам, што забярэ ўсіх вучняў у беларускія школы. Гарадская прэфектура Дзвінска выразна падтрымлівае ўсялякую беларускую акцыю ў гэтым напрамку, неаднойчы даючы доказы саўдзелу з беларусамі ў выкрэсліванні з польскіх школаў дзяцей палякаў і пераводу іх у беларускія, абапіраючыся на тэндэнцыйным і надта неаб'ектыўным перапісе насельніцтва ў 1920 годзе, калі амаль усе палякі былі залічаныя да беларусаў"[4]. У лістападзе 1926 г. дэпутат Сойму Яраслаў Вільпішэўскі, які прадстаўляў польскую меншасць, склаў міністру асветы мемарандум, у якім падкрэсліваў, што некаторыя латвійскія ўрадоўцы неадпаведна ставяцца да польскага школьніцтва. У дакуменце падаваўся прыклад школы ў мясцовасці

[1] J. Albin, *Organizacje polskie…*, s. 210.
[2] J. Różycki, *Polacy na Łotwie…*, s. 18.
[3] J. Albin, *Polski ruch narodowy…*, s. 37.
[4] Цыт. па: J. Gierowska-Kałłaur, *Stosunek państwa łotewskiego…*, s. 190.

Варнавічы (Каплаўская гміна, Ілукштанскі павет), дзе, паводле дэпутата, на 104 вучні было 90 палякаў, якіх улады „ўпарта залічалі да беларусаў і навучалі расійскай мове”[1]. З польскага боку нярэдка гучалі закіды, што беларускія дзеячы перацягвалі ў свае школы вучняў польскіх школаў, прываблiваючы іх як матэрыяльнымі карысцямі, так і меншай патрабавальнасцю (магчымасць пераводу ў старэйшыя класы непаспяваючых вучняў). Сярод польскіх дзеячаў было даволі распаўсюджанае меркаванне, што настаўнікі ў беларускіх школах – гэта “рэнегаты”, якія, кіруючыся меркантыльнымі памкненнямі, адцураліся сваёй польскасці і далучыліся да чужога школьніцтва. У адным з ананімных артыкулаў чытаем: „Ведаю аднаго бацьку, каторага сын з’яўляецца настаўнікам беларускай школы. Бацька цудоўна гаворыць па-польску, моліцца па-польску і лічыць сябе палякам, але сын, які атрымаў пасаду настаўніка ў беларускай школе, ужо не лічыць сябе палякам, а беларусам. Больш за тое, кінуў сваю родную мову ды іншых зараз пераконвае ў тым, што палякаў у Латвіі зусім няма, а ёсць толькі спаланізаваныя беларусы”[2]. Тым часам беларуская прэса падавала прыклады злоўжыванняў з польскага боку. У адной з зацемак пісалася пра тое, што ў Скайненскай гміне, дзе існавалі дзве школы (беларуская і польская), польскія дзеячы ўсялякімі сродкамі „вабілі” ў сваю школу вучняў-беларусаў. Паводле звестак беларускага боку, на пасяджэнні гміннай рады ў траўні 1931 г. польскія радныя хацелі не дапусціць да прыняцця ўхвалы аб прызнанні грашовай дапамогі беларускай школе[3]. У той час, калі польскія дзеячы вінавацілі латвійскіх урадоўцаў у фаварызаванні беларускіх школаў коштам польскіх, беларускія крыніцы сцвярджалі, што латвійскія ўлады не спрыялі развіццю беларускай школьнай справы[4]. Некаторыя беларускія актывісты закідалі латвійскім уладам тое, што польскія арганізацыі атрымоўвалі больш грашовых сродкаў, чым беларускія. Напрыклад, у газеце “Думка Беларуса” адзначалася, што ў 1931 г. з дзяржаўных сродкаў на падтрымку польскага тэатру было вылучана 13 000 латаў, а на беларускі толькі 4 500. Беларусам не падабалася таксама тое, што соймавая бюджэтная камісія прызначыла на патрэбы польскага школьніцтва 4 000 латаў, а беларускага напалову менш[5].

Як бачна, абодва бакі ўзаемна абвінавачваліся ў злоўжываннях і несумленнай гульні. У сваёй большасці гэтыя закіды мелі суб’ектыўны характар. Прыкладам можа быць вышэйзгаданая інфармацыя ў газеце “Голас Беларуса” адносна няроўнага размеркавання сродкаў з дзяржаўнага бюджэту на патрэбы польскіх і беларускіх культурна-асветных

[1] *O polskie szkoły*, „Tygodnik Polski” 1928, №117, s. 2.

[2] Skajcieńczyk, *Z gminy Skajcieńskiej (b. Izabelińskiej)*, „Tygodnik Polski” 1927, № 75, s. 5; Archiwum Akt Nowych (AAN), sygn.: MSZ, t. 5328, k. 37–41.

[3] Тутэйшы земляроб, *Скайсьценская гміна*, “Думка Беларуса” 1931, №2, с. 3–4.

[4] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, с. 56–59.

[5] Дземенскі, *Палёнізацыя*, “Думка Беларуса” 1931, №1, с. 1.

установаў. Аўтарам ігнараваўся факт, што памер дзяржаўнае дапамогі залежаў ад колькаснага складу нацыянальнай меншасці. Паводле перапісу 1930 г., палякаў у Латвіі было больш, чым беларусаў, таму абвінавачванні беларускага боку ў гэтым выпадку можна лічыць беспадстаўнымі. Адначасова нельга пагадзіцца са сцвярджэннем польскіх дзеячаў аб тым, што развіццё беларускага школьніцтва было штучнай з'явай, якая адбывалася насуперак волі мясцовага насельніцтва. Яскрава сведчыць пра гэта факт, што пасля 1925 г., калі падтрымка беларускага руху з боку латвійскай дзяржавы аслабла, беларускае школьніцтва не спыніла свайго існавання. Многія бацькі па-ранейшаму высылалі сваіх дзетак у беларускія школы. Інфармацыя аб злоўжываннях беларускага актыву з мэтай "прываблівання" ў свае школы вучняў-палякаў не знаходзіць пацвярджэння ў крыніцах. Настаўніцкі склад беларускіх школаў быў розны паводле ўзроўню прафесійнай падрыхтоўкі і маральных якасцяў. Нельга, аднак, сказаць, што ўсе настаўнікі, якія выкладалі ў беларускіх школах, рабілі гэта, кіруючыся меркантыльнымі памкненнямі. Стаўленне латвійскіх урадоўцаў да беларускага школьніцтва таксама было неаднародным і залежала ад палітычных поглядаў. Адначасова сярод латгальскай беларускай моладзі назіраўся ўздым патрыятычных настрояў, якія выяўляліся ў арганізацыі вучнёўскага руху і выдавецкай дзейнасці. Многія выхаванцы беларускіх школаў і гімназіяў актыўна ўключыліся ў грамадска-культурную і асветную працу на карысць свайго народу[1].

Канфліктныя сітуацыі паміж беларускімі і польскімі актывістамі здараліся не толькі на глебе школьніцтва, але таксама падчас дзейнасці культурна-асветных і рэлігійных арганізацыяў. У дакументах Таварыства крэсавай варты ёсць згадка пра тое, што кіраўнік Таварыства аматараў музыкі і спеву "Гарфа" нейкі Міровіч „будучы палякам, але атрымаўшы матэрыяльную падтрымку кіраўніка беларускага руху, пачаў выказваць беларускія тэндэнцыі ў кіраваным ім таварыстве"[2]. З рапарту вынікае, што іншым сябрам арганізацыі ўдалося пераканаць яго, каб перапыніў сувязь з беларусамі[3]. Польская прэса паведамляла пра падобную сітуацыю ў мясцовасці Індра, дзе дзейнічаў філіял Саюзу палякаў у Латвіі[4]. На жаль, адсутнічаюць больш падрабязныя звесткі пра вышэйзгаданыя інцыдэнты. Можна, аднак, зрабіць выснову, што ў латгальскіх вёсках і мястэчках ішло своеасаблівае "спаборніцтва" паміж польскімі і беларускімі грамадскімі арганізацыямі.

Польска-беларускае суперніцтва адчувалася не толькі ў Латгаліі, але і на тэрыторыі суседняга Ілукшчынскага павету. Польскія дзеячы разглядалі Ілукшчыну як адзін з найбольш польскіх рэгіёнаў Латвіі.

[1] У. Ляхоўскі, *Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх моладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст – 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)*, Смаленск 2015, с. 358–365.

[2] J. Gierowska-Kałłaur, *Stosunek państwa łotewskiego…*, s. 207.

[3] *Ibidem*.

[4] Skajcieńczyk, *Z gminy Skajcieńskiej (b. Izabelińskiej)*, „Tygodnik Polski" 1927, №75, с. 5.

У сваю чаргу беларускія актывісты лічылі, што мясцовае сялянства мае беларускі нацыянальны склад, але з'яўляецца аб'ектам „паланізацыйных тэндэнцыяў"[1]. Якімі познымі і суб'ектыўнымі могуць быць падлікі, выразна паказвае параўнанне двух перапісаў насельніцтва, што былі праведзены польскімі (люты 1919 г.) і латвійскімі (1925 г.) уладамі. Паводле першага – у павеце налічвалася 9 207 палякаў і 1 273 беларусы. Тым часам другі перапіс паказаў, што ў павеце жыло 6 799 палякаў і 6 407 беларусаў[2]. Прадстаўнікі беларускага руху разглядалі Ілукшчыну як рэгіён, якому патрэбна надаць больш увагі. На іх думку, належала разгарнуць тут сетку культурна-асветных таварыстваў і школаў. У 1926 г. беларускі аўтар з сумам канстатаваў: „Ілукшчына, у якой жыве шмат беларусаў (...) да гэтага часу ніяк ня можа скрануцца з месца і ня выяўляе амаль ніякага нацыянальна-культурнага руху. Няма яшчэ ні воднай беларускай школы – не кажучы аб іншых культурна-прасьветных установах"[3]. Беларускія дзеячы акрэслівалі гэтую працу "перакідваннем мастоў" у Ілукшчыну. Першыя захады беларусаў па арганізацыі ў павеце нацыянальнага жыцця былі аднак няўдалымі. У 1922 г. Міністэрства асветы адхіліла жаданне беларускага школьнага аддзелу аб адкрыцці ў павеце беларускай школы. У наступныя гады беларускія дзеячы працягвалі цікавіцца "перакідваннем мастоў". Дзеячы Беларускай дэмакратычнай партыі (БДП) у 1930 г. выказалі меркаванне, што неабходна аб'яднаць Ілукшчыну з Латгаліяй у адну адміністрацыйную адзінку. На іх думку, гэты крок мог бы аблегчыць беларускую працу сярод жыхароў павету. На думку актыву БДП, неабходна было кінуць усе сілы, каб навярстаць страчаны час[4]. Беларускія дзеячы прытрымліваліся думкі, што працяглая адсутнасць у павеце беларускіх арганізацыяў зрабіла магчымым актывізацыю польскага руху. У беларускай прэсе не былі рэдкасцю публікацыі, прысвечаныя "паланізацыі" Ілукшчыны. Сярод газетных матэрыялаў можна трапіць на звесткі аб тым, што польскія дзеячы распаўсюджвалі сярод мясцовых сялянаў улёткі, у якіх палохалі іх тым, што беларускі рух мае намер навярнуць каталікоў на праваслаўе[5]. Трэба адзначыць, што беларускім арганізацыям не ўдалося дасягнуць вялікіх поспехаў у Ілукшчыне. Эканамічная слабасць беларусаў і адсутнасць чыннай падтрымкі з боку латвійскай дзяржавы спрычыніліся да таго, што беларуская арганізацыйная праца ў Ілукшчынскім павеце знаходзілася на нізкім узроўні. Зацікаўленне

---

[1] *Мост у Ілукшчыну,* "Думка Беларуса" 1931, №2, с. 1.

[2] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, с. 34.

[3] Б. Зароўскі, *Ілукшчына чакае беларускай працы,* "Голас Беларуса" 1926, №27, с. 2.

[4] С. Сахараў пісаў: „Магчыма, што мы трошку спазьніліся, што мы ўпусьцілі некаторы час, але гэта не дае магчымасьць ні Беларускаму Аддзелу, ні нашым арганізацыям пакінуць бяз увагі Ілукшчыну і заставіць сваіх братоў-беларусаў на рукі чужынцаў". Гл.: *Мост у Ілукшчыну,* "Думка Беларуса" 1931, №2, с. 1.

[5] Б. Зароўскі, *Ілукшчына чакае беларускай працы,* "Голас Беларуса" 1926, №27, с. 2.

беларускіх дзеячаў працай у павеце павялічылася ў 1931 г., калі латвійскія ўлады дэлегалізавалі дзейнасць Саюзу палякаў у Латвіі.

Чарговым абшарам канфлікту, хоць значна менш заўважальным, чым школьныя справы, было моўнае пытанне ў каталіцкіх святынях у Латгаліі. Каталіцкая царква захавала на гэтых тэрыторыях польскі характар, што знаходзіла пацвярджэнне ў выкарыстанні польскай мовы ў царкоўным жыцці. У сваю чаргу беларускі нацыянальны актыў намагаўся ўводзіць беларускую мову ў парафіях, якія лічыліся беларускімі. Беларускі бок дамагаўся ўвядзення беларускай мовы ў царкоўнае жыццё (казанні, дадатковыя набажэнствы, катэхізацыя). Не магло гэта не выклікаць напружання паміж польскімі і беларускімі дзеячамі, паколькі стварэнне беларускамоўных парафіяў магло адбывацца шляхам выціскання з іх польскай мовы. Беларускія дзеячы разглядалі прысутнасць польскай мовы ў беларускіх прыходах як шкодную з'яву. Сярод беларусаў была пашырана думка, што нярэдка вернікі не ведаюць сэнсу пацераў, якія прамаўляюць падчас набажэнства[1]. За перашкоду ў "беларусізацыі" лічыліся святары-палякі, якія працавалі ў беларускіх парафіях. Беларускія дзеячы бачылі ў іх сродак асіміляцыі вернікаў-беларусаў. У беларускай прэсе заклікалася, каб польскія святары не дапускаліся да працы ў парафіях, у якіх пераважалі беларусы[2]. У сваю чаргу польскія дзеячы аспрэчвалі інфармацыю аб тым, што "жменька святароў-палякаў" магла весці паланізацыйную дзейнасць на тэрыторыі Латгаліі[3]. У снежні 1921 г. кіраўнік беларускага школьнага аддзелу Сяргей Сахараў звярнуўся да архіяпіскапа Латвіі, каб у парафіях, дзе колькасна пераважала беларускае насельніцтва, прызначаліся святары гэтай нацыянальнасці[4]. Неабходна аднак падкрэсліць, што сярод каталіцкіх духоўнікаў было зусім няшмат тых, хто лічыў сябе беларусам. У сувязі з гэтым заклікі беларускіх дзеячаў не знаходзілі падтрымкі сярод асноўнай масы мясцовага каталіцкага духавенства, якое, нават калі і паходзіла з Беларусі, не атаясамлівала сябе з беларускасцю. Вядома, што ў Латгаліі дзейнічала толькі некалькі каталіцкіх святароў, якія падтрымлівалі ідэю ўвядзення беларускай мовы ў царкоўную практыку. Былі гэта а. Аляксандр Альшэўскі (пробашч парафіі ў Рунданах) і а. Язэп Гайлевіч (пробашч парафіі ў Бальбінове і вікарый парафіі Сэрца Хрыстова ў Рэжыцы). Гэтыя духоўнікі сапраўды рыхтавалі казанні і праводзілі катэхізацыю моладзі на беларускай мове[5]. Захаваліся некаторыя сведчанні як беларускага, так і польскага бакоў

---

[1] Кастусёнак, *Кракадзілавы сьлёзы,* "Голас Беларуса" 1926, №35, с. 1; *Письмо в редакцию,* "Рижский курьер" 1923, nr 654, s. 3.

[2] *"Кашачыя канцэрты" ў касьцёлах Ілукшчыны,* "Думка Беларуса" 1931, №2, с. 2.

[3] Я. Вержбицкий, *Еще о латвийских белоруссах*, "Рижский курьер" 1923, №642, s. 2–3; *Ответ г. Езовитову,* "Рижский курьер" 1923, №654, s. 3.

[4] Э. Екабсонс, *Белорусы в Латвии...*, с. 50.

[5] J. Garbiński, J. Turonek, *Białoruski ruch chrześcijański XX wieku: Słownik biograficzno-bibliograficzny,* Warszawa 2003, s. 112, 289.

наконт стаўлення вернікаў да моўных зменаў. Складана, аднак, іх лічыць цалкам аб’ектыўнымі. Па зразумелых прычынах беларускі бок засяроджваўся на пазітыўных момантах, а польскі – на адмоўных. Беларускія дзеячы бачылі ва ўвядзенні беларускамоўных казанняў пачатак цалкам натуральных і непазбежных станоўчых зменаў у жыцці латгальскіх каталікоў. Тым часам польскія аўтары разглядалі з’яўленне ў святынях новай мовы як нешта незразумелае, нейкае “дзівацтва”. Так, напрыклад, у польскіх выданнях адзначалася, што беларуская дзейнасць у мурах касцёлаў выклікала вострае абурэнне парафіянаў. Ананімны аўтар, які падпісаўся як “парафіянін”, на старонках газеты “Tygodnik Polski” крытыкаваў дзейнасць а. Альшэўскага, сцвярджаючы, што „паважаны святар, які паходзіць з польскай сям’і” не павінен уводзіць беларускай мовы ў царкоўнае жыццё, паколькі гэта супярэчыць „звычаям і традыцыі бацькоўскай веры”. Аўтар наступным чынам пратэставаў супраць “беларусізацыі” парафіі ў Рунданах: „Дзівацтвам для нас палякаў – каталікоў з’яўляецца сама беларуская мова ў Каталіцкім касцёле, паколькі на гэтай мове мы не молімся і не прамаўляем пацераў, бо чытаем толькі з польскіх кнігаў, а пацеры, як і нашы дзеці, прамаўляем толькі па-польску, таму не можам ніякім чынам пагадзіцца з тым, каб тут на цалкам чужой для нас мове святар-паляк, ды яшчэ ў касцёле, прамаўляў да нас па-беларуску”[1]. У сваю чаргу беларуская прэса падкрэслівала, што з’яўленне роднай мовы ў святынях віталася вернікамі[2]. На старонках беларускіх выданняў таксама замяшчаліся лісты “парафіянаў”, якія падтрымлівалі беларускамоўныя казанні і пратэставалі супраць іх адмены. У якасці прыкладу можна падаць ліст верніка з парафіі ў Пустыне (Дзвінскі павет), які абураўся тым, што мясцовы пробашч а. Таборэ падчас казанняў звяртаўся да моладзі па-польску. Аўтар спасылаўся на вынікі перапісу насельніцтва 1930 г., паводле якога ў парафіі налічвалася 3 250 беларусаў і толькі 344 палякі. У сувязі з гэтым аўтар закідваў пробашчу паланізацыйную дзейнасць сярод беларусаў: „Ці ня паланізацыяй можна была-б назваць і працу нашага духоўнага айца кс. Таборэ? І запраўды, жывучы ў дэмакратычнай Латвійскай дзяржаве, дзе ўсім дана свабода, чаму мы павінны кожны раз перад выбарамі ў самаўрады і Сойм выслухіваць навучання і настаўлення (нават на споведзі) галасаваць толькі за польскі спісак? Чаму па настаяннію гэтага самага кс. Таборэ і маленькай жменькі палякаў у нашай воласці адчынены тры польскія школы, дзе не толькі вучуць Богу маліцца па-польску, але і зусім апалячваюць нашых беларускіх дзетак? Апісваючы ў кароткіх словах сваё жыцьцё мы не пакідаем надзеі, што народнымі прадстаўнікамі будзе звернута на наш кліч належная ўвага”[3].

---

[1] Parafianin, *Dziwoląg w kościele,* „Tygodnik Polski” 1927, №107, s. 4.
[2] *Беларускае казаньне ў Пасіне,* “Голас Беларуса” 1926, №40, с. 4.
[3] Пустынец, *В. Пустынь,* “Думка Беларуса” 1931, №2, с. 3.

Як бачна, абодва бакі заўзята і ў вельмі эмацыйнай форме абаранялі свае рацыі. Удзельнікі спрэчкі добра разумелі важкасць дадзенага пытання, паколькі справа тычылася магчымасці ўплыву на традыцыйнае сялянскае грамадства ў напрамку ўласнай нацыянальнай працы. З-за недахопу адпаведных крыніцаў цяжка адназначна вызначыць, якое ў сапраўднасці стаўленне займалі вернікі ў моўных пытаннях. На падставе тых звестак, якія маем, можна дапусціць: з'яўленне беларускай мовы ў касцельных мурах выклікала розныя рэакцыі, сведчаннем чаго можа быць наступны прыклад. У 1930 г. спробу ўвядзення беларускамоўных казанняў зрабіў а. Курляндскі, пробашч парафіі ў Малой Індрыцы. Справа скончылася вэрхалам і адкліканнем святара ў іншую парафію. Сімпатыі вернікаў былі падзеленыя[1]. Беларуская мова была цалкам новым элементам у міжнацыянальных справах Каталіцкай царквы ў Латвіі. Ужо раней у лагтальскіх парафіях адбываліся вострыя польска-латвійскія спрэчкі па моўнаму пытанню. У шэрагу парафіяў святары былі вымушаны гаварыць тыя самыя казанні двойчы: раз палатышску, а раз па-польску[2]. Здараліся выпадкі выкарыстання амбоны ў палітычных мэтах. Некаторыя святары пераводзіліся ў іншыя парафіі альбо ўвогуле былі выдаленыя з краіны ў сувязі з абвінавачваннем іх у нелаяльнасці да дзяржавы[3]. На гэтым фоне польска-беларускія сваркі наконт мовы казанняў выглядалі маргінальнымі і малазаўважальнымі.

Асобным элементам "спаборніцтва" паміж беларускімі і польскімі дзеячамі ў Латвіі быў удзел у парламенцкіх выбарах. Упершыню беларускія і польскія кандыдаты атрымалі магчымасць палітычнай барацьбы падчас выбараў у Сойм у 1922 г. Польскі спіс атрымаў 6-разовую перавагу над беларускім. У Латгаліі беларусы здабылі 38 730 выбарчых купонаў, а палякі 238 479. У адрозненне ад беларускай меншасці, польская правяла ў Сойм уласнага прадстаўніка. У наступным парламенцкіх выбарах у 1925 г. беларускі спіс зноўку не правёў ніводнага свайго прадстаўніка, атрымаўшы толькі 1 900 галасоў[4]. Тым часам палякам удалося падвоіць колькасць сваіх прадстаўнікоў у парламенце. Няўдачы беларусаў у выбарчых кампаніях польскі бок разглядаў як доказ таго, што колькасць беларусаў ў Латвіі значна завышана, а мясцовы беларускі рух гэта "штучная з'ява". Польскія дзеячы падкрэслівалі, што калі б афіцыйная лічба беларусаў у Латвіі адпавядала рэчаіснасці, дык беларускія кандыдаты бесперашкодна трапілі б у Сойм. У польскіх крыніцах звярталася ўвага на тое, што польскія кандыдаты атрымалі падтрымку ў мясцовасцях, у якіх, паводле афіцыйных вынікаў перапісу насельніцтва, беларусы складалі пераважную большасць. У рапарце

---

[1] Індрыцкі парахвіянін, *Вёска М. Індрыца. Як палякі зьневажалі Найсьвеншы сакрамэнт і чаму Індрыцкая парахвія засталася без ксяндза,* "Наша Доля" 1930, №3, с. 3–4.

[2] A. Skrzypek, *Stosunki polsko-łotewskie 1918–1939,* Gdańsk 1997, s. 113.

[3] J. Albin, *Polski ruch narodowy na Łotwie w latach 1919–1940,* Wrocław 1993, s. 191–192.

[4] J. Różycki, *Polacy na Łotwie…*, s. 5.

Таварыства крэсавай варты чытаем: „Досыць характэрны прыём меў прадстаўнік польскага спісу ў беларускіх гмінах Люцынскага павету. Люцынскі павет лічыцца бастыёнам беларускай акцыі. Вось жа ў Істранскай, Янаўскай, Рунданскай гмінах прадстаўнік польскага спісу сустрэўся з надзвычай прыхільным прыёмам беларускага насельніцтва. Адзінай петыцыяй і адзінай тэмай была справа стварэння польскіх школаў, неаднаразова выказваліся просьбы напісання заявы аб адкрыцці польскіх школаў і г. д. Да навязаных ім беларускіх школаў ставяцца вельмі непрыхільна і з двух злых абіраюць расійскую школу, чым беларускую”[1]. У Люцыне, дзе, згодна з перапісам насельніцтва ў 1920 г., беларусы дамінавалі, польскі спіс атрымаў 196 галасоў, а беларускі 108[2]. Мясцовыя сяляне былі глухімі на заклікі беларускіх дзеячаў і падчас выбараў з большым жаданнем галасавалі за польскіх кандыдатаў. З гледзішча польскіх дзеячаў палітычная дэкларацыя сведчыла пра прыналежнасць гэтага насельніцтва да польскай нацыянальнасці, і пра тое, што латвійскія ўлады штучна запісвалі палякаў беларусамі[3]. Польскі дзеяч Ян Вежбіцкі, які трапіў у Сойм, лічыў, што выбары расставілі ўсе кропкі над “і”, паказалі, што значную частку латвійскіх беларусаў складаюць “не сапраўдныя беларусы, а толькі запісаныя беларусамі ў пашпартах, якія аддалі свае галасы палякам і латгальцам”[4].

Належыць, аднак, з вялікай асцярогай ставіцца да сцвярджэння аб тым, што палітычная дэкларацыя падчас выбараў сведчыла аб нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Большасць “тутэйшых” галасавала не за польскі ці беларускі спіс, а за латвійскія партыі (агульнадзяржаўныя і мясцовыя латгальскія), якія ішлі на выбары не з нацыянальнымі, а сацыяльнымі і рэлігійнымі заклікамі. Гэта, аднак, не значыла, што беларускамоўныя жыхары Латгаліі лічылі сябе латышамі. Належыць таксама памятаць, што мясцовае сялянства было вельмі пасіўным у палітычным сэнсе. Грамадзянская адукацыя і палітычная свядомасць практычна адсутнічалі сярод пераважнай большасці тутэйшага сялянства. Сярод беларусаў Латвіі адзначаўся найбольшы адсотак непісьменных[5]. Складана не пагадзіцца з Сяргеем Сахаравым, які канстатаваў, што няўдачы беларускага спісу ў значнай ступені вынікалі з арганізацыйнай кволасці і недасведчанасці мясцовага беларускага руху[6]. Так, падчас кампаніі 1922 г. Беларускі выбарчы камітэт не зладзіў аніводнай сустрэчы з выбарцамі. Агітацыйная літаратура была распаўсюджаная ў нязначным памеры[7]. У сваю чаргу, аналізуючы

---

[1] Цыт. па: J. Gierowska-Kałłaur, *Stosunek państwa łotewskiego...*, s. 214–215.

[2] *Ibidem*, s. 216.

[3] J. Różycki, *Polacy na Łotwie…*, s. 5.

[4] Я. Вержбицкий, *Еще о латвийских белоруссах*, “Рижский курьер” 1923, №642.

[5] Э. Екабсонс, *Белорусы в Латвии...*, s. 4.

[6] *По поводу статьи “Белорусския похоронныя дороги”*, “Рижский курьер” 1923, №632, s. 2.

[7] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, с. 84.

выбарчую кампанію беларусаў у 1925 г., неабходна згадаць, што на ейны вынік не мог не паўплываць вышэйзгаданы беларускі працэс, вакол якога ўзнікла нездаровая атмасфера, што, безумоўна, не спрыяла беларусам. Польскія дзеячы мелі значна большыя магчымасці і сродкі на падрыхтоўку належнай перадвыбарчай кампаніі. Каб у гэтым пераканацца, дастаткова параўнаць стан тагачасных польскага і беларускага выдавецкіх рынкаў. Акрамя таго, шукаючы адказу на пытанне, чаму гміны, якія па нацыянальнаму складу лічыліся беларускімі, галасавалі за польскіх кандыдатаў, варта памятаць, што шмат залежала ад арганізацыйных здольнасцяў і актыўнасці выбарчых штабаў. За некалькі дзён перад выбарамі Польскі выбарчы камітэт выдаў улётку на расійскай мове, якая была адрасавана да беларусаў[1]. Гэты дакумент не толькі ўтрымліваў заклік галасаваць за польскі спіс, але і зневажаў беларускіх дзеячаў. Прывядзём урывак з гэтае ўлёткі: „І так, браты беларусы, ідзём жа разам, слухайце сябе і нас, а не правадыроў са спісу № 21 (беларускі спіс. – *Ю. Г.*), якія дзякуючы вашым галасам хочуць атрымаць сабе цёплыя месцы, стаць вашымі гаспадарамі, насадзіць вам праваслаўе і загнаць вашых дзетак у руска-кацапскія школы”[2]. Адзін з лідараў беларускага руху ў Латвіі К. Езавітаў лічыў гэты крок несумленнай гульнёй канкурэнтаў. Польскі дэпутат Я. Вежбіцкі, які на старонках расійскай прэсы абараняўся перад закідамі К. Езавітава, не пажадаў, аднак, шырэй пракаментаваць з’яўленне ўлёткі, тлумачачы, што яму нічога не было вядома пра існаванне гэтага дакумента[3]. Беручы пад увагу гаротны досвед папярэдніх выбарчых кампаніяў, у 1928 г. беларусы ўвогуле адмовіліся ад выстаўлення асобнага спісу. Некаторыя беларускія дзеячы ўзялі ўдзел у выбарчай кампаніі ў якасці кандыдатаў латвійскіх партыяў, што аказалася больш выніковым[4].

Нягледзячы на выбарчыя няўдачы беларускіх дзеячаў, польскі бок мусіў, аднак, лічыцца з беларускай канкурэнцыяй. Сведчаць пра гэта зацемкі ў тагачасным перыядычным друку. Так, напярэдадні выбараў у Сойм у 1931 г. у польскай прэсе з’яўляліся матэрыялы, якія нагадвалі змест вышэйзгаданай улёткі. У адным з артыкулаў чытаем: „У паветах часта палякам гаворыцца, што яны беларусы (…) Гэта хлусня. Беларус гэта той жа паляк, якому прымусам выдзерлі родную мову і загадалі размаўляць па-расійску, але ў душы ён застаецца палякам. Не слухайце беларускіх агітатараў, ім толькі патрэбныя вашыя галасы, каб імі правесці сваіх кандыдатаў, якія, аднак, нягледзячы на абяцанкі, не дадуць

[1] J. Albin, *Polski ruch narodowy…*, s. 70.

[2] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, s. 85; *Письмо в редакцию,* “Рижский курьер” 1923, № 654, s. 3.

[3] Я. Вержбицкий, *Ответ г. Езовитову,* “Рижский курьер” 1923, №654, s. 3.

[4] У 1928 г. у Сойм прайшоў Уладзімір Пігулеўскі. Ён трапіў у парламент як кандыдат латвійскіх сацыял-дэмакратаў. Паразай, аднак, скончылася спроба Кастуся Езавітава, які балатаваўся з ліку кандыдатаў Партыі незалежных сацыялістаў.

і нічога для вас не зробяць"[1]. Вынікі выбарчых кампаніяў польскіх дзеячаў былі, бясспрэчна, значна больш выніковымі і ўдалымі, чым іх беларускіх калегаў, але і тут хапала сваіх клопатаў. Палітычная пасіўнасць была ўласціва не толькі сялянам-беларусам, але і значнай частцы палякаў. У 1922 г. у Латгаліі выбарачная яўка складала толькі 50–60%. Падчас парламенцкіх выбараў у 1928 г. сярод 26 410 палякаў, якія мелі выбарчае права, за польскі спіс прагаласавалі 17 537 (67%). Тым часам вялікая частка (каля 33%) ўвогуле не ўзяла ўдзелу ў выбарах[2]. Польскія дзеячы ацэньвалі, што калі б не пасіўнасць выбарцаў, можна было б правесці ў Сойм не 2, а 4–5 дэпутатаў[3]. Больш за тое, падчас выбараў у Сойм у 1931 г. у лагеры польскіх дзеячаў адбыўся раскол. У гэты час а. Лаўрыновіч вырашыў узяць удзел у выбарах незалежна ад кандыдатаў Саюза палякаў у Латвіі. Духоўны вінаваціў дзеячаў СПЛ у імкненні да асіміляцыі латгальскіх латышоў і беларусаў[4].

Узаемныя спрэчкі паміж беларускімі і польскімі дзеячамі пераносіліся таксама ў парламенцкія муры. У ліпені 1922 г. дэпутат Я. Вежбіцкі падтрымаў прапанову расійскіх парламентарыяў аб невылучэнні з дзяржаўнага бюджэту сродкаў на патрэбы беларускага школьніцтва ў 1922/1923 навучальным годзе[5]. У сваю чаргу ў 1931 г. беларускі дэпутат У. Пігулеўскі выступіў у Сойме з прамовай, якая ўтрымлівала вострую крытыку палітыкі польскіх арганізацыяў у Латвіі ў адносінах да беларусаў. Дэпутат абвінаваціў некаторых польскіх дзеячаў у правакацыйнай дзейнасці супраць беларускай меншасці. Беларускі палітык звяртаў увагу на тое, што на старонках польскіх выданняў з'явіліся артыкулы антыбеларускага зместу, аўтары якіх абвінавачвалі беларускіх актывістаў у камуністычнай дзейнасці. У. Пігулеўскі лічыў такую дзейнасць формай паклёпніцтва. Паводле дэпутата, "даносы" на беларусаў паўплывалі на тое, што латвійская дзяржава пачала з насцярогай ставіцца да беларускага руху. Дэпутат не выключаў таго, што польскі бок спрычыніўся да г. зв. беларускага працэсу. Палітык закрануў таксама школьнае пытанне. У. Пігулеўскі выказаў меркаванне, што беларускія школы значна менш заможныя, чым польскія[6]. Заява У. Пігулеўскага выклікала рэзананс і абурэнне мясцовых польскіх дзеячаў. У газеце "Dzwon" выйшаў вельмі крытычны артыкул, аўтар якога называў У. Пігулеўскага „дэмагогам", „нахабным ілгуном" і „небяспечна хворым разумова". Аўтар адзначаў: „Не кажучы пра тое, што гэты тып у адносінах да палякаў, прадстаўнікоў народу, якога не варты нават быць нікчэмным пахолкам, дазваляе сабе на выкрыкі накшталт таго, як «пайшлі вы ўсе к чорту!» і г. д. – гэты спадар асмеліўся закідаць нам жаданне адабраць зямлю ў сялянаў, дзяржаўную здраду ў адносінах да

[1] *Zbliżają się wybory,* „Dzwon" 1931, №14, s. 1.
[2] J. Różycki, *Polacy na Łotwie…*, s. 15.
[3] J. Albin, *Polski ruch narodowy…*, s. 71.
[4] *Ibidem,* s. 80.
[5] К. Езавітаў, *Беларусы ў Латвіі...*, с. 70.
[6] *Паланізацыя ў Латвіі,* "Беларускае Слова" 1931, №1, с. 3.

латвійскай дзяржавы і цэлы шэраг падобных прыдумак, якія могуць нарадзіцца хіба што толькі ў галаве вар'ята альбо таксама ў засмечаным лбе платнага бальшавіцкага агента"[1]. Як бачна, часамі эмоцыі сягалі зеніту.

Польская і беларуская прэса ў Латвіі не надавала шмат увагі праблематыцы польска-беларускіх адносінаў, але ўсё ж з'яўляліся публікацыі, прысвечаныя гэтай тэматыцы. У большасці выпадкаў аўтары карысталіся вельмі вострым тонам, які нярэдка надаваў зацемкам характар абразаў і кпінаў у адрас прадстаўнікоў супрацьлеглага лагеру. Характэрнай рысай публікацыяў было тое, што з абодвух бакоў гучалі абвінавачванні ў антыдзяржаўнай дзейнасці апанентаў. Падкрэслівалася шкоднасць апанентаў для латвійскай дзяржавы. На старонках польскіх выданняў мясцовы беларускі рух прадстаўляўся альбо як элемент палітыкі латвійскіх уладаў, накіраванай на аслабленне польскай дзейнасці ў краіне[2], альбо як праява дзейнасці савецкай агентуры[3]. У адным з нумароў газеты "Dzwon" можна прачытаць: „нават менш свядомыя нашы суайчыннікі змаглі шмат чаму навучыцца (...) што так званыя беларусы коштам палякаў маюць столькі школаў, колькі ім захочацца, а і самі школы інакш выглядаюць, бо маюць прыгожыя, добра гаспадарча забяспечаныя памяшканні, а дзеці, якія бегаюць у гэтыя школы, атрымліваюць на сняданне абаранкі, пернікі і абутак. Ведаюць нашы дзеці ад бацькоў, бо гэныя ім растлумачылі, што беларуская нацыянальнасць у нас штучна створаная, а каб адцягнуць зямельнае дабро ад палякаў і перадаць іх беларусам, з гэтай менавіта мэтай розныя «кацыкі» намагаюцца палякаў запісаць беларусамі, каб палякаў было менш, а беларусаў больш"[4].

Другім матывам у мясцовай польскай прэсе было атаясамліванне беларускага руху з савецкай дзейнасцю. У артыкуле, прысвечаным газеце „Наша Доля", можна прычытаць: „У прынцыпе мы не маем нічога супраць таго, калі выйсце газеты з'яўляецца праявай натуральнай экспансіі мясцовага беларускага руху, які не падтрымліваецца грашова і маральна бальшавікамі. Пакуль у змесце гэтага выдання мы не заўважылі праяваў залежнасці ад бальшавіцкай Расіі, але, аднак, даходзяць да нас весткі, што гэта закардонная работа"[5]. У гэтым кантэксце выказвалася думка, што "беларуская акцыя" латвійскіх уладаў прынесла шкоду самім латышам. Стаўленне польскіх дзеячаў адлюстроўвае наступны тэкст: „Найгоршы, аднак, на гэтым сам урад зрабіў інтарэс, бо хутка знайшліся разумнікі, якія выкарыстоўваючы тое, што ў Латвіі столькі беларусаў і пачалі – вядома за чые грошы – агітацыю не толькі за

---

[1] A. Mickiewicz, *Piguły niejakiego Pigulewskiego*, „Dzwon" 1931, №18, s. 1.

[2] *Dziwoląg w kościele*, „Tygodnik Polski" 1927, №107, c. 4; *Z gminy Skajcieńskiej (b. Izabelińskiej)*, „Tygodnik Polski" 1927, №75, c. 5; *Zbliżają się wybory*, „Dzwon" 1931, №14, c. 1.

[3] A. Mickiewicz, *Piguły...*, s. 1.

[4] J. Tom, *Co każda Polka i każdy Polak wiedzieć powinni*, „Dzwon" 1930, №16, s. 2.

[5] A. Mickiewicz, *Piguły...*, s. 1.

беларускія школы, якіх ніхто не прасіў і не хацеў, а якія цэлымі дзясяткамі Бог ведае навошта і дзеля каго адчынена – але, што горш – агітацыю за далучэнне Латгаліі да Саветаў. Выходзіла беларуская газета "Голас Беларуса" – з школьным дадаткам, у якім нават без усялякіх цырымоніяў праводзілася савецкая палітыка. Памятаеце розныя авантуры і працэсы з правадырамі беларусаў, – хоць здолелі своечасова схаваць канцы ў ваду, але ахвоту да такой работы адбілі ім надоўга. Памятаеце, як намагаліся ў Сойм правесці сваіх «беларусаў» – а перапіс жа насельніцтва паказаў каля 70 тыс. беларусаў, дык павінна было б быць прынамсі некалькі беларускіх дэпутатаў, а тым часам аніводнага не выбралі, бо так як ніхто беларускіх школаў не прасіў, таксама нікому ў галаву не прыйшло галасаваць за беларускі нумар. Лухта была, лухта і выйшла"[1]. Яшчэ больш катэгарычным быў аўтар артыкула, які выйшаў на старонках выдання "Tygodnik Polski": "У «стварэнні» беларусаў былі перадусім зацікаўленыя латвійскія шавіністы, якія намагаліся і намагаюцца паменшыць «польскую небяспеку» – шляхам масавага залічвання палякаў да беларускай нацыянальнасці. З іншага боку гэтыя трансфарматарскія захады нашых недальнабачных палітыкаў сквапліва здолела выкарыстаць Савецкая Расія. Суседнія з Латвіяй землі былі ўключаны ў Беларускую Сацыялістычную Рэспубліку і ва ўсёй Латгаліі пачала развівацца камуністычная прапаганда пад выглядам беларускага нацыянальнага руху. Адчыняюцца там беларускія ўсеагульныя і сярэднія школы, лепшыя, чым латвійскія школы. Выходзяць розныя беларускія часопісы. Мясцовы беларускі селянін грае ў гэтым зусім пасіўную ролю, паддаючыся некрытычна ўсім «эксперыментам». Усю справу праводзіць жменька беларускай інтэлігенцыі, сярод якой шмат расійцаў з Разані і Казані. А паколькі яны, як сапраўдныя рускія людзі, здольныя да ўсяго, робяць зараз у нас за добрыя грошы «Беларусь», каб у будучыні Расія, магчыма Беларуская Савецкая Рэспубліка, мела чым абгрунтаваць свае прэтэнзіі да гэтай краіны"[2]. Іншы аўтар вельмі крытычна выказваўся адносна газеты "Голас Беларуса", якую ў 1925–1929 г. выдаваў К. Езавітаў. У якасці прыкладу працытуем гэты ўрывак: "Мядзвежую паслугу сп. Езавітаў робіць беларусам намагаючыся іх схіліць у бок «святла з усходу». Няма там святла, а замест яе трупная фосфарная гнілізна і крывавае зарыва пажараў. Беларускія людзі павінны з агідаю адвярнуцца ад сённяшняй савецкай «Беларускай Рэспублікі», якая на столькі з'яўляецца беларускай, на колькі Варшава была «польскім царствам» пад царскай уладай, хоць так сапраўды называлася. У «Голасе Беларуса» ідзе гаворка, як бачна, не столькі пра кепскі ці добры ўрад у Польшчы і яго стаўленне да беларусаў, колькі пра адданне іх пад апеку «матушкі Расіі», бо самастойна існаваць не

---

[1] A. Iłgowski, *Ciekawe cyfry. W związku z mającym się odbyć z 11–12 b. m. spisem ludności,* „Dzwon" 1930, №14, s. 1.

[2] *Czy po to Batory przywiódł nas nad Dźwinę byśmy powiększali szeregi Białorusinów? Błędy urzędowej statystyki narodowościowej,* „Tygodnik Polski" 1928, №119, c. 2.

ўмеюць, аб чым сведчыць тое, што вызваленчы рух яшчэ разумеюць як суму беспакараных забойстваў і рабункаў. Грамадзянін Езавітаў, дрэнна гуляеце ў беларуса"[1]. Галоўны рэдактар і выдавец "Голасу Беларуса" палічыў вышэйзгаданы артыкул польскага аўтара правакацыяй і не завагаўся ў не менш вострай форме яго пракаментаваць: „Запраўды, каб пісаць такую брахню не чырвенеючы і надрукаваўшы не павесіцца са зрызоты, як Юда, трэба мець добрую школу «drugiego wydziału» (...) Мэта гэтых даносаў і брахні для нас ясная: пры помачы абмовы накінуць здагону на адраджэнчы беларускі рух у Латвіі, ачарніць яго, і, у мутнай вадзе, іграючы на цемнаце і несвядомасці беларусаў-каталікоў у Латгаліі"[2].

Кажучы пра беларускую прэсу, належыць заўважыць, што да найбольш пашыраных закідаў у адрас палякаў было абвінавачванне ў "паланізацыі" беларусаў Латгаліі[3]. У той час, калі ў польскай прэсе пісалася пра беларускіх дзеячаў як прыхільнікаў і агентаў СССР, на старонках беларускіх выданняў хапала матэрыялаў, у якіх аўтары прадстаўлялі дзейнасць мясцовых польскіх арганізацыяў як антыдзяржаўную і сепаратыстычную. У якасці прыкладу можна працытаваць адзін з тэкстаў: „Ідэя аб тым, што Латгалія павінна зрабіцца зноў Польскімі Інфлянтамі – моцна засела ў галовах польскіх абшарнікаў. Яны спадзяюцца на тое, што «здабыўшы Інфлянты» яны атрымаюць назад і свае вялікія маёнткі, якія цяперака, згодна зямельнай рэформы, ад іх адабраныя"[4]. Беларускі аўтар звяртаў увагу, што ў віленскай прэсе ўздымаецца пытанне наконт крыўды, якую ўчыніла латвійская дзяржава польскім землеўласнікам. Аўтар лічыў небяспечнай сувязь мясцовых польскіх дзеячаў з польскімі дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі ў Латвіі, называючы дзейнасць апошніх падбухторваннем да сепаратызму[5]. У выданнях латвійскіх беларусаў можна было прачытаць, што польскае школьніцтва ў Латвіі з'яўляецца распаўсюджвальнікам антылатвійскай прапаганды. Мясцовыя польскія грамадска-асветныя і культурныя арганізацыі акрэсліваліся "гняздом" польскага нацыяналізму. Асабліва падкрэслівалася "шкоднасць" Саюзу палякаў у Латвіі, Польскага сельскагаспадарчага таварыства і рэдакцыі газеты "Dzwon"[6]. Выданне "Думка Беларуса" з задавальненнем паведамляла аб стварэнні ў Сойме следчай камісіі, якая мела заняцца вывучэннем "антыдзяржаўнай" дзейнасці СПЛ. На старонках гэтага ж выдання выказвалася

[1] *"Hołas Biełarusa"*, "Tygodnik Polski" 1925, №21, s. 1.

[2] Крывічанін, *Адазваліся,* "Голас Беларуса" 1926, №28, с. 3.

[3] Кастусёнак, *Кракадзілавы сьлёзы,* "Голас Беларуса" 1926, №35; Кій, *Палякі ўсё яшчэ ня могуць забыцца аб Інфлянтах Польскіх,* "Голас Беларуса" 1927, № 58, с. 1; *Паланізацыя ў Латвіі,* "Беларускае Слова" 1931, № 1, с. 3.

[4] Кій, *Палякі ўсё яшчэ ня могуць забыцца...*, с. 1.

[5] *Ibidem*.

[6] *Паланізацыя ў Латвіі,* "Беларускае Слова" 1931, № 1, с. 3.

*навіна, поле, пруд/пруды, пур'е* 'куча парніка', *рака, ступа* ст.-бел. 'куча зямлі, камянёў', *ятлы* ў палескім дыял. 'ямы на лужках':

*Азёры*: ЗААЗЁРНАЯ[1] – Брэсцк. вобл., Малар., ПАДАЗЁРКІ – Гродз. вобл., Гродз., пас. ПРЫАЗЁРСКІ – Брэсцк. вобл., Кам.;

*Багон/балота/бель/кал*: ЗАБАЛАЦЦЕ – 4 назвы: Брэсцк. вобл., Брэсцк., Кам., Кобр., Гродз. вобл., Маст., ЗАБАЛОЦЦЕ – 2 назвы: Гродз. вобл., Гродз., Шчуч., ЗАКАЛНЕЧЧА[2] – Брэсцк. вобл., Кобр., ПАДБАГОННІКІ – Гродз. вобл., Бераст., ПАДБАЛОЦЦЕ – Гродз. вобл., Зэльв., ПАДБЕЛА – Брэсцк. вобл., Кобр., ПАДБЕЛЬСКІЯ АГАРОДНІКІ – Брэсцк. вобл., Кам.;

*Бор/бур*: ЗАБОР'Е – 2 назвы: Гродз. вобл., Гродз. і Шчуч., ПАДБУР'Е – Брэсцк. вобл., Кам., ПРЫБАРАВА – Брэсцк. вобл., Брэсцк.;

*Брод*: ЗАБРАЧАНЫ – Гродз. вобл., Гродз., ЗАБРОДДЗЕ – Гродз. вобл., Шчуч., ПАДБРАДЗЯНЫ 1 – Брэсцк. вобл., Кам., ПАДБРАДЗЯНЫ 2 – Брэсцк. вобл., Кам.;

*Бярэзнік*: ЗАБЯРЭЗЗЕ – Брэсцк. вобл., Брэсцк., ЗАБЯРЭЗІНА – Гродз. вобл., Гродз.;

*Вада*: ЗАВАДЗІЧЫ – Гродз. вобл., Гродз.;

*Валы*: ПРЫВАЛКІ – Гродз. вобл., Гродз.;

*Верх*: ЗАВЕРША – Брэсцк. вобл., Кобр., ЗАВЯРШАНЫ – Брэсцк. вобл., Кам.;

*Вось*: ЗАВОСЦЕ – Брэсцк. вобл., Брэсцк.;

*Га́лле*: ЗАГАЛІЧЫ – Брэсцк. вобл., Пруж.;

*Горы*: ЗАГАРАНЫ – 2 назвы: Гродз. вобл., Гродз. і Маст., ЗАГОР'Е – Брэсцк. вобл., Пруж., ЗАГОРЫ – Гродз. вобл., Ваўк.;

*Грэбля*: ПАДГРАБЕЛЬНЫЯ – Гродз. вобл., Маст.;

*Дзерць*: ЗАДЗЕРЦЬ – Брэсцк. вобл., Жаб.;

*Зімавішча*: ПАДЗЯМЕННЕ – Брэсцк. вобл., Кобр., раней Падзімнае/ Падзімная/Падзяменні, назва магла ўтварыцца ад *зімавішча* або *зімнік*;

*Лабавіна*: ПАДЛАБЕННАЕ – Гродз. вобл., Гродз.;

*Лес*: ЗАЛЕСКІ – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Кобр., Гродз. вобл., Маст., ЗАЛЕСНА – Гродз. вобл., Шчуч., ЗАЛЕССЕ – 7 назваў: Брэсцк. вобл., Брэсцк., Кам., Кобр., Залескі с/с і Тэвельскі с/с, Пруж., Велікасельскі с/с, Мокраўскі с/с, Хараўскі с/с, ЗАЛЯСЯНЫ – Гродз. вобл., Гродз., ЗАЛЯШАНЫ – 2 назвы: Гродз. вобл., Ваўк., Шчуч., ПАДАЛЕССЕ[3] – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Кобр., Пруж., ПАДЛЕССЕ – 2 назвы: Брэсцк. вобл.,

---

[1] Да 1964 г. в. *Анна-Спаская*, мясцовасць узнікла ў XIX ст., дачка памешчыка Сяргея Парошына Ганна выйшла замуж за князя Спаскага і атрымала ў пасаг маёнтак, які быў названы *Анна-Спаская*. Гл.: *Гарады і вёскі Беларусі. Энцыклапедыя*, т. 4..., с. 339.

[2] Ад *кална* 'балоты'. Гл.: І.Я. Яшкін, *op. cit.*, с. 331.

[3] Матывацыя айконіма магла ўзнікнуць ад асновы апелятыва *алеснік* 'альховы лес, гай; малады альховы лес' або ад *алёс*, значэнне якога ў беларускіх гаворках вар'іруе ад 'мокрае месца; торф, тарфяное балота, дрыгва', 'нізкае месца ў лесе, якое нагадвае балота і дзе растуць дубы' да 'густы зараснік, дзе цяжка прайсці, але там растуць шчырыя грыбы (баравікі)'. Гл.: І.Я. Яшкін, *op. cit.*, с. 55–56.

Жаб., Кам., ПАДЛЕССЕ-КАМЯНЕЦКАЕ – Брэсцк. вобл., Брэсцк., ПАДЛЕССЕ-РАДВАНІЦКАЕ – Брэсцк. вобл., Брэсцк., ПРЫКАЛЕСЬ – Брэсцк. вобл., Пруж., скарочаная форма ад тэрміна *прыкалялессе* 'прастора каля і вакол лесу';

*Ліпы*: ПАДЛІПКІ – Гродз. вобл., Гродз.;

*Луг*: ЗАЛУЗЗЕ – Брэсцк. вобл., Жаб., ПАДЛУЖЖА – Брэсц. вобл., Брэсцк.;

*Лука*: ЗАЛУЧАНЫ – Гродз. вобл., Ваўк., ПРЫЛУКІ – Брэсцк. вобл., Брэсцк., ПРЫЛУКІ ВЯЛІКІЯ – Брэсцк. вобл., Кобр., ПРЫЛУКІ МАЛЫЯ – Брэсцк. вобл., Кобр., ПРЫЛУЧЧЫНА – Брэсцк. вобл., Пруж.;

*Мох*: ЗАМОШША – 3 назвы: Брэсцк. вобл., Малар., Пруж., Гродз. вобл., Шчуч., ЗАМШАНЫ – Брэсцк. вобл., Малар., ПАДОМША – Брэсцк. вобл., Кам.;

*Навіна*: ЗАНАВІНЫ – Брэсцк. вобл., Кам., ЗАНЯВІША – Гродз. вобл., Шчуч., магчыма, таксама ад 'тое, што знаходзіцца за нівай';

*Поле*: ЗАПОЛЛЕ – 4 назвы: Брэсцк. вобл., Пруж., Гродз. вобл., Гродз., Маст., Шчуч.;

*Пруд/пруды*: ЗАПРУДДЗЕ – Гродз. вобл., Зэльв., ЗАПРУДЫ – Брэсцк. вобл., Кобр.;

*Пур'е*: ЗАПУР'Е – Гродз. вобл., Гродз.;

*Рака*: ДАЛІНА ЗАРЭЧНАЯ – Гродз. вобл., Шчуч., ЗАРАЧАНЫ – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Кам., Гродз. вобл., Ваўк., ЗАРАЧАНКА – Гродз. вобл., Гродз., ЗАРЭЧЧА – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Пруж., Гродз. вобл., Шчуч., ПАДРАЧАНЫ – Брэсцк. вобл., Кам., ПАДРЭЧЧА – Брэсцк. вобл., Жаб.;

*Ступа*: ПРЫСТУПІЧЫ – Гродз. вобл., Гродз.;

*Ятлы*: ПАД'ЯТЛЫ – Гродз. вобл., Гродз.

Апрача прыродна-геаграфічных адзінак, аб'ектамі-пасрэднікамі могуць выступаць канкрэтныя мясцовасці (вёскі, хутары), азёры або рэкі:

*Вёска (хутар)*: в. Grodzisk – PODGRODZISK – Сакольск. пав., в. Cisówek – PODCISÓWEK – Аўгуст. пав., в. Horodnianka – PODHORODNIANKA – Сакольск. пав., в. Lewkowo Stare – PODLEWKOWIE – Гайнаўск. пав., в. Ostrówek – PODOSTRÓWEK – Сакольск. пав., в. Łubianka – PODŁUBIANKA – Сакольск. пав., в. Macharce – PODMACHARCE – Аўгуст. пав., в. Nowinka – PODNOWINKA – Аўгуст. пав., в. Wieżanka – PODWIEŻANKA – Гайн. пав., в. Budy – PRZYBUDKI – Гайн. пав., в. Nowy Dwór – ZADWORZANY – Сакольск. пав., в. Śpicze – ZAŚPICZE – Сакольск. пав., в. Wistowszczyzna – ZAWISTOWSZCZYZNA – Сакольск. пав.

Беларускія айконімы: в. Дворцы – ЗАДВОРАНЦЫ – Гродз. вобл., Ваўк., в. Двор – ЗАДВОР'Е – Гродз. вобл., Зэльв. і Маст., х. Ор – ЗАОР'Е – Брэсцк. вобл., Малар., в. Сімавічы – ЗАСІМАВІЧЫ – Брэсцк. вобл., Пруж.;

*Возера*: воз. Белае – ПАДБЕЛАЕ – Гродз. вобл., Гродз.;

*Рака*: р. Kamionka – PODKAMIONKA – Сакольск. пав., р. Królewianka – PODKRÓLÓWEK – Аўгуст. пав.

Беларускія найменні: р. Бобра – ПАДБОБРА – Гродз. вобл., Шчуч., р. Рось – ПАДРОСЬ – Гродз. вобл., Ваўк.

Пунктам аднясення ў прасторы могуць выступаць таксама аб'екты пабудовы:

*Двор*: ЗАДВАРАНЫ – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Пруж., Кам.;
*Мост*: ЗАМАСЦЯНЫ – 2 назвы: Гродз. вобл., Ваўк., Шчуч.;
*Замак*: ПАДЗАМЧА – Гродз. вобл., Шчуч.

Інфармацыя аб лакалізацыі аб'екта ў айконімах можа быць прадстаўлена і непрасторавымі паняццямі[1]. Намінацыя супадае з цэнтрам (пунктам адліку): GATNE PIERWSZE – Аўгуст. пав., GATNE DRUGIE – Аўгуст. пав., JASTRZĘBNA PIERWSZA – Аўгуст. пав., JASTRZĘBNA DRUGA – Аўгуст. пав., NETTA PIERWSZA – Аўгуст. пав., NETTA DRUGA – Аўгуст. пав., ŻARNOWO PIERWSZE – Аўгуст. пав., ŻARNOWO DRUGIE – Аўгуст. пав., ŻARNOWO TRZECIE – Аўгуст. пав.

Беларускія айконімы ландшафтнага тыпу, прадстаўленыя непрасторавымі паняццямі, выражаныя лічбай: АСТРАВОК 1 – Гродз. вобл., Гродз., АСТРАВОК 2 – Гродз. вобл., Гродз., ГВОЗДЗЬ 1 – Брэсцк. вобл., Кам., ГВОЗДЗЬ 2 – Брэсцк. вобл., Кам., ПАДБРАДЗЯНЫ 1 – Брэсцк. вобл., Кам., ПАДБРАДЗЯНЫ 2 – Брэсцк. вобл., Кам., СТРАЛЬЦЫ 1 – Гродз. вобл., Гродз., СТРАЛЬЦЫ 2 – Гродз. вобл., Гродз.

Адзіночным выпадкам сярод даследаваных айконімаў з'яўляецца пара састаўных найменняў, у якіх намінатыўны кампанент суадносіцца з прасторавымі паняццямі напрамкаў свету: OSTRÓW POŁUDNIOWY – Сакольск. пав., OSTRÓW PÓŁNOCNY – Сакольск. пав.

Прасторавыя паняцці, што ляглі ў аснову тапанімічнай сістэмы даследаванага памежжа, праявіліся таксама ў найменнях, суадносных з ідэяй мяжы. У штодзённым жыцці паняцце мяжы выкарыстоўваецца на размоўным і навуковым узроўнях, у прамым і пераносным сэнсе. У геаграфічнай прасторы суадносіцца з лініяй або зонай, якая дзеліць пэўную тэрыторыю або вызначае пачатак і канец „нечага"[2]. Агульнавядомымі з'яўляюцца такія паняцці, як „натуральная" і „штучная" мяжа, культурная, эканамічная, палітычная, дзяржаўная і іншая. Для тапанімічных утварэнняў значымымі будуць паняцці, якія суадносяцца з „натуральнай" і „штучнай" мяжой, дзе „натуральная" – гэта мяжа, вызначаная прыродай, фізіяграфічная (рэкамі, горнымі ланцугамі, берагавымі лініямі і інш.), а „штучная" – вызначаная чалавекам (зямельныя знакі, слупы і інш.)[3]. У беларускай і польскай мовах існуе цэлы шэраг сінонімаў, суадносных з тэрмінам *мяжа*: бел. *абруб, бераг, граніца, заруб, край, крыж, крэс/крэсь, парог, перадзел, перасека/прасека, пята,*

---

[1] Т.М. Аліферчык, *Тапанімія...*, с. 113.

[2] J. Bański, *Granica w badaniach geograficznych – definicja i próby klasyfikacji*, „Przegląd Geograficzny" 2010, nr82/4, s. 489.

[3] *Ibidem*, s. 495.

*рáпа, рубеж, рыса,* польск. *brzeg, koniec, kopiec, kraj, kraniec, kres, miedza, obręb, obrzeże, obwód, próg, rant, rubież, skraj.*

У геаграфіі *мяжа* атаясамліваецца з формай прасторавага бар'ера[1]. Яе галоўнай функцыяй з'яўляецца размяжоўванне ўнутранай „сваёй" прасторы з вонкавай „чужой", якая, паводле Ю. Лотмана, у кожнай культуры разбіваецца на „сваё" і „чужое", з'яўляецца ўніверсальным паняццем, можа адносіцца да розных формаў чалавечага быцця[2].

Айконімы, выражаныя агульным паняццем *мяжы*, суадносяцца з назвамі КРЭСЛА (вар. Крэслы) – Гродз. вобл., Зэльв., якія матываваныя апелятывам *крэс/крэсь* 'мяжа, апошняя рыса, грань', МІЖЭВІЧЫ – Гродз. вобл., Бераст., ад ст.-бел. *мяжа* 'мяжа, лінія, грань', ПАГРАНІЧНАЯ – Брэсцк. вобл., Кам.

Сюды ж адносім айконім РАПЯХІ – Брэсцк. вобл., Пруж., які ўтварыўся на базе сінанімічнага апелятыва *рáпа*, са значэннем 'парог; папярочны камяністы выступ на дне ракі'[3].

Асобнай групай вылучаюцца айконімы, матываваныя назвамі „натуральнай мяжы", да якіх адносім польскі айконім:

*Brzeg*: BIAŁOBRZEGI – Аўгуст. пав., адносіцца да складанага тыпу айконімаў, які сфарміраваўся на базе двух кампанентаў (прыметніка *белы* і назоўніка *бераг*). Колеравы кампанент можа адносіцца да колеру пяску на беразе воднага басейна, побач з якім можа быць размешчана мясцовасць.

Беларускія найменні:

*Бераг*: пас. БЕРАГАВЫ – Гродз. вобл., Гродз., БЕРАГОЎЦЫ – Гродз. вобл., Шчуч., БЕРАЖАНЫ – Гродз. вобл., Гродз., БЯРЭЖКІ (вар. Беражкі) – Гродз. вобл., Гродз., УЗБЕРАЖ – Гродз. вобл., Гродз. Паводле Вадзіма Жучкевіча, айконімы, утвораныя на базе апелятыва *бераг*, суадносяцца з паняццем 'мясцовасць, якая знаходзіцца на беразе ракі, возера', аднак мы б катэгарычна не прытрымліваліся такой трактоўкі, паколькі *берагам* у народных гаворках можа быць акрэсленая дальняя частка паселішча (вуліцы), поля, балота, лугу і інш.[4].

Да айконімаў, матываваных назвамі „штучнай мяжы" адносім беларускія айконімы:

*Абруб*: АБРУБ – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Пруж., Гродз. вобл., Шчуч., *абруб* – 'палетак, вялікі кавалак ворнай зямлі; мяжа, край', у старабеларускіх помніках *обруб* –'надзел зямлі ў адным месцы'. На першых парах гэта былі лясныя заімкі, межамі якіх служылі засечкі на дрэвах. Пазней межы абводзіліся і іншымі межавымі знакамі. Паводле мясцовых старажылаў, абрубіць азначала 'адмежаваць', а *абруб* – 'мяжа, край'[5];

---

[1] *Ibidem*, s. 499.
[2] Ю.М. Лотман, *op. cit.*, с. 257.
[3] І.Я. Яшкін, *op. cit.*, с. 573.
[4] *Ibidem*, с. 95.
[5] *Ibidem*, с. 40.

*Перадзел*: ПЕРАДЗЕЛЬСК – Брэсцк. вобл., Пруж., ад *перадзел* 'прастора зямлі ў выніку новага перадзельвання, быццам мяжа паміж участкамі';

*Перасека*: ПЕРАСЕК – Брэсцк. вобл., Кам., ад *перасека/прасека* 'ачышчаная ад дрэў паласа ў лесе, якая служыць мяжой участка, дарогі';

*Межавыя знакі*: ЗАРУБІЧЫ – Гродз. вобл., Гродз., ад апелятыва *заруба* 'знак мяжы зямельных участкаў у лесе', ПЯТЧЫЦЫ – Гродз. вобл., Ваўк., ад *пята* 'прыкметнае чым-небудзь месца, ад якога пачыналі межаванне зямельных угоддзяў; межавы знак, пункт'.

На базе апелятыва *капец* са значэннем 'межавы знак у выглядзе кругла накапанага насыпу' або 'земляны насып' і 'старажытны легендарны бязлесны ўзгорак', польск. *kopiec* утварыліся айконімы: KOPIEC – Аўгуст. пав.[1], KOPCZANY – Аўгуст. пав.

Сюды ж залічваем айконімы, матываваныя назвамі мяжы, суадноснымі з паняццямі '*пачатак – канец*':

*Канец*: КАНЧАНЫ – Гродз. вобл., Бераст. У І.Я. Яшкіна *канчані* – гэта 'месца ў канцы зямельных участкаў, уладанняў'[2], КОНЦЫКІ – Брэсцк. вобл., Пруж., магчыма, ад *канчалі* (вар. *кончыцы*) 'крайнія вуліцы ў вёсцы, край населенага пункта'[3]. Сярод айконімаў даследаванай тэрыторыі матывацыя ў дадзенай падгрупе назваў праявілася на базе толькі аднаго кампанента апазіцыі.

**Айконімы, матываваныя канфігурацыяй мясцовасці ў прасторы**

Да групы адносяцца найменні, выражаныя апелятыўнай лексікай, якая акрэслівае форму паселішча або ўзаемнае размяшчэнне населеных пунктаў. Тапонімы, выражаныя ўзаемным размяшчэннем, найчасцей рэалізуюцца ў апазіцыі, але незаўсёды. Найбольш пашыранымі антанімічнымі парамі з іх з'яўляюцца: *доўгі – кароткі, вялікі – малы, прамы – крывы*[4], адзіночныя выпадкі фіксуюць апазіцыю *левы – правы*.

Апазіцыя *długi (доўгі) – krótki (кароткі)*. У аналізаваных намі польскіх і беларускіх айконімах апазіцыя *доўгі – кароткі* выражаная толькі адной часткай апазіцыі *długi (доўгі)*: DŁUGI BRÓD – Гайнаўскі пав., DŁUGIE – Аўгустоўскі пав., DŁUGI ŁUG – Сакольскі пав., DŁUGOSIELCE – Сакольскі пав.

Беларускія айконімы: ДОЎГАЕ – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Пруж., Шарашоўскі пас. савет, Ліноўскі с/с, ДОЎГАЯ – Гродз. вобл., Шчуч., Дэмбраўскі с/с і Орлеўскі с/с.

---

[1] У даўнія часы межы паміж зямельнымі ўладаннямі памешчыкаў рабілі ў выглядзе насыпаў. Вёска *Kopiec* узнікла ў 1744 г. менавіта непадалёку з такім насыпам, капой. Гл.: J. Wiśniewski, *Dzieje osadnictwa w pow. Augustowskim od XV do końca XVIII wieku [w:] Studia i materiały do dziejów Pojezierza Augustowskiego,* red. J. Antoniewicz, Białystok1967, s. 243.

[2] І.Я. Яшкін, *op. cit.*, с. 341.

[3] *Ibidem,* с. 340.

[4] *Ibidem*, с. 115.

Апазіцыя *wielki – mały*. Пара *вялікі – малы* ў польскіх айконімах рэалізуецца двума тыпамі апазіцыі: *wielki – mały і duży – mały*. Кампанентамі *wielki – mały* выражаны наступныя пары айконімаў: GLINISZCZE WIELKIE – Сакольск. пав., GLINISZCZE MAŁE – Сакольск. пав., OZIERANY WIELKIE – Сакольск. пав., OZIERANY MAŁE – Сакольск. пав., ZUBRZYCA WIELKA – Сакольск. пав., ZUBRZYCA MAŁA – Сакольск. пав., ZWIERZYNIEC WIELKI – Сакольск. пав., ZWIERZYNIEC MAŁY – Сакольск. пав.

Апазіцыя *duży – mały* знайшла адлюстраванне ў парах айконімаў: HRYNIEWICZE DUŻE – Бельск. пав., HRYNIEWICZE MAŁE – Бельск. пав., JATWIEŹ DUŻA – Сакольск. пав., JATWIEŹ MAŁA – Сакольск. пав., MIERZWIN DUŻY – Бельск. пав., MIERZWIN MAŁY – Бельск. пав., SAMUŁKI DUŻE – Бельск. пав., SAMUŁKI MAŁE – Бельск. пав., SKRZYPKI DUŻE – Бельск. пав., SKRZYPKI MAŁE – Бельск. пав., TYNIEWICZE DUŻE – Гайн. пав., TYNIEWICZE MAŁE – Гайн. пав.

Некаторыя польскія айконімы выражаны толькі адной часткай апазіцыі *wielki* або *duży*: *wielki* BOBRA WIELKA – Сакольск. пав., CIEŚNISK WIELKI – Сакольск. пав., ŁOSOŚNA WIELKA – Сакольск. пав., MISZKIENIKI WIELKIE – Сакольск. пав., PRUSKA WIELKA – Аўгуст. пав.; duży OPAKA DUŻA – Гайн. пав., PASIECZNIKI DUŻE – Гайн. пав.

У беларускай айканіміі з матывавальнымі формамі велічыні *вялікі – малы* фіксуюцца наступныя назвы.

Апазіцыя *вялікі – малы*. Айконімы ВЯЛІКАЕ ДЗЯМІДКАВА – Гродз. вобл., Гродз., МАЛОЕ ДЗЯМІДКАВА – Гродз. вобл., Гродз., ВЯЛІКАЕ СЯЛО – 4 назвы: Брэсцк. вобл., Пруж., Гродз. вобл., Гродз., Ваўк., Шчуч., МАЛОЕ СЯЛО – Гродз. вобл., Шчуч., ВЯЛІКАЯ АЛЬШАНКА – Гродз. вобл., Гродз., МАЛАЯ АЛЬШАНКА – Гродз. вобл., Гродз., ВЯЛІКАЯ УГРЫНЬ – Гродз. вобл., Зэльв., МАЛАЯ УГРЫНЬ – Гродз. вобл., Зэльв., ВЯЛІКІ КРАСНІК – Брэсцк. вобл., Пруж., МАЛЫ КРАСНІК – Брэсцк. вобл., Пруж., ЗОСІН ВЯЛІКІ – Брэсцк. вобл., Пруж., ЗОСІН МАЛЫ – Брэсцк. вобл., Пруж., ды інш.

Айконімы, выражаныя толькі кампанентам *вялікі*: ВЯЛІКА РЫТА – Брэсцк. вобл., Малар., Шчуч., ВЯЛІКАЕ МАЖЭЙКАВА – Гродз. вобл., ВЯЛІКАЕ СЯЛО – 4 назвы: Брэсцк. вобл., Пруж., Гродз. вобл., Гродз., Ваўк., Шчуч., ВЯЛІКАЯ КУРНІЦА – Брэсцк. вобл., Брэсцк. Ды інш.

Айконімы, выражаныя толькі кампанентам *малы*: МАЛАЯ ЛАПЕНІЦА – Гродз. вобл., Ваўк., МАЛЫЯ ГОЛЬНІ – Гродз. вобл., Бераст., МАЛЫЯ ДАРАПЕЕВІЧЫ – Брэсцк. вобл., Малар.

Айконімы, выражаныя толькі кампанентам *прамы*: ДАЛІНА ПРАМАЯ – Гродз. вобл., Шчуч.

Апазіцыя *левы – правы*. Беларускія айконімы фіксуюць адзіны выпадак апазіцыі *левы – правы*: МАСТЫ ЛЕВЫЯ – Гродз. вобл., Маст., МАСТЫ ПРАВЫЯ – Гродз. вобл., Маст.

Канфігурацыя мясцовасці ў прасторы можа быць выражана таксама геаметрычнымі формамі:

*Круг*: KRUGLANY – Сакольск. пав., магчыма, што назва ўтварылася ад геаметрычнай круглай формы мясцовасці.

Беларускія айконімы: КРУГЛАЕ – Брэсцк. вобл., Пруж., КРУГЛІКІ – Гродз. вобл., Гродз., КРУГЛЯНЫ – Гродз. вобл., Гродз.

Варта адзначыць, што ў славянскай геаграфічнай тэрміналогіі апелятыў *круг* можа рэалізавацца ў розных значэннях, не толькі суадносіцца з геаметрычнай формай паселішча. Семантычна *круг* можа вар'іраваць ад 'асобны лясок, рошча', часам 'зараслі кустоўя', супадаць з азначэннем балота, а дакладней яго формай, выяўляць прыкметы 'невялікага памеру' і 'акружнасці цвёрдага грунту'. Ва Усходнім Палессі можа азначаць 'топкае балота, зазвычай заросլае вольхай', 'альховы лес' або 'асобнае балота сярод лісцевага лесу', а таксама 'сенажаць на нізкім месцы', агульна 'нераспрацаваную зямлю'[1].

***Зігзаг***: RYGAŁÓWKA – Аўгуст. пав., назва, хутчэй за ўсё, узнікла ад літоўскай назвы ў значэнні 'луг зігзагападобнай, выгнутай формы', побач з якім знаходзіцца мясцовасць[2].

***Квадрат***: КВАТАРЫ – Гродз. вобл., Бераст., ад *кватэра* 'квадрат, роўная чатырохвугольная плошча; невялікі кавалак зямлі';

***Трохвугольнік***: КЛІНЧАНЫ (вар. Клінчане) – Гродз. вобл., Гродз., ад *клін* 'участак зямлі, які мае форму трохвугольніка; участак лесу, які вострым вуглом уваходзіць у поле/палетак/глыбокі яр';

Да гэтай жа групы адносім назвы, выражаныя іншага тыпу канфігурацыяй мясцовасці: КРЫЎЛЯНЫ – 2 назвы: Брэсцк. вобл., Жаб., Кам., ад *крывы* 'выгнуты, з загібамі; няроўны, непрамы', РАЖКОЎКА – Брэсцк. вобл., Кам., са значэннем 'востры загнуты канец чаго-небудзь'.

Сярод аналізаваных айконімаў адзначаецца група назваў, якія сфарміраваліся пры дапамозе вобразных сродкаў. Метафарычнае суаднясенне апелятыва з адлюстраваннем рэчаіснага кшталту, формы або іншых рэаліяў мясцовасці дало аснову назвам, матываваным назвамі частак цела, назвай птушкі, якую нагадвае форма тапааб'екта, назвай харчовага прадукту, характэрнага сваёй формай і г. д.[3] Для выяўлення семантыкі ў такога тыпу найменнях патрэбная, з аднаго боку, дадатковая, наколькі гэта магчыма, дакладная інфармацыя аб мясцовасці (легенды, паданні, гісторыя ўзнікнення паселішча і інш.), з другога – фіксацыя шэрагу аднатыповых назваў, на базе якіх можа прачытвацца этымалогія наймення.

Многія айконімы, суадносныя з формай або канфігурацыяй аб'екта, утварыліся шляхам вобразнай намінацыі, матываваныя:

Назвамі частак цела: ГАЛОЎЧЫЦЫ – Брэсцк. вобл., Пруж., на аснове *галава*, што ў геаграфічнай бел. тэрміналогіі можа азначаць 'паўвостраў на павароце ракі, які нагадвае галаву звера; калена ракі', КАЛЕНІКІ – 2 назвы: Гродз. вобл., Бераст., Гродз., ад *калена* са значэннем 'круты

[1] Н.И. Толстой, *Славянская географическая терминология: Семасиологические этюды,* Москва 1969, с. 118–119.

[2] M. Kondratiuk, *Elementy bałtyckie w toponimii i mikrotoponimii regionu białostockiego*, Wrocław – Warszawa – Kraków – Gdańsk – Łódź 1985, s. 64.

[3] Т.М. Аліферчык, *Тапанімія…*, с. 119.

паварот ракі, дарогі', 'лука каля ракі', 'вір, глыбокае месца на павароце ракі, каля крутога берага', ШЭЙКІ – Гродз. вобл., Зэльв., ад *шыя* 'вузкая сенажаць на балоце'.

Назвай птушкі: ГУСАК – Брэсцк. вобл., Малар. Паселішча з пачатку свайго існавання мела зігзагападобную планіроўку, якая нагадвала абрысам гусака, адсюль назва вёскі[1];

Формай харчовага прадукта: КАЛБАСІНО (вар. Каўбасіна) – Гродз. вобл., Гродз., магчыма, ад *калбаса* 'шнур, вузкая і доўгая палоска сенажаці', КЕЛБАСКІ – Гродз. вобл., Гродз.;

Формай побытавага прадмета: ВІЛЫ – Брэсцк. вобл., Кам., ад *вілы* 'мясцовасць у выглядзе вузкай палоскі, якая заканчваецца ўчасткам квадратнай формы паміж рэчкамі пры ўпадзенні адной з іх у другую'[2], СКРЫНКІ – Гродз. вобл., Гродз., ад *скрыня* 'ўпадзіна, лагчына, якая нагадвае сабою скрыню'.

Падсумоўваючы, прааналізаваныя айконімы прэзентуюць сабой шырокі спектр найменняў, сфарміраваных на базе апелятыўнай і анамастычнай лексікі. Назвы, матываваныя лакалізацыяй мясцовасці ў прасторы выражаны прыродна-геаграфічнымі арыенцірамі (*bagno, bór, jezioro, las, rzeka; балота, гара, поле, пруд, рака*), канкрэтнымі мясцовасцямі або воднымі аб'ектамі (*в. Grodzisk* – в. PODGRODZISK*, р. Kamionka* – в. PADKAMIONKA*, в. Macharce* – в. PODMACHARCE*, в. Śpicze* – в. ZAŚPICZE*; воз. Белае* – в. ПАДБЕЛАЕ*, в. Дворцы* – в. ЗАДВОРЦЫ*, х. Ор* – в. ЗАОР'Е*, в. Сімавічы* – в. ЗАСІМАВІЧЫ), аб'ектамі пабудовы (*двор* – в. ЗАДВАРАНЫ*, мост* – в. ЗАМАСЦЯНЫ). Дадаткова, каардынаты мясцовасці могуць вызначацца непрасторавымі паняццямі (тыпу: в. GATNE PIERWSZE – в. GATNE DRUGIE*;* в. АСТРАВОК 1 – в. АСТРАВОК 2). Да найменняў, матываваных лакалізацыяй мясцовасці ў прасторы, адносяцца таксама айконімы, матываваныя значэннямі „натуральнай" і „штучнай" мяжы (тыпу: в. BIAŁOBRZEGI*;* в. АБРУБ, пас. БЕРАГАВЫ, в. БЯРЭЖКІ, в. ЗАРУБІЧЫ, в. ПЕРАСЕК, в. ПЯТЧЫЦЫ).

Айконімы, матываваныя канфігурацыяй мясцовасці ў прасторы, суадносяцца з формай паселішча або яго ўзаемным размяшчэнні з іншым месцам, заселеным людзьмі. Апошнія, выражаныя пераважна антанімічнымі парамі: *вялікі – малы (*в. GLINISZCZE WIELKIE – в. GLINISZCZE MAŁE*;* в. OZIERANY WIELKIE – в. OZIERANY MAŁE; в. ВЯЛІКАЕ СЯЛО – в. МАЛОЕ СЯЛО, в. ВЯЛІКАЯ АЛЬШАНКА – в. МАЛАЯ АЛЬШАНКА); ці *доўгі – кароткі (*в. DŁUGI BRÓD, в. DŁUGOSIELCE; в. ДОЎГАЕ*)*, дзе аднак выражана толькі адна частка апазіцыі *доўгі*.

Сярод аналізаваных назваў сустракаюцца таксама найменні, суадносныя з геаметрычнымі формамі, тыпу: *зігзаг, квадрат, круг, трохвугольнік* (в. KRUGLANY, в. RYGAŁÓWKA; в. КРУГЛАЕ, в. КВАТАРЫ, в. КЛІНЧАНЫ). Дадаткова, рэструюцца найменні, якія ўтварыліся шляхам вобразнай намінацыі на аснове назваў: частак цела (в. ГАЛОЎЧЫЦЫ,

[1] *Гарады і вёскі Беларусі. Энцыклапедыя*..., с. 336.
[2] І.Я. Яшкін, *op. cit.*, с. 146.

в. Шэйкі), птушкі (в. Гусак), харчовага прадукта (в. Калбасіно), побытавага прадмета (в. Вілы).

*Volha Tratsiak*

**Oikonyms Motivated by the Place's Location or Configuration (with the Example of Oikonyms of the Polish-Belarusian Borderline)**

A b s t r a c t

The article offers an analysis of names of villages and towns which are motivated either by the location or by the configuration of the relevant object. Such oikonyms contain information on the geographical space, which, according to some scholars, is one of the most significant ways of perceiving reality by humans. A human being occupies a central position within geographical space, determining the direction and the way of naming certain geographical objects according to their position and choosing the most significant points. As a result, topographic features observable in oikonyms reflect the division of a certain space according either to a horizontal or to a vertical line, which, in both cases, is related to the idea of "border". In addition, within the area of the Polish-Belarusian borderline it is possible to indicate names which reflect the spatial configuration mainly by means of association or connotation.

**Іван Штэйнер**
Гомель

# Гратэскнае ўспрыманне рэчаіснасці як дамінантны кампанент смеху ў беларускай і еўрапейскай сатырычнай традыцыі

У *Кнізе Ездры* Францыск Скарына пісаў: "Яко бо трескотание теръновыхъ дровъ подъ котломъ, тако и смехъ безумнаго, но и то есть суета" (КЕ, 11). Выслоўе нашага першадрукара з'явілася прыкладна ў той самы час, калі быў зацверджаны *Эдыкт веры* (*Edict de la fe*, 1525), згодна з якім у сацыяльным жыцці Еўропы былі ўстаноўлены самыя суровыя абмежаванні і забароны. Нельга весці пустыя размовы, быць у мудрагельстве бязбожнікам, шукаць ісціну за межамі катэхізісу, жыць паводле сваіх уласных законаў і ўяўленняў. У прыватным існаванні забаронаў было створана не менш, што разам прывяло да фантасмагарычнай сітуацыі, калі амаль у роўнай ступені становіцца небяспечна і гаварыць, і маўчаць. Horribile audity – страшна пачуць; horribile visu – страшна пабачыць; horribile dictum – страшна сказаць. У такіх выпадках у мастацкіх і публіцыстычных творах на першы план выходзіць гратэскны тып вобразнасці, абумоўлены менавіта падобным успрыняццем рэчаіснасці. Гратэск звычайна лічыцца формай для выказвання суб'ектыўнага, індывідуальнага светапогляду: набліжаючы далёкае, спалучаючы ўзаемаадмаўляльнае, парушаючы звыклыя ўяўленні, ён набліжаецца да парадоксу ў логіцы. Але толькі дзякуючы яму магчыма замяніць прыватнае заканамерным, агульным: гратэскнае ўспрыняцце становіцца не толькі бачаннем індывідуальным, але і паспалітым, агульным, саборным. Яно дазваляе выйсці за межы рамантычнай схемы, у якой пісьменнік баіцца рэальнага свету і, у сваю чаргу, палохае чытача. Гратэскнае – гэта свет, які стаўся чужым, – сцвярджаў Вольфганг Кайзер. Менавіта падобная ўласцівасць гратэску , як гэта ні дзіўна на першы погляд, і абумоўлена прыродай смеху. З гэтай высновай пагаджаўся Фрыдрых Ніцшэ: "Чалавек – адзіны ў свеце, хто пакутаваў так моцна, што вымушаны быў прыдумаць смех"[1]. Ён жа сцвярджаў, што ўсё смешнае мае на сабе след, пакінуты злом. Зло не параджае смеху, але без яго смех бессэнсоўны і нават немагчымы.

[1] Ф. Ницше, *Воля к власти: Посмертные афоризмы: Сборник*, Минск 1999, с. 207.

У гэтым разбуральнік аўтарытэтаў блізкі да Георга Вільгельма Фрыдрыха Гегеля, які сцвярджаў, што сатыра і суб'ектыўны гумар, як і іронія, вынікаюць з нейкай неадпаведнасці, якая ўзнікае паміж аб'ектыўнасцю крэатара і аб'ектыўнасцю свету і прыводзіць да іх несумяшчальнасці. Сатыра і з'яўляецца формай мастацтва, якую прымае вобраз адзначанай супрацьлегласці паміж канечнай суб'ектыўнасцю і выродлівым знешнім светам, а сатырычны мастак – гэта той, хто з вышыні сваёй насміхаецца над сапсаваным светам, які не супадае з ягонымі ідэаламі дабра і справядлівасці.

Гісторыя сусветнай літаратуры дае шчодры матэрыял для сцвярджэння падобнага тэзісу. У гэтым плане цікавая манера паводзін вялікіх філосафаў старажытнасці Дэмакрыта і Геракліта. Усюдыісны Мішэль Мантэнь раздзел L (50) сваіх *Les essais* так і назваў: *Пра Дэмакрыта і Геракліта*. Следам за сваімі вялікімі папярэднікамі ён гаварыў пра славутых філосафаў, "из коих первый, считая судьбу человека ничтожной и смешной, появлялся на людях не иначе, как с насмешливым и смеющимся лицом. Напротив, Гераклит, у которого тот же удел человеческий вызывал жалость и сострадание, постоянно ходил с печальным лицом и полными слез глазами"[1].

Пра антыподаў у гэтай выключна чалавечай сферы згадваў мала чытаны, але надзвычай шчодра цытаваны сярэдневечны Франсуа Рабле. Невыпадкова ён сцвярджаў, што якраз Гарганцюа і Пантагруэль "изобразили собой гераклиствующего Демокрита и демокритствующего Гераклита", г. зн. перакруцілі ў чарговы раз звыкласць чалавечага ўспрымання. Што ж выбіраць людзям у гэтай дылеме? Якія падставы для весялосці ў жахлівай зямной юдолі? Відаць, большасці даспадобы мудрасць Эклезіяста: "О смѣхѣ сказалъ я: глупость! а о весельѣ: что оно дѣлаетъ?" Людзі пераканаліся, што паміж хаценнем, жаданнем і яго ажыццяўленнем заўсёды стаіць нехта, хто можа забраць хлеб, волю і само жыццё ў аднаго і аддаць іншаму. Няма ніякага спадзявання на шчасце ў гэтым свеце, таму дзень смерці лепшы за дзень нараджэння: "сердце мудрыхъ – въ домѣ плача, а сердце глупыхъ – въ домѣ веселья" (*Екклесиаст*, 1:4).

Разам з тым ва ўсе часы з'яўляліся людзі, якія імкнуліся сцвердзіць адваротнае. У эпоху Адраджэння маладыя філосафы і асветнікі правялі эксперымент, спрабуючы з дапамогай смеху і гумару ўзняць узровень грамадскай самасвядомасці. Томас Мор стварыў *Утопію*, у якой паказаў віртуальную краіну, дзе ўсім людзям гарантавана шчасце. Ягоны сябра і аднадумца Эразм з Ратэрдама адказаў на гэтыя намаганні іранічнай *Пахвалой Дурасці*, бо зразумеў абсалютную марнасць падобных спадзяванняў у такім недасканалым сусвеце. З таго часу свет падзяліўся на адэптаў Мора і Эразма, прычым прыхільнікаў апошняга ва ўсе часы і эпохі было нашмат болей, як і дурняў у параўнанні з разумнікамі

[1] М. Монтень, *Опыты: Избранные произведения в 3–х томах*, т. 1, Москва 1992, с. 323.

наогул у нашым зямным жыцці. Да іх шчодра далучаліся і прадстаўнікі з першага атрада, калі паступова гублялі веру ў сілу і бязгрэшнасць розуму, а разам з тым у мажлівасць нешта перайначыць, змяніць *сію юдоль* цярпення і пакутаў. Як той самы Джонатан Свіфт, што марыў складаць вершаваныя оды ў гонар жыцця. Але не атрымалася, таму стаў сатырыкам і напісаў *Казкі бочкі*, у якіх падаў сатырычны агляд жыцця Еўропы XVII стагоддзя. Праз падарожжы Гулівера ён здолеў расказаць пра інстытуты, створаныя чалавекам, і аб тым, што такое чалавек, які стварыў падобнае; і да чаго прыйдзе чалавецтва і ўсё створанае ім, калі яно будзе і надалей развівацца ў падобным напрамку. Агульны настрой ягоны надзвычай песімістычны. Вось чаму пісьменнік і ў жыцці, і ў творчасці паўстае раздражнёным, поўным смутку і сарказму. Ф. Рабле таксама крытыкаваў грамадскія норавы, ягоныя творы перапоўненыя злоснай іроніяй, але пісьменнік не губляў пры гэтым жыццярадасці, здароўя душы. Хваробы грамадства не знішчылі ў ім нястрыманага жадання жыць, яго смех вынікаў з лішку энергіі. Можа таму, што ён ведаў сакрэт: толькі смехам можна знішчыць пачварнае і нялюдскае. Слязамі, пры ўсіх намаганнях, не заб’еш. Невыпадкова Аляксандар Герцэн пісаў, што смех Франсуа-Мары Аруэ Вальтэра разбурыў болей, чым слёзы Русо. І гэта нягледзечы на тое, што іранічны і з’едлівы французскі філосаф глядзеў на недасканалае жыццё чалавека збоку, гуляючы пры гэтым мастацтвам слова і выдумкі. Марк Твэн значна пазней сказаў, што чалавецтва валодае толькі адной зброяй, і гэта – смех.

Не менш яскравыя прыклады можам знайсці ў нацыянальнай традыцыі. Так, адзін з лепшых сатырыкаў XX ст. Андрэй Мрый у сваёй творчасці арыентаваўся на падобныя ўспрыманні ўласнай гісторыі, з якой вынікае, што слёзы актуальныя толькі на пахаванні, а таму яшчэ адзін трэнас над сконам народа не прыдасць аптымізму. З’яўленне рамана *Запіскі Самсона Самасуя* цалкам заканамерна і апраўдана агульнымі законамі развіцця грамадства на канкрэтным гістарычным этапе. Як вядома, падобныя творы (*Карабель дурняў* Себасцьяна Бранта, *Пахвала Дурасці* Эразма Ратэрдамскага, *Дон Кіхот* Мігеля дэ Сэрвантэса, *Гарганцюа і Пантагруэль* Ф. Рабле, *Сімпліцысімус* Якаба фон Грымэльсгаўзэна, *Ціль Уленшпігель* Шарля дэ Кастэра) з’явіліся ў разломныя (выкарыстаем параўнанне з геалогіі) эпохі, калі кардынальна мяняліся эканамічныя фармацыі, руйнаваліся традыцыйныя спосабы вядзення гаспадаркі, на месцы якіх прыходзілі зусім супрацьлеглыя, што выклікала катастрафічныя змены ў свядомасці, маралі, сістэме дзяржаўнасці. Асабліва складаным, супярэчлівым уяўляецца перыяд, калі рэзка абрушыліся традыцыйныя ўстоі, а новыя яшчэ не сфармаваліся, бо ніхто дакладна і не ведаў, якімі яны павінны быць. А вось якімі не павінны быць – усе ведалі добра. Нават празмерна.

Героі беларускіх сатырычных твораў, як і іх замежныя родзічы, катэгарычна адмаўляюць аўтарытэт бацькоў, горача аспрэчваючы іх ідэалогію і жыццёва-маральныя прынцыпы. Яны, дзеці сялянскай

вёскі, і чуць не хочуць пра хлебаробскую працу. Вось чаму на прапанову бацькі кінуць марныя вандроўкі і ўзяцца за зямлю, Самсон Самасуй тэатральна, паводле слоў аўтара, узносіць палымяны маналог: "Як жа? Буду калупацца ў пясочку вашым? Няхай троху пачакае! Якое тут жыццё? Бачыўшы цывілізацыю, які разумны чалавек пачне рабіць гэта калупайства ваша? Краты вы, а не людзі! Які сэнс у вашай крацінай працы?"[1]

Сымон з аповесці Лявона Савёнка *Запіскі эмігранта* цалкам салідарны са сваім калегам, бо адмаўляе новы зямельны закон: "Зямлю рабіць мне не да твару, і хлеба на мой век хопіць"[2]. Ён больш вопытны, зведаў голад, які прынесла новая ўлада селяніну на нібыта ўласных гонях. І Мікіце Зносаку з *Тутэйшых* Янкі Купалы зямля, пра якую марылі ягоныя бацька і маці, абсалютна не патрэбна: "Не цягне яго туды, ой, не цягне!"[3]. Ён, пралетар разумовай дзейнасці, знойдзе свой кавалак хлеба на брукаванцы. Зямля для іх – не карміцелька, а вораг, якога трэба пераадолець. Згадаем, як бацька Сімпліцыя шануе "зброю палаца" – матыкі, калуны, сякеры, плугі, якімі ён ваюе з зямелькай за ўраджай. А сыну гэта ўжо не патрэбна, як рыцарскі рыштунак нашчадкам славутага ідальга.

Класічна-традыцыйнай сялянскай працы, апісанню якой беларуская літаратура прысвяціла незлічоную колькасць узнёслых ці яскравых змрочна-велічных старонак, кардынальна супрацьпастаўляецца ўзнаўленне новай творчай дзейнасці новых гаспадароў жыцця, якія занятыя зусім іншым: "А вакол гудзеў народ, шчырчэлі пёркі скрыбаў, з шолахам пераварачваліся аркушы паперы, рыпалі дзверы шафаў, са стогнам перакладваліся з месца на месца вялізныя, тоўстыя кнігі з лічбамі сялянскага жыцця"[4] Не менш плённай успрымаецца "дзейнасць" усіх сяброў Чужанінава з аповесці Л. Савёнка, якія крадуць, нішчаць, валакуць, прадаюць і г. д. Аднак якраз з падобных амаль віртуальных дзеянняў маюць зусім рэальныя выгоды, у адрозненне ад тых, хто хоча яшчэ займацца рэальнай справай. Маці Мікіты Зносака не можа зразумець памкненні сына, а той імкнецца і яе далучыць да сваіх гэшэфтаў. Даследчык рускага смеху Дзмітрый Ліхачоў пісаў: "В этом изнаночном, перевернутом мире человек изымается из всех стабильных форм его окружения, переносится в подчеркнуто нереальную среду"[5].

А. Мрый падобнае адмаўленне давёў да абсурду, са смехам падкрэсліваючы, што старое пакаленне не разумеюць і не прызнаюць не толькі маладыя жэўжыкі, але ціхмяна-пакорная кабыла і, тым болей, местачковыя каровы і нават свінні, што акупавалі дарогу і не даюць

[1] А. Мрый, *Творы: Раман, апавяданні, нататкі*, уклад. і прадмова Я. Лецкі, Мінск 1993, с. 31.
[2] Л. Савёнак, *Творы*, Мінск 2012, с. 280.
[3] Я. Купала, *Поўны збор твораў: у 9 т.*, т. 7, Мінск 2001, с. 265 .
[4] А. Мрый, *op. cit.*, с. 36.
[5] Д. Лихачев, А. Панченко, Н. Понырко, *Смех в Древней Руси*, Ленинград 1984, с. 15.

местачкоўцам наладзіць, паводле слоў аўтара, "дыпламатычныя зносіны бацькоў і дзяцей". А потым тлумачыў сітуацыю не толькі класічным канфліктам пакаленняў, але і філасофскім тэзісам: "Жыццё заблытала і няма ў ім строга акрэсленай наменклатуры". Людзям даволі цяжка зрабіць выбар у падобнай сітуацыі, асабліва калі знікаюць выразныя арыенціры і сацыяльны рух набывае якасці броўнаўскага. Невыпадкова Самсон падчас настолькі абураны ангельскімі імперыялістамі, што гатовы перарэзаць ім горла. А іншым разам салодка марыць пра прынады і спакусы буржуазнага жыцця. Падобныя супярэчнасці ягоны калега ахарактарызаваў, як і ўсе героі, афарыстычна: "У цябе ўсё мужыцкае, а пуза – панскае". Невыпадкова ягоныя супярэчнасці плённа выкарыстоўваюць ідэолагі новага: "Такія людзі нам патрэбны. Часам дзірку якую заткнуць. Але яго трэба ў рукі ўзяць, тады Самасуй будзе добрай прыладай для знішчэння старога".[1]

Мудрасць старажытная, векавая сыходзіць, а новая яшчэ не сталася звыклай, зразумелай, прынятай, менавіта таму пануе, як і ў эпоху Эразма, царства дурасці. У рамане А. Мрыя, нібы ў *Дон Кіхоце*, шмат старонак прысвечана адлюстраванню таго, як грамадства, дакладней, некаторыя прыстасаванцы, што маняцца стаць святейшымі, чым папа, вядуць барацьбу з артэфактамі старога ладу. У іспанскім рамане знішчаюцца рыцарскія рэліквіі, у наш час усё, што звязана з нібыта ўчарашнім днём. Ці не адсюль вынікае невытлумачальная нянавісць да артэфактаў, якія ўвасабляюць і сімвалізуюць сабою мінулае, іх бязлітаснае выкараненне, што тлумачыцца вельмі проста: "Рэвалюцыя не бывае без ахвяраў!" Невыпадкова раздзел шосты другой часткі рамана А. Мрыя так і называецца – *Прапаганда агіды да старога*. Сярод экспанатаў музея, які створаны дзеля апошняй мэты, быў 30-пудовы мармуровы помнік любаму сабаку князя Мрачкоўскага з надпісам "Каханаму Бульдогу Ваўкадавічу" з аднаго боку і "Спі спакойна! Не пачуць мне больш тваёй ласкавай журлівай брахні, не паціснуць тваю шляхетную лапу" – з другога. Гэтаму служыла і каменная баба вагою да 80 пудоў, якую знайшлі на беразе Сожа; каменная труна і дагістарычная міска вагою 40 пудоў (sic!), майстэрня каменных прылад. Але на гэтым барацьба не спынілася[2]. Амаль як у Сервантэса, калі праводзілася "інвентарызацыя" знойдзенага на гарышчы і ў каморах. Заўсёды з дапамогай актыўных дурняў здзяйсняліся злачынствы.

Відаць, па-іншаму і нельга, бо ўсе валадары "правили глупой толпой посредством ловко придуманных басен. Чепуха этого рода приводит в движение исполинского и мощного зверя – народ"[3]. Так, у творы А. Мрыя сімвалам паяднання старога і новага з'яўляецца манекен бабкі, якую абавязкова клічуць разам з акушэркай да парадзіхі.

[1] А. Мрый, *op. cit.*, с. 111.
[2] *Ibidem*, с. 107.
[3] Э. Роттердамский, *Похвала Глупости: Сочинения,* Москва 2000, с. 288.

Пра сілу і неадчэпнасць прымхаў і забабонаў сведчыць хамут, які надзяваюць перад адыходам ведзьмака, бо з ягонай дапамогай можна ўбачыць смерць у поўным яе агідным і жудасным выглядзе. На месцы традыцыйных абрадаў з'яўляюцца новыя. Невыпадкова мясцоваму музыку даручылі напісаць цырыманіял чырвоных хрэсьбін, вяселля і хаўтур, а для іх ажыццяўлення шукаюць адпаведнае памяшканне, выкідаючы пры гэтым з родных хат кулакоў ці ўсіх тых, каго можна залічыць да саслоўя эксплуататараў. У якасці ілюстрацыі да змагання са старым і з'яўлення новых звычаяў варта прывесці балет па прынцыпу тармасухі з калектыўнай п'есы *Пратарчака жыцця*, дзе былі эпізоды, што "захаплялі і падаўлялі сваёй індустрыяй і харастывом". Каб высмеяць мінулае, акторы, да пояса голыя, апранутыя ў ваўчыныя, лісіныя, авечыя скуры, раней за ўкраінскую Руслану паказалі свету "дзікунскія танцы", якія, у сваю чаргу, набралі такі розгалас, што сталіся апошнімі ў шапялёўскай кар'еры Самсона, але зусім не астатнімі ў ягоным будучым існаванні. Падобныя сутыкненні і вядуць да стварэння выключна парадыйных сітуацый, якія перарастаюць у сатырычныя. Пра гэта добра сказаў еўрапейскі інтэлектуал Мілан Кундэра: "Калі хочуць ліквідаваць народ, у яго найперш адбіраюць памяць. Знішчаюць ягоныя кнігі, ягоную культуру, ягоную гісторыю. І нехта іншы напіша для яго іншыя кнігі, прыўнясе іншую культуру і прыдумае іншую культуру. Тады народ пачне забываць, хто ён такі і кім быў. Свет вакол яго забудзе пра гэта намнога раней.

– А мова?

– А навошта нейкаму забіраць яе ў нас? Яна стане проста фальклорам і рана ці позна памрэ натуральнай смерцю".

Заўсёды ў такіх выпадках шукаўся стрыжань, які дазволіць мець надзею ў гэтым хвалюючым моры, знайсці адвечную дошку ратавання, якой доўгі час быў Збавіцель. Ці не таму А. Мрый не адмаўляе канчаткова сучаснае яму грамадства, бо ў болей значнай ступені судзіць канкрэтнае жыццё чалавечае. Ён пратэстуе, што некаторыя асобы ўбачылі ў ягоным рамане, як і ў *Пахвале Дурасці* Э. Ратэрдамскага, "непременно язвительное издевательство, а не наставление, не увещание". Беларускі пісьменнік, як і некалі вялікі папярэднік у прадмове да сваёй галоўнай кнігі, прадчувае небяспеку, бо ўсе папрокі, узнятыя ў творах, вельмі часта скіроўваюцца супраць аўтараў: "Кто не щадит ни одного звания и сословия в роде людском, тот ясно показывает, что не против отдельных лиц, а только против пороков он ополчился. И так, ежели кто теперь завопит, жалуясь на личную обиду, то лишь выкажет тем свою боязнь и нечистую совесть"[1].

Эразм з Ратэрдама, што рэльефна бачыцца за спіною Дурасці, – сапраўдны філосаф, які надзвычай скептычна глядзеў на гэты свет, на чалавека, ягоныя мажлівасці. За спінаю Мікіты Зносака стаіць

[1] *Ibidem*, с. 26.

Я. Купала, як за Самсонам Самасуем – А. Мрый, пісьменнікі-філосафы, якія, нібы ляльку-марыянетку, спрабуюць павадзіць свайго нязграбнага героя па колах чарговага пекла, каб паказаць перакуленасць і звыродлівасць свету. Але не заўсёды атрымліваецца, бо той увесь час імкнецца парваць ніткі і выскачыць на волю. Апошняе даволі часта яму ўдаецца, і тады ён самахоць учыняе такія выбрыкі, што нават дзівіць свайго добра замаскаванага крэатара, які, праўда, зрэдзь-зрэдзь з’яўляецца на вочы шаноўнай публікі. А. Мрый, Л. Савёнак сапраўды пафіласофску дазваляюць больш-менш абазнанаму чытачу прыйсці да высновы, што нічога не мяняецца ў гэтым свеце. І што б ні спрабавалі б змяніць у грамадстве, адносінах паміж людзьмі, чалавек застаецца такім, як і паўтысячы гадоў таму, а ў свеце як кіравала, так і кіруе яе вялікасць Дурасць у асобах самых яе лепшых і адданых васалаў і служак. Невыпадкова ў *Эклезіасце* напісана: “Бесконечно число глупцов” (*Экклесиаст*, 1, 15)

Прычым з апошнімі звязаны не толькі войны, эпідэміі, але і праграэс чалавецтва, мастацтва, навукі. Пра гэта піша і славуты М. Сервантэс, які на згадку ягонага героя, што кніга пра Дон-Кіхота задаволіць нямногіх, упэўнена б адказаў: “Как раз наоборот: ведь stultorum infinitus est numerus, а посему ваша история пришлась по вкусу множеству читателей”. Тым болей, што камічнае мацней уздзейнічае на розум чалавека, чым трагічнае. З падобнымі высновамі салідарызуецца і крытык з БелАППа, які дасканала спасціг сутнасць твора А. Мрыя: “Паказваючы жыццё беларускай вёскі, жыццё мястэчка, аўтар усіх персанажаў твору – ад кіруючай партыйнай верхавіны да звычайных сялян – малюе нейкімі недацёпамі, нейкімі дурнямі. Ніводнага мамэнту будаўніцтва новага жыцця на вёсцы ці ў савецкім мястэчку мы ў гэтым творы не ўбачым. Аўтар не толькі сабраў паасобныя моманты, што маюць месца ў нашым жыцці, але так згусціў фарбы, што перад намі ўстае перакрыўленае жыццё, пастаўленае дагары нагамі”[1].

Зразумела, лепш падвяргацца нападкам Дурасці, чым рэальнафізічным. Аднак не толькі гэтым тлумачыцца той факт, што А. Мрый, як і яго вялікі папярэднік Эразм, схільны “более к смеху, нежели поношению”. Падобны настрой болей даспадобы і М. Мантэню: “Не потому, что смеяться приятнее, чем плакать, а потому, что в смехе больше презрения к людям, и он сильнее осуждает нас; а мне кажется, что нет такого презрения, которого мы бы не заслужили”[2].

У велічнай справе смеху без дурняў не абысціся. Невыпадкова апошнія ва ўсе часы і эпохі з’яўляліся ці не адзінай уцехай вялікім царам і каралям, якія без іх не маглі ні есці, ні піць, ні прымаць вызначальныя дзяржаўныя рашэнні. Іх любяць значна болей, чым хітрых мудрацоў, якіх трымаюць ля трона толькі дзеля прыліку. Бо толькі адны дурні

[1] А. Адамовіч, *Да гісторыі беларускае літаратуры*, Мінск 2005, с. 458.
[2] М. Монтень, *Опыты: Избранные произведения в 3–х томах*, т. 1, Москва 1992, с. 323.

гавораць праўду і пра сябе, і пра ўсіх астатніх. Згадаем момант расставання са Снапамі-Вазамі, каралеўскай дынастыяй: "Калі экс-кароль, зняўшы карону, пакідаў сейм, да яго падбег блазан і, працягваючы свой каўпак з бомкамі, прапанаваў: «Ты дрэнна выглядаеш з непакрытай галавой, таму хутчэй бяры маю мітру. Яна табе вельмі пасуе»"[1].

Гэта, бадай, адзін з даволі рэдкіх прыкладаў царскага смеху, бо, паводле Караля Чапэка, ніколі не існавала каранацыйнага гумару. Відаць, чалавек, які ўздымаецца на прыступкі трона, робіць гэта надзвычай сур'ёзна і жартаваць на гэтую тэму ён не збіраецца. Ён не спусціцца з нябёсаў да натоўпу, а даручыць падобную місію блазну.

Акрамя дурняў, прыродных ці назначаных, праўдзівасцю і шчырасцю валодаюць і, галоўнае, дзеляцца, паводле Платона, толькі дзеці і п'яніцы. Эразм лічыць, што шчырасць абумоўлена найперш Дурасцю: "При всем видимом благополучии своем государи представляются мне несчастнейшими из смертных в том смысле, что никто не говорит им правды и вместо друзей имеют они только льстецов. Но, скажут мне, царские уши не выносят правды; по этой причине и убегают государи от мертвецов, ибо относятся, как бы не отыскался среди них человек свободный, который посмеет говорить вещи более правдивые, нежели приятные. Это положим, верно: ненавистна истина царям. Но то и удивительно в моих дурачках, что до них не только правда, но явные даже укоры выслушиваются с приятностью"[2].

А. Мрый не згадзіўся іграць ролю блазна, у сваім нястрыманым памкненні сказаць людзям праўду ён забыўся пра словы вялікага філосафа: "Пусть обронит неосторожное слово мудрец; головой своей он заплатит за это". У класічнай традыцыі сталася звыклым, што мудрасць быцця павінен увасабляць і прамаўляць дурань: сутнасць трагедыі *Кароль Лір* сцвярджае блазан, а сам галоўны герой становіцца відушчым толькі тады, калі вар'яцее: "лишь одним дуракам даровали боги уменье говорить правду, никого не оскорбляя". З вуснаў дурнаваценькага чалавечка могуць беспакарана злятаць ісціны, за якія разумнік страціць і язык, і галаву. Беларускі пісьменнік даверыў сваю ісціну блазну, але ніхто не паверыў у ягоную *отчужденность* ад створанага ягоным талентам героя, справядліва ўбачыўшы ў аўтары мудраца, які гаворыць непрыкрытыя ісціны не вельмі хаваючыся, за што і быў жорстка пакараны. У чарговы раз збылося класічнае сцверджанне, што Грыл, просты воін, аказаўся больш мудрым, чым шматвопытны Адысей, бо вырашыў: лепей ператварыцца ў свінню і рохкаць у хляве, чым падвяргаць сваё жыццё і здароўе новым выпрабаванням поруч са сваім няўрымслівым гаспадаром. А доля ўсіх астатніх нікому нецікава: "если сделают они еще один шаг в сторону от скотского бессмыслия, то даже теряют способность грешить"[3]. Коштам уласнай волі і нават

[1] Л. Казлоў, *З дазволу караля і вялікага князя*, Мінск 1992, с. 38.
[2] Э. Роттердамский, *Похвала Глупости...*, с. 303.
[3] *Ibidem*, с. 301 .

жыцця А. Мрый папярэджвае пра надыход часоў, калі панаваць будуць такія асобы, як Самсон Сапронавіч Самасуй (ці не нагадвае нешта тры першыя літары імя, імя па бацьку і прозвішча героя – С.С.С.?!).

Такая заўсёдная доля мудрацоў, што вырашылі па-блазненску выказаць праўду. Невыпадкова ў сатырыкаў ніколі не было персанальнай музы. Эпікі, трагікі, комікі, лірыкі стваралі свае опусы пад патранажам-дапамогай адной з дзевяці сясцёр-музаў – Каліопы, Мельпамены, Таліі, Еўтэрпы і г. д. Безыменную ж апякунку, што натхняе не вельмі разумных індывідуумаў на стварэнне сатыры, Гарацый называў “Музай, якая ідзе пешкі па зямлі”. Відаць, таму яна і не можа абараняць сваіх адэптаў. Тым болей, іранічны і разумны К. Чапэк адзначаў, што жартуюць хутчэй у недарэчнай сітуацыі, чым на вяршыні поспеху і шчасця.

Узаемадзеянне блазна і караля ў самых неверагодных сітуацыях складае сутнасць многіх класічных дыдактычных і сатырычных твораў. Таму нікога не можа здзівіць сам зварот да вышэйшай асобы, *царствующего монарха,* што было традыцыйным у сярэднявечнай Еўропе, бо тады верылі ў богаабранасць караля, які толькі тым і займаецца, што дбае пра долю і шчасце люду паспалітага. “Кто взял в свои руки кормило правления, тот обязан отныне помышлять лишь об ответственносюти, а отнюдь не о своих приватных делах; не отступать ни на вершок от законов, коих он и автор и исполнитель; следить постоянно за неподкупностью должностных лиц и судей, вечно быть у всех перед глазами, как благодетельная звезда, охраняющая своим чудодейственным влиянием род человеческий, или как зловещая комета, всем несущая гибель”[1]. Не здзіўляе і ліст А. Мрыя *Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну*. Аднак сапраўдныя мудрацы, да якіх амаль кожны залічвае і сябе, могуць толькі ўсміхнуцца, назіраючы за падобнымі спадзяваннямі.

Смех, паводле тэарэтыкаў літаратуры, наступае тады, калі чаканае не супадае з атрыманым. Згадваючы ліст А. Мрыя да правадыра ўсіх народаў і ягоную долю, яскрава ўяўляеш не лагодную ўсмешку багіні Дурасці, а звыродны аскал нейкай пачвары, што знамянуе сабою адвечную трагедыю чалавека ў гэтай страшэннай юдолі пакут і бязвінных ахвяраў, якая і вызначае сутнасць людскога існавання: “Гора ўсім, хто жыве на зямлі”. Тым болей на забранай зямлі, дзе б’юць і плакаць не даюць. Зняважаны і пакрыўджаны Міхаіл Булгакаў, які стварыў Шарыкава і іншых стырычных персанажаў, што ўвасобілі сабой пачварную эпоху, мог пагражаць Сталіну ад’ездам назаўсёды з лепшай на свеце краіны: “Не будучи в силах более существовать, затравленный, зная, что и печататься и ставиться более в пределах СССР мне нельзя, доведенный до нервного расстройства, я обращаюсь к Вам и прошу … об изгнании меня за пределы СССР”. Як і Аляксандар Салжаніцын, які з дапамогай улады значна пазней здзейсніў пагрозу, А. Мрый не мог

[1] *Ibidem*, c. 19.

нават памарыць пра такі шчаслівы для ягонай долі зыход. Вось чаму з такой скрухай успрымаецца ягоная споведзь: “На жаль, раман астаўся невядомы рускаму чытачу. Часам мне здаецца, што калі б ён зрабіўся вядомым тады рускаму чытачу, – мне дапамаглі б пераадолець памылкі. Нават цяпер, праз 10 гадоў, у мяне мільгае ерэтычная думка, што калі б выпадкова гэтая кніжка была прагледзена Вамі, яна выклікала б у Вас вясёлы смех і ніякага непрыязнага пачуцця да рэакцыйнага пісакі, што руйнуе асновы новага жыцця. Былі выпадкі, што чытанне ўрыўкаў рамана ў публікі выклікала аднадушны смех. Гэты смех, на маю думку, сведчыць пра бясшкоднасць рамана, калі нават адмаўляць, што ён проста трапляе ў цэль, высмейваючы паганых людзей”[1].

Дарэмныя намаганні зрабіць людзей лепшымі. І ў эпоху Рэнесанса, і ў нашыя дні. Прычым не толькі дарэмныя, але і вельмі небяспечныя. А. Мрый, лепшы сатырык мінулага веку, які марыў аб тых часах, калі людзі стануць людзьмі, адразу быў прызнаны ворагам народа. Як і пазней Васіль Быкаў, які вымушаны быў апраўдвацца ў тым, чаго не рабіў і не мог ніколі зрабіць, бо тое не адпавядала ягоным маральным перакананням. Успомнім, што апошнія гады жыцця народны пісьменнік правёў за мяжою.

Вось чаму як злавесная пародыя ўспрымаецца першы абзац ліста А. Мрыя да тав. Сталіна: “Цвёрда памятаючы Вашы словы аб чулым, уважлівым стаўленні да жывога чалавека, я пішу Вам пра свае няшчасці, спадзеючыся знайсці ў Вас найвышэйшую праўду і справядлівае да мяне стаўленне”[2]. Бо абазнаны чытач ведае пра дзікунскія норавы каралёў і прыдворных вяльможаў, пра якія столькі гадоў да гэтага распавёў Эразм з Ратэрдама. А доля ягонага сабрата Томаса Мора, якому і была прысвечаная *Пахвала Дурасці*, таму бліскучае пацверджанне. Як вядома, вялікі англійскі філосаф і гуманіст, стваральнік *Утопіі*, быў сябрам караля, які не мог і дня пражыць без любага Томаса. Па загаду ж згаданага памазаніка божага Т. Мор быў пазбаўлены светлай галавы, якая потым некалькі дзён тырчала на палі ў цэнтры горада, палохаючы ягоных жыхароў. І толькі пасля шматлікіх просьбаў і нясмелых пратэстаў была аддадзена родзічам для пахавання. Калі такое рабілася з вялікімі людзьмі, якія пасмелі засумнявацца ў праве караля ствараць уласную царкву, якая ў сваю чаргу неабходная для новай жаніцьбы манарха, то што ж тады чакае простага чалавека? Тым болей, калі ён не дурань. Дурняў, згадаем яшчэ раз, заўсёды любяць. І звычайныя абыватэлі, і каралі. Бо толькі яны, дурні, бываюць шчырымі і праўдзівымі. Праўда – спадарожніца толькі віна і дзяцінства (*in vino veritas; устами младенца глаголет истина*). А. Мрый любіў свайго героя, які вылучаўся сапраўднай нястрыманасцю, і таму дазволіў яму весці сябе раскавана і сказаць частачку праўды, якая і знішчыла і героя, і аўтара.

---

[1] А. Мрый, *op. cit.*, с. 18.
[2] *Ibidem*, с. 18.

Дык дзеля чаго ствараў падобнага Голема адметны беларускі пісьменнік? Навошта ён выводзіў больш дробных самасуяў у апавяданнях і нарысах? Наўрад толькі для таго, каб пасмяяцца. Эразм у прадмове да свайго твора, звяртаючыся да чытача, сцвярджаў: "Я не хотел по примеру Ювенала ворошить сточную яму тайных пороков и охотнее выставлял напоказ смешное, нежели грустное"[1]. Гэтае ж акцэнтаваў у сваім пакаянным лісце і беларускі празаік: "У сваім рамане я зусім не хацеў агітаваць супроць новага жыцця, супроць прынцыпаў Савецкай улады. Я хацеў паказаць тыповага выскачку Самасуя, што прабіраецца з мяшчанскіх нізоў да вяршынь Савецкай улады". А гэта і было самым вялікім злачынствам.

Я. Купала, А. Мрый, Л. Савёнак не проста так смяюцца, ці нават рагочуць. З дапамогай іроніі і сарказму яны паказваюць перакулены сусвет: у творы народнага паэта жанчыну, якая страціла адразу мужа і сына, "суцяшаюць" – "крыжам адным абыйшлася". Дзеля гэтага выкарыстоўваецца анталагічная сутнасць смеху, які можа "оглуплять, вскрывать, разоблачать, обнажать. Он как бы возвращает миру его изначальную хаотичность, он отвергает неравенство социальных отношений и отвергает социальные законы, ведущие к этому неравенству, показывает их несправедливость и случайность"[2]. Творы беларускіх пісьменнікаў перапоўненыя падобнымі ўзорамі. Так, уяўныя вучоныя з далёкіх краёў – на самой справе мясцовыя ўраджэнцы, сыны дзячка і арганістага. Але падобны факт не перашкаджае здаваць свой родны край пракудлівым суседзям, і ніводзін з іх і не згадвае бацькоў. Не адстае ад іх і Мікіта Зносак, які апантана пераварочвае на сцяне ў матчынай хаце партрэты, што сімвалізуюць чарговую ўладу, якая спрабуе ўмацавацца на тутэйшай зямлі. Кожны з персанажаў здольны на неадэкватныя ўчынкі. Так, героі і гераіні Л. Савёнка шыюць сукенкі з чырвонай матэрыі, на якіх некалі красаваліся аблічча былых правадыроў. І цяпер тыя красуюцца на спакуслівых частках цела мадэрновых модніц; крадуць свіней, каб дагадзіць злоснай абранніцы; пячонку лечаць гарэлкай; старыя сямейнікі так зацята дзеляць бочку гуркоў, што застаюцца пры сваіх інтарэсах. Усё падвергнута сумневу і астракізму. "Які ён мастак, калі няздатны піва без чаргі сербануць?" – задаецца анталагічнае пытанне. І адразу чуецца адказ: "Дрэнь, а не мастак". Выкапнем лічыцца чалавек, які не рабуе сам, і, што самае пачварнае, не дазваляе іншым тое рабіць. І ўсе чакаюць, калі гэты былы настаўнік памрэ з голаду, бо, бачыш ты, маральныя прынцыпы не дазваляюць яму красці. Цела бабкі-нябожчыцы, якую адразу не закапалі з-за вялікіх маразоў, нейкія прайдзісветы вытраслі з труны і скарысталі дамавіну для *новага пацыента*. Нават разумная цялушачка Рабунька з дзіўнага твора Алеся Наварыча, што загаварыла па-чалавечы, увесь час падкрэслівае вар'ятнасць свету, якога яна баіцца[3].

[1] Э. Роттердамский, *Похвала Глупости...*, с. 261.
[2] Д. Лихачев, А. Панченко, Н. Понырко, *Смех в Древней Руси*, Ленинград 1984, с. 3.
[3] А. Наварыч, *Дзённікі Рабунькі*, "Крыніца" 1996, № 4 (20), с. 99–111.

Ваяка Швейк са славутага твора Яраслава Гашака сцвярджае, што толькі ў дурдоме “такая свобода, которая и социалистам не снилась”[1]. Вялікія перспектывы ў гэтым плане нясуць новыя часы і ў *Тутэйшых:* “Ёсць, напрыклад, свабода: што хачу, тое раблю. Узяць хоць бы тое: хто да рэвалюцыі ў Менску лузаў семечкі? – ніхто! А цяпер усе і ўсюды – і дома, і на вуліцы, і нават у тэатры лузай сабе ды лузай, шапку на вушы нацягнуўшы”[2].

Культура – зусім лішняя нагрузка для вольнага чалавека, без яе шмат весялей у гэтым свеце. Адукацыя таксама, навошта яна спецыялістам па мышах, рукі якіх учэпістыя, а галовы – міністэрскія. Нават духі на спірытычным сеансе не хочуць прыходзіць да падобнай кампаніі[3]. Смех у падобных выпадках мацнейшы, чым пафас адмаўлення: “Смех заключает в себе разрушительное и созидательное начала одновременно. Смех нарушает существующие в жизни связи и значения. Смех показывает бессмысленность и нелепость существующих в социальном мире отношений: отношений причинно-следственных, отношений, осмысливающих существующие явления, условностей человеческого поведения и жизни общества”[4].

Разам з тым смех прыпадабняецца дэману, які знішчае таго, хто выклікаў пачвару. Паколькі гратэскны свет становіцца не толькі чужым, але і варожым, то ў ім ars vivendi (мастацтва вартага жыцця) замяняецца ars moriendi (мастацтвам памірання). І толькі mors victris et nivellatrix (адна смерць усё перамагае і ўраўнаважвае). Паводле В. Кайзера, гратэскнае ёсць форма для ўвасаблення пачварнай і жахлівай сілы, якая валодае і кіруе светам. Вось чаму, каб убачыць гэты свет сапраўдным, трэба быць вар’ятам. А. Мрыя, паводле ягонага прызнання, натхняла думка, што гісторыя пра Самсона Самасуя будзе адною з вясёлых, жыццярадасных кніг, якія выкрываюць прайдзісветаў, жулікаў, дармаедаў і паскуднікаў. Аднак высмейванне адміністратараў, падобных галоўнаму герою, дасягае адваротных вынікаў, бо зусім не патрэбна савецкаму чалавеку. Так вырашыла ўлада. Дарэмна пісьменнік спрабуе развесяліць чытача і прасіць у яго ратунку: смешнае паглынаецца змрочным і сумным. Усё знікае пад наплывам самасуйшчыны, а сам яе ідэолаг, у адрозненне ад аўтара, мае неблагія дывідэнды: “За мінулы перыяд свае дзейнасці я дабіўся значных дасягненняў. Цяпер я досыць прыкметны працаўнік акруговага маштабу. Я ўжо не жыву пад знакам вадалея. Жыццё маё цяпер арганізацыйна афармавалася. У мяне добрая кватэра з цэнтральным ацяпленнем, электрычнасць, мармуровая купель з дожджыкам, добры сад, а ў ім пышныя кветкі, якія разносяць дуротны пах і напаўняюць увесь арганізм салодкімі, бязмежнымі марамі. Я вельмі ўпадабаў сваё цяперашняе

[1] Я. Гашек, *Похождения бравого солдата Швейка*, Москва 1990, с. 52.
[2] Я. Купала, *Поўны збор твораў...*, с. 278.
[3] А. Мрый, *op. cit.*, с. 251.
[4] Д. Лихачев, А. Панченко, Н. Понырко, *Смех в Древней Руси*, Ленинград 1984, с. 3.

жыццё і гляджу на яго з «псіхалюбаваннем». Праўда, нялёгка далося гэта!"[1] Пра імклівы ўзлёт чарговага дурня А. Мрый мерыўся расказаць у "трэцім скрутку рамана", але яго пачалі беспадстаўна ганьбаваць: "зноў-такі ніякай крытыкі, адна лаянка ў 2-х радках". Пісьменнік у роспачы: "я губляю арыентацыю ў сваёй працы. Раман здаецца мне непатрэбным крокам у жыцці, цяжкаю памылкаю. Я перастаў працаваць над ім". У выніку працяг твора знішчаны. Ільф і Пятроў таксама не напісалі трэцяй кнігі пра свайго слаўнага героя. А. Наварыч не завяршыў трэцяга сшытка пра прыгоды разумнай каровы Рабунькі. Л. Савёнак скончыў жыццёвы шлях на эміграцыі, а ягоная смешная кніга вярнулася на радзіму толькі некалькі гадоў таму. Амаль трыццаць гадоў хадзіла ў спісках парадыйная паэма Ніла Гілевіча *Сказ пра Лысую гару*. Сатырычную аповесць Рыгора Семашкевіча *Бацька ў калаўроце* дэманстратыўна не заўважалі, а многія з тых, хто ўбачыў сябе ў ягоных героях, пачалі помсціць аўтару за падстаўленае люстэрка. Бо каму на гэтым свеце патрэбна тая праўда?! У гэтым бачыцца яшчэ адно сведчанне перакуленасці свету, пра што пісаў С. Брант у славутым *Караблі дурняў*: "Жить дураками не стыдно, но узнанными быть обидно"[2].

*Ivan Shtejner*

**Grotesque Perception of Reality as the Dominant Component of Laughter in Belarusian and European Satirical Prose**

A b s t r a c t

In the article it is stated that a grotesque perception of reality and its reflection in art and philosophy is one of the dominant components of laughter. Analysis of the satirical works by Belarusian XX century authors (Yanka Kupala, Andrey Mryi, L. Savyonok, Ales Navarych) as compared with satire of Erasmus of Rotterdam, F. Rabelais, M. Cervantes, J. Swift proves that such phenomena are typical mostly of times of drastic changes in the moral climate and worldview of society and ordinary people. When the world turns upside down, a person's life changes from their stable and familiar surroundings into a surrealistic reality. Naturally grotesque perception of the world becomes prevalent. It is laughter that shows the absurdity and futility of the existing social order and relationships between the character types. This absurdity shows itself most vividly in the contrasting pair 'the leader – everyman', eg. the king and the fool. Laughter manifests itself as an antipode to tears and victory.

[1] А. Мрый, *op. cit.*, с. 78.
[2] С. Брант, *Корабль дураков*, Москва 1971, с. 25.

**Ірына Агеева**
Варшава

## Нацыянальная тоеснасць як траўма: на прыкладзе выбраных твораў сучаснай беларускай літаратуры

Пра падабенства літаратурнай сітуацыі пачатку і канца XX стагоддзя ўзгадвалася не раз і ў літаратуразнаўчых працах, і ў крытычных артыкулах. Даследчыкамі звярталася ўвага на цэлы шэраг адпаведнасцей, фармальных і змястоўных, і часта давалася розная, часам супрацьлеглая, ацэнка гэтым з'явам (прыкладам, Людміла Сінькова ў адным з артыкулаў скептычна гаворыць пра фармальны бок карэляцыі тэндэнцый у мастацкіх тэкстах: "мы назіраем ужо вядомую, аналагічную 20-м гадам хвалю актыўнай цікавасці да «не-свайго», і на гэтай хвалі гатовыя захапляцца «чужым пазаддзем» (выраз Міхася Зарэцкага), абы яно было нязвыклае, тым больш з ліку амаль забароненага ўчора"[1]). Узгадаць тут можна і прыкмечаную мастацтвазнаўцам Паўлам Абрамовічам адпаведнасць такіх паралітаратурных з'яў, як літаратурныя дыскусіі, адзначаную ім у артыкуле *Дубавец і Ластоўскі. Чаму ўдалася першая і не ўдалася апошняя літаратурная дыскусія XX стагоддзя*[2]. Найбольш паслядоўную ж мастацкую рэфлексію гэтай з'явы менавіта ў дачыненні да літаратурнага працэсу можам назіраць, на прыклад, у рамане Андрэя Федарэнкі *Рэвізія*, дзе герой існуе ў двух іпастасях у 20-х і 80-х гадах XX стагоддзя.

Як вядома, крыніцай такой карэляцыі з'яўляюцца задачы, перад якімі стаялі творцы абодвух перыядаў, што ў сваю чаргу наўпрост вынікае з характару падцэнзурнага этапу савецкай беларускай літаратуры – этапу савецкай (а культурна расійскай) каланізацыі, якая запаволіла, ці, хутчэй, прыпыніла важны працэс, распачаты ў 20-я гады, аж да савецкай адлігі. Агулам задачы гэтыя можна акрэсліць як адраджэнскія: узвышэнне нацыі (усё той жа купалаўскі "пачэсны пасад між народамі"), сцвярджэнне нацыянальнай годнасці і пад. Не стаяла хіба што пытання нацыятворчасці, прынята лічыць, і не станем з гэтым

[1] Л. Сінькова, *Агрэсія формы. Стылёвыя пошукі маладой прозы* [online], http://lsinkova.by/агрэсія-формы/ [доступ: 18.06.2018].

[2] П. Абрамовіч, *Дубавец і Ластоўскі. Чаму ўдалася першая і не ўдалася апошняя літаратурная дыскусія XX стагоддзя,* „ARCHE-Скарына", 2000, № 6 (11), с. 70–75.

дыскутаваць, што ў мастацкай літаратуры яно паспяхова вырашана класікамі ў XIX – напачатку XX стагоддзя. Карыстаючыся посткаланіяльным інструментарыем, сітуацыю савецкай літаратуры можна параўнаць з экспансіяй ідэалогіі каланізатара і, адпаведна, засвойваннем каланізаваным пункту гледжання першага на сябе, што выявілася ў маргіналізацыі тэмы нацыянальнай ідэнтычнасці ў беларускай літаратуры ўвогуле і, у прыватнасці, спецыфічнай рэпрэзентацыі героя-беларуса і яго тоеснасці ў літаратуры. Верагодна, усведамленне гэтага і пабудзіла калісьці Сяргея Дубаўца выключыць савецкую беларускую літаратуру з абшару зацікаўлення даследаванняў нацыянальнай літаратуры як "ружовы туман"[1].

Пад маргіналізацыяй тут маецца на ўвазе працэс збяднення літаратуры (прыкладам, тэматычнага) у выніку пазалітаратурных фактараў. Калі казаць пра тэматыку, то падаецца лагічным, што факт паўставання вялікай колькасці твораў пра вёску звязаны не толькі з паходжаннем літаратараў, але і з тым, што вёска і вясковасць як траўма сацыяльная была хіба адзінай нацыянальнай траўмай, наратывізацыя якой была легальная з пункту гледжання цэнзуры. Можна спрачацца, што вайна таксама была такой тэмай, аднак вайна ўсё ж такі траўма не толькі беларуская, яе права на існаванне і агучванне (хоць з пэўнага боку) было агульнай савецкай палітыкай. Нацыянальны ж аспект праблемы вайны можна было паказваць альбо завуалявана (узгадаем цкаванне Васіля Быкава ў савецкія часы, які паказаў-такі вайну як траўму нацыянальную), альбо ніяк.

У сваю чаргу, прыгаданыя вышэй задачы абумоўленыя наяўнасцю фактара, які называюць па-рознаму. Традыцыйна, як неаднаразова ўжо заўважалася (Сяргей Харэўскі, С. Дубавец, Адам Глобус і іншыя), услед за купалаўскім "А што яны нясуць на худых плячах,/На руках ў крыві, на нагах у лапцях?/ – Сваю крыўду", альбо адным з найважнейшых пытанняў, зададзеных Максімам Гарэцкім, – *У чым яго крыўда?* – можна прыняць мастацкае азначэнне гэтага паняцця – крыўда. У сучасным літаратуразнаўстве ж паступова легалізуецца іншая назва для гэтай з'явы – **траўма**. Прыкладам, Анжэла Мельнікава ў сваёй кнізе *Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя*, кажучы пра тое, што "ў адносінах да беларускай сітуацыі апошніх стагоддзяў можна гаварыць пра траўму сацыяльную, нацыянальную, культурную"[2], карыстаецца менавіта гэтым тэрмінам, спасылаючыся на працы Пятра Штомпкі, Марка Ліпавецкага, Міхаіла Эпштэйна, Алены Трубінай, Сяргея Ушакіна.

Безумоўна, даследаванні траўмы (з англійскае *trauma studies*) бяруць свой пачатак у працах Зігмунда Фройда, аднак актуальна ўжо

[1] С. Дубавец, *Ружовы туман. Раздзел з гісторыі таталітарызму*, "Літаратура і Мастацтва" 1998, 9 студзеня, с. 5.

[2] А. Мельнікава, *Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя,* Гомель 2016, с. 147.

далёкія ад сэнсу, закладзенага ў дадзенае паняцце бацькам псіхааналізу. Найноўшыя даследаванні гэтага феномена рэпрэзентуюцца, сярод іншых, у працах сацыёлага Джэфры Александара (Jeffrey Alexander) *The Meanings of Social Life: A Cultural Sociology* (2003), у якой даследуюцца культуралагічна-сацыялагічны аспект траўмы, у кнігах амерыканскай прафесаркі параўнальнага літаратуразнаўства Шашаны Фелман (Shoshana Felman). Узгадаць трэба таксама посткаланіяльную крытыку даследаванняў траўмы, адным з найважнейшых дасягненняў якой было дастасаванне метадалогіі да патрэб культур, у якіх культурная каланізацыя пакінула значны след. У гэтым кантэксце ўзгадаць трэба хаця б працы нідэрландскай даследчыцы Айрын Віссэр (Irene Visser), у якіх яна разглядае даследаванні траўмы ў кантэксце посткаланіяльнай тэорыі. У кантэксце азначанай у артыкуле праблематыкі найбольш цікавай яе высновай з'яўляецца агучаная ў артыкуле пад назвай *Trauma Theory and Postcolonial Literary Studies*[1] (у сувязі з працай Джудзіт Герман *Trauma and Recovery*) думка пра тое, што наратывізацыя траўматычнага досведу мае тэрапеўтычны эфект. Не паглыбляючыся ў постфройдаўскія тэорыі, за адпраўны пункт можна прыняць палажэнне, што ператварэнне траўматычнага досведу ў наратыў – у нашым выпадку гаворка ідзе, канечне, пра мастацкую літаратуру – спрыяе пераадоленню траўматычнага вопыту.

Інтэграцыйны (у нацыянальным кантэксце) патэнцыял траўматычнага вопыту ў літаратуры пачатку стагоддзя быў заўважаны А. Мельнікавай у названай вышэй манаграфіі. Само паняцце не з'яўляецца цэнтральным у працы і ўжываецца толькі ў раздзеле пра лёс беларускай нацыі ў творчасці М. Гарэцкага. Даследчыца звяртаецца галоўным чынам да паказанай пісьменнікам узаемасувязі сацыяльнай і нацыянальнай траўмы, а таксама да вайны як траўматычнага досведу, характэрнага для беларусаў як нацыі. Паяўленне самаго тэрміна *траўма* ў кантэксце аналізу творчасці менавіта гэтага пісьменніка падаецца невыпадковым. Менавіта М. Гарэцкі першым найбольш поўна наратывізаваў траўматычны досвед беларусаў як нацыі, а справа, запачаткаваная ім, працягвалася не толькі ў канцы XX, але і на пачатку XXI стагоддзя.

Свядома мінаючы больш-менш даследаваную літаратуру канца XX ст., звернемся да асэнсавання траўматычнага досведу быцця беларусам, прадстаўленага ў найноўшых творах. Як і напрыканцы папярэдняга стагоддзя, у найноўшай літаратуры сітуацыя склалася даволі парадаксальная. Калі паводле эстэтычнай арыентаванасці многія беларускія пісьменнікі адчулі (і зазначылі гэта ў сваіх творах) патрэбу ў новых мастацкіх сродках, то паводле ідэйнага зместу перад беларускім творцам стаялі праблемы сто- , а то і дзвесцегадовай даўнасці,

[1] I. Visser, *Trauma Theory and Postcolonial Literary Studies* [online], http://www.tandf online.com/doi/pdf/10.1080/17449855.2011.569378 [доступ: 18.06.2018].

што сведчыць перадусім пра актуальнасць пэўных траўматычных аспектаў, якія даюць пра сябе знаць кожны раз, калі ў творы ўзнімаюцца праблемы нацыянальнага. Дарэчы будзе адзначыць, што адваротнай да наратывізацыі траўмы тэндэнцыяй з'яўляецца канструкцыя "праўды" (як антоніма да крыўды) – гэта выявілася, скажам, у прысутнай досыць багата тэндэнцыі да рамантызацыі гісторыі (караткевічаўская традыцыя), а таксама ўсе іншыя тэксты з выразнай тэндэнцыяй да гераізацыі якога-колечы аспекту, які адносіцца да нацыянальнага. Да апошняга можна аднесці нават творчасць Юрыя Станкевіча, паколькі ягоныя тэксты, ствараючы вобраз "ворага" для нацыі, дэфінююць саму нацыю як носьбіт супрацьлеглых рысаў, прадстаўляючы такім чынам канцэпцыю ідэалізаванай "праўды" (вядома, у аўтарскай версіі).

Звернемся аднак да траўматычных вымярэнняў нацыянальнай ідэнтычнасці беларуса, якія знайшлі адлюстраванне ў сучаснай прозе. *У чым жа яго крыўда?* – пытаўся М. Гарэцкі. Калі казаць пра крыўды Лявона Задумы з аднайменнай аповесці, перадусім бачыцца мова: калі выключыць індывідуальны ўзровень гарэцкаўскага героя, меланхалічнасць ды "любоўную журбу", то перадусім застаецца мова ("Дуб-Дубовіч цяжка мову яго родную зняважыў").

Беларусам на працягу стагоддзяў каланізатар, ролю якога спачатку выконвала Расійская імперыя, а пазней СССР, прывіваў адмоўны аўтастэрэатып. І перш за ўсё гэта датычыла мовы, што пазней прывяло да прыняцця такога стану рэчаў самімі беларусамі, якія і пасля абвяшчэння незалежнасці працягваюць спецыфічна ўспрымаць моўны бок сваёй нацыянальнай тоеснасці. Пры гэтым, бадай, адной з самых папулярных тэмаў у беларускай літаратуры XX ст. з'яўляецца родная мова, сцвярджэнне яе вартасці ў якасці асноўнай нацыястваральнай сілы, гаруноўскі заклік з пачатку XX ст. "роднай мовы сваёй не цурацца" (такім чынам, тут і ў падобных тэкстах рэпрэзентуецца стратэгія мовы-"праўды"). Звернемся ж да мовы-"крыўды", ці мовы як траўмы, прыклады якой можна знайсці ў даследаваных тэкстах.

Сучасная проза дэманструе зусім іншы, непадобны да папярэдняга, пафас, іншыя ідэі, – адным словам, новы падыход да тэмы. Іншы ў такой ступені, што некаторыя крытыкі і літаратуразнаўцы, падаецца, памылкова распазнаюць яго як варожа-нігілісцкі. Маюцца на ўвазе артыкулы Л. Сіньковай пра "маргінальную беларушчыну", новую і старую[1], дзе даследчыца сцвярджала, што ўсе літаратурныя з'явы, якія ставяцца да беларушчыны як да субкультуры, такім чынам яе зневажаючы, павінны знаходзіцца не ў мэйнстрыме, а на ўзбоччах літаратуры. А, між

[1] Л. Корань, *Новая маргінальная беларушчына*, "Літаратура і Мастацтва" 1994, 30 верасня, с. 6–7.
Л. Сінькова, *Старая маргінальная беларушчына ў тэкстах А. Бахарэвіча, М. Мартысевіч і Е. Вежнавец* [у:] *Беларускае літаратуразнаўства: навукова-метадычны зборнік*, пад рэд. Л. Сіньковай, вып.7, Мінск 2009, с. 68–75.

іншым, разумець гэта можна і як зварот да прагаворвання (ці наратывізацыі) траўмы, ускладнены нязгодай з ранейшым стаўленнем да праблемы, а не як атака на нібыта сфарміраваную класічнай беларускай літарурай канцэпцыю беларускай праўды.

Звернемся да фактаў. У рамане *Хвілінка. Тры гісторыі* герой Ігара Бабкова, паэт Францішак, зборны вобраз беларускага інтэлігента-творцы свайго часу (дзеянне якога адбываецца ў 1980–1990 – 2000-я гады XX стагоддзя), пачынае пісаць вершы па-расейску, потым разумее, што "расейская мова не пускае яго ў свае глыбіні", і пераходзіць на беларускую, але не проста пераходзіць, не натуральна, як на родную. Гэта больш не матчына мова ў даслоўным разуменні. Яму даводзіцца вывучаць мову з дапамогай слоўнікаў (што паказальна, не людзей-натуральных носьбітаў, а менавіта слоўнікаў). Гэты факт рэчаіснасці знайшоў сваё адлюстраванне ў мастацкай літаратуры і не быў зменены, скажам, на карысць рамантызацыі героя (усё ж такі перад намі інтэлігенцыя, якой належыць, згодна з тэндэнцыяй "праўды", нарадзіцца з мовай на вуснах), такім чынам, насоўваецца думка, што тэма мовы ў І. Бабкова набыла асэнсаванне, адэкватнае актуальнай сітуацыі, якая, нягледзячы на ўсе папярэднія тэксты, што мову ўзвышаюць, засталася ў пэўным сэнсе траўмай. І ўсё ж такі, нягледзячы на неабходнасць вывучэння мовы, карыстанне ёю адчуваецца героем як натуральнае, як "вяртанне дадому".

Асэнсаванне моўнай праблемы і метафарычнае яе вырашэнне І. Бабкоў прапанаваў яшчэ ў рамане *Адам Клакоцкі і ягоныя цені*, выказаўшы спадзеў, што "мова нашая калісьці вымкне з пялюшак логікі і граматыкі на больш пракаветную прастору і тады задушыць усіх сваіх абаронцаў"[1]. Карыстаючыся посткаланіяльнай тэрміналогіяй, можна сказаць, што герой І. Бабкова Францішак прымае сваё каланіяльнае мінулае (у выглядзе пазбаўлення мовы і неабходнасці вывучэння яе нанова) замест таго, каб адмаўляць яго, робячы выгляд, што ён заўжды карыстаецца беларускай мовай і ніколі не пісаў вершаў на "мове імперыі", чужы яму таксама пафас антыкаланіяльны, наіўна-рамантычны, аднак пераадольванне траўмы ўсё ж прысутнічае: "Гэта шчаслівы кон для паэта, выбраць для сябе такую мову, якая адразу выключае ўсялякі спадзеў на поспех, на розгалас, на ўсясветную славу – сказаў ён мне тады ў парыве энтузіязму.

Выбраць мову, якую разумее большасць, але на якой гавораць рэдка і рытуальна, у пэўных абставінах.

Мову, якая стаіць здалёку ад той балбатні, што засмечвае мовы распаўсюджаныя. [...] Мову, якой тут адгукаюцца дрэвы і птушкі, травы і дзікія звяры.

Ясна, потым усё стала больш празаічна"[2].

---

[1] І. Бабкоў, *Адам Клакоцкі і ягоныя цені*, Мінск 2012, с. 130.
[2] І. Бабкоў, *Хвілінка. Тры гісторыі*, Мінск 2013, с. 53.

Такім чынам нявырашаная (ненаратывізаваная да той ступені, каб быць вырашанай) траўма, звязаная з мовай, прагаворваецца і, быць можа, вырашаецца, прынамсі ў межах аднаго мастацкага свету.

У рамане Альгерда Бахарэвіча *Дзеці Аліндаркі* моўная сітуацыя выходзіць на першы план. Антыўтопія, якая расказвае пра дзяцей, што збеглі з лагера, у якім лечаць ад беларускага акцэнту (таго самага, з якога так смяяліся ва ўзгаданай аповесці М. Гарэцкага), прычынай якога, паводле доктара, з'яўляецца загадкавая костачка ў роце, ад якой неабходна пазбавіцца ў раннім дзяцінстве. Час, у якім пануе Язык, а ў бацькоў, якія таемна навучаюць сваіх дзяцей мове, іх забіраюць. І вось бацька ўскладвае на сваю дачку Лёсю сакральную місію – зберагчы беларушчыну, і перадусім – мову. Дамінанантай рамана з'яўляецца эмацыйнае асэнсаванне моўнай сітуацыі, на першы план выходзіць вусціш носьбіта мовы, і, шырэй, беларушчыны з нагоды абсалютнага панавання варожага культурнага кантэксту (расейскага, які ў рамане рэпрэзентуе Язык). Асэнсаванне сітуацыі культурнай каланізацыі і прымірэнне з ёю як неабходны этап у набыцці ўласнай праўдзівай і поўнай ідэнтычнасці – адна з адметных рысаў гэтага рамана.

Вернемся да рамана А. Бахарэвіча, каб больш уважліва паглядзець на прадстаўнікоў гэтай сакральнай беларушчыны, а менавіта на бацьку. Асоба бацькі – наіўна-летуценная. Ён здольны мармытаць пад нос "не спыніць, не стрымаць", але не здольны ні накарміць сваіх дзяцей, ні нават іх не згубіць, не тое, што выратаваць з жахлівага лагера, не кажучы ўжо пра нейкую актыўную барацьбу за тую беларушчыну. Бацька ўва ўсім падпарадкоўваецца нейкай жанчыне Каці, і, па сутнасці, будучы самадастатковым на ўзроўні ідэй, абсалютна бездапаможны на ўзроўні дзеянняў. Гэта ў пэўным сэнсе шчыры і строгі погляд на ўвесь адраджэнскі пафас, які, нягледзячы на доўгую традыцыю, так і застаўся на ўзроўні вербальным. Але рана, на маю думку, абвінавачваць аўтара ў беларусафобіі. Скажам, персанаж *Хвілінкі* І. Бабкова, змагар Багдан, таксама не гераізуецца. Змагаецца, не перамагае, расчароўваецца, сыходзіць. Справа рамантычнай гераізацыі працягваецца на полі літаратуры на гістарычную тэматыку. Там і беларуская мова гучыць натуральна, і персанажы могуць усё яшчэ дазволіць сабе быць героямі беларускае ідэі, пры гэтым не страчваючы праўдападабенства.

Наступны момант, зноў жа, трапна выхаплены і вербалізаваны М. Гарэцкім, калі нават не ключавы, – гэта дзве душы. Канцэпт дзвюх душ, абазначаны пісьменнікам, паддаецца featuredрознабаковым інтэрпрэтацыям. Актуальнага для М. Гарэцкага падзелу сацыяльнага як вызначальніка нацыянальнай тоеснасці ўжо не існуе, аднак само паняцце неаднойчы актуалізуецца і ў новай літаратуры прынамсі на двух узроўнях: геаграфічным – траўма, звязаная з прасторай, – і культурным – асабістая траўма носьбіта беларускай культуры, якая, трэба прызнаць, вынікае з першага ўзроўню, але ім не абмяжоўваецца. Прастора, у якой апынулася беларуская нацыя – гэта прастора паміж

“захадам” і “ўсходам” як канцэпцыямі, і не толькі ў геапалітычным значэнні, але і ў культурным, а хутчэй нават міфалагічным. Натуральным адказам на такую сітуацыю з’яўляецца падваенне, гэтыя самыя дзве душы, якія меў Ігнат Абдзіраловіч.

На ўзроўні прасторы сучасная проза перш за ўсё прапануе цікавыя рэфлексіі на тэму сталіцы. “Пра Менск можна гаварыць толькі ў Вялікі Поўдзень і выключна шэптам гаючай непрысутнасці, […] бо Менск – онталягічны скразьняк, пройма, пустата […] стары Менеск нездарма паставіў свій млын на гэтым мейсцы, ён мянянўся разам з намі, і мы знаходзілі сябе напачатку ў Минске, потым у Мінску і далей у Менску, а яшчэ быў Mińsk...”[1]– піша І. Бабкоў у рамане *Адам Клакоцкі і ягоныя цені*. “На яго прасторы нарадзілася й сышло ў нябыт, зьМенілася некалькі Менскаў. У розныя часы ён быў то каталіцкім, то праваслаўным, […] Аднак пасьля кожнай сьмерці Горад адраджаўся не ў працяг папярэдняй традыцыі, а як іншае Месца…”[2] – у сваёй кнізе пра Мінск заўважае Артур Клінаў, і ён жа ў рамане *Шалом* неаднаразова ўкладае ў вусны свайго героя, што той паходзіць з прасторы “паміж”.

Раман *Шалом* – відавочная, і тым і цікавая рэфлексія на тэму адвечных беларускіх дзвюх душ на ўзроўні асобы, паколькі яе герой Андрэ-Андрэйка – тыповы іх носьбіт: зусім як Ігнат Абдзіраловіч, які не можа вызначыцца, раз заяўляючы, што ён беларус, а другі – што яго радзіма – Расія. Таксама і Андрэ-Андрэйка, раз прускі шалом, а раз, што праўда, метафарычна, толькі на словах, каску, але апазіцыя і прысутнасць абодвух вектараў, паўсталых у выніку культурнага (а можна нават метафізічнага) падзелу на ўсход і захад, сімвалічна выяўлена ў ільвах на шаломе, якім ён даў мянушкі Валенрод і Святаполк. У рэцэнзіі на гэты твор Сяргей Кавалёў адзначае: “Цяжка знайсці ў сучаснай беларускай літаратуры твор, які б так выразна і мэтанакіравана, як «Шалом», уздымаў праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, пошукаў Беларусі свайго месца ў Еўропе, успрымання беларусаў іншымі еўрапейскімі народамі”[3]. Хоць больш значнай преблемай, узнятай у рамане, падаецца ўсё ж такі ўспрынляцце беларусамі саміх сябе, у тым сваёй геаграфічнай, палітычнай і, найважнейшае, культурнай прасторы. Менавіта яно спараджае дваістасць галоўнага героя.

У рамане Паўла Касцюкевіча *План Бабарозы*, акрамя самой назвы, якая адсылае да плану вайны Германіі з СССР, рэалізацыя якога прама звязаная з Беларуссю, ёсць і згадкі пра беларускую геапалітычную прастору як прастору паміж: “Еўпропа ў няроўнай бойцы з Расіяй, пераконвала мяне Роні, цягне-пацягне пакрысе на свой бок такія **памежныя** [вылучэнне маё. – *І. А.*]краіны, як, напрыклад, Беларусь”[4], –

[1] І. Бабкоў*, Адам Клакоцкі…,* с. 19.

[2] А. Клінаў, *Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца*, Мінск 2012, с. 79.

[3] С. Кавалёў, *На лініі фронту: раман Артура Клінава “Шалом”,* “Дзеяслоў” 2012, №6 (61), с. 304.

[4] П. Касцюкевіч, *План Бабарозы*, Мінск 2016, с. 35.

чарговы прыклад успрымання сябе і сваёй тэрыторыі як памежжа, а не цэнтра, што акурат уласціва менавіта посткаланіяльнай свядомасці. Тут жа знойдзем успамін аднаго з герояў рамана, ці, паводле аўтарскага вызначэння, сямейнай сагі, пра надпіс на фасадзе мінскага вакзальнага будынка на чатырох дзяржаўных мовах БССР: беларускай, польскай, расійскай ды ідышы.

Сучасная беларуская проза гаворыць прама: асэнсаванне ўласнай нацыянальнай тоеснасці – вопыт траўматычны для беларуса. Траўматычны, бо аўтастэрэатып, навязаны каланізатарам, цвёрда ўвайшоў у свядомасць беларуса. І калі беларусу трэба пабыць кімсьці іншым, больш вытанчаным ды ўзвышаным, то ён можа раздваіцца, як у "Шаломе" А. Клінава. Андрэ – вытанчаны мастак, здольны на высокія эмоцыі, Андрэйка – хамаваты правінцыял, засяроджаны на задавальненні ніжэйшых патрэб. Іншы прыклад – з твора прадстаўніка адрознай ад папярэдне цытаваных аўтараў эстэтыкі, А. Федарэнкі, з аповесці *Ціша*: браты Стэфан, Стах і Марк, ніяк не могуць памірыцца, сварацца нават у час, калі памірае іх маці, бо не прымаюць ладу жыцця і рысаў адзін аднаго: Стэфан, які любіць і працуе на зямлі, па версіі Стаха, кулак, Марк, найбольш творчы, але не ўмее зарабляць грошы, – пустазвон, перакаці-поле, Марк жа не любіць абодвух за тое, што "паэзіі няма ў душы, палёту думкі". І хоць у тэксце дадзенага твора прама не ўказваецца, але падаецца магчымай і такая трактоўка: беларусы ў выніку адмоўнага аўтастэрэатыпу не любяць адзін аднаго, якімі б яны ні былі. Вобраз Марка, найбольш начытанага і творчага з братоў, які не ў стане аднак несці адказнасць за сваю сям'ю, у нечым падобны да таго ж бацькі з *Дзяцей Аліндаркі*. Думаецца, прычына падабенства ў тыповасці такога характару.

Акрамя ўзгаданых аўтараў, тое ж можна знайсці і ў П. Касцюкевіча. Як прыклад узяць хоць бы іранічную цытату з яго зборніка апавяданняў: "У гэтым месцы хочацца прыгадаць які-небудзь беларускі верш якога-небудзь беларускага паэта, але спамінаюцца неўміручыя словы Някрасава"[1]. Наступ чужой культурнай прасторы і, адпаведна, вымушаная інтэграцыя ў гэтую прастору – яшчэ адна з траўм, што вынікаюць з каланізацыі. З гэтага пункту гледжання інтэрпрэтаваць можна і таямнічыя "этнапаталогіі", якія збіраў Адам Клакоцкі І. Бабкова. Адну з іх, дзе Стэфану Дастаеўскаму сніўся сон, у якім ён "бегаў п'яны з шабляй па менскіх валох, […] але самае жахлівае было ў адчуваньні немагчымага шчасьця, якое спадарожнічала гэтай прыгодзе"[2], можна выкарыстаць як ілюстрацыю дадзенага тэзіса. Менавіта з гэтае прычыны, як лічыў герой І. Бабкова, "ён [Стэфан Дастаеўскі – І.А.] пэрыядычна сьніўся свайму далёкаму нашчадку, Ф.М. Достоевскому, […] які пасля такіх сноў […] пісаў гнеўныя словы пра *жидов и полячишек* альбо

[1] П. Касцюкевіч, *Зборная РБ па негалоўных відах спорту*, Мінск 2011, с. 18–19.
[2] І. Бабкоў, *Адам Клакоцкі…*, с. 62.

прымаўся ўважліва вывучаць свой радавод"[1]. Цікавым сам па сабе з'яўляецца і факт, што пісалася пра жыдоў і палякаў, але не пра беларусаў, хоць радавод паходзіў менавіта з гэтых зямель, паколькі экспансія культурнай прасторы падразумевае выцясненне і адмаўленне іншай культурнай ідэнтычнасці каланізаваных народаў.

На заканчэнне прыклад з гэтага ж рамана шматузроўневай наратывізацыі траўмы праз, назавем гэта так, двайное адмаўленне. У раздзеле *Менская опера* І. Бабкоў прыводзіць адваротную сітуацыю, дзе паўсюль пануюць часы, "афіцыёзнага рамантызму, калі Вітаўт ды Сапега стаяць на кожным пляцы, а партрэт Барбары Радзівіл упрыгожвае ледзь ня кожную парфумную крамку"[2] – сітуацыя рэалізацыі ідэалізаванай "праўды", – а герой выдумвае адваротны варыянт, апісвае "крыўду", а пазней, калі ўжо невядома, у чым жа заключаецца рэчаіснасць, губляе розум. Траўматычны досвед вядзе да вар'яцтва, а прынамсі да нездаровай сітуацыі. І наратывізацыя яго – этап, праз які беларуская літаратура павінна прайсці. Калі гэты этап не змог завяршыцца на пачатку XX стагоддзя, ён працягнуўся ў канцы XX. І, як бачым, працягваецца нават у XXI.

*Iryna Aheyeva*

**National identity as a Trauma: Holding Chosen Works of Contemporary Belarusian Literature as an Example**

A b s t r a c t

This article is an attempt to analyse the problem of national identity as a trauma. It considers the literary process as a process of trauma narrativization (the transformation of the national trauma into a literary process).

This tendency was initiated in 20th century, but it has yet to be finished. This is confirmed by the fact that it was continued at the end of 20th century and it is still present at the beginning of 21st century. Modern prose has a completely different approach to the description of the national identity, but said motif is still present in it. Good examples of this would be the novels of Alhierd Baharevich, Ihar Babkou and Artur Klinau. This process was initiated by Maksim Haretski.

---

[1] *Ibidem*, s. 63.

[2] *Ibidem*, s. 27.

**Марыля Хаўстовіч**
Варшава

# Міфалогія старажытных народаў у мастацкай творчасці і публіцыстыцы Вацлава Ластоўскага

Вацлаў Ластоўскі – даследчык Беларусі, літаратар, публіцыст, этнограф, палітык, актыўны грамадзкі дзеяч – у перыяд станаўлення Беларускай дзяржаўнасці амаль трыццаць гадоў шчыраваў на ніве беларускай культуры, вывучаў яе і займаўся яе папулярызацыяй, распаўсюджваннем ведаў пра яе. Ягоныя працы былі ўспрынятыя спачатку ў асяроддзі беларускай эміграцы, а ў самой Беларусі марнаваліся на паліцах архіваў шэсцьдзесят гадоў і з'явіліся на старонках літаратурных выданняў толькі пасля канчатковай рэабілітацыі Власта па першым прыгаворы – сфабрыкаванай справе Саюза вызвалення Беларусі – і вяртання яму звання акадэміка ў 1990 годзе. Сярод найбольш цікавых яго ідэй – крыўская тэорыя паходжання беларусаў, значэнне якой для Беларусі працягваюць абмяркоўваць і сёння: "Крывія – тая міфапрастора, якую ўжо не маглі ні паланіць, ні скарыць аніякія чужынцы з усходу і захаду, незалежнасць якой надавалася ад самага пачатку: калі спляжыць і зрабаваць маглі прасторы Беларусі (БССР, БНР), прастору Крывіі, пакольку яе граніцы – межы духоўныя, падпарадкаваць не маглі ні тэрорам, ні псеўдаідэямі. Крывія для беларускіх творцаў – як вечны Акрополь для грэкаў. Крывія – і ўсё тыя ж духоўныя лабірынты, і духоўны супраціў"[1].

У гэтым артыкуле мы разгледзім міфалагічны аспект творчасці В. Ластоўскага, разгледзім крыніцы, якімі ён карыстаўся для стварэння пантэона славянскіх багоў, прадэманстраваны галоўным чынам у *Лабірынтах* і публіцыстычных нарысах.

Цікавасць В. Ластоўскага да міфалогіі выявілася ўжо ў самай першай ягонай публікацыі – кароткім абразку пад назваю *Нарадзіны* (1909)[2], героямі якога сталі "прычына ўсяго" *спрадвечны Кон* і персаніфікаваная *Доля*. Толькі праз год была апублікаваная ўжо напісаная ў 1909 годзе Янкам Купалам *Адвечная песня,* дзе Доля да чалавека прыходзіць разам з Жыццём, Бядою, Голадам і Холадам. Аднак спрадвечны Кон і Доля не раўназначныя з пункту гледжання В. Ластоўскага:

---

[1] А. Пашкевіч, *Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў прозе беларускага замежжа XX стагоддзя: Манаграфія*, Мінск 2002, с. 59.

[2] В. Ластоўскі, *Выбраныя творы*, Мінск 1997, с. 73.

калі Кон са сталым эпітэтам ‘спрадвечны’ з’явіцца ў яго творчасці яшчэ не адзін раз (ужо больш выразна азначаны як дахрысціянскі бог славянаў), то Доля ў пантэон славянскіх багоў не ўваходзіць і вяртаецца да першаснага абстрактнага значэння ў наступных творах аўтра: “Ён назначыў кірунак і *долю* як багам, так і людзям, зямлі і мору, звярам і раслінам, і ніхто і нішто ўжо змяніць не можа, нават ён сам, спрадвечны Кон”[1].

Першы на тэму міфалогіі артыкул В. Ластоўскага *Колькі слоў аб даўняй веры беларусаў* з’явіўся ў “Нашай ніве” на самым пачатку яго публіцыстычнай дзейнасці. Ужо тут, упершыню ў беларускай літаратуры, робіцца спроба стварыць поўны паганскі пантэон, да якога мы звернемся падчас аналізу *Лабірынтаў.* Іншы цікавы артыкул, таксама апублікаваны ў “Нашай ніве”, – *Каляды*[2] – расказвае пра традыцыю салярных святаў у славян. Богам Сонца тут названы Пярун, а Маці Сонца названа Калядою-Грамавіцай (параўн. з папярэднім артыкулам: “У гэтым жа самым часе святкавалі свята Ярылы, сына Грамавіцы і Сонца, – Дажбога”[3]).

Як у В. Ластоўскага ўзаемадзейнічае міфалогія з гісторыяй, можна назіраць на прыкладзе твора *Прывід*[4], дзе *Рог дастатку* ў сялянскую хату прыносіць старажытнагрэцкая багіня Цюхэ.

Гэты твор В. Ластоўскага, з аднаго боку, адкрывае чытачу велізарныя абшары ў айчыннай гісторыі, заахвочвае да вывучэння таямніц мінулага, а з другога – крытыкуе адносіны беларусаў да сваёй нацыянальнай памяці. В. Ластоўскі, звяртаючыся да ўсяго беларускага сялянства і мяшчанства, меў на мэце “выхаванне публікі”, адукацыю. Галоўнай тэмай аповеду тут з'яўляецца менавіта беларуская гісторыя. Міфалогія, цудоўнае з'яўленне багіні – гэта толькі інструмент, спосаб дэманстрацыі сапраўды неверагоднага дзіва – велічы беларускай гісторыі.

Цюхэ – багіня, але для твора больш істотнае тое, што яна – сведка мінуўшчыны. Яна адкрывае перапалоханаму Ігнату нязвыклы вобраз краіны яго дзядоў. Зямля “тутэйшых” у дагістарычным перыядзе паказана на стадыі першапачатковага “абуджэння”, з’яўлення беларускага этнасу (культуры): беларусы, да якіх за скурамі, бурштынам і нявольнікамі прыплываюць грэкі, няскладна, але з зачаткам арыгінальнай красы, перарабляюць грэчаскія фігуркі, ад скіфаў пераймаюць “збыткоўнае” жыццё, пачынаюцца ігрышчы над рэкамі і азёрамі, якія здзіўляюць нават грэцкую багіню, сляпцы-лірнікі складаюць багатырскія песні[5].

1 *Ibidem*.
2 *Ibidem*, с. 293.
3 *Ibidem*, с. 236.
4 *Ibidem*, с. 90.
5 *Ibidem*.

Уся аповесць будуецца як параўнанне таго, што было, што ёсць і што магло б быць. Каб не затрымлівацца даўжэй над роспачным станам беларускай нацыянальнай годнасці, хочацца звярнуць увагу на такі аптымістычны момант: на пачатку аповесці селянін усё ж такі пазнае ў прывідзе грэцкую багіню, хоць яна і не называецца па імені. Гады прыгнёту не зніштожылі кемлівасці, працавітасці беларусаў, здольнасці да кніжных навук.

В. Ластоўскі бачыць выхад з гэтае цемнаты – адкрыццё пачатковых школак для сялянскіх дзяцей, дзе б панавала родная мова. І, не адкладаючы справы на доўгі тэрмін, сакратар "Нашай нівы" хапаецца за яе, ствараe беларускамоўныя падручнікі, прасякнутыя роднымі вобразамі, узятымі з гісторыі і фальклору.

У 1915 годзе ў адной з першых дзіцячых чытанак (*Piersaja čytanka. Knižyca dla bielaruskich dzietak dziela nawuki čytannia*), падрыхтаванай В. Ластоўскім, побач з дзясяткам празаічных тэкстаў з'яўляюцца некалькі гістарычных апавяданняў пра пачаткі ўласнабеларускай гісторыі – полацкіх князёў і першых князёў Вялікага Княства Літоўскага *Князёўна Рагнеда; Ізяслаў; Усяслаў; Бітва каля Магільны; Вітаўт і Ягайла*).

У абразку пра князя Усяслава В. Ластоўскі пераказвае сюжэт летапісаў. Гістарычную асобу Усяслава Чарадзея ён апісвае як казачнага героя: ён ваўкалак з павязкаю на галаве, народжаны ў кашулі, мудры, адважны, справядлівы, мае надпрыродную сілу. В. Ластоўскі прыпадобніў да казкі і некаторыя моманты ў іншых абразках: сын Рагнеды Ізяслаў, напрыклад, які, згодна сведчання летапісаў, памёр праз год пасля маці, "доўга і шчасліва княжыў у Беларусі"[1].

Нямала ў В. Ластоўскага іншых твораў, скіраваных да моладзі. Збольшага рэлігійны светапогляд прадстаўлены ў казках і легендах, апрацаваных В. Ластоўскім – выразна хрысціянскі (напрыклад, у творах: *Разбойнік, Князь Барыс і Чорт*, *Бяздоннае багацце*, *Каменная труна, Векавечная мяжа*, *Цмок)*. Але матыў язычніцтва дамінуе ў казцы *Юга і Грамавік* і легендзе *Беларускі радавод.* Сюжэт казкі (знаёмы і ў хрысціянскай апрацоўцы як аповед пра перамогу святога Георгія над цмокам) у пераказе В. Ластоўскага вяртае сабе архаічнае язычніцкае гучанне. Грамавік яшчэ з'явіцца ў канчатковым варыянце славянскага пантэона.

Матэрыял для легенды *Беларускі радавод* В. Ластоўскі атрымаў з 4-га выпуску *Белорусского сборника* Еўдакіма Раманава[2], дзе гутарка называецца *Бай* і пададзена з заўвагай, што яна была пераказаная ў 1829 годзе беларускім *гуторнікам* і лічыцца псеўданароднай. Тым не менш легенды і міфы пра родапачынальніка беларускага племя князя

---

[1] *Ibidem*, с.147.

[2] Е. Рамановъ, *Белорусскій сборникъ*, Выпускъ четвертый: *Сказки космогоническіе и культурные*, Витебскъ 1891, с. 174.

Бая (у варыянтах – Боя/Буя) існуюць на поўначы Беларусі (Полаччына)[1], хоць у трохі іншай форме, аднак псеўданароднымі іх назваць дакладна нельга.

Тыя, каго В. Ластоўскі назваў першымі людзьмі на зямлі, – волатамі, у народных казках, а таксама ў Яна Баршчэўскага (*Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях*), выступаюць улюбёнымі сабакамі князя Бая. На думку В. Ластоўскага, хрысціянскае духавенства такім самым спосабам, як ператварыла паганскіх багоў у д'яблаў, зрабіла з дзядоў-паганцаў сабак[2]. Як доказ В. Ластоўскі прыводзіць звесткі з архіваў: імёны Ставер, Стаўро, Стаўр нярэдка ўжываліся ўсходнімі славянамі. У казцы *Каменная труна* адзін з герояў таксама мае гэтае імя.

Пісьменнік выдатна разумеў, што яго тэорыя патрабуе абгрунтавання і таму ў артыкуле *З-пад праху вякоў* звяртаўся да чытачоў з просьбаю прысылаць звесткі пра Стаўраў. Магчыма, адзін з іх і даслаў В. Ластоўскаму *Беларускі радавод.*

Выступаюць значныя адрозненні паміж гутаркаю са зборніка і пераасэнсаванаю легендаю *Беларускі радавод*. В. Ластоўскі быццам бы спрабуе ўзнавіць першапачатковую форму даўняй легенды і пераказвае тэкст, адначасна расшыфроўваючы яго – продкі ў легендзе вяртаюцца на сваё месца. У гутарцы пра сілу сабак напісана ў двух радках ("Яны бралі і вовка шераго, і медведя косолапого, і лося рогатого, і вепра зубатого"[3]), а В. Ластоўскі раскрывае гэта як прыкмету вялікай моцы продкаў, аграмаднага росту і сілы, а таксама, што цікава, раптоўна бачыць у гэтым прыкмету таго, што нашыя продкі практыкавалі сыраедства. У абразку згадваецца таксама дата рэальнага абраду – памінання Стаўраў і Гаўраў – Сёмуха, Стаўроўскія Дзяды. Такі абрад бытуе і сёння блізу цяперашняга Краснаполя Расонскага раёна каля Дрысы.

Да тэмы язычніцтва В. Ластоўскі звяртаецца, як бачым, у творах усіх жанраў, якімі ён карыстаўся: публіцыстычных нарысах, вершах, абразках, казках. З'яўляецца адсылка да дахрысціянскага светапогляду нават у драматычным абразку з падзагалоўкам *Эпізод з жыцця Скарыны*, дзе Францыск Скарына, выдавец і перакладчык *Бібліі*, каб вобразна апісаць свой псіхічны стан, кажа: "Дзень мой заслала чорная Марва!"[4] Хтанічная Марва з'яўлялася ўжо і раней у паэтычнай творчасці В. Ластоўскага: у вершы *На Каложы ў Гародні,* дзе яна згаданая як "княгіня апраметнай", а ў *Лабірынтах* пра яе расказваецца больш падрабязна: апісваецца яе вонкавы воблік (замест валасоў змеі, быццам у Медузы Гаргоны, чатыры лапы, хвост дракона).

---

[1] *Міфалогія беларусаў: Энцыкладпедычны слоўнік*, склад. І. Клімковіч, В. Аўтушка; навук. рэд. Т. Валодзіна, Мінск 2011, с. 607.

[2] В. Ластоўскі, *op. cit.*, с. 299.

[3] Е. Романовъ, *Белорусскій сборникъ...*, с. 174.

[4] В. Ластоўскі, *op. cit.*, с. 234.

Пытанні веры на землях Беларусі – у цэнтры ўвагі пісьменніка ў апавяданні *Часы былі трывожныя.* Тут В. Ластоўскі дэманструе сваё стаўленне да працэсу хрысціянізацыі Беларусі[1]. Прычыны заняпаду даўняй крывіцкай культуры, пададзеныя тут, хутка зноў з'явяцца ў *Лабірынтах* – цэнтральным творы В. Ластоўскага з гледзішча дасканаласці формы і зместу.

Жанр *Лабірынтаў* даследчыкі вызначалі па-рознаму. У 1990-я гады Яўген Лецка назваў *Лабірынты* фантастычным творам, Анатоль Сідарэвіч – прыгодніцка-гістарычным, а Аляксей Каўка – гістарычна-прыгодніцкім. Сучасныя даследчыкі пазбягаюць гэтых азначэнняў, бо такі падыход вылучае нейкую адну жанравую рысу твора, які належыць разглядаць як іх арганічны сінтэз. На думку Алеся Пашкевіча, *Лабірынты* – гэта сплаў філасофска-культурных напрацовак (сапраўды, аповесць змяшчае ў сабе міні-трактаты па гісторыі, сусветнай міфалогіі, народнай астраноміі, этнаграфіі) і мастацкай містыфікацыі гісторыка-міфалагічнага кшталту .

Алесь Мікус у артыкуле *Ярамір быў жабай*[2] параўноўвае *Лабірынты* з раманам англійскага пісьменніка Бульвера-Літтана *Раса, якая ідзе*, перакладзенага на рускую мову ў 1891 годзе, і на падставе 16 пазіцый даводзіць запазычанасць формы твора, не адмаўляючы таго, што галоўныя ідэі твораў – розныя.

Гэты твор гарманічна ўваходзіць у беларускую літаратуру, калі яго разглядаць у кантэксце тых ведаў, якімі валодалі сучаснікі В. Ластоўскага: вобраз моцы, схаванай у падзямеллі, у беларускай літаратуры паўтараецца, з'яўляецца трывалым архетыпам. Згадваецца паралель *з зярнятамі* ў санеце Максіма Багдановіча, *несмяротным падземным ручаём* Алеся Гаруна (*Nocturno*), *жывой вадой* Якуба Коласа, нават *забеленым і наноў перапісаным пергаментам* Уладзіміра Жылкі (*Палімпсест*).

На падставе аналізу папярэдніх твораў можна сцвярджаць, што комплекс ідэй, адлюстраваных у *Лабірынатах* – не новы для В. Ластоўскага. Ягоная цікавасць да нацыянальнага скарбу – рэштkaў старажытных уяўленняў пра светабудову, беларускі космас фрагментарна з'яўляецца ў творах розных жанраў на працягу ўсёй ягонай творчасці. Аднак *Лабірынты* – гэта спроба В. Ластоўскага знайсці ўдалую форму, каб упарадкаваць свае шырокія, амаль энцыклапедычныя веды (параўнай з радкамі ягонага верша: "новым імкненням даць новыя формы… стаўлю я мэтай"[3]). Рэдкасная тэматычная і стылёвая разнастайнасць твораў В. Ластоўскага, якую заўважаў яшчэ ў 1910-я гады Максім Багдановіч, да 1923 года звузілася да акрэсленай плыні, убіраючы ў сябе ўсю ранейшую танальнасць: элегічнасць, містычнасць, пафаснасць.

[1] *Ibidem*, с. 133.
[2] А. Мікус, *Ярамір быў жабай*, "Arche" 2011, № 5 (104), с. 233–235.
[3] В. Ластоўскі, *op.cit.*, с. 209.

Каб стварыць маштабны вобраз рэлігійных прадстаўленняў далёкіх продкаў, В. Ластоўскі сягае па дапамогу ў найбольш распрацаваныя, найстарэйшыя міфалагічныя сістэмы свету – індыйскую, халдэя-вавілонскую і грэцкую, а таксама выкарыстоўвае элементы дака-гецкай культуры, якую В. Ластоўскі ўпэўнена называе славянскай. Разгорнутую аргументацыю, чаму дака-гецкая культура з'яўляецца роднаснаю славянскай, аўтар прыводзіць у першым нумары месячніка літаратуры, культуры і грамадскага жыцця "Крывіч", дзе ён быў рэдактарам і дзе надрукаваў свае *Лабірынты* ў 1923 годзе. Артыкул *Аб найменнях Гуды-Крывічы-Русь* – адна з першых спроб з перспектывы беларускай самасвядомасці ўключыць гісторыю свайго народа ў больш шырокі кантэкст індаеўрапейскай культуры. Прыгледзімся да аргументацыі В. Ластоўскага.

Апісаныя антычнымі аўтарамі падзеі заваявання імператарам Траянам у 106 годзе нашай эры дака-гецкай дзяржавы змушаюць частку вольналюбівых дака-гетаў[1] рушыць на паўночны ўсход, за Дунай, адкуль, згодна сведчанню летапісца Нестара, і прыйшлі продкі славян. Такую версію гістарычных падзей В. Ластоўскі, магчыма, падгледзеў у працы Восіпа Турчыновіча *Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен*[2]*,* але дадае і ўласныя назіранні: з-за спецыфікі беларускай фанетыкі літоўцы клічуць беларусаў **гудамі**, а вялікаросы – гэтунамі, гэцікамі, гэгунамі, што, на думку В. Ластоўскага, можна лічыць ускосным сведчаннем роднасці дака-гецкай і беларускай культур.

Такім чынам, **гетаў** В. Ластоўскі лічыць продкамі беларусаў, і гэта дае яму падставы выкарыстоўваць нарысы Герадота для рэканструкцыі беларускай даўняй культуры. Багі ў гецкім пантэоне В. Ластоўскага не зацікавілі, аднак ён звяртае ўвагу на рэлігійнага рэфарматара, які жыў сярод дака-гетаў 600–650 гадоў да н. э. Салмоксіса (Залмоксіса ці Замолксіса). Магчыма, на падставе сугучнасці словаў, Залмоксіс у *Лабірынтах* пераўтвараецца ў Зямельчыца, са спасылкаю на некалькіх антычных аўтараў[3]. В. Ластоўскі ні слова не кажа пра некаторыя акалічнасці, якія маглі яго зацікавіць у радках Герадота пра Замолксіса: з мэтай растлумачыць сваю думку аб замагільным жыцці Замолксіс загадвае пабудаваць падземнае сховішча і тры гады жыве там, удаючы памерлага. Такі сюжэт вельмі гарманічна перагукаецца з *Лабірынтамі*.

У адрозненне ад апавядання *Прывід*, дзе славяне паказаны як здольныя вучні грэкаў, якія маглі б пайсці далей за сваіх настаўнікаў, у новым сваім творы пісьменнік паказвае чытачу славяншчыну як цывілізацыю старэйшую і больш развітую за грэцкую і знаёмую грэкам

---

[1] Пра іх у Герадота былі кароткія заўвагі кшталту: *там жывуць геты, самыя храбрыя і шчырыя сярод фракійцаў. Геты, якія не вераць у смерць.*

[2] И. Турчинович, *Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен,* Санкт-Петербург 1857, с. 8.

[3] Герадот, *История: Книга четвёртая: Мельпомена*, Москва 2008, с. 94–96.

яшчэ з міфаў аб Праметэю, Арфею, Эскулапу, аповесцяў аб Апалоне і сыне яго Фаэтоне: “Грэцкія пісьменнікі самі сведчаць, што жыўшыя на поўнач ад іх паўночныя народы занеслі ў Грэцыю не толькі некаторыя мастацтвы, але і цэлую рэлігійную сістэму, навукі і ўмеласці. Славянскія народы, як, прыкладам, – курэты, квірыты, або крывіты, – ужывалі рунічнага пісьма задоўга да прыбыцця ў Грэцыю феніцыянскага Кадмуса. Іхнія будоўлі напамінаюць цыклапічныя, адзначаючыся незвычайнай трываласцю”[1].

Спасылаючыся на Герадота, В. Ластоўскі стварае вобраз дзівоснай краіны Гіпербарэі – радзімы вялікіх рэфарматараў і першаадкрывальнікаў, якія літаральна прынеслі святло ў заходнюю цывілізацыю: Праметэй з поўначы прыносіць агонь; Ален-гіпербарэец з калоніяй святароў засноўвае культ Апалона і Артэміды-Дыяны ў Дэласе (у Герадота, сапраўды, лікіец Олен, які ствараў вядомыя ў Дэласе старажытныя гімны, згаданы пасля дзвюх вельмі шанаваных жанчын, якія прыходзяць з Гіпербарэі, але, на жаль, звестак пра іх больш няма, і за што шанавалі – невядома); Арфей, таксама з поўначы, прынёс у Грэцыю вучэнне пра бога Найвельшым; з берагоў Герадотаўскага мора, цяперашняга Палескага краю паходзіць нават Рама – вялікі індускі герой. Апрача гэтых, вядомых з антычнай літаратуры герояў, у чарадзе рэфарматараў згадваюцца і героі, неапісаныя Герадотам (напрыклад, загадкавыя Тамарыс і Ліней). Цяжка знайсці ўсе крыніцы, якімі карыстаўся В. Ластоўскі.

Таццяна Шамякіна аналізавала твор не як фантастычную аповесць, але як смелую навуковую працу[2]: “Гіпербарэйская тэорыя, бясспрэчна, дрэнна ўпісваецца ў акадэмічную навуку, хоць на аснове гэтай тэорыі створана ўжо цэлая бібліятэка грунтоўных прац. Афіцыйная навука, як правіла, баіцца займацца праблемамі, якія цяжка даказаць, і таму не звяртае ўвагу на рэчы, у прынцыпе, надзвычайна важныя”[3].

Ідэі, прадстаўленыя ў *Лабірынтах*, сёння працягваюць існаваць у шматлікіх варыяцыях, бо да ўтапічнай Гіпербарэі звяртаюцца шматлікія аўтары папулярна-навуковых нарысаў: Валеры Дзёмін (пошук Гіпербарэі на кольскім паўвостраве), Аляксандар Асаў (Троя – славянскі горад), Апалон Кузьмін (“кімерыйцы” – зімовыя), А. Дзяканаў (з’яўленне земляробства як культуры жыцця ў лясной зоне ўмерана-кантынентальнага клімату)[4]. У Германіі часоў Трэцяга рэйха была вельмі распаўсюджана тэорыя арктычнай прарадзімы арыйскай (нардычнай) расы (Ланц фон Лібенфельз, Іаган Горслебен, Дзітрых Экхарт, Карл Вілегут, Рудольф фон Зеботэндорф – распрацовалі арктычную тэорыю)[5].

---

[1] *Ibidem*, с. 64.

[2] Гл.: Т. Шамякіна, *Лабірынты Вацлава Ластоўскага і навуковыя пошукі XX–XXI стагоддзяў*, “Маладосць” 2008, № 10, с. 103–110.

[3] *Ibidem.*

[4] *Ibidem.*

[5] *Ibidem.*

На думку Т. Шамякінай, В. Ластоўскі быў знаёмы з працай індзійскага радыкальнага нацыяналіста, сацыяльнага рэфарматара і барацьбіта за незалежнасць Бала Гангадхара Цілака *Арктычная радзіма ў Ведах*, спрэчкі вакол якой вяліся на пачатку XX стагоддзя. Сапраўды, тое, што В. Ластоўскі цікавіўся сусветнымі міфалагічнымі сістэмамі, вынікае хоць бы з высокай насычанасці *Лабірынтаў* уласнымі назвамі як папулярных, так і даўно забытых багоў і культурных герояў. Другая частка *Лабірынтаў* перапоўнена гэтымі імёнамі. Гэта спроба аўтара ўладкаваць славянскі пантэон, на падставе параўнальнага аналізу міфалогій старажытных народаў.

Героі грэцкай культуры і міфалогіі (як найлепш адаптаваныя тагачасным грамадствам) у *Лабірынтах* дамінуюць: багі Зеўс, Апалон, Дзіяна (замест Артэміды), героі міфаў Фаэтон, Праметэй, Арфей, Эскулап, да іх далучаюцца гістарычныя постаці: Герадот, Гамэр, Эсхілес. Тры галоўныя грэцкія багі, заўважае аўтар, ствараюць падобную да вавілонскай і індзійскай сістэму. Падобную Троіцу, відавочна, намагаецца аўтар узнавіць і для славянскай міфалогіі.

Як найбольш архаічных В. Ластоўскі пазначае халдэя-вавілонскіх багоў (Ану, Эа, Белу), бо жыхары Міжрэчча – "старэйшыя носьбіты веды людской"[1]. У *Эпасе пра Гільгамеша*, які быў перакладзены і апублікаваны на рускай мове ў 1918 годзе Мікалаем Гумілёвым, пазначаюцца функцыі гэтай троіцы, якія паўтараюцца і ў *Лабірынтах*: Ану – гэта богстваральнік, бацька багоў, Эа – прасвяціцель і праваднік для смяротных, а Белу – валадар пекла. Адпаведнымі багамі Індыі ў *Лабірынтах* называюцца: Брама, Вішну і Шыва. Нарэшце, В. Ластоўскі называе дакагецкую троіцу багоў: *Найвельшы*, *Правечны Кон* і *Сціўрат*.

У міфалагічнай рэканструкцыі В. Ластоўскі абмяжоўваецца працай з імёнамі, ён не распавядае пра дзеі багоў, але суадносіць кожнага з шэрагам індаеўрапейскіх багоў. Напрыклад, Найвельшы, бог, які не мае наймення, у розныя перыяды, рознымі культурамі і народамі называўся: Баг, Бог, Дэос, Дзевас, Готт, Элёгім, Аллах-Адонай і Яхве. Другі бог – гэта вядомы нам ужо з папярэдніх твораў В. Ластоўскага Правечны Кон мае іншыя найменні Прова, Права і Тур. Трэці – Сціўрат, Сіва, чые функцыі адпавядаюць функцыям Шывы і Белу, мае эпітэт Гары (ці Хара), які "вельмі сходзен з нашым Яры, Ярыла, Яравід".

Сімвалам Сціўрата-Ярылы В. Ластоўскі называе нязгасны агонь жывец, жынч, зьніч (ад 'зьнікомы'). Мае Сціўрат-Ярыла і месца культу: "індусы аддавалі чэсць Шыве – Ішвары ў мясцовасці Рудры, а славяне – Рэтры".

Легендарную Рэтру – сапраўды, рэлігійны цэнтр звязаны з культам заходнеславянскага бога Радэгаста, пачалі абмяркоўваць у Еўропе з 1768 года, калі былі знойдзены Прыльвіцкія ідалы (фігуркі боствеў з рунамі). Аднак у даследчыкаў даўніны ўжо ў XIX стагоддзі з'явіліся

[1] В. Ластоўскі, *op. cit.*, с. 61.

сумненні ў аўтэнтычнасці фігурак. Напрыклад, І. Сразнеўскі выказаўся даволі рэзка: “В числе изображений встречаются фигуры рыцарей и охотников, маркиз и маркизов, амуров и психей, к которым руны так же не идут, как и смысл рун и значение вещей к религии славян балтийских. Очевидно, что поддельщик воспользовался старыми дрязгами XVI–XVII века, исказил их, сколько считал нужным, кое-что кое-где поприделал и, сообразно с учеными искательствами того времени и своим понятиям, украсил рунами, смело надеясь на слабость знаний своих ценителей”[1] .

Такім чынам, у быццам бы мастацкім творы В. Ластоўскі змяшчае энцыклапедычныя звесткі. Не можа В. Ластоўскі не звярнуць увагі на лёс язычніцкіх багоў з прыходам на Беларусь хрысціянства. Паўсюдна ў яго падкрэсліваецца пераемнасць паміж традыцыямі, даўняя культура не знікла бясследна, а была толькі адаптаваная: напрыклад, багі змяніліся на прарокаў, святых і анёлаў. Вось і на месцы Ярылы сёння ўшаноўваецца святы Юры.

Пасля апісання Троіцы В. Ластоўскі звяртаецца да сямі галоўных багоў-сіл, маючых уладу над светам з іхнімі сімваламі ўлады: зоркамі, звярамі і птушкамі, прысвечанымі ім днямі тыдня: Кон (конязь) Княжыч (месяц), Ярыла, Радзігост, Пярун-Грамавік, Грамавіца і Лада (Ладон)[2].

Чатыры вятры таксама, як у грэкаў, займелі свае ўласныя назвы: Сівер, Сутон Усток і Ірэй.

Звяртае на сябе ўвагу такая акалічнасць, што сярод багоў-сіл, уладароў свету, В. Ластоўскі змяшчае бога Лада, хоць у рускамоўнай літаратуры даследчыкі ад сярэдзіны XIX сцвярджаюць, што Лада – багіня[3], а гэта, па сутнасці, пярэчыла шматлікім звесткам з польскіх царкоўных павучэнняў супраць язычніцтва XV стагоддзя, і некаторым дадаткам да *Аповесці мінулых гадоў*. Апрача таго, частка даследчыкаў (у тым ліку знакамітыя філолагі Аляксандар Патэбня і Аляксандар Брукнер[4]) на той час ужо выказалі думку, што Лада – багіня “кабінетнай міфалогіі”, фікцыя, створаная даследчыкамі на аснове памылковай інтэрпрэтацыі народных рэфрэнаў і паўтораў у прыпевах.

Асобна вылучана падземнае царства з двума валадарамі: Люцец, Люты або Кашча Бязьмертны з жонкаю Марваю, якая ўжо колькі разоў паяўлялася ў творчасці В. Ластоўскага. Свет, такім чынам, у В. Ластоўскага падзяляецца на тры часткі.

Пантэон, прадстаўлены ў *Лабірынтах*, зусім мала адрозніваецца ад пантэона, які быў прадстаўлены 13 гадоў раней у артыкуле *Колькі слоў аб даўняй веры беларусаў,* і можа разглядацца як мастацкае пераасэнсаванне публіцыстычнага нарыса.

---

[1] И. Срезневский, *Древние письмена славянские* (ч. LIX), Санкт-Петербург 1848, с. 22.
[2] У дужках – варыянт імя.
[3] А. Фаминцын, *Божества древних славян*, Санкт-Петербург 1884, с. 254–274.
[4] A. Brückner, *Mitologia polska* [w:] *Encyklopedia Polska*, Kraków 1918, s. 158–160.

Шмат увагі В. Ластоўскі надае прычынам адсутнасці ў славян сваёй распрацаванай міфалогіі і іншым праявам заняпаду. Ён параўноўвае лёс славян (славянскіх народаў: курэтаў, квірытаў, крывітаў) з лёсам высокакультурных этрускаў, заваяваных рымлянамі. Нагадаем, што таямніца этрускаў шырока абмяркоўвалася ў XIX стагоддзі (і ў Польшчы[1], і ў Расійскай імперыі[2], і ў Італіі, дзе, сярод іншага, была даказана значная стуктурная блізкасць паміж этрускай і дагестанскімі мовамі[3]), і дасюль з'яўляецца тэмай для спекуляцый.

Яшчэ больш цікавы народ, з якім параўноўвае В. Ластоўскі беларусаў, – легендарныя пелазгі, народ, які жыў на тэрыторыі Грэцыі яшчэ да ўзнікнення Мікенскай цывілізацыі. Яны мелі асобную мову, культуру, але былі заваяваныя ці асіміляваныя грэкамі, а след іх у гісторыі амаль знік.

У сваю чаргу пра заваёўніцкія культуры, напрыклад, пра рымскую, якая ўспрыняла дасягненні грэкаў і этрускаў, В. Ластоўскі амаль нічога не расказвае, толькі адна з легенд у *Лабірынтах* – апавяданне пра Сатурна, "бога патрыцыяў", разбірае сацыяльны лад у Рымскай імперыі.

Адлюстраванне лёсу заваяваных народаў В. Ластоўскі бачыць у народных казках на прыкладзе Кацігарошка (Пакацігарошка): "Калі мы прыгледземся да зместу нашых народных казак, то гэту гісторыю мы знойдзем там, перададзеную ў сімвалах. У сялянскай сям'і, прыкладам, родзіцца які-небудзь Кацігарошак, найсільнейшы за ўсіх, якія існуюць сілачы ў свеце. Падросшы, ідзе нішчыць зло на зямлі і памалу дабірае сабе яшчэ двух, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць паміж сабою змову, каб загубіць яго, і закідаюць у бяздонную, безвыходную пропасць. Але Кацігарошак раней-пазней дабываецца з пропасці і, пасароме́ўшы сваіх сяброў, бярэ ў свае рукі кіраўніцтва над светам, якому дае спакой і шчасце"[4].

Такім чынам, адну з цэнтральных пазіцый у творчасці В. Ластоўскага займае апісанне старой веры і запазычванні з аднае культурнае сістэмы ў другую. Выказваецца меркаванне пра роднаснасць міфалагічных сістэмаў індаеўрапейскіх народаў, запазычанасць ці адзінства каранёў. Але пры такім параўнаўчым падыходзе В. Ластоўскі паважна ставіцца да міфалогіі, звяртае ўвагу на тое, што трэба бачыць розніцу паміж тэасафічным, духоўным пачаткам любой міфалогіі ды міфалогіяй, што з'яўляецца толькі сімвалам пройдзенай народам гісторыі.

Цікавасць В. Ластоўскага да міфаў, пантэону багоў – сталая рыса ягонай творчасці, разам з цікавасцю да гісторыі. Чым больш ранні перыяд гісторыі адлюстраваны ў прозе В. Ластоўскага, тым большая верагоднасць заўважыць пэўную міфалагізацыю звестак. Пантэон

[1] T. Wolański, *Wyjaśnienie znaczenia napisów na etruskich pomnikach*, [b.m.] 1846.

[2] Е. Классен, *Новые материалы для древнейшей истории славян вообще и Славяно-Русов до рюриковского времени в особенности с лёгким очерком истории руссов до Рождества Христова*, Москва1854.

[4] В. Ластоўскі, *op. cit.*, с. 65–66.

славянскіх багоў у В. Ластоўскага развіваўся, з аднаго боку, робячыся ўсё больш заблытаным, з другога – дасканалым з пункту гледжання ўвагі да дэталяў. Спробы рэканструкцыі міфалагічных уяўленняў продкаў беларусаў рабіліся В. Ластоўскім на аснове тыпалагічна-параўнальнай працы і этымалагічнага аналізу. Падобныя мадэлі рэканструкцыі з'яўляюцца тыповымі для масавай культуры, і суіснуюць сёння разам з навуковымі. Лабірынт – сістэма вобразаў, архетыпаў, данесеных да сённяшняга дня памяццю народа, гістарычнымі хронікамі, але, на жаль, з мінулага засталіся толькі кавалкі разбітай мазаікі, паміж якімі блукае аўтар, намагаючыся аднавіць старажытны малюнак. Аўтар усведамляе вялізную колькасць перашкод, схаваў, "запастак", пра што і піша ўжо з высылкі ў халодным Саратаве Адаму Багдановічу: "Это рудимент древнего словотворчества, когда злую силу опасались называть собственным именем и, по преимуществу, называли ее же собственной противоположностью Отсюда эпитеты «тихий дождичек», название злого лешего Дабрахот, грома – Ціхень, огня – Мокишь и т. п. Следовательно, не ошибались ли наши мифологи, отыскивая в индоевропейских языках созвучные имена богов слаянских? Мне кажется созвучия заводили в безвыходные *лабиринты*, а по сути – воз и ныне там"[1].

*Maryla Chaustowicz*

**The Mythology of Ancient Peoples in the Works of V. Lastouski**

A b s t r a c t

The subject of this article is the influence of ancient pantheons on the literary and publicistic works of Vaclau Lastouski, a writer, social activist and educator in Belarus during thr first half of the 20th century. We have tried to analise the development of the author's mythological ideas starting from his earliest works up to the novella *Лабірынты*, in which his experience and extensive knowledge are added. We took notice of the sources the author could have used. We analised the author's technique to create a pantheon of Slavonic deities.

[1] В. Ластоўскі, *op. cit.*, с. 446.

**Angela Espinosa Ruiz**
Warszawa

# Асноўныя матывы паэзіі Міхася Стральцова

Пры жыцці Міхася Стральцова выйшла ў свет чатыры зборнікі вершаў: *Ядлоўцавы куст* (1973), *Цень ад вясла* (1979), *Яшчэ і заўтра* (1983), *Мой свеце ясны* (1986).

Першую кнігу паэзіі М. Стральцова крытыкі прынялі дастаткова холадна і з недаверам. Літаратуразнаўцам не верылася, што выдатны празаік застанецца і ў паэзіі такім жа наватарам, філосафам і лірыкам. Філолаг Вера Палтаран апублікавала ў часопісе "Маладосць" рэцэнзію на зборнік *Ядлоўцавы куст*, у якой пісала пра талент літаратара як празаіка і крытыка: "Першыя крытычныя артыкулы (М. Стральцова. – *А. Э.*), у якіх адчувалася глыбокае і тонкае разуменне літаратуры, першыя апавяданні, ад якіх веяла свежасцю погляду на свет, на жыццё – і чытач адразу быў узяты ў палон яго адметным, шчырым талентам"[1]. Хоць яна строга ставіцца да вершаў маладога літаратара, аднак сцвярджае ў сваёй рэцэнзіі, што "любячы і высока ставячы прозу Міхася Стральцова, мы не можам <...> не прызнаць, што яна многім абавязаная паэзіі. Пранізлівасць слова, яго інтэнсіўная эмацыянальная афарбоўка, яго «пульсуючы» сэнс – усё гэта ідзе адтуль, са свету паэзіі"[2].

Эдуард Дубянецкі ў эсэ *Загадка Стральцова* пісаў пра ўніверсальнасць літаратурнага таленту М. Стральцова і сцвярджаў, што "калі ж больш падрабязна казаць пра паэзію, універсальнасць М. Стральцова адразу кідаецца ў вочы, паколькі яго таланту былі аднолькава падуладныя, з аднаго боку, вершы кароткія (мініяцюры) і сярэдняга і большага аб'ёма, класічныя традыцыйныя і свабодныя (верлібры), а з другога боку, вершы філасофскія, пейзажныя, любоўныя, грамадзянскія і нават жартоўныя"[3]. Літаратуразнавец Ціхан Чарнякевіч у сваю чаргу сцвярджаў у лекцыі *Чарнавікі Стральцова: даробак і няспраўджаныя задумы*[4] ў лютым 2016 г., што далёка не ўсе пытанні біяграфіі і творчасці М. Стральцова высветленыя. На думку Ц. Чарнякевіча, у беларускім літаратуразнаўстве не хапае грунтоўнага аналізу творчасці

[1] В. Палтаран, *Чалавек прарастае горадам*, "Маладосць" 1974, № 6, с. 163.
[2] *Ibidem*, с. 164.
[3] Э. Дубянецкі, *Загадка Стральцова*, "Дзеяслоў" 2017, № 86, с. 269.
[4] Ц. Чарнякевіч, *Чарнавікі Стральцова: даробак і няспраўджаныя задумы* [online], http://lit-bel.org/by/news/6617.html [доступ: 20.02.2017].

пісьменніка, асабліва яго лірыкі, якую М. Стральцоў перапрацаваў дзеля выдання кнігі *Выбранае* ў 1987 годзе.

Добры прыклад гэтай аўтарскай рэдакцыі вершаў мы знайшлі ў нізцы *Партрэты*, якая была напісаная з прычыны смерці сябра паэта, Сымона Блатуна. Прапануем да параўнання першы з сямі вершаў дадзенай нізкі ў дзвюх розных версіях:

| | |
|---|---|
| Як не ўмеем мы чытаць партрэты...<br>Глядзяць адтуль і светы, і сусветы,<br>І лёс глядзіць, як пад'ярэмны вол,<br>Вяшчуючы, калі мы, як ранеты<br>Пападаем да вечнасці ў прыпол.<br>(*Яшчэ і заўтра,* 1983) | Каб павучацца нам чытаць партрэты...<br>Глядзяць адтуль нязнаныя прыкметы,<br>І лес глядзіць, як пад'ярэмны вол,<br>Вяшчуючы, калі ранеты–светы<br>Пападаюць да вечнасці ў прыпол.<br>(*Выбранае,* 1987) |

Першая версія была апублікаваная ў зборніку *Яшчэ і заўтра* ў 1983 годзе; другая, з аўтарскімі праўкамі, – у зборніку *Выбранае* (1987). Мы заўважаем пэўныя змены, якія, на нашую думку, моцна ўплываюць на разуменне і ўражанні чытача.

Першы радок у версіі, апублікаванай у зборніку *Яшчэ і заўтра*, гучыць гэтак: "Як не ўмеем мы чытаць партрэты...". Папраўлены ж фрагмент выглядае інакш: "Каб навучыцца нам чытаць партрэты...". Арыгінальную версію, такім чынам, можам інтэрпрэтаваць як канстатацыю факту, што чытанне партрэтаў знаходзіцца па-за межамі нашых здольнасцяў. Другая версія дапускае магчымасць навучыцца чытаць партрэты, заадно выпраўляе рытмічны малюнак радка. Назіраем змены і ў другім радку твора. Першая версія "Глядзяць адтуль і светы, і сусветы" дае нам вялікую колькасць інфармацыі. У папраўленым вершы радок ператвараецца ў "Глядзяць адтуль нязнаныя прыкметы" і набывае больш завуаляванае значэнне. У трэцім радку мы заўважылі, што ў папраўленай версіі з'явілася памылка друку "І лес глядзіць, як пад'ярэмны вол". У непапраўленай версіі напісанае слова *лёс,* што дае сэнс гэтаму параўнанню. Менавіта таму мяркуем, што варта кіравацца гэтай версіяй радка дзеля інтэрпрэтацыі твора. Яшчэ адзін варты ўвагі момант знаходзім у чацвёртым радку. У першай версіі тэксту "Вяшчуючы, калі мы, як ранеты", ужываецца асабовы займеннік *мы*, які ясна паказвае асабістыя эмоцыі лірычнага героя і самога аўтара, згодныя з гісторыяю стварэння гэтай нізкі, прысвечанай сябру паэта Сымону Блатуну: пападаем мы, людзі, калі надыходзіць час смерці. Не ўсё так відавочна ў папраўленым тэксце, дзе знікае займеннік: "Вяшчаючы, калі ранеты-светы". Затое з'яўляецца зноўку назоўнік *светы*, які сімвалізуе людзей. Апошняя змена ў нізцы падпарадкоўваецца граматычнай логіцы: у першаснай версіі – дзеяслоў першай асобы множнага ліку: "Пападаем да вечнасці ў прыпол", а ў новай версіі дзеяслоў змяняецца разам з суб'ектам сказа і з'яўляецца форма трэцяй асобы, – *пападаюць*. Трэба адзначыць, што гэты верш – адзін з тых, якія наймацней змяніліся пасля аўтарскай рэдакцыі.

Хоць паэтычная спадчына М. Стральцова параўнальна невялікая, у лірычных творах літаратара прысутнічае вялікая колькасць тэмаў і матываў. Мы не ставім сабе за мэту выявіць і падрабязна ахарактарызаваць кожны з іх: дадзенае пытанне патрабуе асобнага, больш дэтальнага разгляду. Падчас нашага аналізу вершаў пісьменніка, аднак, мы вызначылі асноўную тэматыку ягонае паэзіі, а таксама сувязі паміж матывамі, якія спалучаюцца ў форме дуалізму, а менавіта: каханне і самота, у тым ліку нешчаслівае альбо страчанае каханне; вёска і горад; проза і паэзія; жыццё і смерць. Пяройдзем да непасрэднага аналізу галоўных, паводле нашага меркавання, тэм і матываў паэзіі М. Стральцова.

Іспанскі паэт, акадэмік і лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Вісэнтэ Алейксандрэ пісаў, што “паэт – гэта сам чалавек, і ўсе імкненні аддзяліць чалавека ад паэта застаюцца заўсёды безвыніковымі”[1].

Вершы з’яўляюцца, значыць, вытворным прадуктам досведу аўтара. В. Алейксандрэ сцвярджаў, што “вялікі закаханы, альбо проста закаханы, калі ён існуе – напаўняецца цудоўнай наіўнасцю, бо ён, і толькі ён, знаходзіцца блізка да тае істоты, якая пастаянна абнаўляецца – блізка да таямніцы сусвету”[2].

М. Стральцоў падобна выказаўся пра наіўнасць паэта ў сваім апавяданні *Смаленне вепрука*: “[паэт] наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды – бо сказаў”[3].

У паэзіі літаратара прысутная пэўная наіўнасць, а таксама сам матыў кахання. Матыў адзіноты часта выяўляецца ў любоўнай лірыцы М. Стральцова. У размове з Міхасём Скоблам паэт Леанід Дранько-Майсюк выказаўся пра самоту літаратара гэтак: “Мы гаварылі пра самоту Стральцова, пра яго творчую адзіноту... Я гэта называю філасофскім сіроцтвам”[4].

Таму мы лічым, што варта правесці аналіз выбраных вершаў М. Стральцова, у якіх мы заўважылі сувязь паміж матывамі кахання і самоты.

У любоўнай лірыцы М. Стральцова, як і ў вершах пра адзіноту, заўважаецца выразны лірычны герой, які гаворыць пра сябе і свой унутраны свет ад першай асобы. У вершы *Глухата*[5], апублікаваным у першым зборніку М. Стральцова *Ядлоўцавы куст,* самотны паэтычны голас знаходзіцца ў стыхіі, якая апісваецца коратка: “Ноч. Сон не ідзе”; затое адразу з’яўляецца дзеяслоў першае асобы: “Чую, як гарыць

---

[1] V. Aleixandre, *Vida del poeta: el amor y la poesía*, Madrid 1950, p. 10.

[2] *Ibidem*, p. 12.

[3] М. Стральцоў, *Смаленне вепрука* [у:] М. Стральцоў, *Выбраныя творы*, Мінск 2015, с. 327.

[4] Л. Дранько-Майсюк, *Пячатка майстра М. Стральцова* [online], http://www.svaboda.org/a/754807.html [доступ: 28.04.2017].

[5] М. Стральцоў, *Выбраныя творы*, Мінск 2015, с. 39. Далей творы цытуюцца паводле гэтага выдання з пазначэннем у дужках старонкі.

цыгарэта / Кінутая некім на вуліцы". У апошніх радках твора заўважаем зварот да ўнутранага свету лірычнага героя: "Нянавісці да сябе / Праз сцяну не пачую".

У дэбютным зборніку М. Стральцова тэмы кахання і самоты цесна звязаныя. У вершы, які пачынаецца радком *Ты пайшла* (с. 40), лірычны герой звяртаецца да жанчыны: "Ты пайшла / ты чамусьці пайшла"; ён апісвае свой унутраны стан наступнымі вобразамі: "стаў калодзежам без вады / стаў вясновым кустом без лісця". На нашую думку, М. Стральцоў выкарыстаў іх дзеля апісання глыбокай унутранай адзіноты пасля расстання з каханай. Асаблівую важнасць маюць радкі "але болей за ўсё / стаў падобны на клетку, / якую пакінула птушка...". Клетка сімвалізуе лірычнага героя, які застаўся пустым унутры, а птушка – тую самую жанчыну. Цяпер мы цалкам разумеем значэнне гэтых радкоў, што пацвярджаецца ў заканчэнні: "Чую, у садзе чужым пяе, / бачу між дрэў залачоную клетку". Герой свядома ўспрымае факт, што "птушка" пяе ўжо не яму, а "клетка" нагадвае яму пра самоту і страчанае каханне.

Верш *Лене* (с. 62), мяркуючы па даце публікацыі, прысвечаны другой жонцы пісьменніка Алене Стральцовай (дзявочае прозвішча: Буротына). Ён адрозніваецца ад большае часткі любоўнай лірыкі зборніка *Ядлоўцавы куст* сваёй пяшчотаю і параўнальна простым стылем: "І зноў цябе заву / Маленькую, малую, / Схіляю галаву / І холад воч цалую". Пачуцці самоты і віны выяўляюцца і ў гэтым творы; паэт шкадуе каханую за яе наіўнасць, баіцца прычыніць ёй боль: "Балюча мне ўдвая / Ад той наіўнай веры"; "[...] знаю – заплачу / За кожны міг з табою".

У другім зборніку паэзіі М. Стральцова *Цень ад вясла* няшмат любоўнае лірыкі, але ёсць творы пра самоту. У вершы *Жанчына ў акне* (с. 82) апавядаецца пра штодзённасць, поўную самотных пачуццяў. У першых радках даецца апісанне тытулярнай жанчыны: "З акна жанчына птушкаю з гнязда / На двор глядзіць. Бы крылы, ўзняты плечы". У сцэну ўваходзіць і Стральцоўскі лірычны герой у першай асобе, таксама пасіўны: "Я гэта бачу, хоць гляджу здалёку". У апошніх радках падаюцца думкі гэтай жанчыны пра сваё быццё: "[...] «Ах, лейцы трэба!» Пра сваё / «Муж на рабоце, а малы – у школе»". Шэрасць жыцця ламае рамантызм статычнай сцэны.

Іншага тыпу самота выяўляецца ў вершы *Думаў яшчэ нядаўна* (с. 90). Гэта абсалютная самота: поўная і філасофская. Адбываецца дзея ноччу: "Туга мая гэтай ноччу / чамусьці не выплыла ў мора". У творы шмат паэтычных вобразаў ("[туга] рыбінаю прыціхлай / ходзіць каля плацін"; "ляцяць на ліхтар сняжынкі, / сон ад павек ляціць"), у тым ліку вобразаў з класічнай літаратуры ("вечнасць сам Хронас спіць"). Лірычны герой гаворыць пра цяжкі лёс і нечаканую бяду, пра што сведчаць радкі "А думаў яшчэ і ўчора: / На пяцігодку наперад / Свой доўг прад тугою сплаціў".

Верш *Асацыяцыя* (с. 104) ілюструе яшчэ адзін тып адзіноты, а менавіта тую адзіноту, якую лірычны герой адчувае нават тады, калі знаходзіцца ў кампаніі іншага чалавека: у ім выкарыстоўваюцца бытавыя вобразы: "Няёмка, / як быццам бы ў ліфце / з чалавекам напаўзнаёмым".

Трэці і апошні паэтычны зборнік М. Стральцова *Мой свеце ясны* напісаны, відавочна, больш сталым паэтам. Да самоты і кахання дадаецца трэці матыў: бег часу, які заўважаем у такіх творах, як верш, які пачынаецца такімі словамі: "І рытмы тыя, ды ўжо лад / Другі. І ў сэрцы холад цупкі" (с. 115). Лірычны герой бачыць свет па-іншаму, развагі пра жыццё спакайнейшыя, хоць не губляецца жарсць яго сэрца: "Гаворыць сэрца: паспяшай! / Не, не спяшай, – гаворыць розум". Нягледзячы на ўзроставыя змены, не знікаюць колішнія пачуцці, і ў апошніх радках з'яўляецца зноўку займеннік "ты", да якога герой звяртаецца: "Ды скруха скорыцца журбе, / Душа ізноў рахманай стане. / І твой зласлівец на цябе / У неспакоі раптам гляне!".

Развагі пра жыццё, шкадаванне і самота працягваюцца і ўначы: "Не спіцца, ліха на яго, / Трызненне – быццам празарэнне" (с. 118). Менавіта гэтай парою пачуццё адзіноты робіцца мацнейшым, напружвае лірычнага героя: "Ты з адзінотай твар у твар – / Хвіліна гэткая благая!". Бачым у гэтым вершы і матыў "чаркі", які ўзнікае ў кантэксце самоты.

Матывы кахання і самоты, як мы пераканаліся, збліжаныя ў лірыцы М. Стральцова. Стральцоўскае каханне – песімістычнае, адзінотнае, часамі, хіба, светла-сумнае. Затое першапачатковая жарсць павольна ператвараецца ў роздум; рэўнасць – у філасофію. Пяшчота, у сваю чаргу, ніколі не знікае. Заўжды прысутная і пэўная наіўная вера ў шчаслівае каханне.

Паняцце горада ніколі не было чужым лірычнаму жанру, і асабліва ад пачатку XX стагоддзя горад і працэс урбанізацыі – сталы паэтычны вобраз у заходняй літаратуры. На думку Сант'яга Дэльгада, "горад як матыў датычыць усёй сучаснай паэзіі, хоць ніколі не атрымлівае поўнай аўтаноміі. Маем дачыненне з праблемай рэпрэзентацыі, стаpанне, ад якога паэт можа адмаўляцца"[1].

У творчасці М. Стральцова пераважае дуалізм горад-вёска, як у прозе, так і ў паэзіі. Стральцоўскія героі часта знаходзяцца фізічна ў горадзе, але адчуваюць моцную духоўную сувязь з роднаю вёскай. Горад з'яўляецца фонам маральных перажыванняў празаічных персанажаў і лірычных герояў у творах літаратара. Наталля Кузьміч мяркуе, што "ў прозе пісьменніка выразна праявілася дамінанта, якая складае філасофска-эстэтычную сарцавіну яго творчасці, – гэта імкненне шматгранна раскрыць чалавека і яго духоўны свет"[2].

---

[1] S. Delgado, *El poema y la ciudad. Paisaje urbano e hiperurbano en tres poetas rosarinos (Dobry, García Helder y Prieto)* [online], https://lirico.revues.org/788 [доступ 03.04.2017].

[2] Н. Кузьміч, *Горад і вёска ў апавяданнях Міхася Стральцова*, "Актуальні проблеми слов'янської філології" 2010, № 23, ч. I, с.175.

У вершах М. Стральцова мы знайшлі спробы прымірэння горада і вёскі ды пошукі гармоніі ў кантэксце ўнутранай эміграцыі.

На думку літаратурнага крытыка Сяргея Кавалёва, "у паэзіі М. Стральцова урбаністычныя матывы праявіліся з асаблівай сілай і глыбінёй, набылі найбольш арыгінальнае і адметнае структурнае ўвасабленне, хаця і не запоўнілі сабой усю паэтычную творчасць пісьменніка"[1].

У першым лірычным зборніку літаратара матыў горада прысутнічае ў шматлікіх вершах. Перш за ўсё мы заўважылі гарадскія вобразы, як у вершы, першы радок якога пачынаецца менавіта ад такога параўнання: "Трамвай, як сараканожка" (с. 43). Трамвай, выключна гарадскі элемент, параўноўваецца з жывёламі: па-першае, як мы ўжо пісалі, з сараканожкай. Па-другое, трамвай параўноўваецца з вожыкам, калі лірычны голас сам адмаўляецца ад папярэдняга параўнання: "Не, не падабаецца мне гэтае параўнанне, / Параўнаю трамвай лепш з вожыкам, / што цвёрда і шпарка / бяжыць па падлозе – тук! тук!". Пра гэтыя незвычайныя вобразы выказаўся Андрэй Хадановіч, на думку якога "[у гэтым вершы, паэт] нагадвае дзіця, якое адкрывае свет нанова, бавіцца са сваім вершам, бавіцца з гэтым светам, як з цацкай"[2].

Горад у паэзіі М. Стральцова часта з'яўляецца фонам для філасофскіх разваг. У вершы *Лета. Ноч*, самотны лірычны герой глядзіць на неба з горада: "Горад спіць. Пагляджу яшчэ ўвысь. / У аксамітавых неба затоках / Вунь і зоркі цвітуць". Цвітуць як кветкі, якія радзей сустракаюцца ў горадзе, чым у вёсках, адкуль прыехала большасць такіх герояў. Неба параўноўваецца з полем: "Неба хмаркамі парасло, як травой. / У прагаліне маладзік, расяны і тонкі...". Таксама варта падкрэсліць вобраз адзінокай зоркі, што, на нашую думку, з'яўляецца алюзіяй да *Зоркі Венеры* Максіма Багдановіча: "[маладзік] Адзінокую зорку пасе. Вострым промнем яна / Коле вока".

Зусім іншы характар мае верш *На аўтобуснай станцыі* (с. 45–46). Хоць нарацыя ў творы ад трэцяе асобы ("Між станцыйнага народу / Ён з авоськай у руцэ"), з пункту гледжання маці, якая развітваецца з сынам, што з'язджае ў горад, у вершы знаходзім тыя ўнутраныя перажыванні, якія часта хвалююць Стральцоўскага героя, які пакідае родныя мясціны, каб працаваць альбо вучыцца ў больш перспектыўным горадзе. Гэтыя хваляванні асабліва відавочныя ў наступных радках: "Як сабе даруе ён, / Што вязе ў абмен на сала / Мінскай выпечкі батон? / Што і лёс не так варожыць, / Што нялёгкі матчын век, / Што забраць яе не можа, / Ды і быць пры ёй не можа, – / І сумуе чалавек". У дадзеным вершы выяўляецца той дуалізм, пра які літаратар піша ў сваёй прозе (напрыклад, у апавяданні *Сена на асфальце*): чалавек

[1] С. Кавалёў, *Як пакахаць ружу,* Мінск 1989, с. 44.
[2] А. Хадановіч, *Топ-10 самых незвычайных вершаў беларускай літаратуры* [online], https://news.tut.by/culture/175089.html [доступ 14.04.2017].

губляе тое, што ў вёсцы (у гэтым выпадку, сваю ўласную маці), і не можа цалкам прывыкнуць да горада – стаць гарадскім.

Верш *Конскі базар* (с. 46–47) апісвае ўскраіну горада, якая функцыянуе як адрозны свет. Лірычны герой гаворыць пра гэтае месца, як пра экзатычны пейзаж, дзе архітэктура іншая: "Вы бачылі ўскраіну, / дзе хаткі, / дамкі / і будыніны"; мова адрозніваецца ад гарадской: "дзе няма магазінаў – / ёсць крамы, / кнігарні / ларкі"; транспарт выглядае інакш: "дзе тралейбус з апошнім / ці перадапошнім нумарам / валюхаецца вузкай вуліцай, /чапляючыся за платы?". Знаходзім і намёк на тое, што тут свабоды больш, чым у гарадскім асяроддзі: "дзе рокі, / і твісты, / і шэйкі / гучнейшыя, чым у горадзе". Верш завяршаецца заклікам да чытача звярнуць увагу на гэтую незвычайную частку горада, якую, відавочна, лірычны герой добра ведае: "Паслухайце! / Гэта ж там!".

Матыў горада прысутны і ў другім паэтычным зборніку М. Стральцова*.* Вяртаюцца гарадскія вобразы; працягваецца імкненне гарманізаваць горад і вёску. Верш *І тады*... (с. 85–86) прадстаўляе ўнутраны стан лірычнага героя: з'яўляецца матыў адзіноты на фоне вялікага горада: "шукаў сябе сённяшняга / у тралейбусах". Зноўку ж з'яўляецца элемент страчанай прыроды: "[…] неўспадзеў паявіўся / у раёне Праспекта / мядзведзь". Не можам прапусціць матыў алкаголю ("дзень учарашні спраўляў / у сённяшнім дні пахмелле..."), які мае эмацыйнае значэнне ў апісанні пачуццяў лірычнага героя.

У зборніку *Цень ад вясла* ёсць і гэтыя вядомыя радкі: "Вось тут, далёка ад сталіцы, / Ад ісцін новых і старых, / Жыву, як выгнаны патрыцый, / Грыбы збіраю у бары" (с. 87). Лірычны герой знаходзіць спакой далёка ад вялікага горада, у роднай вёсцы, на прыродзе, дзе можа пачувацца вольным. Лірычны герой успрымае прыгажосць свету менавіта прыроднымі вобразамі (асабліва звярнуў на сябе нашую ўвагу выраз "бярозавы ліцэй", бо ў ім сумяшчаюцца горад – фармальная адукацыя – і вёска – дрэва). М. Скобла напісаў пра гэты твор так: "Гасподай апальнага рымскага патрыцыя ўбачыўся Стральцову Мазырскі ЛТП, а лес за калючым дротам – бярозавым ліцэем. Ён так бачыў свет – без бруду і хамства. Ён і ў падканвойнай казарме адчуваў сябе свабодным, як да гэтага і пасля гэтага пачуваўся свабодным у далёка не свабоднай Бээсэсэрыі, у беларускай літаратуры, якую сумнавядомы Галоўліт стараўся трымаць на кароткім павадку"[1].

У апошнім прыжыццёвым зборніку паэта пераважаюць матывы прыроды і вясны. У вершы *Прадвесне* (с. 143), напрыклад, пачуцці лірычнага героя выражае стыхія канца зімы ("Мароз уранку рэжа, / Бы ў спёку авадзень. / Ды санны след, як рэшата, – / Віной прамень"). Таксама ў чаканні вясны напісаны верш, які пачынаецца радкамі "Халодны дождж – не даспадобы вільгаць / Зямлі. Хварэе сад на немату". Заўважаем у гэтым вершы персаніфікацыю саду, зямлі і іншых

[1] М. Скобла, *Выгнаны Патрыцый* [online], http://www.nv-online.info/by/254/printed/42383/ [доступ 14.04.2017].

элементаў пейзажу: “Відаць, не скора дрэвам лісце выгнаць / У цёплы свет”. Пры апісанні надвор’я таксама выкарыстоўваецца персаніфікацыя: “Нібы зямля не дагадзіла небу / І неба раззлавала на зямлю”. На нашую думку, гэтыя вобразы дадаюць экспрэсіўнасці статычнай зімовай карціне, якую літаратар апісаў у сваім вершы.

Ёсць у гэтым зборніку творы, у якіх апісанне прыроды палучаецца з філасофскімі развагамі. У вершы, які пачынаецца радком “Снег асядае. І заспаны лес” (с. 144), лірычны голас сцвярджае: “Зіма – падман. Ды і вясна – падман”. Наступны верш зборніка пачынаецца ад развагі пра натуру вясны: “Вось і вясна. Каторая? Якая? / Каторая – у лёсу запытай / Якая – што за морамі блукае? / Лепш не пытай, а лепш душой адтай” (с. 144). Прысутныя ў гэтым творы і гарадскія элементы: “Ускраіна абвалаклася дымам”, якія кантрастуюць з прыродаю, якая прыносіць лірычнаму герою спакой: “Пад гэтым небам, сінім і любімым, / Не верыцца чамусьці ў небыццё”. Бачым зноўку пачатак вясны, змаганне прыроды супраць горада і супраць зімы.

Аналізуючы матывы горада і вёскі ў Стральцоўскай лірыцы, мы прыйшлі да высновы, што дуалізм гэтых двух матываў прысутны на працягу ўсёй літаратурнай кар’еры аўтара. У ранніх вершах, і асабліва ў першым зборніку, горад і вёска звязаныя з кагнітыўным дысанансам “былога вяскоўца”, маладога чалавека, які пакінуў родныя мясціны і з’ехаў у горад (аўтабіяграфічныя элементы). У пазнейшай лірыцы гэтыя матывы развіваюцца: з’яўляецца асацыяцыя паміж горадам і самотаю; вёска і натура сімвалізуюць спакой і шчасце. Са сталеннем літаратара пачуцці самоты і спакою перарастаюць у філасофскія развагі пра натуру самога жыцця, а матывы прыроды і роднай вёскі пераважаюць над гарадской тэматыкаю. Горад не знікае цалкам, але з’яўляецца ў вершах часцей за ўсё ў кантрасце з жывой прыродай.

Прысутнічае ў вершах М. Стральцова й матыў самой літаратуры: знаходзім у іх развагі пра ролю творцы ў грамадстве, працэс пісання, характар паэзіі і прозы. Гэтыя творы можна аднесці да постмадэрнісцкай мэтапаэзіі, бо “мэтапаэзія – паэтычны дыскурс, чыёй тэмай альбо адной з галоўных тэм якіх з’яўляецца сам факт пісання паэзіі, як і сувязь паміж аўтарам, тэкстам і чытачамі”[1].

У металітаратуры задачай аўтара з’яўляецца адкрыццё сапраўднай сутнасці літаратурнага твора. На думку Хосэ Антоніё Эрнандэс Герэра, “гэтая ўнікальная здольнасць «разумення», «самавыражэння» «трансцэндэнтнасць», гэтае імкненне да «вышэйшай праўды», гэта тое, што дапамагае літаратурнаму твору захоўваць сваю моц […] Гэта і ёсць паслугай, якую «мэтапроза» робіць літаратуры”[2].

[1] G. Carnero Arbat, *La corte de los poetas* [online], http://metapoetas.blogspot.com/2005/08/manifiesto-y-declogo-de-la-metapoesa.html [доступ: 31.03.2017].

[2] J. Hernández Guerrero, *Literatura y metaliteratura* [online], http://www.cervantesvirtual.com/obra-visor/literatura-y-metaliteratura/html/c8a65e53-b55b-4c03-a67c-3e3c2468ec35_2.html [доступ 31.03.2017].

Філолаг і лінгвіст Клара Штайн развівала канцэпцыю мэтапаэзіі ў сваіх навуковых працах. На яе думку, у катэгорыю мэтапаэзіі ўваходзяць "тыя тэксты, у якіх сам мастак-творца выступае як даследчык альбо інтэрпрэтатар, пачынае дыялог з уласнымі тэкстамі альбо тэкстамі […] іншых майстроў"[1].

Такім чынам, паэт адначасова піша і аналізуе працэс пісання, інтэрпрэтуе ўласныя і чужыя творы ў мастацкай форме.

Ужо ў першым зборніку М. Стральцова знаходзім шматлікія творы, прысвечаныя самой літаратуры. Адным з самых ранніх прыкладаў такое творчасці з'яўляецца верш *Эпіграф* (с. 37), у якім лірычны герой гаворыць пра сваё жаданне пісаць паэзію: "Я хачу напісаць радок, / толькі адзін радок". Як сцвярджае А. Хадановіч, такія вершы "выразна аўтапаэтычныя, сам працэс пісання, як мала ў каго іншага, неаддзельны ад рэфлексіяў пра гэтае пісанне"[2].

Паэт аб'ядноўваецца з лірычным героем і тлумачыць нам працэс пісання ("Я хачу напісаць радок [...] / які наіўны паэт […] / мог бы ўзяць за эпіграф"), і гэты працэс ператвараецца ў самую паэзію: "Напішу хоць бы так: / «Я аднойчы бачыў кепскага чалавека»". Аўтар і герой сумяшчаюцца, і ў выніку пішацца гэты адзінокі радок, які бачым у двухкоссі напрыканцы верша.

Маральнаму імператыву "пісаць" прысвечаны ў гэтай кнізе верш *Пішыце пісьмы* (с. 52–53). Гэты твор заахвочвае дасылаць сябрам лісты ("Прывітанні шліце, прывітанні. / Спакваля мінаецца пара, / Калі ў дні турботаў, у расстанні / Мы без пісьмаў верылі сябрам"), нават у тую эпоху, калі тыя сыходзілі, так бы мовіць, з моды пры з'яўленні больш хуткіх спосабаў камунікацыі: "Тэлефонна-звонны, рукапісны / Запаўняем вось на дружбу чэк. / «Тэлеграмы лепей, чымся пісьмы», / Агітуе рэактыўны век". Але больш за ўсё лірычны герой тлумачыць доўг літаратара перад чыстай паперай: "Аркушок узяў паперы чыстай. / Што дарэмна плакаць ды ўздыхаць? / Не адбудзеш вершыкам і ліст той / Усё роўна мусіш напісаць".

У гэтым зборніку ёсць верш, з наступным першым радком: "Прысніўся верш – не верш, а два радкі" (с. 54). Па ім разумеем, што працэс пісання і перажыванні за кожны паэтычны радок не спыняюцца нават у снах: "Абломак лодкі ўсплыў са дна ракі, […] / Прачнуўся. Дзень трывогаю прапах, / І два радкі гаркотай на губах". Паводле слоў лірычнага героя, творчасць можа ператварацца ў кашмар, але вершы ("два радкі") усё адно застаюцца.

Ёсць у творчасці М. Стральцова і праявы інтэртэкстуальнасці (спасылкі на іншыя творы). Добры прыклад гэтае з'явы мы заўважылі ў вершы *Які прастор!* (с. 57), які пачынаецца так: "Рукой падаць, / Рукой дастаць / Да зор!". Тут "цытуецца" верш М. Багдановіча *Я хацеў бы*

---

[1] К. Штайн, *Поэтика по данным метатекста,* Санкт-Пецярбург 1997, с. 60.

[2] А. Хадановіч, *op. cit.*

*спаткацца з Вамі на вуліцы:* "Нашто ж на зямлі / Сваркі і звадкі, боль і горыч, / Калі ўсе мы разам ляцім / Да зор?"[1].

Верш *Плач па Гарсія Лорку* (с. 58) М. Стральцоў прысвячае іспанскаму паэту. Тут выкарыстоўваюцца кароткія радкі, у стылі іспанскай народнай творчасці (і самога Ф. Гарсія Лоркі): "Які ты быў / як прывезлі цябе? […] / Жандары, / мне кажуць, / стаялі / у журбе?". Верш моцна нагадвае славутую паэму Ф. Гарсія Лоркі *Плач па Ігнасіё Санчэсу Мэхіясу:* "Не хачу яе пабачыць! / Пакліч месяц / Бо не хачу / Пабачыць кроў Ігнасіё / На пяску"[2]. Яшчэ адну спасылку на творчасць М. Багдановіча мы заўважылі ў вершы *Непагодлівы дзень у гарах* (с. 61–62): "«Маўчы! Мне сонца не аслепіць воч!» / – Ты не заўважыў, што настала ноч...". Такім чынам можна сцвердзіць, што паэт ужывае інтэртэкстуальныя прыёмы і выкарыстоўвае ў сваіх вершах як айчынную, так і замежную літаратуру.

Апошні верш зборніка *Ядлоўцавы куст* багаты як на мэтапаэтычныя элементы, так і на інтэртэкстуальныя. *Ода прозе* з'яўляецца паэтычнай пахвалой улюбёнай літаратарам прозы. Лірычны герой апісвае добрыя якасці празаічнага жанру: "Люблю я прозы дух цвярозы / Яе густы, зямляны дух. / Яна і жартам і сур'ёзам, / Карчы варочае за двух". Інтэртэкстуальнасць знаходзім у наступнай страфе: "Замест жвавага Пегаса – Худы каняга Расінант". Параўноўваюцца ў гэтых радках міфалагічны старагрэцкі лятучы конь Пегас і конь Дон Кіхота М. Сервантэса Расінант. Варта падкрэсліць, што М. Багдановіч таксама ўжываў вобраз Пегаса ў сваёй паэзіі, напрыклад, ва *Уступе* сваёй нізкі вершаў *Места:* "Звярнуў калісь Пегас на вулкі / З прывольных палявых дарог"[3]. *Ода прозе* завяршаецца тлумачэннем чытачу прычын, чаму літаратар вырашыў прысвяціць верш прозе: "Ты мо здзіўляешся, што прозе / Я оды вершыкам пішу? / Яшчэ мне з ёю па дарозе, / З дарогі селавой на возе / Шчэ з ёй уз'еду на шашу". З гэтых радкоў вынікае, што М. Стральцоў не меў намераў назаўжды пакінуць празаічны жанр.

У зборніку *Цень ад вясла* мы заўважылі два вершы пра цяжкасці працэсу пісання і ролю паэта ў жыцці грамадства. Першы з іх пачынаецца з радка "Мне звышнадзённай тэмы не падняць" (с. 82–83), што ўжо гаворыць пра выбар тэматыкі твораў. Другі верш, які пачынаецца радком "Ты пачакай. Навошта гэта?" (с. 84) – просьба ставіцца з разуменнем да паэтаў: "За ўцёкі ў вершы не карай. / Не рай чакае там паэта, / А калі рай – пакутны рай", апісвае цяжкасці іх лёсу: "Павер мне, без калючак ружы / Не адшукаў там анідзе". Лірычны герой выказвае аднак і надзею: "І ўсё ж чакаю, бы калісьці, / Што, перарваўшы зморку ніць, / Усход такою сілай блісне, – / Струна ў тумане зазвініць!".

[1] М. Багдановіч, *Поўны збор твораў у трох тамах*, том I, Мінск 1992, с. 278.
[2] F. García Lorca, *Llanto por Ignacio Sánchez Mejías* [online], http://usuaris.tinet.cat/picl/libros/glorca/gl002700.htm#02 [доступ 15.04.2016].
[3] М. Багдановіч, *op. cit.*, с. 95.

У зборніку *Мой свеце ясны* развіваюцца матывы і прыёмы, якія мы ўжо заўважылі ў папярэдніх дзвюх кнігах, а таксама новыя інтэртэкстуальныя элементы. Гэтым разам мы заўважылі спасылкі на сучасную беларускую паэзію, а канкрэтна на сябра літаратара Рыгора Барадуліна ў вершы *Экспромпт* (с. 123–124): "Святлом ад коцікаў вярбы / Мой роздум над радком атулен. / Пісаў калісьці Барадулін / Пра іх – ды мне такой журбы!". М. Стральцоў нават прыдумаў неалагізм – прыметнік "барадульны", які з'яўляецца напрыканцы дадзенага твора: "Што не падасца б а р а д у л ь н ы м / Наш верш, а значыць – і старым".

Закранаецца і тэма цяжкасцяў у працэсе пісання вершаў: "Пра што пісаць, і як пісаць, і дзе?" (с. 130–131). Вельмі выразна адчуваюцца праблемы паэта ў вершы, які пачынаецца радком "Бывае ўсё-такі зайздросна", дзе апісваецца безвыніковая праца літаратараў з-за "ўласнае волі" лірычнага слова: "Вось ты высільваўся, пацеў, / А твой радок на дзіва проста / У вершы сябра заляцеў". Крытыкуюцца нават тагачасныя тэндэнцыі ў паэзіі, напрыклад, у іранічным вершы, які пачынаецца радком "Пара асвойтаць і прагрэс" (с. 131–132)*:* "Пара асвойтаць і прагрэс / І славіць космас – не калёсы, / І рыфмаваць «прагрэс» і «стрэс», / А не адно «бярозы» – «слёзы»". Маюцца тут і словы, прысвечаныя новым крытыкам, якія не прызнаюць майстроў: "Гаворыць крытык малады / І на мяне кідае вокам, / Мае дарослыя гады / Нібы падлічвае з папрокам".

Ужо сталы паэт М. Стральцоў напісаў верш *Заўваж сабе* (с. 149) пра адказнасць літаратара ў дачыненні да сваіх чытачоў: "Матыў лірычны, адмысловы / У важкай думе ці журбе – / Ён неабходны, каб на слове, / Паэце, верылі табе". Лірычны герой далей раіць паэтам: "Але ж, бывае, слова – срэбра, / Маўчанне – золата, браток!". На нашую думку, М. Стральцоў выяўляе ў гэтым вершы свой сур'ёзны падыход да лірыкі як жанру.

Аналізуючы мэтапаэтыку і інтэртэкстуальнасць у вершах літаратара, мы прыйшлі да высновы, што паэт шырока выкарыстоўвае абодва прыёмы. М. Стральцоў спасылаецца не толькі на беларускую літаратуру, а таксама на еўрапейскіх аўтараў розных эпох. Пісьменнік звяртае ў сваёй паэзіі асаблівую ўвагу на цяжкі лёс паэта ў свеце і на яго грамадскую ролю.

Як сцвердзіла Анабэль Сайс Рыполь у артыкуле *Смерць у літаратуры: XIX і XX стагоддзі*, пісаць пра смерць у літаратуры – гэта спроба адказаць на адно з пытанняў, якія задае сабе чалавек любое культуры, эпохі і веры[1]. Матыў смерці, класічныя матывы кшталту *carpe diem*, *ubi sunt* альбо *memento mori*, паўтараюцца ў еўрапейскай лірыцы, пачынаючы з грэка-лацінскай традыцыі і да нашых дзён. Як напісала Джульета Сангіна, "гаворка пра смерць ператвараецца ў паэтычны акт,

[1] A. Sáiz Ripoll, *La muerte en la literatura, siglos XIX y XX* [online], http://www.islabahia.com/arenaycal/2005/10octubre/anabel120.htm [доступ: 20.02.2017].

бо можам уявіць прыгажосць і жах, якія хаваюцца ў гэтым няпэўным здарэнні праз словы”[1].

Мы палічылі вартым аналізаваць трактаванне матыву смерці ў вершах М. Стральцова з мэтай глыбейшага знаёмства з яго паэтыкай.

Паэтычны зборнік *Ядлоўцавы куст* асабліва багаты ў праявах дуалізму смерці і жыцця. У вершы, які пачынаецца радком “Жыць у суседстве дрэў, і траў, і купін” (с. 45), лірычны герой падымае тэму мімалётнасці жыцця, у гэтым сэнсе падобнага да вакацый: “Жыць у суседстве дрэў, і траў, і купін, / Жыць у суседстве жыта і раллі”. Герой пратэстуе супраць ненастойлівасці існавання, хаця адначасова прызнае яго вартасць: “Так бессмяротнасць, можа, і не купім / На гэтай ненадзейлівай зямлі. / Але ж і тое – гэтае спазнаем”. У апошніх двух радках з’яўляецца той новы свет, куды маем сыходзіць: “Каб сівізной расквеціцца, як маем, / І ў новы свет паціху адплысці”. Як мяркуем, дзеяслоў “адплысці” рэпрэзентуе тут працэс жыцця, што падкрэслівае зноўку яго сціслацсь, нязменны бег часу. З іншага боку, той жа дзеяслоў можам таксама асацыяваць з ракою Лета, якую мусяць пераплыць душы мёртвых на ладдзі Харона, каб, страціўшы ўсе свае ўспаміны, патрапіць у Гадэс старажытнагрэцкай міфалогіі.

У вершы *Размова з часам* (с. 55–56) лірычны герой выказвае свае прэтэнзіі часу, адмаўляючы матыў Часу-Бацькі і чалавека-дзіцяці: “І ўсё ж ты не бацька мне, / Я – не дзіця”. Лірычны герой бачыць сябе як “суперніка” часу: “І вось ужо я вывяраю і мераю / Табою сябе – мой уладны час [...]”. Паралельна з’яўляюцца рэлігійныя элементы (“Веру! Асанна!”). Паэтычны герой жадае перамагчы сам час: “Законы спазнаўшы твае, з небыцця / Не стану выводзіць сваё нараджэнне”. Ён паўторна сцвярджае сваё існаванне: “Я – голас і думка, я – праўда і зрок”. Апошнія словы верша “Знай пункты гульні. А паруш – закрычу, / Аж голас у веку наступным пачуецца” – пра бессмяротнасць творчага чалавека, чый голас будзе гучаць у вечнасці, дзякуючы яго творы. Пра гэтыя радкі Э. Дубянецкі напісаў: “[аўтар] не лезе ў своеасаблівыя «метафізічныя джунглі», а […] ў лёгкай для чытання форме апавядае пра тое, што моцна хвалюе сэрца і розум”[2].

Верш *Замест санета* (с. 57) напісаны ў саркастычным тоне, пра што сведчыць сама назва. Асноўная тэма – паралель паміж смерцю і чалавечаю дурасцю: “Разумным сказана, што дурасці мяжу / Пазначыць гэтак цяжка – спрыту мала!”. Лірычны герой жадае іх абмінуць: “О каб мне мужнасць мець тады! Каб, як цяпер, / Вяршыць свой суд над ёй, над дурасцю сляпою!” З’яўляюцца жартоўныя словы і словаспалучэнні (“Інфарктэнштрасэ”, з нямецкай мовы: “Інфарктная вуліца”; вульгарнае слова “дурань”), якія сумяшчаюцца з патэтычнымі канструкцыямі.

---

[1] J. Sanguino, *La muerte en la poesía* [online], http://culturacolectiva.com/la-muerte-en-la-poesia/ [доступ: 31.03.2017].

[2] Э. Дубянецкі, *op. cit.,* с. 5.

Напрыканцы верша смерць перамагае дурасць: “што тым грудком зямлі я ўзвысіўся над ёю”.

Нізка вершаў *Партрэты* (с. 65–66), якую мы ўжо аналізавалі з пункту гледжання аўтарскага рэдагавання лірыкі, – верагодна, самы асабісты твор аўтара сярод тых, у якіх мы заўважылі матыў смерці. У нізцы бачым філасофскі пункт гледжання на смерць. Партрэты з’яўляюцца ў ёй галоўным лірычным вобразам.

У зборніку *Цень ад вясла* мы знайшлі аптымістычныя вершы, у якіх лірычны герой глядзіць на жыццё з надзеяй у новы дзень. Верш *Новы снег* (с. 83) апісвае прыгажосць зімовай прыроды (“[...] толькі з ночы ўранку ўстала / у новай вопратцы зямля”). Першы снег года ператвараецца ў фон для аптымістычных разваг паэтычнага героя: “І дзень, як чысты ліст паперы: / Устрапяніся і – пішы”.

Апошні прыжыццёвы лірычны зборнік М. Стральцова значна больш рэфлексійны, чым папярэднія. Новы лірычны герой глядзіць на мінулае з настальгіяй, разважвае пра сваю маладосць. У такім духу напісаны верш, які пачынаецца словамі “А фотаздымак на стале” (с. 126–127). Развагі лірычнага героя пачынаюцца менавіта ад фотаздымку сябе ў юнацтве: “А фотаздымак на стале, / Мяне страчаючы з дарогі...”. Старэйшы чалавек прайшоў праз цяжкае жыццё, і яму балюча глядзець на свой маладзейшы твар, які яшчэ не ведаў бяды: “І зразумею я ў той міг, / У тую горкую хвіліну, / Што іх [стратаў] замнога на дваіх, – / то лепей іх сабе пакіну”.

У ранняй Стральцоўскай лірыцы пераважае тэма змагання з часам і з паняццем смерці. Смяротнасць палохае лірычнага героя, і ён стараецца перамагчы смерць з дапамогаю творчасці. Затое страх перарастае ў аптымізм і шчырую любоў да жыцця ў пазнейшай творчасці літаратара. Гэтыя станоўчыя пачуцці не знікаюць у апошніх вершах паэта, якія багатыя таксама на настальгіі і развагі пра страчаную маладосць.

*Angela Espinosa Ruiz*

**The Main Motifs of M. Stralcou’s Poetry**

A b s t r a c t

The goal of our article is to analyse the themes of M. Stralcou’s lyric works. After our preliminar Reading of his four poetry volumes, *Ядлоўцавы куст, Цень ад вясла, Яшчэ і заўтра* and *Мой свеце ясны*, we identified eight predominant motifs which appear in the writer’s poetry in a dualistic form, namely: love and solitude, village and city life, prose and poetry, life and death. In order to research the evolution of said literary motifs we analysed 58 poems by M. Stralcou.

**Angelika Peljak-Łapińska**
Warszawa

# Негацыя ў беларускім маўленні: прагматычны пункт погляду

## 1. Прагматычныя асновы аналізу

Моўную прагматыку агульна можна акрэсліць як даследаванне мовы ў яе выкарыстанні[1]. Хоць яна з'яўляецца адносна маладой навуковай дысцыплінай, але ўжо ўзнік даволі вялікі аб'ём тэорый і паняццяў, якія дазваляюць сачыць за адносінамі паміж знакамі мовы і людзьмі, якія карыстаюцца імі. У гэтай працы выкарыстаныя некаторыя найбольш значныя прагматычныя тэорыі.

Па-першае, мадэль камунікацыі Пола Грайса (Paul Grice). Яе асновай з'яўляецца *прынцып кааперацыі* (*Cooperative Principle*), якога суразмоўцы звычайна прытрымліваюцца, а таксама чатыры правілы камунікацыі[2]: *колькасці* (*Quantity*), *якасці* (*Quality*), *рэлевантнасці* (*Relevance*) і *манеры* (*Manner*). Суразмоўцы не заўсёды могуць або хочуць прытрымлівацца ўсіх правілаў. Грайс апісаў чатыры сітуацыі, у якіх гэта здараецца[3], аднак найважнейшы ў мадэлі камунікацыі выпадак, калі моўца *адкрыта ігнаруе* (*flout*) правіла, і правіла *эксплуатуецца* (*is exploited*) для перадачы *імплікатуры* (*conversational implicature*), гэта значыць утоенага камунікату. Прыкладамі такой сітуацыі з'яўляюцца, між іншым, іронія і метафара. Калі моўца гаворыць пра чалавека *кроў з малаком*, дык ігнаруе правіла якасці (бо гэта няпраўда, што дадзены чалавек выглядае як кроў з малаком), але вядома, што мае на ўвазе „дужага прыгожага чалавека з румяным свежым тварам"[4].

Другая важная прагматычная тэорыя – тэорыя маўленчых актаў, гэта значыць, адзінкавых выказванняў, якія рэалізуюцца моўцам у дадзенай сітуацыі, згодна з правіламі фарміравання і ўжывання мовы, а разглядаюцца як сукупнасць шматлікіх камунікацыйных дзеянняў[5]. Джон Осцін (John Austin) падзяліў маўленчы акт на лакутыўны акт (адносіцца да слоў, якія фактычна выказаліся), ілакутыўны акт (адносіцца да таго, што выконваецца ў часе выказвання), і перлакутыўны акт

[1] *The Routledge Pragmatics Encyclopedia*, ed. L. Cimmings, New York 2013, p. 341.
[2] P. Grice, *Studies in the Way of Words,* New York 1991, p 26-27.
[3] *Ibidem*, s. 30.
[4] *Кроў* [у;] *Skarnik* [online], http://www.skarnik.by/tsbm/34138 [доступ: 18.07.2016].
[5] *Słownik terminów literackich*, red. J. Sławiński, Warszawa 2002, s. 21.

(адносіцца да таго, як выказванне ўспрымае слухач), а таксама заўважыў, што існуюць сказы, рэалізацыя якіх выклікае ўзнікненне новай рэчаіснасці. Гэтыя выказванні ён назваў перфарматыўнымі[1]. Джон Сёрл (John Searle; вучань Дж. Осціна) развіў гэтую ідэю і вызначыў *умовы дакладнасці (адпаведнасці)* (*felicity conditions*) для кожнага тыпу ілакутыўнага акта і, апрача таго, вызначыў пяць тыпаў маўленчых актаў (*асертывы* або *рэпрэзентатывы, дырэктывы, камісівы, экспрэсівы, дэкларатывы*).

Больш значным з'яўляецца аднак створаны Дж. Сёрлам падзел на пасрэдныя і непасрэдныя маўленчыя акты[2]. Звычайна кожны з відаў сказа адпавядае канкрэтным маўленчым актам – пытальны сказ адпавядае пытанню, просьбе пра інфармацыю; пабуджальны сказ адпавядае загаду ці запыту; апавядальны сказ адпавядае сцвярджэнню. Калі гэты натуральна парадак захоўваецца, маўленчы акт – *прамы* (*direct*). У кожным іншым выпадку маўленчы акт – ускосны (*indirect*).

Чарговым элементам прагматычнага аналізу з'яўляюцца мадэлі ветлівасці. У прагматыцы ветлівасць гэта стратэгія, якой карыстаецца моўца, каб дасягнуць розных мэтаў, напрыклад, падтрымання гарманічных дачыненняў. Сярод дзвюх галоўных тэорый, якія тычацца ветлівасці, найважнейшай у дадзенай працы з'яўляецца мадэль Джэфры Ліча (Geoffrey Leech), які разумеў ветлівасць як пазбяганне канфліктаў. Даследчык выдзеліў правілы прынцыпу ветлівасці[3], якіх трэба прытрымлівацца (*такту, шчодрасці, хвалы, сціпласці, згоды, спачування, разважання*).

## 2. Негацыя ў тэорыі мовазнаўства

Выкарыстаны ў працы тэрмін *негацыя* ўжываецца па аналогіі з англійскім *negation* і польскім *negacja*. Так у беларускай мове, як і ў польскай і англійскай існуе некалькі тэрмінаў сінанімічных да негацыі: *адмаўленне* (pol. *odmowa*, eng. *refusal*), *адмоўе* (pol. *przeczenie*, eng. *contradiction*, *denial*). Аднак з мовазнаўчага пункту погляду гэтая разнастайнасць тэрмінаў карысная і можа спатрэбіцца ў адрозненні падобных, хоць не аднолькавых з'яў, што будзе выкарыстанае ў прэзентацыі вынікаў працы.

Першапачаткова негацыя – проста паняцце логікі, аперацыя, якая ператварае праўду ў фальш і фальш у праўду. Аднак ужо ў старажытнасці філосафы заўважылі асіметрычны характар негацыі, які для ўсіх пазнейшых яе даследаванняў аказаўся асноўным. Арыстоцель першы апісаў розніцу паміж *супярэчнасцю* (*contrary opposition*) – кожнае S гэта P vs. ніводнае S гэта P – і *супрацьстаўленнем* (*contradictory opposition*) – кожнае S гэта P vs. якое-небудзь S гэта не-P і ніводнае S гэта P vs. якое-

---

[1] R. Kalisz, *Pragmatyka językowa*, Gdańsk 1993, s. 28.

[2] G. Yule, *Pragmatics*, Oxford 1996, p. 54–56.

[3] E. Fauziati, *Linguistic politeness theory*, Kesantunan Berbahasa dalam Berbagai Perspektif [Моўная ветлівасць у розных перспектывах] 2013, pp. 88–108.

небудзь S гэта P. Тэорыя Арыстоцеля прадстаўляецца квадратам супрацiўлення[1] і паказвае на тое, што негацыя не можа абмяркоўвацца толькі як бінарнае супрацьстаўленне праўды і фальшу.

Асноўнае ў мовазнаўстве – марфалагічна-сінтаксічны аналіз. З такога пункту гледжання негацыя ў беларускай мове даволі добра ахарактарызаваная, напр. у працах Зінаіды Бадзевіч[2] ці Наталлі Сабалеўскай[3]. Негацыя выражаецца галоўным чынам адмоўнымі часціцамі *не*, *ні*, якія „могуць адмаўляць дзеянне, прадмет, прымету, з'яву"[4], а таксама пры дапамозе суфіксаў *без-* / *абез-*, якія ўтвараюць сінонімы да канструкцыі *не* + прыметнік/ прыслоўе/дзеяслоў[5]. Адмоўныя часціцы ўжываюцца ў адмоўных сказах, пры супрацьпастаўленні, пры адмоўным параўнанні, пры выражэнні нязгоды, але, з другога боку, існуе цэлы шэраг сітуацый, дзе гэтыя часціцы выступаюць у сказе са сцвярджальным сэнсам, напр., калі часціца пацвярджае адмоўнае пытанне папярэдняга выказвання ці калі спалучаецца з інфінітывам (сцвярджаецца немагчымасць)[6].

Разнастайнасць форм і спосабаў выкарыстання негацыі з'яўляецца прычынай існавання шматлікіх класіфікацый негацыі. Лаура Хідальга-Даўнінг (Laura Hidalgo-Downing) даследуе тыя класіфікацыі, якія ствараліся на працягу апошняга стагоддзя[7], і звяртае ўвагу на галоўную праблему ў ідэнтыфікацыі і класіфікацыі негацыі – непаслядоўнасць зместу і формы слова. Гэтая своеасаблівая рыса негацыі стала асновай падзелу Эдуардам Клаймам (Edward Klima) слоў на адмоўныя па зместу і па форме – *эксплiцытная негацыя* (*explicit negatives*) і адмоўныя па зместу, але не па форме – *імпліцытная негацыя* (*implicit negatives*). Эксплiцытная негацыя называецца па-рознаму рознымі аўтарамі.

Польскі даследчык Ян Цыган[8] (Jan Cygan) абмяркоўвае больш дэталёвы, чым згаданыя вышэй, падзел прапанаваны Жулем Марузо (Jules Marouzeau) і арганізуе яго ў ніжэй пададзеную схему:

---

1 *The Traditional Square of Opposition* [in:] *In Stanford Encyclopedia of Philosophy* [online], http://plato.stanford.edu/entries/square/#OriSquOpp [accessed: 21.01.2016].

2 З. Бадзевіч, *Прыметнікі з прэфіксам не-, ня- ў сучаснай беларускай мове*, „Працы кафедры сучаснай беларускай мовы" 2004, вып. 3, с. 27–31.

3 Н. Сабалеўская, *Эксплiцытная рэалізацыя адмаўлення (на матэрыяле рамана І. Мележа Людзі на балоце)* [у:] *Русский язык : система и функционирование (к 70-летию филологического факультета)*: сб. материалов IV Междунар. науч. конф., г. Минск, 5–6 мая 2009 г., ред. И. Ровдо [и др.], Минск 2009, ч. 2, с. 95–98.

4 *Сучасная беларуская літаратурная мова*, рэд. Ф. Янкоўскі, Мінск 1980, с. 225.

5 А. Кривицкий, А. Михневич, А. Подлужный, *Белоруский язык для небелорусов*, Минск 1978, с. 309.

6 *Сучасная беларуская літаратурная мова*, с. 225–226.

7 L. Hidalgo-Downing, *Negation, Text Worlds, and Discourse. The Pragmatics of Fiction*, Stamford 2000, p. 41-50.

8 J. Cygan, *Negation in English and Polish*, „Poznan Studies in Contemporary Linguistics" 1973, vol. 2, pp. 295-329.

<table>
<tr><td colspan="3">negation (негацыя) →</td><td>semi-negation (частковая негацыя) →</td><td>affirmation (пацвярджэнне)</td></tr>
<tr><td colspan="3">absolute (абсалютная)</td><td colspan="2" rowspan="4"></td></tr>
<tr><td rowspan="3">syntactic (сінтаксічная)</td><td colspan="2">sentence (сказа)</td></tr>
<tr><td rowspan="2">word; lexical (слова)</td><td>quantitative (колькасная)</td></tr>
<tr><td>other; qualitative; special (спецыяльная)</td></tr>
</table>

Абапіраючыся на гэта, Я. Цыган прасочвае негацыю ў польскай і англійскай мовах і засяроджваецца на наступных тыпах негацыі: *абсалютная*, *сказа*, *колькасная*, *спецыяльная лексічная*, *частковая* і – сярод катэгорыі іншая – *пасрэдная ў сцвярджальнай форме* (пры дапамозе фармальна станоўчых слоў тыпу *сумны*). Класіфікацыя Я. Цыгана стварае ў гэтым артыкуле аснову пошукаў негацыі ў моўным корпусе, паколькі яна з'яўляецца найбольш дэталёвай марфалагічна-сінтаксічнай класіфікацыяй і дазваляе на падрабязны аналіз.

З функцыянальна-прагматычнага пункту гледжання негацыя ў беларускай навуковай літаратуры даследуецца толькі часткова, напр., у працах Ганны Латушкі[1]. Таксама ў польскай і англамоўнай літаратуры не хапае дакладнага аналізу. Я. Цыган даследуе функцыі і паказчыкі кожнага тыпу негацыі ў абедзвюх мовах і прыходзіць да высновы, што негацыя мае тры галоўныя функцыі. Даследчыца Марыя Нягу (Maria Neagu) заўважае, што на прагматычным узроўні адбыліся змены ў выкарыстанні маўленчых актаў[2], негацыю можна знайсці ў кожным відзе акту і таму яна выконвае нашмат больш функцыяў, чым тры вызначаныя Я. Цыганам.

Некаторыя даследчыкі, напр. Жак Машле (Jacques Moeschler), прапануюць метадалогію на асновах прагматычнай інтэрферэнцыі і тэорыі рэлевантнасці Дана Спербера і Дырдр Уільсан (Dan Sperber, Deirdre Wilson). Такі аналіз, паводле Ж. Машле, дазваляе пазбегнуць марфалагічных ці семантычных адрозненняў паміж рознымі тыпамі негацыі і тлумачыць розныя тыпы выкарыстання рознымі тыпамі

[1] Г. Латушка, *Як сказаць не па-беларуску і ўкраінску: камунікемы адмоўя* [у:] *Мова і літаратура ў XXI стагоддзі: актуальныя аспекты даследавання. Матэрыялы II Рэсп. навук.-практ. канф. маладых вучоных*, рэд. П. Навойчык, Мінск 2013, с. 144–150. Таксама: Г. Латушка, *Як сказаць не па-беларуску і па-чэшску: камунікемы адмоўя* [у:] *Мова і літаратура: матэрыялы 70-й навук. канф. студэнтаў і аспірантаў філал. ф-та БДУ*, рэд. К. Тананушка, Мінск 2013, с. 44-47.

[2] M.I. Neagu, *Negation in English Contemporary Linguistics*, „Seria Filologie" 2010, LXII, pp. 17-24.

прагматычных працэсаў, залежных або ад моўнага асяроддзя, або ад кантэксту, або ад аднаго і другога[1].

Праблема асіметрыі негацыі, якая адзначылася ўжо ў працах старажытных філосафаў, абмяркоўваецца таксама Майклам Ізраэлем (Michael Israel). Галоўным пытаннем з'яўляецца існаванне маркераў палярнасці (*polarity items*), якія самі не выражаюць негацыі ці сцвярджэння, але спалучаюцца пераважна са сказамі адной або другой палярнасці[2]. Аўтар тлумачыць у сваім артыкуле, як матывуюцца гэтыя элементы і якія іх функцыі; яго аналіз засяроджваецца на тэорыі Арыстоцеля пра супярэчнасць і супрацьстаўленне. М. Ізраэль дадае да іх трэці тып – адваротнае супрацьстаўленне (*reversal opposition*), якое з'яўляецца супрацьстаўленнем між упарадкаванымі групамі прапановаў або прэдыкатываў. Гэтая катэгорыя абмяркоўваецца шырока, але пакуль ацэнка прыналежнасці да адваротнага супрацьстаўлення застаецца неадназначнай і суб'ектыўнай.

Даследчыкі звяртаюць таксама ўвагу на той факт, што негацыя патрабуе большага моўнага высілку адрасанта, менавіта выкарыстання адмысловых маркераў, і з-за гэтага негацыя выступае радзей, чым сцвярджэнне, што абмяркоўваў таксама Янэз Арэшнік (Janez Orešnik)[3]. Апрача таго, негацыя як быццам бы заключае ў сабе магчымасць ці спадзяванне на існаванне таго, што адмаўлялася[4] – у лінгвістыцы гэтая з'ява называецца *прэсупазіцыяй* (*presupposition*).

### 3. Метады правядзення і галоўныя мэты даследавання

Мэта дадзенага даследавання – прааналізаваць з'яву негацыі з прагматычнага боку ў беларускай мове. Для дасягнення вызначанай мэты адмыслова сабраны і апрацаваны корпус беларускага маўлення. У адпаведнасці з падзелам, прапанаваным Я. Цыганам, праведзены пошук паасобных катэгорыяў негацыі і ў далейшым прагматычны аналіз негацыі.

Чарговая мэта даследавання – аналіз жывой, найбольш сучаснай, натуральнай беларускай мовы. Даступныя да гэтага часу корпусы беларускай мовы складзеныя на аснове пісьмовай мовы, галоўным чынам мастацкай літаратуры, а таксама тэкстаў, напісаных у дзелавым і навуковым стылях, дзе выкарыстанне мовы не адпавядае поўнасцю рэальнаму выкарыстанню ў жыцці. З гэтай прычыны для даследавання адмыслова сабраны малы корпус беларускай мовы, які пабудаваны на аснове транскрыпцый размоваў па-беларуску.

---

[1] J. Moeschler, *The pragmatic aspects of linguistic negation: Speech act, argumentation and pragmatic inference*, „Argumentation" 1992, 6, pp. 51–76.

[2] M. Israel, *The pragmatics of Polarity* [in:] Horn & Wards (Eds.), *The Handbook of Pragmatics*, 2004, pp. 701-723.

[3] J. Orešnik, *Natural syntax: Negation in English*, „Poznań Studies in Contemporary Linguistics" 2007, 43, pp. 97-111.

[4] *Ibidem.*

У англійскай і польскай мовах існуе выразны падзел корпусаў з увагі на сродак перадачы камунікату. І так выдзяляем корпусы *пісьмовыя* (*written corpus*; *korpus języka pisanego*), а таксама корпусы *маўлення* (*spoken corpus*[1]; *korpus języka mówionego*). Прыкладамі корпусаў маўлення як самастойных базаў дадзеных з'яўляюцца Spoken English Corpus[2] ды Spokes[3]. У гэтай працы корпус такога тыпу па аналогіі называецца *корпусам маўлення*, а дакладна *корпусам беларускага маўлення*. Неабходнасць выдзеліць гэты тып як самастойны пацвярджае існаванне корпусаў яшчэ іншага тыпу зносін, менавіта мовы жэстаў (напр. Korpus Polskiego Języka Migowego[4]).

Дадзеныя паходзяць з праграмы Белсату „Гарачы каментар"[5]. Такі падбор тлумачыцца некалькімі фактарамі. Мова, якой карыстаюцца размоўцы, самая актуальная (з першай паловы 2016 года), у размовах адзначаюцца ўсе рысы натуральнага маўлення – паўторы, выклічнікі, якія абазначаюць задуму (напр. хмм, ыыы), адсутнасць граматычнай кансістэнцыі ў сказе (напр., пачатак сказа ў 1-й асобе і заканчэнне ў 3-й). Апрача таго, відэа пераважна (некаторыя інтэрв'ю праводзяцца па тэлефоне) дазваляе на тое, каб сачыць за невербальнымі элементамі камунікацыі – інтанацыяй, мімікай, жэстамі. Вядучыя праграмы размаўляюць пераважна з людзьмі, якія пастаянна жывуць у Беларусі ў беларускамоўным асяроддзі, і размовы вядуцца на актуальныя тэмы, ужываецца агульны лексікон, што дазваляе пазбегнуць адступленняў, звязаных з выкарыстаннем спецыялістычнага слоўніка. Сярод размоўцаў асобы розных полаў, рознага ўзросту, розных прафесіяў – гэта дазваляе больш упэўнена ўспрыняць вынікі як характэрныя для беларускай мовы ў цэлым.

Корпус складаюць транскрыпцыі інтэрв'ю, якія праводзіліся з 4-га студзеня па 20-га красавіка 2016 года. У цэлым сабрана 58 тэкстаў – гэта транскрыпцыі ад 4 да 6 хвілінаў кожнай размовы. Аб'ём корпусу складае 30 088 слоў, 7 175 унікальных, непаўторных лексем. Корпус неанатаваны марфалагічна-сінтаксічна і прагматычна. На сабраны матэрыял складаюцца выказванні 64 непаўторных моўцаў, сярод іх 42 мужчын і 12 жанчын. Тэмы, якія закранаюцца ў праграме, вельмі разнастайныя: палітыка, здарэнні ў свеце, адукацыя, гісторыя, музыка, літаратура, а таксама тэмы, звязаныя з рознымі мерапрыемствамі. Шырокі абсяг

[1] T. McEnery, A. Hardie, *Corpus Linguistics: Method, Theory and Practice*, New York & Cambridge 2012, p. 3.

[2] *Ibidem*, p. 5.

[3] P. Pęzik, "Spokes – a Search and Exploration Service for Conversational Corpus Data." In Selected Papers from the CLARIN 2014 Conference, October 24–25, 2014, Soesterberg, The Netherlands, 99–109. Linköping Electronic Conference Proceedings. Linköping University Electronic Press, Linköpings universitet, 2015.

[4] *Korpus PJM* [online], http://www.plm.uw.edu.pl/pl/node/141 [доступ: 12.12.2016].

[5] *Гарачы каментар* [online], http://belsat.eu/tag/garachy-kamentar/ [доступ: 09.07.2016].

закранутых тэмаў дазваляе на даволі аб'ектыўнае апісанне даследаванай з'явы.

Галоўным метадам даследавання з'яўляецца корпусны метад, бо ён дазваляе на хутчэйшы аналіз і пастаўляе колькасныя дадзеныя, якія ясна паказваюць на пэўныя з'явы ў мове. Для даследавання прымянялася праграма AntConc[1].

## 4. Аналіз прагматычных з'яў, звязаных з негацыяй у беларускім маўленні

У пададзенай ніжэй табліцы – вызначаныя Я. Цыганам катэгорыі негацыі і таксама іх граматычная форма. У адпаведнасці з польскай моваю вызначаныя формы негацыі ў беларускай мове:

<table>
<tr><td colspan="3">від негацыі</td><td>польская мова</td><td>беларуская мова</td></tr>
<tr><td colspan="3">абсалютная</td><td>nie (pod akcentem)</td><td>не (пад націскам)</td></tr>
<tr><td rowspan="3">сінтаксічная</td><td colspan="2">сказа</td><td>nie (prokliktyka)</td><td>не (часціца)</td></tr>
<tr><td rowspan="2">лексічная (слова)</td><td>колькасная</td><td>żaden<br>nikt<br>nic<br>nigdzie<br>ani</td><td>ніякі<br>ніхто<br>нішто<br>нідзе<br>ні</td></tr>
<tr><td>спецыяльная (іншая)</td><td>ani…, ani…<br>nie<br>nie-<br>(o)bez-</td><td>ні…, ні…<br>не<br>не-<br>(а)без-</td></tr>
</table>

У гэтай працы прааналізаваныя тры тыпы негацыі з вызначаных Я. Цыганам, апрача таго, закранаецца пытанне маркераў палярнасці ў беларускай мове.

### 4.1. Абсалютная негацыя

Такі тып негацыі абазначаецца пры дапамозе часціцы *не*, якая разам з *так* выражае бінарнае супрацьстаўленне паміж праўдай і фальшам. Як заўважае Я. Цыган, абсалютная негацыя з'яўляецца ў момантах, калі адказ паспешны або суразмоўца раптоўна заканчвае размову. Такія выпадкі не рэгіструюцца ў сабраным корпусе – абсалютная негацыя з'яўляецца заўсёды ўступам да шырэйшага адказу, напр.:

(1)
В1м: […] Ці можам гаварыць, што вось эпоха паўтараецца, яна якраз абірае для сябе гэткіх вялікіх асобаў, па сутнасці?
АД: Не, не скажу, што тут было такое паўтарэнне.

У дадзеным прыкладзе абсалютная негацыя з'яўляецца толькі ўступам да адказу. Хоць размоўца мог адказаць на пытанне пры дапамозе адной толькі часціцы, самастойная абсалютная негацыя можа

[1] L. Anthony, *AntConc* (версія 3.4.3w), Tokyo, Japan: Waseda University [камп'ютарная праграма, online], http://www.antlab.sci.waseda.ac.jp/ [доступ: 09.07.2016].

ўспрымацца як няпоўны камунікат, што нязгоднае з правілам колькасці Грайса – самастойная часціца *не* можа адносіцца да цэлага пытання і таксама да паасобных яго частак, так што надта кароткі сказ парушае камунікацыю і можа ўспрымацца як адсутнасць ветлівасці, грубасць.

### 4.2. Негацыя сказа

Чарговы тып негацыі, вылучаны Я. Цыганам, абазначае супрацьстаўленне паміж станоўчым і адмоўным сказам у запрапанаваным аўтарам падзеле на чатыры тыпы сказаў. Я. Цыган не прытрымліваецца традыцыйнага падзелу сказаў на сцвярджальны, пытальны і адмоўны, замест таго даследчык прапануе чатыры іх віды: *станоўчы сцвярджальны* (*affirmative positive*; тое што і сцвярджальны ў традыцыйнай тыпалогіі), *станоўчы пытальны* (*interrogative positive*), *адмоўны сцвярджальны* (*affirmative negative*; тое што і адмоўны ў традыцыйнай тыпалогіі), *адмоўны пытальны* (*interrogative negative*).

Гэты падзел вельмі карысны ў працэсе даследавання прагматычных з'яў у мове, бо пытанне з адмоўем мае іншую ілакутыўную сілу, чым звычайнае пытанне. Гэта паяўляецца ў прыкладах чарговай часткі раздзела, аднак на гэта звярнулі ўвагу шматлікія даследчыкі, між іншым, Роберт Лад (Robert Ladd), які заўважае, што адмоўны пытальны сказ выкарыстоўваецца, каб пацвердзіць тое, што моўца лічыць праўдзівым[1]. Фернанда Эспонда (Fernando Esponda) і Віктар Гуэрэра (Victor Guerrero) у сваю чаргу прапануюць выкарыстанне адмоўных пытальных сказаў як тэхнікі апытання, бо такія пытальныя сказы даюць магчымасць не выяўляць канкрэтнай інфармацыі і замест таго правесці шэраг рашэнняў з дадзенай інфармацыяй у думках[2].

У беларускай мове адмоўныя пытальныя сказы прымаюць форму *Ці * не *?* (* азначае любое слова ў любой колькасці). Пры дапамозе пададзенага ўзору ў даследаваным корпусе знайшліся дзесяць прыкладаў. Усе маюць іншую ілакутыўную сілу, чым пытанні без адмоўя. Звычайныя пытанні можна вызначыць як дырэктывы – іх галоўнай мэтай з'яўляецца накіраванне адрасатаў на пэўныя дзеянні, менавіта перадачу інфармацыі. У выпадку адмоўных пытальных сказаў моўца найчасцей дае ацэнку пэўным справам, і таму такія сказы з'яўляюцца асертывамі. Ва ўсіх выпадках з'яўляецца ацэнка моўцы – калі не ў самім пытанні, тады адразу пасля:

> (2)
> Ці не маглі б вы патлумачыць, вось, сённяшняе вашае выказванне […]? Гэта такі сарказм?

---

[1] R. Ladd, A First Look at the Semantics and Pragmatics of Negative Questions and Tag Questions, „Proceedings of Chicago Linguistic Society", Vol. 17, 1981, pp. 164–171.

[2] F. Esponda, V. Guerrero, Surveys with negative questions for sensitive items, „Statistics & Probability Letters", Vol. 79, 2009, pp. 2456–2461.

Негацыя ў пададзеных прыкладах не адмаўляе дадзенага фрагмента выказвання – яна абазначае, што моўца згодны з дадзеным фрагментам і хоча пацвярджэння сваёй ацэнкі суразмоўцам. У некаторых выпадках суразмоўцы наўпрост звяртаюць увагу на такое становішча справы:

(3)
ВЗм: Ці не таму, што ў Менску было якраз такі арганізавана палітычнай сілай, а ў рэгіёнах, гэта прадпрымальнікі?
ІЯ: Ну, у гэтым, у гэтым пытанні ёсць і сам адказ.

Такія адказы сведчаць пра тое, што гэтыя пытанні з негацыяй мелі не толькі іншую ілакутыўную сілу, але і перлакутыўную сілу – яны паўплывалі на суразмоўцу інакш, чым звычайнае пытанне.

Чарговым цікавым выпадкам выкарыстання негацыі сказа з'яўляецца феномен *супярэчнасці ў вопратцы супрацьстаўлення* (*contrary-negation-in-contradictory-clothing*[1]), напр.:

(4)
АГ: Не скажу, што людзі масава ўцякаюць.

У прэзентаваным і многіх іншых прыкладах відавочнае выкарыстанне негацыі ў дачыненні да моўцы (ён негуе дзеянне, выкананае сабой). У такі спосаб праяўляецца аслаблены ўплыў на моўцу – гэта можна патлумачыць паводле класіфікацыі Дж. Ліча правілам такту і шчодрасці.

### 4.3. Спецыяльная негацыя

Я. Цыган падае таксама другую назву спецыяльнай негацыі – *іншая*. Яна абазначаецца пры дапамозе прэфікса *не-* або шляхам пераатварэння слова ў слова процілеглае да яго і адмоўнае, карыстаючыся адмоўнымі прэфіксамі і суфіксамі. Спецыяльная негацыя паказвае цікавы варыянт падвойнай негацыі. Звычайна ў беларускай мове падвойная негацыя складаецца з негацыі сказа і з колькаснай негацыі (напр. *І таму ніякай розніцы я не рабіў*) – у такім выпадку сказ утрымоўвае адмоўнае значэнне. Аднак у выпадку, калі замест колькаснай негацыі выкарыстоўваецца спецыяльная негацыя, сказ атрымоўвае статус пацвярджэння:

(5)
Так што беларускія ўлады ва ўсялякім разе не маглі не зарэагаваць [...].

Не маглі не зарэагаваць – значыць, што маглі, а нават мусілі зарэагаваць. Падвойная негацыя сказа прыцягвае ўвагу да гэтага сказа, ён не з'яўляецца простым сцвярджэннем факта. Такая ж сітуацыя праяўляецца і ў спалучэнні адмоўнай часціцы з іншымі часцінамі мовы, не толькі дзеясловамі.

[1] M. Israel, *op. cit.*

### 4.4. Маркеры палярнасці – спроба пошукаў

Даследаванняў, якія тычацца маркераў палярнасці, асабліва негатыўнай палярнасці, у польскай мове няшмат, апрача таго ўсе даследчыкі засяроджваюцца на адмоўных займенніках, якія спалучаюцца з негацыяй сказа. Я. Цыган падае толькі адзін варыянт, які выклікае негацыю ў польскай мове – *prawie*. Яго беларускі аналаг – *амаль што* – з'яўляецца ў сабраным корпусе толькі адзін раз у спалучэнні з адмоўем.

Даследаванне калакацый часціцы *не*, а таксама слоў, якія пачынаюцца з прэфікса *не-*, дае ўяўленне пра магчымыя маркеры негатыўнай палярнасці ў беларускай мове. Паводле колькасці калакацый як маркеры негатыўнай палярнасці можна вызначыць:

- абсалютна (20 знойдзеных спалучэнняў)

(6)
[...] калі яны гэтага абсалютна не чакалі.
(7)
[...] але ўплываць на тое, ці будуць на сваіх пасадах, абсалютна немагчыма.

- увогуле (14 знойдзеных спалучэнняў)

(8)
Аўстрыя ўвогуле неаднаразова згадвалася ў сувязі з асаблівымі цёплымі адносінамі з Аляксандрам Лукашэнкам.
(9)
[...] з ім увогуле не размаўлялі.

- фактычна (9 знойдзеных спалучэнняў )

(10)
Вось, я такіх людзей не сустракаў фактычна.

Пытанне палярнасці ў беларускай мове застаецца адкрытым, паколькі на сёння не хапае прыладаў для яе дэталёвага даследавання. Неабходна таксама падкрэсліць, што варта і трэба спрабаваць даследаваць гэтую з'яву не толькі ў кантэксце маўлення, але таксама ў пісьмовай форме. Гэта галіна прагматыкі, якая чакае яшчэ свайго часу на грунце беларускай мовы.

## 5. Высновы

Прагматычны аналіз негацыі ў беларускім маўленні дазваляе заўважыць цікавыя з'явы ў гэтым абшары. Прыклады, а таксама розныя класіфікацыі і падыходы да негацыі, якія даследаваліся ў гэтым артыкуле, дазваляюць прыняць шырокі пункт погляду на дадзенае пытанне.

Прагматычныя з'явы, характэрныя для паасобных тыпаў негацыі, вызначаных на аснове марфалагічна-сінтаксічных рысаў, адпавядаюць звычайна толькі адной з даследаваных катэгорыяў. Гэта дазваляе дадумвацца існавання залежнасцяў паміж граматычнымі і прагма-

тычнымі рысамі негацыі ў беларускім маўленні[1]. Такія залежнасці дазволілі б стварыць класіфікацыю, якая спалучала б два падыходы да негацыі.

Прагматыка беларускай негацыі і – шырэй – беларускай мовы, з'яўляецца цікавым абшарам даследавання, патэнцыял якога яшчэ не выкарыстаны. Аднак разам з развіццём новых даследчых метадаў магчымы хутчэйшы і больш дэталёвы аналіз апісаных у артыкуле пытанняў, таму можна спадзявацца на рост зацікаўлення прагматыкай у беларускай мове, асабліва ў маўленні.

*Angelika Peljak-Łapińska*

**Negation in Belarusian spoken language: pragmatic point of view**

A b s t r a c t

The article is an attempt to analyse negation in Belarusian spoken language from the pragmatic point of view. On the basis of Jan Cygan's morpho-syntactic classification, three types of negation (absolute, sentence, special) were searched in a corpus created for the purpose of the research. Phenomena connected with these types of negation were described, eg. restriction of some forms usage due to linguistic politeness, changes in illocutive and perlocutive forces in some of the syntactic constructions. Negative polarity markers were also briefly discussed.

[1] Такія залежнасці апісаныя ў магістэрскай дысертацыі *Негацыя ў беларускай мове: Марфалагічна-сінтаксічны і прагматычны аналіз на аснове корпусу беларускага маўлення* (Варшава 2017), часткай якой з'яўляецца даследаванне, прадстаўленае ў гэтым артыкуле.

**Anna Berenika Siwirska**
Warszawa

# Język białoruski jako symboliczny element współczesnej świadomości narodowej (na podstawie badań przeprowadzonych wśród mieszkańców Mińska w przedziale wiekowym 18–30 lat)

Język narodowy zawsze odgrywał znaczącą rolę nie tylko w budowaniu tożsamości, ale i tworzeniu samego narodu. Nieprzypadkowo kodyfikacja i normalizacja większości współczesnych języków przypada na okres powstawania nowoczesnych państw narodowych. Na tę zależność zwraca uwagę w swoich pracach m. in. Benedict Anderson, twierdząc, że chociaż języki narodowe funkcjonowały na długo wcześniej, to większość z nich uległa kodyfikacji w XIX wieku, w okresie zwycięstwa idei państwa narodowego, jako jeden z najważniejszych elementów[1]. To właśnie język identyfikuje swojego użytkownika jako członka wspólnoty narodowej i etnicznej[2], odróżnia *swoich* od *obcych*. Zenon Klemensiewicz stawia wręcz tezę, że: „język był, i jest tym czynnikiem, który współtworzy i współorganizuje naród"[3]. Józef Chlebowczyk z kolei dodaje, że dla obszaru Europy Środkowo-Wschodniej kluczową rolę w tworzeniu narodów odgrywało kryterium językowe, gdyż początkowo kształtowała się wspólnota językowa, która następnie przeradzała się we wspólnotę narodową. Dopiero potem uwidoczniło się dążenie do utworzenia niezależnego państwa i, co za tym idzie, stworzenia wspólnoty politycznej[4].

Jednakże sytuacja języka białoruskiego i białoruskiej tożsamości narodowej nigdy nie była tak jednoznaczna i prosta. Odpowiednie warunki sprzyjające kształtowaniu poczucia odrębności wobec innych narodów istniały w XVI wieku, jednak zabrakło bodźca do uformowania powszechnego poczucia więzi między szerszą wspólnotą i ukształtowania własnej tożsamości narodowej, różnej od tożsamości pozostałych grup etnicznych

---

[1] A. Benedict, *Wspólnoty wyobrażone. Rozważania o źródłach i rozprzestrzenianiu się nacjonalizmu*, Kraków 1995, s. 84.

[2] B. Walczak, *Język a tożsamości etniczna i narodowa dawniej i dziś*, [w] Język, *Religia, Tożsamość IX*, red. G. Cyran i E. Skorupska-Raczyńska, Gorzów Wielkopolski 2013, s. 116.

[3] Z. Klemensiewicz, *Składnia, stylistyka, pedagogika językowa*, Warszawa 1982, s. 312.

[4] J. Chlebowczyk, *O prawie do bytów małych i młodych narodów*, Warszawa-Kraków 1983, s. 23.

zamieszkujących Wielkie Księstwo Litewskie[1]. Z kolei następne stulecia, paradoksalnie, zamiast rozwijać ruchy narodowotwórcze, spowalniały je i tłumiły, co wpłynęło na powstanie białoruskiego ruchu narodowego dopiero w XIX wieku[2]. Początek XX wieku sprzyjał rozwojowi białoruskiej myśli narodowej, jednak była ona zbyt słaba, by przetrwać takie wydarzenia, jak rewolucja 1917 roku, czy I wojna światowa[3]. Do upadku ZSRR białoruska tożsamość rozwijała się w skrajnie niesprzyjających warunkach silnej sowietyzacji, przy dominacji we wszystkich sferach języka rosyjskiego i jednoczesnej deprecjacji języka białoruskiego. Białoruska tożsamość narodowa kształtowała się więc wolniej niż sąsiednich grup etnicznych i, co niezwykle istotne, rozwijała się w pewnej izolacji od języka białoruskiego[4], który nigdy nie był jedynym językiem urzędowym na terytorium państwa białoruskiego i nigdy nie dominował w kontaktach codziennych. Szczególnie po uzyskaniu niepodległości i proklamowaniu Republiki Białorusi priorytetowe miejsce w procesie kształtowania świadomości narodowej zajęło przywiązanie do nowego państwa, wspólnoty politycznej i terytorialnej, która pod względem językowym kontynuuje tradycje bilingwizmu białorusko-rosyjskiego. Według Niezależnego Instytutu Badań Społeczno-Gospodarczych i Politycznych (NISEPI) wśród Białorusinów dominującym językiem kontaktów codziennych jest rosyjski. Jednocześnie mało kto neguje dziś sens pozostawienia białoruskiego jako jednego z języków państwowych, chociaż jeszcze mniej osób poparłoby uznanie go za jedyny język urzędowy[5], co wskazuje na to, że współczesna sytuacja językowa na Białorusi i rola języka białoruskiego w procesie kształtowania tożsamości narodowej jest bardzo skomplikowana.

Niejednoznaczne wypowiedzi na temat roli języka białoruskiego w procesie kształtowania świadomości narodowej zachęciły mnie do przeprowadzenia własnych badań, które zrealizowałam w pierwszej połowie 2014 roku w Mińsku na grupie 140 osób metodą kwestionariuszową. Respondenci powinni byli odpowiedzieć na kilka pytań dotyczących ich spostrzeżeń na temat języka ojczystego, własnej biegłości językowej i tożsamości narodowej. Wszyscy ankietowani to osoby młode, mieszkające na stałe w Mińsku, w większości z wyższym wykształceniem lub w trakcie studiów, biorące aktywny udział w życiu kulturalnym i w różnym stopniu związane z organizacjami pozarządowymi.

Ankiety były dostępne w trzech językach: białoruskim, rosyjskim i polskim. Respondenci mieli swobodny wybór języka, w którym chcieli udzielić odpowiedzi. Zabieg ten miał na celu sprawdzenie preferencji językowych wśród ankietowanych. Ponieważ niniejszy artykuł dotyczy

---

[1] Т. Мікуліч, *Мова і этнічная самасвядомасць,* Мінск 1996, с. 71.

[2] P. Wróbel, *Kształtowanie się białoruskiej świadomości narodowej a Polska*, Warszawa 1990, s. 142–143.

[3] *Ibidem*, 24-26.

[4] A. Romanowski, *Dylematy językowe Białorusinów w przeszłości i dziś* [w:] *Język a tożsamość narodowa*, red. M. Bobrownicka, Kraków 2000, s. 131.

[5] Национальные опросы [online], http://www.iiseps.org/?p=114, [dostęp 20.11.2015 r.].

zagadnień związanych z pojęciem białoruskiej świadomości narodowej, to zaprezentowano w nim wyłącznie wyniki ze 110 ankiet, w których respondenci w pierwszym pytaniu o narodowość zadeklarowali przynależność do narodu białoruskiego. Wszystkie wyniki podawane są w postaci zbiorczej, osobom ankietowanym zapewniono pełną anonimowość.

## 1. Język białoruski jako symbol narodu

Spośród wszystkich osób, które w odpowiedzi na pierwsze pytanie zadeklarowały narodowość białoruską (bądź była to przynajmniej jedna z kilku narodowości wymienionych przez respondenta), 30 osób wypełniło ankietę w języku białoruskim, 72 w języku rosyjskim, 8 po polsku.




Preferencja języka rosyjskiego w ankiecie oznacza, że zdecydowana większość respondentów swobodniej porozumiewa się w języku rosyjskim niż białoruskim. Biorąc pod uwagę aktualną sytuację językową na Białorusi, wynik ten jest spodziewany. Język rosyjski dominuje w większości sytuacji komunikacyjnych, dlatego nie dziwi chętniej dokonywany przez Białorusinów wybór ankiet rosyjskojęzycznych.

Niemniej jednak poniższe badanie dowiodło, że wśród młodych i wykształconych mieszkańców Mińska język białoruski jest jednym z realnych narzędzi komunikacyjnych. Co czwarta osoba odpowiadała na pytania w tytularnym języku swojej nacji. Dla części respondentów zapewne naturalne jest korzystanie z języka białoruskiego, jednakże można przypuszczać, że niektóre osoby świadomie wybrały wariant białoruskojęzyczny, aby zademonstrować swoje przywiązanie do niego, tym bardziej, że badanie było prowadzone przez obcokrajowca i ankietowani zdawali sobie z tego sprawę.




Całkiem inaczej prezentuje się wykres przedstawiający deklarowany język ojczysty. W tym pytaniu 62 osoby wskazały język białoruski, 33 rosyjski, 14 osób wybrało dwa języki – rosyjski i białoruski, kolejna osoba język białoruski i polski, ostatnia wskazała na trzy języki: rosyjski, białoruski i polski.

Oznacza to, że dla części respondentów język ojczysty nie jest językiem kontaktów codziennych, ponieważ aż 27 osób zadeklarowało białoruski jako jedyny język ojczysty, a świadomie wybrało komunikację w języku rosyjskim. Język ojczysty nie zawsze jest też językiem najlepiej opanowanym przez respondentów. We wszystkim grupach ankietowani wyżej oceniają swoją biegłość językową w zakresie języka rosyjskiego niż białoruskiego. Jednak niezależnie od stopnia znajomości języka i swobody oraz częstoliwości porozumiewania się w nim 56% respondentów postrzega białoruski jako jedyny język ojczysty. W związku z tym pojawia się pytanie: jak badani rozumieją pojęcie języka ojczystego?

Wyraźnie widać korelacje między wyborem języka ojczystego a sposobem postrzegania jego znaczenia. Różnice są szczególnie zauważalne przy podziale respondentów na trzy grupy.

Pierwszą stanowią respondenci deklarujący białoruski jako jedyny język ojczysty. Jest to grupa największa i jednocześnie najsilniej przywiązana do samego pojęcia języka ojczystego. Potwierdza to m. in. poniższa wypowiedź: „Каждый должен знать свой родной язык, это гордасть”[1]. Niezależnie od wyboru języka ankiety i oceny swojej biegłości w zakresie poszczególnych języków, wszyscy badani z tej grupy uznawali język za istotny element decydujący o ich przynależności do narodu białoruskiego. Nawet niski poziom znajomości języka obliguje ich do jego zachowania, przekazania kolejnym pokoleniom i możliwie częstego używania. Uważają za rzecz naturalną, że jako Białorusini muszą znać język tytularny swojej nacji, aby czuć się członkami wspólnoty narodowej, kulturowej i historycznej,

[1] Wszystkie wypowiedzi pochodzą z przeprowadzonych ankiet i są prezentowane zgodnie z oryginalnym zapisem.

ponieważ to język jest jednym z najważniejszych czynników odróżniających ich od innych narodów: „Потому что это фактор самоидентичности, который отличает меня от других народов".

Na tle tej grupy szczególnie wyróżniają się osoby wypełniające ankietę w języku białoruskim, które posługują się nim przy każdej okazji. Można przypuszczać, że wypełniają ankietę po białorusku nieprzypadkowo, że jest to forma demonstracji przywiązania do tego języka ojczystego. Nie wstydzą się swojego języka, zależy im na podkreśleniu jego roli w kształtowaniu ich tożsamości narodowej. Ta grupa respondentów jest najbardziej świadoma i zdeterminowana w propagowaniu języka białoruskiego, a pojęcie tożsamości narodowej jest ważnym elementem samoidentyfikacji jednostki, co znajduje potwierdzenie w poniższych wypowiedziach:

> „Так, бо ва ўмовах шырокага выкарыстання рускай мовы на тэрыторыі Беларусі беларуская мова – адзін з найважнейшых фактараў самаідэнтыфікацыі, гэта мая культурная спадчына".
> „Пакуль мы ведаем мову і карыстаемся ёю, мы нацыя".
> „Так, бо яна дазваляе ўсвядоміць, кім ты з'яўляешся ў жыцці".
> „Так, бо родная мова – гэта душа народа, яго гісторыя. І калі мы не будзем ведаць нашу родную мову, не зможам называцца беларусамі".
> „Так, бо гэта частка культуры народа. Няма мовы – няма народа".
> „Так, родная мова важны элемэнт мяне, як асобы. Яна ёсьць тым падмуркам маёй асобы, на якім фармавалася ўся сістэма каштоўнасьцяў. Яна – гэта шчэ й падсьвядомасьць.
> Але ў мяне дзьве родныя мовы. Мы жывем у білінгвістычнай прасторы. Уплыў расейскай мовы таксама не малы".

Ważne, że osoby te z troską myślą o przyszłości języka białoruskiego:

> „Беларуская мова – сімвал Беларусі. Яшчэ Багушэвіч казаў: «Не пакідайце ж мовы беларускай, каб не ўмёрлі!». Сапраўды, краіна існуе да тых пор, пакуль жыве мова. Гэта наша гісторыя, нашы карані, ад якіх не маем права выракацца... Руская мова – на ёй мне зручна камунікаваць з астатнімі (так як большасць беларусаў, усё ж такі, размаўляе па-руску)".

Drugą grupę stanowią respondenci deklarujący jako jedyny język ojczysty – rosyjski i wybierający w tym języku ankiety. Cechuje ich ambiwalentny stosunek do języka ojczystego. Połowa osób na pytanie, czy język jest dla nich ważny, odpowiada przecząco lub uznaje go tylko za narzędzie służące do komunikowania się. Niektórzy doceniają rolę języka, ponieważ dostrzegają, że bez niego niemożliwa byłaby komunikacja z bliskimi, lub poznawanie nowych wiadomości i dzieł literackich, co potwierdza wypowiedź jednej z respondentek: „Важен: на нём привыкла общаться, он мне нравится фонически, на нём написано много красивых поэтических произведений. С помощью этого языка я воспринимаю важную для меня информацию, идеи". Niemniej jednak i w tym przypadku język wciąż jest zaledwie instrumentem. Pozostała część tej grupy respondentów odczuwa pewien niedosyt z powodu braku znajomości języka białoruskiego. W ich przeświadczeniu język rosyjski jest środkiem służącym do wyrażania

myśli, a język ojczysty powinien mieć większe znaczenie. Taką rolę mógłby odgrywać język białoruski, gdyby nie byli pozbawieni jego znajomości. To świadczy o postrzeganiu białoruskiego jako istotnego elementu życia narodowego. W tej grupie respondentów nikt nie wyraża silnego przywiązania do samego pojęcia języka ojczystego. Jest to główna cecha osób deklarujących rosyjski jako jedyny język ojczysty.

Osoby deklarujące przywiązanie do dwóch języków ojczystych: białoruskiego i rosyjskiego, bez względu na to, w jakim języku wypełniały ankietę, miały całkiem inne poglądy dotyczące postrzegania roli języka ojczystego. Dla tej grupy język białoruski ma niezwykle istotne znaczenie. Przede wszystkim jest elementem określania przynależności narodowej, symbolem, który powinni znać jako zadeklarowani Białorusini i przekazać kolejnym pokoleniom. Respondenci jednak podkreślają symboliczne znaczenie języka białoruskiego oraz informują o częstszym użyciu języka rosyjskiego w kontaktach codziennych. Język białoruski służy porozumiewaniu się z ograniczoną liczbą osób, np. z rodziną, jest też językiem kultury, której są członkami. To powoduje silne przywiązanie do języka białoruskiego, który kojarzy się z domem rodzinnym. Jednak lepsze opanowanie języka rosyjskiego powoduje częstsze jego wykorzystanie, dlatego oba języki uznają za ojczyste i obydwu przypisują istotną, aczkolwiek odrębną rolę. Tę opinię potwierdzają respondenci w odpowiedziach na pytanie, czy język ojczysty jest dla nich ważny: „Для меня родной язык – русский, я на нём разговариваю каждый день своей жизни. Но родной в самом понимании «родной» – это белорусский, и он, какой-то тайный для меня"; „Разговариваю на русском, думаю на русском, но родным всё же считаю белорусский. К сожалению, не так хорошо говорю на нём, как хотелось. Жаль, что наш родной язык исчезает". W tej grupie wyraźnie zauważalny jest brak zależności między deklarowanym językiem ojczystym a biegłością językową.

Bezsprzecznie we wszystkich grupach najczęstszym językiem kontaktów codziennych jest język rosyjski. Ankietowani nie są jednak emocjonalnie związani z tym językiem, traktują go instrumentalnie, jako narzędzie służące do przekazywania myśli. Zupełnie inny jest odbiór języka białoruskiego, który – jak wynika z odpowiedzi – jest ważny, ponieważ to on determinuje poczucie tożsamości narodowej, wyróżnia Białorusinów na tle innych narodów. Dla wielu jest też symbolem białoruskiego ducha narodowego, kultury białoruskiej, tradycji i pamięci historycznej. Chociaż zaledwie co czwarty Białorusin wskazał na swoje przywiązanie do języka ojczystego, wypełniając ankietę po białorusku, to aż trzy czwarte oświadczyło, że język białoruski odgrywa kluczową rolę w samoidentyfikacji oraz jednoczy wspólnotę narodową.

Joanna Mindak-Zawadzka, opisując sytuację językową na terenach byłej Jugosławii zauważa, że w tworzeniu etnonacjonalizmów kluczowe miejsce w świadomości społecznej zajmuje język, który „zgodnie z przypisaną mu rolą, postrzegany jest tam w dyskursie publicznym (a w pewnej mierze –

także naukowym) przede wszystkim jako byt symboliczny, kwintesencja ducha narodowego, narzędzie narodowego wyodrębnienia, a fakt jego odrębności (zwłaszcza glottonimicznej) w stosunki do mowy OBCYCH uznawany jest za niezbędny atrybut wyodrębnionej wspólnoty narodowej"[1]. Na terenach byłej Jugosławii kwestie narodowościowe są wyjątkowo skomplikowane, zapewne m. in. z tego powodu tak ważne miejsce w kształtowaniu się bytów narodowych zajmuje język. Podobną rolę symbolu, głównego atrybutu tożsamości narodowej w świadomości Białorusinów, żyjących w środowisku rosyjskojęzycznym, odgrywa język białoruski.

Nie ma jednoznacznej, prostej zależności między językiem a tożsamością narodową. Znane są liczne przykłady języków używanych przez dwa lub więcej narodów, jak ma to miejsce np. w przypadku języka angielskiego w USA, Anglii i Kanadzie lub niemieckiego w Niemczech, Austrii i Szwajcarii. Jednak to, że zależność między językiem a tożsamością nie jest jednoznaczna i prosta, nie oznacza jej braku, bezsprzecznie język jest jednym z istotnych elementów świadomości narodowej[2]. W opisywanej społeczności Republiki Białorusi jest nawet jednym z kluczowych i determinujących tę tożsamość składników, jednak głównie w sferze symbolicznej. Przekonanie o silnej korelacji tożsamości narodowej z językiem białoruskim powoduje, że wszechobecna dominacja języka rosyjskiego, silnie wpływająca na strukturę gramatyczną języka białoruskiego, często jest postrzegana jako zagrożenie dla samego narodu.

## 2. Współczesne elementy białoruskiej tożsamości narodowej

Opisywana grupa respondentów: młodzi, dobrze wykształceni mieszkańcy Mińska są pokoleniem, które jako pierwsze wychowało się i wykształciło w niepodległej Republice Białorusi. Są to więc jednostki, które ominął proces sowietyzacji. Wcześniejsze pokolenia były poddawane wieloletniej indoktrynacji, szczególnie w szkole wpajano im przywiązanie do radzieckiej ojczyzny, wymagano od nich „sowieckiego patriotyzmu", który wykluczał miłość do własnej białoruskiej ojczyzny[3]. Mieszkaniec ZSRR miał być w pierwszej kolejności człowiekiem sowieckim, o swoistej mentalności, nie obywatelem poszczególnych republik narodowych.

Sytuacja ta uległa diametralnej zmianie po upadku ZSRR. Pokolenie urodzone na przełomie lat osiemdziesiątych i dziewięćdziesiątych jest pierwszym, które rosło w duchu białoruskiego, a nie radzieckiego patriotyzmu. Dlatego też większość respondentów bez wahania określa siebie

---

[1] J. Mindak-Zawadzka, *Po jakiemu mówią Goranie? Samoświadomość i zewnętrzna identyfikacja językowa i narodowa grupy etnicznej jako przestrzeń ścierania się konkurencyjnych koncepcji tożsamości* [w:] *Językowy świat Słowian*, red. J. Mindak-Zawadzka i I.M. Doliński, Warszawa 2009, s. 32–34.

[2] M. Kuniński, *Język a tożsamość narodowa. Aspekty filozoficzne i socjologiczne* [w:] *Język a tożsamość narodowa*, red. M. Bobrownicka, Kraków 2000, s. 7.

[3] J. Szumski, *Sowietyzacja Zachodniej Białorusi*, Kraków 2010, s. 178.

jako Białorusinów.

W dalszej części artykułu skupiam się na elementach, które w największym stopniu składają się, według samych respondentów, na ich poczucie tożsamości narodowej. Opieram się na odpowiedziach udzielonych na pytanie: *co wpływa na poczucie przynależności narodowej?* Dokładne odpowiedzi respondentów prezentuje poniższy wykres. (Wskazanych czynników jest więcej niż wypełnionych ankiet, ponieważ każdy uczestnik badania mógł udzielić kilku odpowiedzi.) Poszczególne warianty odpowiedzi podzielono w zależności od deklarowanego języka ojczystego.




Jak widać, we wszystkich grupach, niezależnie od deklarowanego języka ojczystego oraz dokonanego wyboru języka ankiety, tożsamość narodową najczęściej determinowały czynniki, które zbiorczo można określić „przywiązaniem do ziemi". Za odpowiedź jednoznaczną z przekonaniem o decydującym wpływie tego elementu uznano kilka wariantów wypowiedzi. Po pierwsze, jest to wskazanie na miejsce urodzenia, wychowania i zamieszkania. Był to najczęściej wskazywany przez ankietowanych czynnik, którego przykładem mogą być poniższe wypowiedzi:

> *„Я жыву ў Беларусі, я нарадзілася тут, мае бацькі нарадзіліся тут, таксама як і іх бацькі."*
> *„Я тут нарадзілася. Мне тут, на Беларусі, утульна."*

Jak wynika z przytoczonych wypowiedzi, o „przywiązaniu do ziemi" świadczą też korzenie, miejsce urodzenia i życia przodków oraz rodziny. Co

